ББК 84Бел7
К21

Мастак *В. А. Тарасаў*

Война сделала беженцами героев этого романа. Их жизнь — на дорогах, под крестами вражеских свастик и возле ночных костров, с почти цыганским бытом, где и рождаются, и любят, и дерутся за картофелину, и теряют друг друга: родители — детей, дети — родителей.

Круги Захара Подобеда начались судьбой отца — искателя свободной земли в далекой Сибири. Судьба Захара — продолжение отцовской: нищее детство, солдатские окопы, плен, голодовки, раскулачивание, сталинские кровавые репрессии, наконец — 1941 год. Может, эта война — круг последний?

И вот уже 1986 год гонит беженцев. Теперь от смерти Чернобыля. На дороге — сын и внук Захара Подобеда.

К 4702120201—
М 302(03)—93

ISBN 5-340-00891

*Бацьку, маці, сястры —*
*Спадарожнікам маіх пуцявін*

Божа! Да каго нам ісці?

*Евангелле ад Іаана, 6*

Спрадвечны, бясконцы шлях у пустым вялікім полі.

Пыл, пот, крыжык на грудзях, марудная хада, бясконцы шлях. Вечнасць.

Ідуць усе — іду я...

*Максім Гарэцкі*

# Круг першы

Раскінуўшы рукі і ногі, налітыя стомай, я ляжу на волкай густой пакошы, схаваўшы галаву пад грываю зялёнай, яшчэ жывой, не зваленай косамі травы, з яе мядова-духмянай прахалоды ўзіраюся ў высозную блакітную вечнасць, нерухома разамлелую пад спякотным, хоць далёка за поўдзень, сонцам, і бачу, як там, у бязмежнай сонечнай паводцы, у самай яе глыбіні, кружыць птушка. Яна плыве на выпрастаных, быццам скаваных сутаргай крылах, то ўзнімаючыся высока, таючы на макавае зярнятка, зусім знікаючы, то раптам зніжаючыся, пагрозліва павялічваючыся,— з вышыні высочвае штосьці жывое ў траве і хмызах, равочках і ямінах. Плыве доўга, кладучы круг за кругам, зрэдку пагойдвае крыламі, і знізу здаецца, што яе носіць паветра. А зямля маўчыць. Замоўклі ўсе птушкі, нават жабы і конікі. У небе — каршук.

Адно пчолы гудуць абложна, як гулі дагэтуль каля самай галавы, рупліва ткуць песню кветак і мёду. Чым даўжэй гудуць, тым мацнее адчуванне, што гэта нават не пчолы — гудзе, нібы напятая на абруч бубна скура, само неба, спякотны блакіт, у якім упарта і нетаропка палюе чыясьці смерць.

Ці, можа, гудуць самалёты?..

Ад раптоўнай думкі заплюшчваю вочы, і тады — о, дзіва! — адчуванне трывожнай вышыні знікае, вяртаецца лагодная і блізкая, як жывая трава ля галавы, песня пчалінага лета. І бачыцца бацька: высокі, босы, у белай, паверх штаноў накінутай на плечы палатнянай кашулі, з буйным загарэлым тварам і густым белым, нібы з таго самага, што і кашуля, кужалю, чубам, ён гоніць шырокі, якраз па сваіх плячах ды руках, пракос. Звініць, нібы пчолка, літовачка, а за яе звонам, следам за бацькам, ледзь не наступаючы яму на пяты, як прывязаны, самавітымі сажнямі пакошу мерае бусел. Звесіўшы да зямлі доўгую чырвоную, нібы морквіна, дзюбу, ён па-мужыцку дбайна падварушвае траву — выпорвае маладых, яшчэ з малака ды храсточкаў жабянят.

Калі ж гэта было? На якім крузе жыцця?

«Вася!.. Сынок!.. Бяжы сюды-ы!..»

Я адкрываю вочы — лып-лып: дзе ты, бацька?

Нікога вакол не відаць. Але ж я толькі што чуў ягоны голас — няўжо здалося? Мне вельмі хочацца, каб усё, што нечакана пачуў ды ўбачыў, паўтарылася — і бацька, і пакоша, і бусел — яшчэ хоць разочак, і я зноў заплюшчваю вочы.

Уваткнуўшы кассё ў зямлю, ён стаіць пад блішчастай касой на каленях, схіліўшыся да травы, трымае ў прыгаршчах кволае жаўтадзюбае птушанятка і, усміхаючыся, кажа:

«Гэта ж перапёлачка. Яшчэ, бачыш, на крылцы не падымаецца. І як я паспеў яе заўважыць, касу стрымаць?»

Ён падкідае птушачку ўгару. А я... крычу — у неба:

«Там каршук!..»

Растапырыўшы крылцы, яшчэ ненавучаная лётаць, птушачка зноў садзіцца каля бацькавых ног.

«Бяры яе, сынок, нясі да лесу. Косам у лузе гуляць ды гуляць. Тут ёй не ўберагчыся...»

Я шыбую да лесу з цёплым жывым сэрцайкам у жмені. Яно малаточкам грукае мне ў далоні, дастаючы сваім запаленым болем і маё кволае, таксама як малаточак, сэрца.

Але... я ці не я гэта? Я ці мой — не бацькаў, а мой — сынок у сініх, на шлеечках, кароценькіх штоніках, чарнаногі бацянок? Чубок залаценькі — падгопвае на сонейку.

— Сярожка-а!..

Травы сёлета вымахалі за ўсе апошнія гады, па грудзі, малы ў іх схаваецца — дарослы доўга не знойдзе. Але сын ужо ладны хлопчык, пойдзе ў трэці клас, гонкі не па гадах, у дзеда, і калі б быў блізка ў лузе,у травах ды кветках, я яго, вядома, заўважыў бы. Не відаць. Ні ў тым баку, дзе лес — каржакаватая смарагдава-пеністая дуброва, ні ў тым, дзе Сож. Можа, за наспаю? А там — вёска. Можа, шыбануў да старых, Піліпа ды Піліпіхі, у якіх мы, гарадскія прыблуды, жывём-пасёмся на макаўцы лета?

Наспа ад мяне — крокаў за дзвесце. Яна высокая і доўгая, цягнецца праз луг ад Сажа да лесу, у сасновым бары хаваецца — колішні чумацкі шлях, брукаваны і маім, па маме, прадзедам-грабаром. Да вайны тут, над Сажом, узвышаўся аграмадны драўляны мост,

цяпер — з жалеза ды бетону, а за Сажом шлях узбіраецца на высокі правы бераг, на кручу, дзе звіў гняздо гарадок — каму-небудзь хай невядомы, мізэрна драўляны, вялікая, маўляў, вёска, а маёй душы вельмі ўтульны, ласкава-зялёны, нібы шаўкавісты мурожны конік, і па душы ціхі. Да вайны, у вайну, колькі лет-зім пасля вайны гэтая дарога была адзіная з гарадка за Сож, у пушчу. А цяпер праклалі новую, вышэй па Сажы, асфальтавую, на ёй і мост праз Сож перакінулі новы, але старая наспа, месцамі — нават стары брук уцалелі. Пасля вайны, як усе будаваліся, каменне з дарогі выбівалі хто хацеў, амаль увесь брук разабралі, а пясчаная наспа цераз луг засталася, запаланёная хмызамі, быльнягом, кветкамі.

— Сярожка-а! Дзе ты?! — зноў гукаю ў той бок.

Бачу, як сын упарта караскаецца па наспе, ножкамі ды ручкамі чапляючыся за хмызы, каменне, купіны, і тады, супакоены, зноў бяру ў рукі касу, выціраю жменяй травы, прабягаюся па прытупленым вастрыі мянташкай і ганю пракос далей.

Але чаму ў вушах не шоргат касы, а пчалінае: гу-у-у? Ці нават не пчалінае, а тое, даўнейшае... над мастом?..

«Ва-ся-а!..»

Гэта — бацька. Яго пахаплівы, нейкі бусліны клёкат.

«Захар! Не згубі Любу! Бяжым!..»

Гэта — трывожны мамін голас. Яна гукае бацьку, баючыся за маю старэйшую сястрычку.

Штосьці яшчэ крычыць бацька. Але што — я ўжо не чую. Крычыць мама — яе таксама не чую. Іх галасы тонуць у рове самалёта, які кружыць над галовамі, над мостам, і яшчэ — у галасах, што чуваць з усіх бакоў:

«Без панікі, таварышы!..»

«Ай-яй, дзетанькы-ы!..»

Іржуць і храпуць коні.

«Куды ты, ірад, канём топчаш?! Па жывых людзях! Па сваіх...»

Плясь-лясь-лясь-лясь — цяжкі дождж па вадзе.

«Ма-ма-а!..»

Ціша-ціша. Быццам людская рака на мосце, якая плыла, шалеючы, наперарэз той, што пад мостам, кіпун-рака, якая лямантавала на сотні людскіх галасоў, раптам скамянела...

Я ўпарта ганю пракос, каб не чуць усяго таго людскога ляманту і той жудаснай цішыні. Спяшаюся — мне б адну касу чуць у лузе:

— Ж-жык, ж-жык, ж-жык...

За песняю касы пчол не пачуеш. Каса — мая пчолка. З ёю не заўважыў, як да лесу дайшоў — тут яна гуляе ў кучаравым чабаровым мурагу пад каржакаватымі дубамі, агнём мечанымі, маланкамі ды маразамі хрышчонымі, вясновымі крыгамі па-маладому цалаванымі, апранутымі ў рубцы, струп'е, нарасці-мазалі. Дубы, вядома, бачылі тую людскую паводку пад чорнымі ў ясным летнім небе крыжамі, дзень апошняй пераправы за мост, а значыць, бачылі мяне таксама, малога, на тым мосце, Любу, маю сястрычку, маму і тату, дзядзьку і цётку, Лёніка, браценіка,— усіх пад тымі крыжамі. Я не хачу, баюся зноў тое чуць, не жадаю нават думаць пра тое. Гуляй, не ведай стомы, коска-пчолка, спявай мірную, заручоную з працай, песню. Усё гэта шэпчучы, ганю, не даючы сабе пярэдыху, пракос — назад ад дубоў да наспы. І яшчэ — ад наспы да дубоў.

І зноў — ад дубоў да наспы. Пад нулёўку, як лужок галавы, стрыгу мякенькі шнурок, адмераны лясніцтвам дзеду Піліпу, былому лесніку, і бабе Піліпісе, леснічысе, якая Піліпіхаю за дзедам, а сама па сабе Мар'я, баба Мар'я,— хай скончыцца старэчае бедаванне-вохканне, што няма каму скасіць, бо ў гаспадара раматус выкручвае ногі ды рукі, а сыны ды ўнукі, пагадаваныя старымі, прыедуць з гарадоў адно ўвосень, каб насыпаць у свае мяхі яблык ды бульбы. Вось мы з Сярожам і адважыліся даць рады лужку-муражку. Недарма ж хлябтаць з белым цёплым дымком сырадойчык, качацца ў сянніцы на шапаткім мурожным сене. Трэба ўсім мець клопат пра дзедаву ды бабіну, а цяпер дык і нашу з Сярожам, карміцельку Кветку.

Пот бяжыць па твары, соллю есць вочы, халодзіць грудзі, залівае акуляры — шкельцы трэба раз за разам праціраць, каб бачыць, дзе тая каса, дзе тая купіна. Зноў спыніўшыся, працёршы акуляры падалом кашулі, якая хай сабе матляецца паверх штаноў, ганяе свежы вецер па гарачым целе, я заўважаю на наспе жаўтлявую сынаву галоўку, падобную на засмужаную адлегласцю кветачку дзьмухаўца, якую старая заве сонейкам. Учора ён мяне зацягнуў на тую наспу:

«Глянь, татка, як далёка відаць!» I я быў рады, што сын знайшоў маю наспу, сам знайшоў, без мае падказкі, з яе вышыні ўбачыў мае родныя лугі, лясы, азёры, маю раку, мой гарадок на тым высозным зялёным беразе.

Наспа засеяна валошкамі. У засені — сіняя, на сонцы — блакітная. Сіняя па адхонах, а грэбень, прашыты сонцам, у блакітным пажары. Можа, сонечна-валошкавы пажар і ёсць тая фантастычна-маляўнічая мантыя, якую касманаўты бачаць з далёкай арбіты на грэбені нашай планеты? Можа, яны бачаць наспу майго старога, забытага людзьмі чумацкага шляху?

Але што за кола бяжыць — мільгаціць па наспе ў валошках, у сонечна-блакітнай смузе?..

Весела бліскаюць праменьчыкі спіц...

Мне здаецца, што кола знайшоў і гоніць мой сын. Але ж я не бачу сына? Не, гэта кола Ільі Асташонка — мамінага брата, майго роднага дзядзькі. Цяпер я здагадваюся...

Зноў — пчолы?.. Гудуць, няма ім супынку.

Я валюся гарачым тварам у пакошу, і тады мне выразна бачыцца дзядзькаў чысты, па-гаспадарску прыбраны двор. Сам ён сядзіць пасярод двара на тоўстай акоранай калодзе, а перад ім на баку ляжыць гэтае самае кола. Нават не адно — а два. I вось жалезная, выгнутая на чатыры каленцы...

Вечарэла.

На дзядзькаў двор я прыбег з Бярозавага балота, дзе ў той дзень здарылася неверагодная бяда.

Балота пачыналася адразу за гарадком, за цагельняй, гарэла не першы год. Вялікага агню ніхто не бачыў, але дзе-нідзе з-пад зямлі шугалі іскры, смуродная сінеча калмацілася ў копанках, плыла з ветрам па куп'і, грэблях, прадзіралася праз чорны куртаты бярэзнік, чэзлы хмызняк. Торф выгараў спакваля, пячорамі, якія не заўважыш адразу. Крок дужа смелы зробіш — тут і шаснеш у пекла, яміну-вір.

Да балота жанчыны пагналі кароў, на ранкі. А ў статку хадзіла блудлівая Мальва — вялізная, з адламаным у бойцы рогам чырвоная здыхата Майсея Смаляка, які жыў на Падлеснай праз тры двары ад Асташонкаў, прадаваў хлеб у краме, што стаяла на пагорку перад мостам. Адбіўшыся ад статка, Мальва

выйшла да балота і там уваліласа пярэднімі нагамі ў гарачы торф. Запякло ў капыты, у трыбухаты жывот, у вымя, пякельная смерць дыхнула ў мызу. Карова зараўла жудасна, усімі вантробамі. Магла яшчэ адступіць назад, выскачыць з яміны, ды пайшла дурніца ўперад, смерці ў зубы. На яе роў павярнуў увесь статак, і разгубленыя жанчыны не змаглі, як ні кідаліся, загарадзіць жывёле дарогу: гуртам, равучы, каровы рынуліся да Мальвы.

Гарадок пра бяду дазнаўся пазней, калі пастушкі адважыліся, нарэшце, без статка вярнуцца дадому. Па радыё ўжо абвясцілі, што пачалася вайна, і гібель кароў злілася з агульнай, на ўсю краіну, бядою.

Зрэшты, на ціхую Падлесную вайна ў той дзень прыйшла, можа, нават меншай бядою, як гібель кароў. Вайна грукатала далёка, за лясамі-палямі, недзе павінна была, як на разважлівую думку, захлынуцца, сюды не дакаціўшыся, а як жыць без каровы? Што вайна — пакуль што ніхто не плакаў, а па рагулі слёзы кожны ліў. Адзін дзядзька Ілья, здавалася, не пускаў пагібель кароўскую блізка да сэрца, хоць пра яе думаў і шмат у каго дзіўна дапытваўся: ці маглі каровы раней за людзей адчуць вайну? Нават у мяне, смаркача, спытаў назаўтра. Што я мог яму адказаць?

На тую нашу размову з-за плота высунуўся рабы, нібы сарочына яйка, суседаў твар:

— Уся вуліца на балоце слёзы лье, а вы тут, дзядзька Метрык, сякераю цюкаеце. Вам бяды няма?

Паўлюка Бойку я добра ведаў. Год назад ён жыў у Асаўцы, нашай лесавой вёсцы, вучыў у школе з маімі бацькамі, выкладаў матэматыку, бываў у нашай хаце, а год таму ажаніўся з гарадской, пераехаў у гарадок і жыў у прымах побач з дзядзькам. Цяпер, першы раз убачыўшы тут Бойку, я прыціх пад акном на лаўцы, як мыш пад венікам, баючыся, што Бойка, заўсёды вясёлы, жартаўлівы, на словы калючы, мяне заўважыць і паране, як бывала раней. Але ён, можа, мяне не пазнаў? Ці не заўважыў? Ці згубіў свае голкі?

Дзядзька нічога яму не адказаў. Патаптаўся на кароткіх, як у мядзведзя, нагах і сам спытаў:

— Скажы, Паўлюк? Ці маглі каровы адчуць, што вайна пачалася? Ты настаўнік, павінен ведаць?

Той кепачку на хітрыя вочы насунуў, патыліцу пачухаў:

— Ну... калі каровы — нямецкія шпіёнкі?..

— А ты без дурыкаў?

— Дык... мне цяпер не да кароў, дзядзька Метрык. Ваенкамат выклікае. З усімі паходнымі бэбахамі.

Дзядзька апусціў рукі, адну з сякераю, другую з доўгімі цвікамі паміж кароткіх і таўстых, чорных ад зямлі і жалеза пальцаў — ён у гэты час гарадзіў плот,— моўчкі, як не ведаючы, што адказаць, глядзеў чалавеку ў твар, а потым выплюнуў недакураную цыгарку і, спакойна заганяючы цвік у дошчыну, ужо не гледзячы на суседа, уставіўшыся ў плешку цвіка, параіў:

— У ваенкамат ідзі, не бядуй. Інстытут скончыў? Ну дык цябе на курсы камандзіраў кінуць. Кубара прышпіляць. Ці нават два. Не прападзеш.

— На курсы маладых бяруць,— разважыў Паўлюк.

— А ты стары?

— Гледзячы ў які хамут. Каму за трыццаць — таго ў запасны полк, у салдацкія абмоткі. Хоць і з адукацыяй. Месяц муштры — і ў бой. А то і адразу на перадок. Цяпер і запаснікі на перадку.

Дзядзька ўзваліў цяжкія рукі на плот, абапёрся на яго грудзьмі і моўчкі глядзеў на суседаў сад, на яблынкі, усыпаныя яблыкамі, а потым, як усё ўзважыўшы ў думках і зразумеўшы, якіх вятроў з якога боку чакаць, адказаў суседу па-свойму:

— Адзін месяц — уся вайна. Сёння грымнула, а заўтра, глядзіш, ціха. Сёння бэбахі на плячо, а заўтра з пляча далоў. І кубары застануцца, не лішнія, і вайна вусоў не абсмаліць. Гэта не за царом. Я чалавек ваенны, хоць і спісаны, кадравую з кубаром адшлёпаў, пораху панюхаў. Ведаю...

Сонца ўзбіраецца па небе ўсё вышэй, па наспе запальваюцца іншыя, акрамя валошак, кветкі — пякуча-пунсовыя, жаўтлявыя. Над галавою табунамі ходзяць белыя, як сыры, воблакі. Плыве на сонцы воблака — цень ад яго плыве па наспе, кветкі нібыта плывуць, наспа нібыта плыве, уся тая рака, што зіхаціць-пераліваецца колерамі валошак, маланак, слёзак, люцікаў, чабору, нібыта плыве да лесу. Яе гоніць вецер.

Нас з Сярожам сюды, на бераг Сажа, таксама

прыгнаў вецер: паўднёвы, вяснова-цёплы і жахлівы — вецер Чарнобыля. У Мінск, у даверліва адчыненыя насустрач вясне вокны, ён прыляцеў з Палесся ў апошнія дні красавіка, а на Сож пагнаў нас у чэрвені. То Сярожу не адпускала школа, то мяне не адпускала праца — збіраліся доўга, кожны дзень заўважаючы, як людзі спяшаюцца на лета з горада. Ехалі ўпэўненыя, што той цэзіева-стронцыевы вецер, даляцеўшы да Мінска, не даляціць на наш Сож, што тут, на Сажы, як заўсёды, чысценька. Праўда, у Магілёве, па дарозе, як ехалі, нясмела, амаль шэптам, сказалі, што нейкае бруднае воблака, адарванае ад чарнобыльскага неба, занесла ветрам і на нашы з Сярожам родныя берагі. Але мы не паверылі: мабыць, выдумляюць ад страху. Быць не можа, каб і сюды — гэтакая далеч! — даляцела. Не можа быць.

Чысты, цёплы, як амаль заўсёды ў гэтакую пару тут, на Сажы, вецер хай дзьме. Хай гоніць і воблакі, і цені ад воблакаў, і святло кветак разам з ценямі-воблакамі. Мы з Сярожам любім гэтакі вецер. Калі бяжым па лузе, на рэчку ці з рэчкі, ён надзімае нашы кашулі на спінах, нібыта ветразі, свавольна блытае нашы чубы, свішча ў вушах — мы любім гэтакі вецер.

Па наспе зноў бягуць колы. Мільгацяць сонечнымі прамянькамі, ажно вочы рэжа ад іх мільгацення. Адно і другое — побач.

Спарышы.

Дзядзька Ілья, па-вулічнаму, як нагадаў Бойка, Метрык, не адразу пасадзіў колы на вось. Паўдня ён сядзеў на калодзе пасярод двара, сціскаючы ў кулаку на калене жоўценькі метр-складанік, а колы ляжалі перад ім на зямлі. Ён іх выкаціў з пуні і не чапаў. Глядзеў, уставіўшыся, як на загадку, пераводзячы цыгарку за цыгаркай, шпурляючы на колы з жоўтага ад курава ногця кароценькія засліненыя бычкі. У ядраным ад крапчаку-самасаду смуродзе гадаў: што рабіць? Вынес з пуні шалявіну, рэйкі, кожную замерваў складанікам, пілаваў, габляваў — ладзіў на колы скрыню. Да вечара выгабляваў дзве танклявыя жэрдкі, падвёў канцы пад скрыню, на процілеглых канцах прыладзіў ярмо-папярэчыну. Скрыню з жэрдкамі і ярмом пасадзіў на жалезную вось, накінуў на вось колы — гатовы вазок у дарогу.

А чаму дзядзька Ілья — Метрык? Ды таму, што з метрам не расстаецца. Жоўценькі складанік у яго то з адной кішэні тырчыць, то з другой, то за вухам, то ў руцэ, то ў зубах, калі рукі чым занятыя. Усё, што на двары, у хаце і ў хлявах, на гарышчы і на вуліцы, ён даўно вымераў і кожны дзень перамервае. Са складанікам і ў лес, і ў луг, і па гарадку ідзе-валюхаецца. Без яго — ні кроку. Усе гэта ведаюць, бачаць, і таму ўсім ён — Метрык, як ты яго ні павярні. Хоць у вочы, хоць за вочы. Метрык і Метрык.

Змайстраваную дзядзькам каляску я ганяў па двары, ад хворткі да хлява і назад, налягаючы на ярмо, укінуўшы ў скрыню Хадору, вялізную, нібы торба, гультаявагую да мышэй кошку, калі з вёскі прыехалі тата, мама і Люба — без брата Мішы ўся наша сям'я. Першая на двор зайшла сястра. У адной руцэ яна трымала сваё паліто, у другой — бацькаў жоўты партфель, напханы, як я падумаў, кніжкамі ды сшыткамі, чым быў напханы заўсёды. За ёю — мама пад блакітным берэцікам з чамаданам, з якім яна і бацька ездзілі то ў Мінск, то ў Магілёў. Бацька ішоў следам за імі ў сваім любімым, з шырачэзнымі палямі, падобным на кола, чорным капелюшы, у чорным вельветавым пінжаку, таксама шырачэзным і доўгім, з кішэнямі ўверсе і ўнізе, які я люблю, як любіць і тата, бо пінжак мяккі, да яго вельмі прыемна прытуліцца тварам, а з малой кішэнькі, што на грудзях, дужкаю вісіць танюсенькі срэбны ланцужок — ад круглага, нібы аладка, гадзінніка, які ў кішэньцы, і называецца дзіўна, усё роўна як чалавек: Павел Бурэ. Два тоўстыя мяхі, звязаныя ручніком-перавяслам, віселі ў таты на плячы — адзін за спіною, другі спераду, на грудзях, ды клунак у руцэ, ды кій у другой руцэ. Мама як убачыла мяне з каляскаю — чамадан з рук вобзем і грукнуўся. Падбегла, схапіла, прыціснулася тварам да майго твару і — у слёзы:

— А Мішы з намі няма. Міша за нас за ўсіх...

І я заплакаў таксама.

Міша, мой старэйшы брат, скончыў дзесяць класаў, збіраўся вучыцца на доктара, каб лячыць маміна хворае сэрца, а пайшоў у танкавае вучылішча. Добра гэта ці дрэнна? Мама баялася за яго, бацька яе супакойваў, а я быў шчаслівы, што Міша будзе чырвоным камандзірам, ужо маляваў яго ў танку

з чырвонай зоркай на вежы, як ён імчыць на ворага, і калі ў гэтай радасці плакаў, дык таму, што плакала мама. А чаму яна плакала? Не ведаю. Сама, бывае, кажа: аднаму Богу вядома.

З Лёнікам, дзядзькавым, як той казаў, балалаем, на шэсць гадоў за мяне старэйшым, мы валетам спалі за печчу на духмяным сенніку. Спаць валетам выгадна Лёніку. Свае доўгія ногі ён мог падсунуць мне пад нос, а я адплаціць тым самым не мог, ледзь дастаючы нагамі да яго лапатак. Я грукаў пятамі ў касцістую спіну брацeніка, але яго душыў рогат. Калі ён пачынаў рагатаць, я бездапаможна заціхаў, поўны крыўды.



Той ноччу, калі з Асаўца прыехалі мама, бацька і Люба, мы з Лёнікам ляжалі мірна, як рэдка калі, слухалі, высунуўшы з-пад коўдры насы ды вушы, што там, за сцяною, казалі бацькі. Яны сядзелі ў цемені, бо па начах над гарадком, цяжка гудучы, некуды ляцелі самалёты. Нашы ці нямецкія? Ніхто не ведаў.

— Табе, Захар, лепей застацца ў маёй хаце,— даводзіў дзядзька Ілья.— Я быў у кадрах, афіцэр, на граніцы служыў, у органах. Немец мяне ў першы дзень да сценкі паставіць. А ты настаўнік.— Ты яму — нуль.

Дзядзька казаў нешта не

тое. Гэта і я разумеў. Немец паставіць да сценкі? Лёніка сам ён ставіў да сценкі на калені — ну і што? Лёнік стаяў, пакуль ён над ім стаяў. Як адвернецца — Лёнік толькі блісне. Вялікі страх? І чаму гэта бацька — нуль? Ён не нуль, а бацька — нуль?

Вось і таму размова не спадабалася:

— Мы, Ілья, думалі, што ты нас чакаеш. Выходзіць, што мы з Лізаю памыляліся.

Дзядзька тады ўсхадзіўся:

— Лухту сееш, Захар! Непадсяваную. Я ўсіх вас чакаў. І Валодзеву сям'ю з Мінска чакаю. Усіх. Калі б не чакаў, ды быў бы недзе за Сажом у пушчы, паперадзе самога Майсея.

— Усіх чакаеш, а пра сябе аднаго думаеш.

Дзядзька Ілья звычайна маўклівы, раскатурхаць на размову яго цяжка, але калі зачапіць за жывое, пад рабрыну, як сам кажа, тады пачне даказваць, аж слінаю пырскае, захліпаючыся, бо ў яго хворыя грудзі, астма, і яму часта, калі злуе, не хапае паветра.

— Тут гняздо Асташонкаў. Тут карані! Хату бацька ставіў яшчэ з японскай вайны вярнуўшыся, з Порт-Артура. На сабе кожнае бервяно з балота выцягваў. Яна нам, Асташонкам, дарагая. Тут мы, сабраўшыся да кучы, павінны вырашыць, каму ў лес падацца, а каму хату пільнаваць.

Спрачацца тата ўжо не хацеў. Але сказаў цвёрда:

— Трэба ісці табуном.

— Пойдзем,— падумаўшы, нібыта пагадзіўся дзядзька Ілья. Але зноў запярэчыў: — Некага з табуна пакінем. Праз дзень-два, можа, назад вернемся. Не пакінь пастуха — усё развалакуць, да пустога карыта прыйдзеш. Чуў, як Карася ачысцілі, пакуль карову на балоце шукаў? Не верыў, дурань, што згарэла. І карову не знайшоў, і хата пустая. Цяпер зброду хапае. Ці... пра Хоўру не чулі? Над Свіным ровам жыла. Ноччу перла на гарбе швейную машыну. Кажуць, у Ляся, ветэрынара, пагасцявала. Той драпануў за Сож з усімі ласянятамі, на хату замок начапіў, а Хоўры што замок? Ноччу над бульварам нехта свечку павесіў — ці нашы, ці немцы? А пад свечкаю — Хоўра з мехам. Свечка вісіць, а Хоўра ў святле разгубілася, стаіць як пень. Чалавек, каторы не разгубіўся, падышоў: што, баба, у цябе за спіною? Тая кажа: вось — мех. А што ў мяху? А ў мяху, кажа, Зінгер. А ну пакажы свайго Зінгера,

я з ім пагаварыць жадаю. Яна ў крык: рабуюць! Тады ён яе кокнуў па галаве тым самым Зінгерам. Уранні Хоўру знайшлі халодную. А Зінгера не знайшлі.

Жанчыны за сцяною завохкалі, забожкалі.

— А ці знайшлі, хто забіў?

— Няма цяпер каму шукаць. Кожны думае, куды самому схавацца. Каб свая галава ўцалела.

Маці не верыць:

— Адкуль ты, Ілья, ведаеш, што Хоўра мёртвая, а забойцу не знайшлі? І Зінгера няма... Адкуль ведаеш?

— Людзі ўсё ведаюць,— адказаў, як ад мухі адмахнуўся, дзядзька. Не любіў, калі яму пярэчылі.

Памаўчалі, думаючы, мабыць, кожны па-свойму пра Хоўру і Зінгера, а потым, нечакана, бацька і пекануў:

— Не, Ілья. Тут цябе твой метр падводзіць. Не ўсё ты дакладна вымераў. Я свой кут у Асаўцы не для таго пакідаў, каб у гарадку твой вартаваць. Не пра гэта цяпер гаварыць трэба. Не пра кут.

За сцяною нешта звалілася са стала ці з лаўкі на падлогу, грукнула. Дзядзька Ілья закашляўся. Можа, закурыў? Заўсёды як закурыць, дык і забухае, нібы ў бочку.

Стрымаў буханне, але злосцю быў налітьі:

— Які ў цябе кут? Казённыя сцены? Кот ды мышы?

Бацька зноў разануў:

— У цябе багацейшы — ты яго і пільнуй, а я не пастух.

Жанчыны прыціхлі: што яшчэ нагавораць адзін аднаму мужчыны, якіх дроў наламаюць? Ды яны і самі замоўклі, адчуўшы, што спрэчка можа далёка завесці.

— А ці праўда, што немец узяў Прапойск? — хітра спытала цётка, звяртаючыся адразу да абодвух спорщчыкаў, як яднаючы іх, мірачы сваім пытаннем.— Будзем сядзець, языкі тачыць, а там і ўсхапіцца не паспеем.

Яна дамаглася свайго — дзядзька Ілья загаварыў цішэй, без кашлю:

— Калі пачне браць Прапойск, дык мы тут пачуем.

— А можа, ціха возьме?

— Ціхіх баёў, баба, не бывае.

— Суседзі казалі, што Бойка забягаў да жонкі. Яго на Проню кідаюць. Там нібыта горача,— паведаміла мама.

А ў дзядзькі і тут свая рашучая мерка:

— Адразу не кінуць. Спачатку — зборны, фарміраванне. Можа, павучаць на камандзіра.

— Нашы, кажуць, упёрліся на левым беразе.

— Дык, можа, вайна захлынецца на Проні? — кінулася ў гаданне цётка Зося.— Проня ў свае віры зацягвала і немцаў, і французаў, і шведаў.

— Гэта можа быць,— нарэшце пагадзіўся дзядзька Ілья.— Курганне там насыпана — як скулля, бывае, на іншым месцы.

Побач са мною заварушыўся Лёнік. Упэўнены, што я сплю, ён нагамі скінуў з сябе коўдру, асцярожна, каб не пачулі за сценкаю, споўз з ложка і ціха, на дыбачках, юркнуў за шырму, дзе стаяў вузкі дзядзькаў тапчан. З хвіліну паляжаўшы, гадаючы, куды ён знік, я гэтаксама ціха споўз з ложка і адгарнуў шырму. У дзядзькавым катуху гусцела цемень, але пры акне штосьці зыбнулася. Акно завешвалі посцілкай, каб агеньчык, калі дзядзька па начах курыў ці запальваў газнічок, не бліскаў на вуліцу, і я, пасмялеўшы, адкінуў посцілку: узлокціўшыся на падваконне, пры адчыненых створках стаяў браценік.

Не зірнуўшы ў мой бок, ён адчуў мяне побач:

— Глядзі, што робіцца...

Ноч налілася цёплай чуйнасцю. Гародчык салодка дыхаў язмінам і бэзам. Недзе бухала. Нямоцна і глуха. Далёка.

— Чую. Але не бачу.

— Таму што Пістон,— слінай пырскнуў мне ў вуха Лёнік.— Неба не бачыш?

Па-над садамі і хатамі, далёка за імі, неба як хтосьці падпальваў і раздзьмухваў, рыжоцце па ім расцякалася, пухла, а пасля ападала, збягала ў зямлю. Зоркі то загараліся, то гаслі, як згарэўшы.

— А што гэта? — нясмела спытаў я, уражаны нечаканым відовішчам. Ці, можа, не столькі відовішчам, колькі загадкавасцю, з якою казаў Лёнік.

— Там Проня,— цяпер ужо ахвотна, нібы старэйшы малому ці разумны дурному, тлумачыў браценік.— Там баі. Чуў — матка казала? Нашы ўперліся. Паўлюк там упёрся.

Я заўсёды стараўся ні аб чым не пытацца ў Лёніка, каб не паказваць, што ведаю меней за яго, каб ён не задаваўся, што вялікі і ведае за мяне болей, але на гэты

раз забыў пра сваю завядзёнку, бо загадка — пакута:

— Куды ён упёрся?

— У бераг Проні. Немца да нас не пускае. Дайшло?

— А Проня глыбокая?

— Дна няма.

— А шырокая?

— Мала хто пераплыве. Эх, Пістон! Чаму ты не вырас, як я? Бяда з табою бацькам! — Лёнік цяжка, нібы стары, уздыхнуў, шкадуючы, што я не ўсё разумею.— Ідзі спаць.

Я не жадаў спаць. Які сон? Мне хацелася стаяць з браценікам ля акна, разам з ім глядзець за сады і хаты на далёкае жывое неба. Ды раптам у мяне на вачах ён ускочыў на падаконнік і сігануў за акно ў кветкі.

Я зажмурыў вочы, і як толькі зажмурыў, дык адразу ўбачыў пад чырвоным начным небам Паўлюка. Ён ляжаў галавою да Проні, тварам у зямлю, нагамі — у рачны бераг, у белую кручу, як тая, што на Сажы за дзядзькавай хатаю.

Я закалаціўся, заплакаў уголас.

Прыбегла мама. Яна зачыніла акно, на ўсю яго шырыню захінула коўдру, падхапіла мяне на рукі:

— Ну што ты, Васілёк, за мужчына?..

Яе папрок быў такі самы балючы, як Лёнікаў, і я заплакаў яшчэ мацней. Мама паклала мяне ў ложак, села побач. Прыйшла цётка. Каб яны не бачылі мой мокры твар, я ўсцягнуў на галаву коўдру і ціха слухаў начную размову. Цётка жалілася на Лёніка, што брахун і валацуга, якіх свет не бачыў, усё на ім гарыць, а мама расказвала, як яна, бацька і Люба дабіраліся з Асаўца, як пашанцавала, што на кані ехаў стары школьны конюх, падвёз, як ён усю дарогу смаліў цыгарку і нават з ёю, цыгаркаю, каторая яму раней пасабляла знаходзіць мужыцкую праўду, не мог даўмецца, чаму людзі ў навальніцу мітусяцца, быццам блохі на цёплай печы. Трэба, казаў, талаку збіраць, талакою жыць-думаць, а яны рассыпаліся, кожны ў сваю шапку варожыць, у які бок свет скруціцца. Войска — талака, вядома, але ж не ўвесь народ у войску. Сельсавет на замку, калгасная кантора на замку. І школьны дырэктар як пад зямлю праваліўся. Стары ехаў у райком пабачыць племяша, інструктара. Нехта з парцейцаў, казаў, павінен даць вёсцы каманду,

як жыць-думаць. Без каманды людзі за калгасамі жыць адвучыліся.

Тады зноў адгукнуўся дзядзька:

— Каго твой конюх у райкоме знойдзе? Я там ужо быў. Аднарукі асаавіяхімавец выграбае са сталоў паперы, паліць у грубцы. Кажа: каманда адна — паліць паперы.

А вось і раніца.

Я прачнуўся, калі сонейка ўжо ласкава ззяла ў вокны. На вокнах ані посцілкі, ані коўдрачкі, светла, быццам і ўся вайна скончылася. А Лёніка зноў няма. Я саскочыў з ложка, нацягнуў штаны і пабег у сад.

Усе, акрамя Лёніка і мамы, там, у садзе. Цётка Зося стаяла над чорнай свежай ямінай, а бацька і дзядзька апускалі на вяроўках у яміну цётчын куфар. Я ведаў, як любіла цётка свой размаляваны куфар, у які некалі збірала дзявочы пасаг, і цяпер здзівіўся, што яго, абшыты мешкавінаю, закопвалі, як нябогу, у зямлю. Побач з ямкаю стаялі жоўты самавар, з якога па вечарах у дзядзькавай хаце пілі чай, гармонік, швейная машына, на зялёнай цыраце ляжалі загорнутая ў анучу стрэльба — з анучы выглядалі канцы ствалоў — і дарагая мядзведжая шкура, якую дзядзька прывёз з Далёкага Усходу, як служыў на граніцы. Былі яшчэ вузлякі з дабром, бочка. Бацька і цётка падавалі ўсё дзядзьку Ільі, а той, стоячы над ямкаю на каленях, клаў у куфар.

Заўважыўшы мяне, бацька спытаў:

— Дзе маці? Скажы ёй, каб сюды ішла.

Я не знайшоў маму ні ў хаце, ні на вуліцы, ні на двары. Быў павярнуў зноў у сад, але да мяне, быццам віхура, падляцеў Лёнік, схапіў за руку:

— Твая матка ў краме. Па соль стаіць. Бяжым знойдзем.

Мы дабеглі да шляху, старой Варшаўкі, і там адразу забыліся, куды і навошта беглі.

Шлях гуў ад людзей, машын, коней, фурманак, занесеных пылам, прапахлых нетутэйшым дымам, гарам, потам, сонцам. Адступалі ваенныя часці з чорнымі, нібы галавешкі, паходнымі кухнямі, у заляпаных граззю фурманках і грузавіках везлі хворых, параненых, абматаных чырвонымі, белымі, шэрымі, як зямля, бінтамі. Худыя, з завостранымі насамі і сківіцамі, брудныя, салдаты ішлі цяжка, сагнутыя пад скаткамі, вінтоўкамі, рэчмяшкамі, панура глядзелі з-пад насуну-

тых на вочы пілотак і касак адзін аднаму ў спіны, пад ногі, пазбягаючы, як баючыся, людскіх вачэй з абочын дарогі. Сонца смаліла, з усяго жывога, з людзей і коней, выціскала бясконцы пот, пыл плыў у вочы, у дыхалкі, той-сёй душыўся ад кашлю, але калі каторая жанчына падносіла кубак малака ці вады, салдаты быццам не заўважалі — не бралі.

— Дык вось якія вы ў нас зашчытнічкі! Вось як вы на Проні ўперліся! — здзекліва кідала з абочыны бязлітасная бабулька, наваліўшыся сухімі грудзьмі і дзвюма рукамі на кій.

Ад гарматы, якую валаклі аж чатыры кані, адбіўся салдацік. Разматалася абмотка, і ён, нагнуўшыся, азіраючыся на ўсе бакі, хуценька матаў яе на галёнку. Вакол сабраліся жанчыны. Адна, пажылая, падала збан з малаком:

— Пі, брацік. Ды скажы, ці далёка тыя немцы?

Салдат зглытнуў сліну, выцягнуўшы, як гусак, танклявую жылаватую шыю, чорную ад бруду ды сонца; шмаргануў языком па засмяглых губах і адвярнуўся. Паправіўшы за спіною вінтоўку, на момант задумаўся, нерашуча, але з прыкметнай прагнасцю зірнуў на збан, пасля на студню пад пажарнай вышкаю. Заўважыўшы на зрубчыку вядро з вадою, ён аберуч схапіў вядро і пачаў хлябтаць — прагна, таропка, кідаючы боязныя позіркі на жанчын, быццам яны, якія не зводзілі [redacted] яго вачэй, чакалі моманту, каб выхапіць вядро [redacted] рук. Паставіў яго зноў на зруб, паспакайнеўшы, зняў з галавы каску, нагнуў вядро, плесканув у далонь, з далоні — у твар, у вочы, на шыю, ліў і размазваў бруд па твары. Дзе размазаў, дзе змыў, а пасля і ўсё вядро вады — на голаў. Жанчына са збанам ускрыкнула:

— Вой, бабы-ы!

Усе глянулі на яе, нібыта яе вачыма — на салдата, яму ў твар, і таксама здзівіліся: сагнаўшы з твару бруд, пажылы салдат ператварыўся ў маладога хлопца з рабенькім, нібы яечка, тварам, з ружовым, аблупленым на сонцы кірпатым носам. Жалезная каска на ім цяпер выглядала як чыгун на калу. З-пад яе, ссунутай на бок, смешна тырчала абсмаленае на сонцы ружовае вуха.

Адчуўшы на сабе людскую сардэчную спагаду, салдат заміргаў, расчуліўся, як перад роднымі:

— Адкінуў нас немец ад Проні. Ноччу прыйдзе да вас.

Правай рукою намацаў, нібы сляпы, рэмень вінтоўкі, левай прыціснуў да сцягна процівагазную сумку і пабег наганяць сваю гармату, сваіх коней.

«Паўлю-у... Павел?!»

Я кінуўся за ім, але наляцеў на людскія спіны: хтосьці хвастануў, быццам пугаю, мацюгом, хтосьці варсануў пад бок вострым, як кол, локцем, аж заняло дыханне. Я на момант спыніўся і зноў пабег.

Людскі натоўп не даваў прабіцца ўперад, да тых коней з гарматай. Я вырваўся з натоўпу, даў круга, каб выбегчы недзе наперадзе да шашы, да гарматы, якую Паўлюк, калі то быў ён, ужо, мабыць, нагнаў. Але хітрых, як я, было ўсюды поўна. З клункамі, мяхамі, чамаданамі ўсе наравілі ўзбіцца на шашу, прыстроіцца да войска.

— Ану з дарогі! Войска не можа змяшацца з бежанцамі! — камандаваў на абочыне вайсковец, размахваючы рукамі.

Людзей адціскалі ад дарогі зноў да дрэваў, дамоў, ля якіх трашчалі платы і кусты, а натоўп усё роўна, не слухаючы каманды, рухаўся ў адзін бок з войскам — завулкамі, агародамі. Ля моста, дзе пад дарогу ныраў глыбозны Свіны роў, натоўп яшчэ больш рашуча пёр на шашу.

— Ды што вы як нехрысці?! Як чужыя!

Ні абурэнне, ні кляцьба, ні слёзы не пасаблялі — каманда была кароткая:

— Дарога ваеннага значэння!

А лямант не заціхаў:

— Куды ж тады нам? У зубы немцу кідаеце? Абараняйце, калі ў руках аружжа! Тады і дарога нам навошта...

— Пачакайце — абаронім!

— Спінамі?..

На абочыне спынілася, узняўшы пыл да неба, палутарка, крытая пыльным зжоўклым брызентам. З кабіны на падножку выскачыў нейкі афіцэрскі чын з шэрым, пабітым воспаю, тварам. У кабіне, вядома, сядзець не так пыльна, як на дарозе, і гімнасцёрка на ім была крыху чысцейшая, хоць не падраная, як на іншых, зелянейшая. Нехта ў натоўпе назваў яго камандзірам, нехта — ваенкомам, яшчэ голас запярэ-

чыў, даказваючы, што ваенком старэйшы, не з трыма кубікамі, як гэты, з дзвюма шпаламі. Чын узняў руку, патрабуючы ўвагі, і хрыпатым прастудлівым голасам, можа, ад крыку і сарваным, закрычаў:

— Усе, хто бежанец, ідзіце за Сож, на Гразівецкую дарогу! Пушчу немец абыходзіць! Туды ён не сунецца! Усе, пакуль не позна, спяшайцеся за мост!

І людзі яму паверылі — пачалі адхлынаць ад шашы, ад войска, перадаючы адзін аднаму, тым, хто не чуў:

— За Сож, кажа!.. У пушчу!

Ах, якія чыстыя, ясныя, сакаўныя ў пару сенакосу валошкі! Яны яшчэ не паспелі зліняць на летняй спякоце, яшчэ сінія-сінія, калі сонца хаваецца за воблакі, і блакітныя, нібы святыя дзяціныя вочкі, калі свяціла-ярыла шчыра абдасць зямлю-карміцельку сваёй шчодрай цяплынню.

Сярожка бегае па наспе сярод валошак, ганяе матылёў і стракоз, а мне, бацьку, большага шчасця не трэба, як бачыць гэтую сынаву гульню. Абапёршыся на касільна, я не адводжу вачэй ад сонечна-русай галоўкі, ад сакаўной сінізны наспы, шчасліва думаючы: вось сам, без маіх настырных ці неўпрыкмет хітраватых падказак, сын прывязаўся да наспы, гуляе ў кветках з матылямі ды стракозамі, з яе вышыні глядзіць на свет, на мае лугі, азёры, пушчу, раку, на мой ціхі драўляны гарадок, а ці ведае, ці падказвае яму сэрцайка, што наспа — першая бацькава дарога ў вялікі і жорсткі свет? Ці здагадваецца, што амаль паўсотні гадоў назад, калі бацька быў якраз у ягоных малых гадках, яна зусім іншы мела выгляд? Якая была? Які быў той сорак першы? Якое было тады лета? Я сам, здаецца, ніколі раней не глядзеў на сваю наспу сённяшнімі вачыма, з сённяшняй думкаю-згадкаю — як на памяць, на лёс. Гады і гады адшумелі, ужо не адны ваенныя, за ваеннымі — мірныя. Колькі за гэтыя гады тут перабываў, колькі травы тут стаптаў і скасіў, начных рыбацкіх вогнішчаў, падсалоджаных юшкаю ды чаркаю, запаліў! Нідзе гэтак шчодра, здаецца, не быў абмыты цёплымі летнімі дажджамі, сагрэты сонцам і сардэчным людскім словам, спатолены ад душэўнай смагі чыстымі, як слязіна, крыніцамі. Колькі

сяброў прыводзіў і прывозіў сюды, нібы у сваю хату, і колькі сяброў тут знайшоў! А вось калі б не ўбачыў сына ў валошках на наспе, ці згадаў бы сам, што перад вачыма мая першая дарога ў свет? Першы раз, дні тры назад, калі ўбачыў і падумаў пра гэта, аж сэрца ёкнула: Сярожа, сынок, стаіць на той самай дарозе, што ў памяці смыліць-дыміць, лямантуе і курчыцца пад паветранымі ліхадзеямі-крыжакамі. Убачыў сына, свой працяг,— скалануўся, нібы не я, не толькі я, тым агнём апёкся — увесь свет. А сёння, ужо не першы раз, убачыў — душа ўзрадавалася.

Рады, яшчэ як рады, што сын знайшоў маю наспу-дарогу, сам знайшоў, быццам сэрца яму нашаптала, як люба-дарага з яе вышыні глядзець на свет шматгалосы, шматколерны, і што яшчэ раней гэтую маю дарогу адшукалі і засеялі сонечныя валошкі...

Двухколка стаяла пасярод двара, нагружаная хатнім скарбам, увязаным накрыж вяроўкамі, двойчы і тройчы накрыж, а цётка Зося, не прыпыняючыся, зноў і зноў тупацела ў хату і кожны раз адтуль што-небудзь выносіла: якую вопратку, якія кубачкі, чыгуночкі, якую падушку, хоць маленькую, пад адно вуха, ці хустку, ці сарочку, ці анучку.

Нават дзядзька Ілья, звычайна маўклівы, не мог маўчаць, злаваў, аж кіпеў:

— Ну куды, куды валачэш? На чые рукі ды плечы?

— А не кшыч на мяне, Ілья,— жаласна лепятала, ледзь не плачучы, як усяму свету на яго скардзячыся, цётка Зося.— Ну я панёса, я сама. А што і Лёнік, не зломак.

Яна скупая, цётка Зося, ці, як яшчэ завём, дзядзіна. Тварам прыгожая, бялявая, з ласкавым, аж нейкім салодзенькім, што ў дзяўчыны, галаском і надта беражлівая да кожнай анучкі. Дзядзька Ілья, які не любіць ні ■ кім далікатнічаць, кажа, што гэта ў яе ад «пшэцкай» крыві. Яна палячка і часта, калі хвалюецца, гаворыць не зусім па-нашаму.

— Ну гдзе той, Ілья, ворак? Я пакладу ў яго дзяціну коўдрачку. Хто ведае, яка выдасца дарога, яке будуць нічы? Можа, зімнэ, слотны?..

Дзядзька да свайго, нажытага, як казаў, мазалём, таксама чэпкі, не раскідаецца, але разважыў іначай:

— Коўдрачкай неба не завесіш.

Не ведаю, ці разумна ён адказаў, а мне спадабалася. Ды цётка падсунула ўсё роўна тую коўдрачку пад вяроўку на возе. Спрэчкі заціхлі, але ненадоўга, бо, адшукаўшы паміж мяхоў яшчэ адтулінку, дзядзіна адшукала ў хаце яшчэ і вопратку.

— Куды ты пхнеш свае начныя транты? — разышоўся дзядзька Ілья.— Ты не транты, зямлю пільнуй, каб з-пад галавы не выкацілася. Тады бо адаспішся! — Выхапіў з яе рук ружовенькія сарочкі, злосна шпурнуў на грады. Яны там, на калах у памідорах, і павіслі.

Яна ў слёзы:

— Звежэ, чысты звер!..

Але ў хвортку якраз ускочыў Лёнік, і ўся дзядзькава злосць, як і цётчына злосная крыўда, звалілася на яго гарачую галаву.

— Дзе ты, шалапут, гойсаеш? З цябе што — бяды мала?

Цяпер, калі над маёй галавою аціхла, а над Лёнікавай шугаў самы гром, мне зрабілася шкада браценіка і прыкра за сябе: навошта я расказаў усё, як было, зрабіў Лёніка вінаватым? Хоць ён сапраўды збрахаў пра соль і краму. Мама туды не хадзіла, соль не купляла, яна сядзела ў суседкі, цёткі Валі, Паўлюковай жонкі, якая прыйшла з Асаўца і расказвала, што робіцца ў вёсцы, пра чуткі, што немцы ўзялі Прапойск. А я гэта без яе ведаў, таму і бег дадому, не чуючы ног, каб усім расказаць, што чуў на шляху. Нават Паўлюка бачыў, як ён ішоў ад Проні, як піў са студні, як абгортваў нагу абмоткаю. А няўжо то быў не ён? Ен! Але я не паспеў пра гэта ўсім расказаць, бо мама накінулася на мяне, ледзь ускочыў у двор, і на тую радасць, што гнала са шляху, звалілася моцная крыўда. Я зацяўся і нікому нічога не сказаў.

Калі Лёнік вырваўся з чэпкай дзядзькавай рукі, ускочыў у хату, цётка Зося ўжо сядзела пад акном побач з мамаю, засоўвала ў мамін клунак сарочкі, пазбіраныя ў памідорах. Дзядзька Ілья гэта заўважыў — плюнуў пад ногі і падаўся ў канец двара да сабачай будкі.

Чорнага калматага Анёла, у якога быў кароткі, як рэпка, абсечаны хвост, я раней не баяўся. А нядаўна, калі круціўся на вуліцы з Лёнікавым трохколавым веласіпедам, сабака шалёна ляцеў ад Сажа да сваёй

хворткі, і Лёнік, заўважыўшы яго з акна, крыкнуў штосілы: «Васька, уцякайма! Сабака збясіўся!» Я кінуў веласіпед вобзем, сам — на двор, і якраз у хвортцы Анёл злавіў мяне за штаны. Каб жа за адны штаны. Я ляжаў пасля на ложку жыватом уніз, а цётка, бэсцячы Лёніка, прыкладала мне халодную мокрую анучку з трыпутнікам. Балела не толькі ад сабачых клыкоў і халоднай анучы, але наймацней — ад сораму. Я ведаў, што Лёнік неаднойчы будзе кпіць з мае бяды, і адварочваўся ад браценіка, не жадаў яго бачыць.

Калі дзядзька Ілья падышоў да будкі, Анёл вывалак цяжкі ланцуг і лісліва поўзаў ля яго ног, вінціў хвастом-рэпкаю, паддобрываўся. Дзядзька зняў ланцуг з ашыйніка, даў сабаку пад хвост выспятка, і той з візгатам кінуўся ў падваротню.

— Ну што ты, Ілья, нарабіў? — залямантавала цётка Зося.— Цяпер як яго зловіш?

— Ужо не трэба лавіць.

— А як хто заб'е? Свой сабака.

Дзядзька сумна, нібы шкадуючы, паглядзеў на яе:

— Вайна, пані Яніцкая. Не ўгадаеш, каго яна заўтра пашчадзіць, а каго заб'е, нават крыж не паставіўшы. Гэта і людзям, гэта і сабакам. Вайна-а!

Ён часцяком, злуючы, называў цётку яе дзявочым прозвішчам — пані Яніцкай. А мне яно падабалася, і я не мог зразумець, чаму дзядзька тады гэтак кажа, як злосны.

Анёла мне было шкада, як і дзядзіну.

Лёнік зашыўся за печчу з крыўдаю на бацькоў, на мяне, а я, таксама ўсімі пакрыўджаны, адчуваў сябе нікому не патрэбным, чужым у хаце. Якраз тады, у тую горкую хвіліну, заўважыў у садзе пад яблыняй бацьку. Высокі, без капелюша, пабеленай галавою дастаючы тоўстыя галіны, якія Лёнік і рукою ледзь даставаў, ён зудумліва глядзеў на шурпаты, з закарэлымі наплывамі смалы, ствол, абхапіўшы яго рукамі, быццам развітваючыся з яблынькай. У хвіліны, калі бацька стаяў ці сядзеў нерухома, аб нечым цяжка думаў, мне часта здавалася, што ў яго няма ладу з жыццём, з людзьмі, што ён самотны, як ніхто ў свеце. Гэтакім цяпер адчуваў сябе я, і таму мне захацелася прытуліцца да яго са сваёй крыўдаю, бо ён мяне не лаяў, як мама, як дзядзька лаяў Лёніка і нас абодвух, ён адзін, мабыць, мог мяне зразумець. Я выйшаў з хаты на двор

і, не зірнуўшы на маму, на дзядзьку, на дзядзіну, шыбануў у сад. Там моцна абхапіў бацьку, прыціснуўся да яго, а ён зняў рукі з яблыні, паклаў іх мне на галаву — вялізныя, цёплыя, ласкавыя. Гладзіў мае валасы і маўчаў, а я па яго руках чуў, як ён мяне любіць і што з ім мне нават вайна — не бяда.

Мы, відаць, даўгавата гэтак стаялі, маўчалі, бо я не чуў, як падышоў дзядзька Ілья. Пачуў, як той спытаў:

— Што ты, Захар, глядзіш на яблыню, як на жывую?

Бацька адказаў, не паварухнуўшыся, нават рук з мае галавы не зняўшы:

— А яна жывая. Яблычкамі, бачыш, абсыпалася.

— Цяпер, можа, яшчэ пажыве. Яе вайна ратуе. А то ж я ўвосень, зняўшы яблыкі, хацеў яе ссекчы. Сад добры як малады, здаровы, у сіле.

— Мы з табою таксама старэем.

— Дык мы ж людзі.— Дзядзька абышоў дрэва, ляпаючы па ім жоўценькім метрам.

— Не чапай, Ілья, яблыню. Не прымервайся.

— Пажыла гадоў сотню. Яшчэ бацька садзіў хлапчуком. А рыдлёўку яму ў рукі ўклаў дзед Трахім. Бацька сам расказваў, як Трахім загадаў: пасадзі, Рыгор, сад, гадуй, і пакуль твой сад будзе стаяць, датуль ты сам будзеш жыць, ні бура цябе не зломіць, ні чужына не зманіць. Але іначай атрымалася. Бацька рана ўгаманіўся, а сад во яшчэ шуміць.

— Словы Трахімавы помніш, а што надумаў?

— То, Захар, казкі.

— Казкі жыць вучаць.

— Гэта ты дзецям спявай.

— Гэта ўсім трэба ведаць.

Падышла мама. Паслухала размову мужчын, памаўчала і сваё ўспомніла — шэптам:

— Ветрык дыша, яблыньку калыша...

Гэтакая была песня. Гэтак пачыналася. Сумная, пра каханую і каханага. Мама любіла яе спяваць, вяжучы ці шыючы доўгімі зімовымі вечарамі на маім ці на Любіным ложку, укладаючы нас, дзяцей, спаць. Пачаўшы з песні, быццам пра іншае, як гаварылі мужчыны, яна раптам, змяніўшы голас, усё роўна як загадала:

— Зробім, Ілья, іначай. Жывыя вернемся — тады і дзедава яблынька хай жыве. А не вернемся... Ну,

тады... Ты ж яшчэ не забыў, што я таксама з кодла Асташонкаў?..

Дзядзька нахмурыў лоб:

— Вы абое не гаспадары. Настаўнікі. Казачнікі.

Ён сказаў гэта без ранейшай упартасці, хоць не пагадзіўся і з мамай. Застаўся пры сваіх думках, але пярэчыць не асмеліўся. Мама ніколі не гаварыла насуперак дзядзьку і бацьку, ведаючы, якія яны ўпартыя, але зрэдку бывала, што быццам скамандуе, і тады яны замаўкалі. Мяне гэта вельмі здзіўляла.

Над галовамі, над садам, за хмарамі пачуўся нудны жалезны гул. Высока-далёка плыла танклявая рыска, нібы на белай столі камар, калі глядзіш на яе, лежачы ў ложку. А за той рыскаю, крыху ўбаку, другая такая самая, і яшчэ адна. Калі ўсе тры зніклі за белымі хмаркамі, тады з'явіліся яшчэ тры іншыя.

— На Крычаў ляцяць,— прамовіў бацька.— Няўжо сыпануць на цэментавы завод? Ці на чыгунку?

Ля хаты піскліва залямантавала дзядзіна:

— Ілья!.. Гдзе вы естэсьце?.. Даседзімося!..

Яе ахапіў жах. Можа, ад бацькавых слоў, якія яна магла пачуць, пра бамбёжку суседняга Крычава, а хутчэй за ўсё ад таго жалезнага гулу ў небе.

Цётка Зося цяпер усяго баялася і часта плакала.

Дарога за мост у пушчу вяла міма Асташонкавай хаты.

Ужо на схіле дня, не дачакаўшыся сястры з Мінска, Ілья склаў свой жоўценькі метр, схаваў у кішэню скуранай курткі, якая ў самы апошні момант з'явілася ў яго на плячах, і выкаціў за вароты цяжка нагружаную — на пяску ледзь сапхнуў з месца — каляску. З ёю трэба было прыстроіцца да плыні людзей, вазоў, кароў, калясак, такіх, як у самога, на двух колах, і не такіх, большых і меншых, да руху, якога не было яшчэ ўчора, нават сёння з раніцы і апоўдні, які толькі цяпер, у апошнюю гадзіну, разліўся на ўсю шырыню вуліцы, нібы паводка сюды хлынула, ад плота да плота. Тыя дні людзі не спяшаліся пакідаць свае гнёзды, чагосьці яшчэ чакалі, усё не верылі, што з імі, з кожным, можа гэтакае стацца: жыў-быў чалавек, абрастаў хатамі, хлявамі, жывёлаю, птушкаю, рэчамі, звычаямі, знаходзіў, не заўсёды хай разумна і лёгка, сваё месца паміж людзьмі,

і вось на табе — кідай усё, што ў хаце ды хлявах, як чужое, непатрэбшчыну. Адно цяпер, на схіле дня, ужо ведаючы, што хутка, можа, як сцямнее, можа, сярод ночы, у гарадок увойдзе нячыстая і загадкавая варожая сіла, людзі, хто раней думаў і не думаў бегчы, адважваўся і не адважваўся, павалакліся за Сож, у лес.

Стоячы са сваім возам за варотамі, Ілья Асташонак чакаў, пакуль да яго збяруцца сямейнікі, стаяў і круціў галавою, азіраўся. З пустымі рукамі не ішоў ніхто, усе, нават старыя і малыя, валаклі як маглі панесці, панаапраналі на сябе як на халады, на вазах і калясках везлі куфры, вопратку, посуд, швейныя машыны, падушкі. Брынчэлі каструлі і вёдры, рыпелі колы, у спешцы не змазаныя каланіцаю, натоўп тупацеў цяжкім абуткам, шлёпаў басанож, узбіваў пыл ботамі і чаравікамі, іржалі коні, пужаючыся незвычайна люднай дарогі, рыкалі каровы, мэкалі козы, прывязаныя да вазоў і калясак, на вазах вішчэлі свінні, гагаталі гусі. Завулак быў спрадвек ціхі, зялёны, засланы паўз платы дашчанымі ходнікамі, тут мала хто ездзіў на конях, сюды не заглядалі машыны, паветра ўсё лета дыхала вільгаццю, чысцінёю. І вось за нейкі адзін дзень куды сплылі чысціня, зеляніна. Курэў пыл, пад нагамі ляжаў здратаваны дзірван. Чыстыя платы, зялёныя вішні і яблыні, вароты і хаты, дашчаныя ходнікі — усё накрылася шэранню. Паветра зрабілася жоўтае, даўкае.

Захар [redacted] сям'ёй ужо выйшаў за вароты, выкаціў каляску Ілья, а Зосі і Лёніка не было. Узваліўшы ярмо каляскі на штыкет агародчыка, Ілья вярнуўся ў хату.

Зося сядзела на ложку, трымаючы ля вачэй хусцінку, а насупраць, на падлозе, соп Лёнік, абгортваючы бінтом нагу вышэй костачак. Ілья з дакорам глянуў на яго: зноў давёў матку да слёз? І накінуўся:

— Ну што?.. Пятлю шукаеш?

Сынваўчанём зіркнуў на бацьку і таропка, абы-як, абы хутчэй, пагнаў бінт вакол нагі.

Ілья сеў на ложак побач [redacted] жонкаю, абняў яе за плечы і, можа, першы раз за апошнія гады ласкава, шкадуючы, прыгарнуў да сябе. Яна не падняла вачэй, так і трымаючы ля іх белую хусцінку. Ён глядзеў перад сабой на сцяну, дзе вісеў фотаздымак Аляксея, старэйшага сына. Дайшло, што слёзы Зосіны не ад Лёніка і не таму, што карова акачурылася на балоце, і не па хаце, якую пакідалі, можа, надоўга, слёзы па

Аляксею, пра якога ён, бацька, у турботах апошніх дзён ні разу не ўспомніў, хоць і даўно нічога не ведалі пра старэйшага, дзе ён і што [redacted] ім. Такі самы шалёны і ўпарты, як Лёнік, балалай, год назад сунуў галаву ў сіло і не выблытаўся — пайшоў на казённы харч. Спатрэбілася лезці ў тую царкву. І што вынес? Папоўскую рызу, кадзіла, сярэбраны крыж з распяццем, ікону ў пазалочаным акладзе — Георгія Пабеданосца? Усё гэтае багацце загарнуў у стары падраснік — падаўся за Сож. На гразівецкай дарозе злавілі, вярнулі ў гарадок, пасадзілі ў мураванку ля базара, пасля судзілі, на два гады выпісалі пуцёўку і дармавы харч у Карэлію на лесарасрацоўкі. На што паквапіўся? Смех ды бяда! Зося тады ўся на слёзы сышла, за адзін год галаву сівізна абсыпала. Але што зробіш? Змірыся, чакай. Як быццам змірыліся абое. І вось цяперашняя бяда вяртала яе, маці, у тыя дні, да думак пра сына. Што з ім станецца? Куды закіне жыццё? У якое яшчэ пекла?

— Ну, уставай,— палагаднеў Ілья.

Ен падышоў да сцяны, зняў з яе сынаў фотаздымак у драўлянай рамцы, на якім Аляксей быў зусім хлопчык, далонню абцёр ад пылу і паклаў на жончыны калені. Ад нечаканасці і ціхай радасці, што ўгадаў яе боль, яна хапанула паветра, прыціснула здымак да грудзей і, нібы супакоіўшыся, паднялася [redacted] ложка, асцярожна, як не дыхаючы, пайшла з хаты. Пакуль стаяла на двары пад акном з сынавым партрэтам, Ілья яшчэ раз абышоў двор, зазірнуў у хляўчук, дзе, акрамя курэй, нічога не засталося — кабана адвёз да знаёмага лесніка ў Лісань, дзе стаялі і вуллі [redacted] пчоламі,— павесіў замкі на хлеў, на паграбню, на сенцы, яшчэ раз агледзеўся, пераставіў з месца на месца ля ганка венік, прыбраў з вачэй рыдлёўку і лом, аднёс за хату, на дрывотнік, і толькі тады вывеў Зосю на вуліцу. Другі раз вярнуўшыся ў двор, зачыніў на жардзіну вароты, на кручок — хвортку, падышоў да плота, каб пералезці цераз яго на вуліцу, ускінуў на плот рукі і знерухомеў: на слупе сядзела кошка. Не дзіва, што яна, старая, сядзела на слупе, тут было яе звычайнае месцейка, здзівілі і ўразілі кашачыя вочы, жахліва сумныя, слязлівыя, яе жаллівы голас. Кошка глядзела гаспадару ў вочы і каўкала, нервова пераступаючы з лапы на лапу, і ён не вытрымаў:

— Ну, што ты?.. Ну... сціхні, Хадора. Ну...— Аж у самога ледзь сляза не навярнулася.

Пагладзіў пушыстую шэрую спіну, чаго ніколі раней не рабіў, а потым падцягнуўся на руках, перакінуў нагу цераз плот.

Якраз у тую хвіліну, развітваючыся з дваром, хатай, кошкаю, Ілья ўспомніў цётку Марфу, якая жыла не блізка, на другім канцы гарадка за круглым, у зялёным вербніку і аеры возерам. Успомніўшы, спытаў у жонкі:

— А дзе цяпер наша цётка? Адна, і тую забылі. Чаму не прывялі сюды? Яна б тут пераседзела, пакуль мы туды ды назад.

— Позна ўспомніў.

У гэтых словах Ілья пачуў папрок.

— Ну а ты?.. Ты дзе была?..

Жонка змоўчала — ці на вуліцы спрачацца?

Яны не забыліся на цётку Марфу. Як Падабеды прыйшлі [redacted] Асаўца, у той жа дзень, калі за возерам садзілася сонца, Зося і Ліза, нічога не сказаўшы мужчынам, паклалі ў кашолку галачку асавецкага сыру, белыя здобныя плюшачкі, якіх Зося напякла ў сваёй печы, крамных цукерак-падушачак, з якімі старая любіла піць чай, і пабеглі ў адведкі. Прыбеглі позна: халупа пад саламянай страхою, у якой жыла Марфа, была на замку. Ад суседзяў дазналіся, што гэтае раніцай баба падалася ў бок Бярозавага балота, каб там, у смуродных балотных ямах, пераседзець вайну. Казала, ідучы, што бачыла сон. З'явіўся ў сне малады Сцяпан, муж, у ваеннай форме, як на фотаздымку, доўгая шашка на баку і шапка казацкая, з'явіўся і кажа, каб ішла, не марудзячы, на балота і там яго чакала, ён туды прыйдзе і скажа, калі ёй вяртацца ў сваю хату. Ішла ў доўгай чорнай спадніцы, у чорнай жакетцы, у чорнай хустцы, у адной руцэ трымала вяроўку, вяла на вяроўцы Белку, сваю белую казу, а ў другой на кіёчку несла клуначак [redacted] ядою, ускінуўшы кіёчак з клуначкам на плячо. Цяпер, пачуўшы ад Ільі запознены клопат пра Марфу, Зося і Ліза зноў не сказалі пра тое, што бегалі да возера, бо гэта ўжо нічога не мяняла. Боязь за старую абвастрылася: як яна там, на балоце, у той заедзі-камарэчы з казою выседзіць? І ці прыйдзе туды, хоць у сне, яе вечна малады Сцяпан?

Пад колам каляскі ляжаў Анёл, цяжка дыхаў, высалапіўшы чырвоны язык, а побач з ім, на ягонай

шырокай лапе, ужо саскочыўшы са слупа, ляжала Хадора. Усё жылі ворагамі: яна на яго вечна шчэрылася і, выпускаючы вострыя кіпцюры, шыпела, нібы змяя, а ён, яе ўбачыўшы, кідаўся накрыць лапаю, хоць кіпцюроў кашачых баяўся. І вось першы раз за сваё кашачае ды сабачае жыццё ляжалі побач дружныя, абое ўтаравіўшыся на гаспадара.

Ілья здзівіўся:

— Што з імі сёння?

— Адчулі, нарэшце, што свае. Што сваім цяпер трэба мірыцца,— адказала, ківаючы не толькі на жывёлу, Зося.

Ілья не мог вытрываць іх позіркаў, не па-сабачы і не па-кашачы асэнсаваных, праніклівых. Адвярнуўся, ухапіўся за аглабліну каляскі, скамандаваў:

— Ну паехалі.

Налёг на ярмо, пераступіў цераз Хадору і Анёла, выпхнуў каляску на дарогу і пайшоў, не азіраючыся, упэўнены, што ўсе рушылі за ім следам.

На гары, па-над самым Сажом, пачынаўся брук, дарога загінала ўлева, брала разгон на мост, адсюль відаць была пушча — за Сажом. На паваротцы людзей збілася густа. Адны спяшаліся ўперад, бачачы ў пушчы ратунак, другія запыняліся, як на мяжы паміж жаданым і нежаданым, блізкім, зразумелым сваім і невядомым далёкім, чужым, запыняліся, каб перавесці дыханне, сабрацца з думкамі, самымі неабходнымі. Захар, таксама адчуўшы патрэбу спыніцца перад мостам, першы раз, як адышлі ад Асташонкавай хаты, азірнуўся: Ілья грымеў каляскаю следам за ім.

— Стой, Ілья.

Асташонак спыніўся, але напіралі адзаду, і ён закрычаў на Захара:

— Ну што там? Ужо здаў?

— Вярні з дарогі. Падумаць трэба.

— Раней быў час думаць.

— Раней не было Майсеевай крамы.— Падабед ужо скідаў мяхі з пляча.

— Не бачыш — замок? Пра хлеб таксама чухайся загадзя. Не тады сабаку кормяць, як на звера ідуць,— заўпарціўся Асташонак, але каляску вымушаны быў скаціць з бруку.

Яшчэ раніцай Майсей Смаляк з усім сваім чарнамазым кагалам праехаў на высокім возе пад Асташонка-

вымі вокнамі, пакідаючы гарадок, і гэта людзі заўважылі, бо Смалякі ехалі адны, па чыстым паветры, свежай, яшчэ не пыльнай вуліцай. Ілья якраз стаяў каля варот — крыкнуў: «Нешта ты, Майсей, дужа высока сеў? Не зачапі галавою мае правады, а то застануся без радыё, не буду ведаць, што ў свеце дзеецца». Майсей адказаў, як звычайна, з падкавыркаю: «Ну, калі ты, Ілья, хочаш слухаць Адольфаву музыку, дык сядзі сабе на парозе, вартуй свой провад. Ужо не доўга чакаць». Але хоць Майсей паехаў за Сож і краму пакінуў на замку, Захар недарэмна спыніўся: буханкі людзі выносілі з-за вугла, праз чорны ход, якім раней у краму заходзіў толькі сам Майсей, ды яшчэ яго баба, тоўстая Рыва, ды іх два хлопцы, Гірш і Моцік. Цяпер знадворныя дзверы ляжалі ў мужчын пад нагамі, выдраныя са сцяны разам з завалай ды петлямі, у краму было не прабіцца, асабліва Захару, які не ўмеў дзейнічаць ні кулаччом, ні хітрасцю. Ён стаяў збоку, ссунуўшы капялюш на патыліцу і бліскаючы на сонцы высокім спацелым ілбом, з вышыні свайго росту глядзеў праз галовы на тое, што рабілася ў краме. Адны лезлі туды, другія — адтуль. Чырванаваты дзяцюк вырваўся мокры, распараны, нібы з лазні, ледзь не збіўшы Захара з ног. Пінжак і кашуля на ім былі расхрыстаны, ён соп, як паравоз, а буханак нахапаў бярэма — быццам дровы выносіў. Буханкі ў руках не месціліся, адна-другая скінуліся пад ногі. Стаяў, шукаў іх унізе раз'юшанымі вачыма, а нагнуцца, каб падняць, баяўся — астатнія ж пакоцяцца з рук. Захар падняў адну, паклаў чалавеку на рукі, а другую той не чакаў — шыбануў у натоўп.

Калі Захар вярнуўся з выпадковай буханкаю, Лёнік ужо запіхваў свае буханкі ў мяхі.

— Ну, Ілья, табе з сынам не бяда,— здзівіўся Захар.

Асташонак быццам не пачуў.

З гары, ад крамы, колы і ногі беглі самохаць, ды не было дзе разбегчыся, бо ўнізе, перад мостам, каля паставой будкі, утварыўся затор. З таго берага ад лесу павеяла гарам, і людзі, можа, таму спыніліся — гарачым дыхнула ў твары.

— Што сталі? — крычалі адзаду, у спіны.

Натоўп прагна дыхаў смуродным паветрам, гадаючы, што там, наперадзе. Нехта быццам здагадаўся:

— Жыта гарыць!

Тады натоўп захваляваўся яшчэ мацней:

— А чаму гарыць жыта?

— Можа, там ужо немец? Абкружыў нас? Га, людцы-славяне? Абклаў дурняў з усіх бакоў!

Натоўп знямеў, усё роўна як нечаканая думка ў адзін міг дайшла да кожнага. Ды знайшоўся цвярозы:

— А навошта немцу жыта паліць? Ці ён хлеб не жарэ?

За гэтую думку, як за паратунак, ухапіліся:

— Сапраўды! Ці яму хлеб брыдкі?

— Ці, можа, у яго хлеба ад пуза, наш яму не салодкі?

— А моша, і ад пуша,— зашамкаў побач з Захарам бяззубы дзядок, нервовай рукою торгаючы сябе за рэдкую бародку.— Вунь шамлі колькі нагроб! І хранчушкі хлеб шарэ, і польшкі, і бяльгейшкі. Пуша, не шкашы, ладнае — не рашарве? Нахапаўша, тоўштая гярманшкая шрака!

Нехта зарагатаў, нехта і дзеду паверыў:

— А што? З яго прэ. Можа, ад злосці наш хлеб паліць. Каб мы пухлі ад голаду.

— А можа, дэсанта выкінуў? — успыхнула яшчэ адна здагадка.— Ён дэсанта ўсюды кідае. Можа, за мостам баі ідуць, як на Проні?

— От ба мы тут не чулі страляніны, каб баі? — раўнула нейчае здаровае горла.

Усе зноў разгубіліся, як у глухой цемені, не ведаючы, што да чаго прыкласці і што рабіць, зноў пачалі прагна ўдыхаць паветра, якое гарчыла ўсё мацней. І тады падаў голас Захар, які дагэтуль маўчаў, слухаючы натоўп, таксама, разам з усімі, гадаючы, што там, наперадзе:

— Ніякага немца няма! Ці вы не чулі загад Сталіна, каб самі палілі сваё дабро, не пакідалі ворагу? Каб ён тут, на нашай зямліцы, зубамі з голаду ляскаў. Каб спаў на чырвоным вугаллі. Ідзіце, не бойцеся! Свае там паляць.

Пададеда людзі пачулі, і тых, хто пачуў, было нямала, бо натоўп падаўся ўперад. Праўда, ён адразу нібыта ўпёрся ў сцяну, хітнуўся назад. Але наперад рушыла большая сіла.

Над маладым прыбарам, управа ад моста, чорны

дым паваліў клубамі, дажджом сыпанулі вогненныя пырскі і тут жа ў неба ўзвілася вужака агню. Яна лізнула верхавіны хвой, а знізу, ёй на падмогу, шугануў яшчэ агонь, распаўзаючыся рухомым частаколам. Вецер быў ад лесу. З ветрам ад Сажа на мост несла дым, смурод.

— Гэта ж пільня гарыць! — не то жахнуліся, не то ўзрадаваліся ў натоўпе.

— Лісанская? Дык няўжо свае паляць?

— Можа, дыверсанты? Учора двох вялі. Мацюгаюцца па-руску, хоць і немцы.

— А можа, рускія? Немцу прадаліся?

— Казалі, што немцы. А ў наша апранутыя. І мацюгі нашы.

Людскую раку, якая плыла наперад, ужо ні агонь, ні размовы пра дыверсантаў стрымаць не маглі, па бруку цокалі конскія капыты, рыпелі колы, галёкалі, нібы цыганы, мужчыны, то стрымліваючы, то падганяючы коней, бразгацелі вёдры — галасы і гукі прыспешвалі натоўп. Людзі разышліся ўшыркі, пасярод утварылася вымоіна, і ў тую вымоіну, абганяючы Захара, выкаціўся Ілья. Лёнік не адставаў ад бацькі, з усіх сіл пхаў каляску, але на нейкі момант прыпыніўся, каб падсобіць чужой цётцы перакінуць з пляча на плячо мех, і адразу Ілья на яго гыркнуў — той зноў хутчэй учапіўся ў аглабліну. Калі бацька азіраўся на сына, Захар, ідучы за імі следам, заўважаў у вачах у Ільі лютасць, несхаваны гнеў. Яшчэ раз заўважыўшы гэты гнеў, адвярнуўся, каб не сутыкнуцца са шваграм позіркамі, і за абочынай, за прыдарожнай канавай, высока, на адхоне пажоўклай ад спёкі гары, заўважыў старую ў чорным. Яна стаяла тварам да людской плыні — хрысціла ўсіх, хто ішоў міма.

Можа, Захар не пазнаў бы яе, каб не белая каза побач, прывязаная да вярбы.

— Марфа Іванаўна!

— Дзе ты яе бачыш? — учапілася ў мужа Ліза.— Цётка Марфа?

А ў спіны гналі:

— Што вы там спыніліся?

Не звяртаючы ўвагі на людзей, іх лямант, Ілья развярнуў каляску ўпоперак шляху, разам з Лёнікам мацней налёг на ярмо, ажно колы скрыгатнулі юзам, загрукаталі па гарбатым бліпчастым бруку. Падвеша-

нае вядро дрынкнула і сарвалася з вяроўкі, пакацілася, ляскочучы, па каменні. Натоўп нагамі адкінуў яго на процілеглы бок дарогі, і Ілья, пакінуўшы каляску на сына, усіх крыючы матам, матлянуўся на ляскат.

Захар з палёгкаю зваліў з пляча ў канаву мяхі і першы ўзбег па кручы, шырока, нібы птушка крылы, развёўшы ў бакі рукі.

— Марфа Іванаўна!

Ён любіў яе, худзенькую, строменькую, нібы чарацінка, ціхмяную і шчодрую да ўсіх, сваіх і чужых, хоць чужых у яе, здавалася, не існавала ніколі, усе былі сваімі. У душы, шчыра адчыненай свету, жыў Бог, не столькі той, якому спавядалася перад абразамі ды крыжам, малілася кожны дзень, устаючы да працы і кладучыся спаць, але і шмат бліжэйшы — Чалавек. Сваю любоў да цёткі Марфы Захар мог параўнаць з любоўю да маці, што памерла даўно, калі сядзеў у акопах той, на пачатку веку, вайны ■ Германіяй. Цяпер з усёй цеплынёю, што жыла ў сэрцы да маці і цёткі Марфы, ён абхапіў старую за плечы, прыгарнуў да сябе дробныя хрусткія костачкі, трапяткую, нібы ў птушкі, душу, пацалаваў, шэпчучы:

— Дзе ж вы блукаеце? Ліза і Зося бегалі, шукалі вас.

Вось і радасць, якую яна чакала ад іх — шукалі. Вочы расчулена заблішчалі.

— Ногі не тыя, Захар, каб далёка з ваміісці. У вас, маладых, свая дарога, а ў мяне свая. Мне за вамі не ўгнацца. Блытацца ў вас пад нагамі я не хачу.

Падбеглі дзеці, упляліся у бабіну спадніцу. Падышлі Ілья і Ліза, Зося з Лёнікам. Усім нечаканая радасць — баба Марфа. Ці даўно старая і Лёніка з рук не выпускала, пакуль у школу не пайшоў, і Васю з Любачкай аддавала свае бяссонныя ночы, тую пяшчоту, якую не пашчасціла аддаць уласным дзеткам. Не даў Бог сваіх, дык даў Зосіных, Лізіных — таксама не чужыя, свае.

— Ідзіце, любыя. І хай вас Бог беражэ. А за мяне сэрцы ў вас хай не баляць. Каму я, старая чаропка, патрэбная? Пасяджу ў балоце — не згнію, вярнуся.

Штосьці ўспомніўшы, яна сунула руку пад жакетку, поркалася, шукаючы ўсё роўна як патаемную кішэньку. Лізе здалося, што цётка Марфа шукае грошы — схапіла за руку:

— Не трэба. Мы вам павінны.

— Маўчы, Ліза! — Старая дастала з кішэні паперку.— Бяры і маўчы. Ды не згубі.— Перахрысціла Лізу маленькай іконкаю, абразком Божай Мацеры, што раней вісела ў цёткі Марфы над ложкам, прашаптала: — Прасвятая дзева Марыя! Дай тваёй рабе Лізавецы блаславенне ў дарогу цяжкую і доўгую, забяры ад яе пакуты і слёзы...

Ілья пачуў:

— Дарога не будзе доўгай. Пераседзім у пушчы ды вернемся.

Абняліся.

— Даруйце, цётка Марфа...

— Дзяцей беражыце. І ты, Зося. І ты, Ілья. Адзін аднаго беражыце, глядзіце.

Усіх блаславіла. Ілья быў памкнуўся нешта сказаць, ды яна здагадалася, што ён скажа,— супакоіла:

— Не хвалюйся. Тваю хату буду глядзець, як сваю.

Павярнулася да Захара:

— Ідзі, Захар. І каб галава твая была ўсягды светлая. Каб яна не аднаго цябе ўратавала ад дарогі крывой, блытанай.

Цётка Марфа ведала, што ні розумам, ні сэр-



цам Захар не прыме на сябе крыж, маючы даўні разлад з царквою, але гэта яе не пахіснула, перахрысціла, і ён не адвярнуўся, як адвярнуўся Ілья.

Сунуў старой у рукі буханку, якую ўвесь час трымаў, нават калі абдымаў. Ад хлеба яна адмаўлялася, ды ён настояў:

— У нас ёсць, а вы дзе цяпер возьмеце?

На зямлі каля ног ляжаў клуначак, штосьці ўвязанае ў белы ручнік, і Захар сам развязаў ражкі, паклаў буханку. Кладучы, заўважыў у ручніку жменю пачарнелых, на вогнішчы пражаных жытніх каласкоў, печаныя бульбінкі, чыстую палатняную анучку з завязанай у ражку жменькай солі, перавязаныя тасёмачкамі пучкі зёлак, якія старая збірала заўсёды, куды б ні ішла лесам ці лугам.

Калі, развітаўшыся, рушылі на мост, Захар доўга азіраўся на Марфу Іванаўну. Стоячы высока на гары, не адыходзячы ад вярбы, казы і клунка, яна ўсё хрысціла натоўп, і ў гэтую хвіліну Захар гатовы быў маліць хоць бога, хоць чорта, каб Марфа Іванаўна не знікла ў бядзе, не пакінула жывых, каб перамагла ўсе нягоды, выжыла, бо ў гэтым адчуў штосьці большае, як жыццё аднаго чалавека, штосьці сімвалічна агромністае, раўназначнае, можа, жыццю і смерці ўсяго народа.

Чым ніжэй спускаліся пад адхон, тым вышэй узнімалася на гары ціхая заступніца за кожную жывую душу цётка Марфа.

Дзе пачынаўся мост, ля паставой будкі, было самае стоўпішча людзей. Ілья і Зося апынуліся паперадзе Захара, раней ступілі на мост, пайшлі хутчэй і хутчэй. Нават Лёнік адстаў. Яго вёрткая галава цяпер чарнела паміж Лізіным сінім берэцікам і чамаданам, які ўжо ўзвышаўся на Лёнікавым плячы, а ніжэй час ад часу мільгацела квяцістая Любіна хустачка. Яны ўтраіх трымаліся разам, і гэта супакойвала Захара, але ў нейкі момант Ліза і Лёнік — ніжэйшую Любу ён ужо не бачыў — пачалі аддаляцца, быццам хтосьці пагнаў іх уперад, у той час як яго самога, нібы знарок, каб адарваць ад дзяцей і жонкі, натоўп не пускаў. Захваляваўся, і якраз у тую хвіліну аглушыў спачатку жаночы лямант, а следам за ім — дзяціны крык. Заржалі коні. Натоўп рынуўся ўперад, быццам у людскія спіны, сарваўшыся з тормазу, ударыла магутная спружына, ды ўперадзе былі таксама людзі, жывая

сцяна, тыя самыя спіны, вазы, каляскі — усе, хто акружаў Захара, хітнуліся назад. Ні назад, ні ў бакі не было як кінуцца — не пускалі фермы, стойкі, парэнчы, уся агароджа моста, хоць і трашчала пагрозліва, сеючы яшчэ большы жах.

— Звяр'ё, куды напіраеце? — вырвалася з жаночых грудзей, апаленае смяротным дыханнем.— Дзеткі-і!

А следам — дзяціны спалоханы голас:

— Мамачка-а!

І зноў той самы жаночы крык:

— Любачка-а! Дзе ты-ы!

Захару здалося, што голас не Лізін. І ўсё роўна, пачуўшы імя дачкі, нібы ашалеў:

— Люба-а?! Ліза-а?!

Сярод мноства галасоў, чужых і моцных, раптам злавіў слабы жончын:

— Мы тут, Захар!

Ліза азвалася не там, дзе ён яе бачыў апошні раз, яна ўжо была на другім баку моста і бліжэй. Зрабілася цёпла-цёпла, не так цёпла, як пад сонцам ці ад хады, ад цяжару мяхоў, на плячах,— цяплынь лінула ад сэрца, у ногі і галаву. Ногі аслаблі, і Захар пачуў роў самалёта. Пачуўшы, убачыў тупарылага над фермамі моста, над галавою. Няўжо — немец? Думка пеканула ў адзін міг, як бляск агню, хоць ужо заўважыў на крылах павукі свастык. Як жа так? Не магло быць, каб тут, над мостам. Нагою Захар зачапіўся за штосьці мяккае, жывое, спіною ўпёрся супраць натоўпу, які напіраў адзаду, нагнуўся і ўбачыў у прасветліне паміж людскімі і сваімі нагамі клунак і каля клунка дзяўчынку, зусім малую — жывы камячок.

— Ты... чаго тут?

У разгубленай людской куламесе пытанне самому здалося дурным, пустым. Адной рукою падхапіў дзяўчынку на грудзі, хацеў падхапіць клуначак, ды ў крыж далі вострым драўляным рубам, чамаданам ці скрыняю, і ён сігануў цераз клунак уперад, паспеўшы крыкнуць:

— Пад нагамі! Дзяўчынка згубіла!

Клунак узляцеў над галовамі, і Захар дацягнуўся да яго рукою, злавіў у паветры.

Самалёт над мостам збіўся з круга, паляцеў да лесу. Натоўп прыціх. Але ад гарадка, якраз ад Майсеевай крамы, ад гары, на якой засталася з казой цётка Марфа,

зніжаючыся, ляцеў другі, такі самы тупарылы, ляцеў дакладна па-над ніткай моста, сеючы рассыпісты пошчак, то глухі, як па мяккіх падушках, то звонкі, як па вадзе. Людскі лямант мацней гайдануў паветра, усё жывое кінулася наперад, душачыся і валячыся на мост, устаючы і зноў падаючы. Заржалі коні, узлятаючы на дыбкі, зараўлі каровы, козы. З-за Сажа, ад лесу, запухкалі зеніткі, развешваючы ў небе прыгожыя белыя парасоны. Захар быў ужо на другой палове моста, і цяжкі дождж да яго не дакаціўся. Можа, немец растрос насенне над гарадком і тут, над мостам, былі дасеўкі? Ці, можа, зеніткі з лесу напалохалі? Яны пухкалі, не перастаючы, укрывалі неба воблачкамі разрываў, але воблачкі выраслі вышэй, як ляцеў самалёт, за ім услед, дзе яго ўжо не было.

Людзі з усіх бакоў саплі і тупацелі моўчкі, быццам сілы страцілі, каб лямантаваць, і Захар таксама бег, адной рукою прыціскаючы да сябе дзяўчынку з клункам, другою падтрымліваючы мяхі, каб яны не спаўзалі з пляча. Бегчы рабілася ўсё цяжэй.

Унізе, метраў трыста вышэй па рацэ, ляжаў часовы мост на жалезных пантонах, якога ніхто не бачыў яшчэ ўчора, і Захар заўважыў, што на тым мосце таксама поўна бежанцаў. Мабыць, там ішлі і беглі тыя, хто жыў на Зароўі, усходняй ускраіне, ім той мост быў бліжэйшы, а вёў, як і гэты, вялікі, таксама ў пушчу.

Ад лесу насустрач натоўпу, абочынамі, беглі чырвонаармейцы, адціскаючы стрэчны натоўп, даючы дарогу санітарнай палутарцы, што марудна, баючыся падушыць людзей, прабівалася ад лесу на мост.

Але дзе Ліза, дзеці? Над галавою з'явіўся нібы той самы тупарылы — ляцеў зноў ад гары, ад Майсеевай крамы, і ўжо за ім следам ляцеў другі. Знізіўшыся над мостам, яны секанулі з кулямётаў.

— Ліза-а!

Захар зачапіўся за камень, грудзьмі паваліўся на мех з вопраткай, паспеўшы выпусціць дзяцінную ручку.

Выцягваючы душу з цела, нудна, са свістам, завыла, і тое выццё яшчэ мацней прыціснула да зямлі.

Гахнула блізка, аж зямля здрыганулася пад грудзьмі, адразу другі раз, трэці, другі і трэці — далей, глушэй. З лесу зноў захлопалі зеніткі. І раптам аціхлі. Цішыня разлілася — як нікога жывога не засталося.

Захар ускапіўся, азірнуўся: дзяўчынка ляжала

побач, тварыкам у пясок, пяском прысыпаная, не варушылася, а ля галоўкі на зямлі, побач з капелюшом, бялела хусцінка. Паставіўшы малую на ножкі, падхапіў з зямлі хусцінку, страсянуў, абмёў ёю пясок з дзяцінага тварыка, ускінуў на галаву капялюш. Як пасля доўгага сну, яна церла зажмураныя вочкі бруднымі кулачкамі. Убачыўшы Захара, зноў, як на мосце, прыціснулася да яго, калоцячыся. Прыгарнуўшы дзіця да сябе, ён зірнуў паўз лес у той бок, куды глядзелі людзі, і заўважыў, як над зялёнай лясной грывай ад моста ляцеў тупарылы, а другі, меншы, ляцеў ад пушчы, з яе нетраў, яму напярэймы, пакідаючы за сабою густы чорны хвост. Той, з чорным хвастом, быў малы, быццам наш кукурузнік, а за ім, вышэй, ляцеў яшчэ адзін тупарылы. Цяжка было зразумець, што адбывалася ў небе. Хто гарэў — наш ці вораг? У адзін міг, як у адну глотку, усе ахнулі, калі малы з чорным хвастом саўгануў лычыкам у бок тупарыламу, што, адбамбіўшы па наспе і зенітках, спяшаўся за мост, у сховы. Два клубы агню разляцеліся ў розныя бакі, пасыпаліся на зямлю. Адзін падаў на пушчу, а другі, таксама ўжо кладучы за сабою хвост чорнага дыму,— у някошаныя за Сажом травы.

— Гарыць, сцерва! — крыкнуў з наспы мужчына.

Захар падхапіў з зямлі клунак, сунуў дзяўчынцы ў рукі, свае мяхі ўзваліў на плячо і, трымаючы малую за руку, шыбануў да лесу.

Людская рака парадзела. Ад моста па наспе бежанцаў бегла ўсё меней, на мост адзін за адным, чарадою, як гусі, спяшаліся чырвонаармейцы, за імі следам грукаталі дзве фурманкі. Мужчыны ў цывільным, з вінтоўкамі за плячыма, вялі ад моста жанчыну з абвязанай галавою, некага пранеслі на насілках. З гарадка на вялікі мост бежанцаў, мабыць, ужо не пускалі, усіх скіроўвалі на пантоны, і Захар, думаючы пра дзяцей і Лізу, пра Асташонкаў, чапляючыся позіркам за кожнае дрэва, за кожны куст і камень, за кожнага чалавека, бег да лесу, на хаду заўважаючы за алешнікам ствалы зенітак, накрытыя маскіровачнымі сеткамі, прыкіданымі зялёным веццем, каля зенітак раўкі, яшчэ свежыя, жоўценькія ад пяску, шэрыя снарадныя скрыні, чырвонаармейцаў у касках, зялёныя фурманкі, коней, свежую варонку, ля варонкі — падводу, перакуленую дагары, каня ў лужыне крыві.

Пад першымі хвоямі спыніўся. Брук канчаўся, наспа ніжэла, раўнялася з зямлёю, ад яе ў бакі разбягаліся дзве лясныя дарогі: адна — налева, на Пагост і Гразівец, другая — направа, на Асавец.

Недзе тут стаяла расоха-бярэзіна з трыма ствaламі, пад якой бруіла крынічка, дзе заўсёды спыняліся і Ліза, і ён, Захар, і Асташонкі, ідучы з Асаўца ці ў Асавец, з грыбоў-ягад ці па грыбы-ягады. Захар абмінуў грудок з хвоямі, сышоў у лагчынку і над ёю, на ўзгорачку, убачыў тую бярозку. Скінуў мяхі з пляча і адразу заўважыў дзяцей: яны сядзелі над чыстым, пакраплёным жоўтымі лісцікамі, крынічным люстэркам, ручкамі боўталі ў вадзе, лавілі тыя лісцікі-слёзкі. Загледзеўся, шчаслівы, а Люба якраз у гэты момант паглядзела ў яго бок, усё роўна як сэрца ёй падказала, што бацька насупраць:

— Тата? Мамачка-а!

Ліза выбегла з-за дрэваў, павісла, заплаканая, на плячах у мужа і слова не магла вымавіць, душылася слязьмі.

— Ну, ты што? Дзеці!

Першы раз бачыў, каб жонка страціла над сабою ўладу. Колькі, бывала, здзіўляўся, як яна хавала адчуванне страху, болю, няўпэўненасці, і вось — здалі нервы? Захара гэта палохала мацней, як самалёты. Збіраючыся ў дарогу, думаў, ці вытрымаюць дзеці, калі дарога выдасца доўгай, цяжкой? Кожны раз боязь за іх ураўнаважвалася ўпэўненасцю за Лізу, што яе жаночы інстынкт і характар будуць падмогаю ў бядзе. А цяпер? Маўчаў, не суцяшаючы, але адчуваў, як яна супакойвалася і з ёю супакойваліся дачка і сын. Заўважыўшы ў яе руцэ паперку, узяў, зірнуў, што за паперка, і адразу пазнаў крывулі цёткі Марфы: «Ангел Заступнік, да цябе звяртаюся, малячыся. Зміласердзіся да грэшных рабоў тваіх Захара, Лізаветы, Васіля, Любові, Міхаіла, Марфы,— імя старой было алоўкам дапісана зверху рукою Лізы,— Зосі, Ільі, Леаніда, Аляксея, Уладзіміра, Кацярыны, Алёны, Ксені. Уратуй іх ад злога супраціўніка. Пашкадуй галодных, хворых, здарожаных. Не дай загінуць ад кулі варожай...»

Успомніў, як Марфа Іванаўна совала паперку Лізе ў руку. Хацеў нагадаць жонцы, што яна настаўніца і што ангел не яе заступнік. Але змоўчаў. Паклаў паперку ёй назад у руку, спытаў:

— Дзе Асташонкі?

— Ілья пабег у кантору.

— У якую кантору? — не зразумеў Захар.

— Ды... у сваю, лясную.

Здзівіўся:

— У лясніцтва? Што ён там забыў?

— Не ўсе, кажа, грошы параздаваў леснікам. Зарплата за месяц у сейфе ляжыць.

Кантора была недалёка, паўгадзіны хады — не круг, але здзіўляла, што Ілья, бывалы чалавек, у гэтакі час, калі немец на карак дыхае, успомніў пра грошы. Дзе цяпер тых леснікоў збярэ? Сядзяць — яго чакаюць? Што кантора колькі дзён на замку — сам казаў. Якая работа? Якія грошы?

Падышла Зося, таксама абураная:

— Што цвердалобаму дакажаш? І я казала — якія грошы? Каму яны патрэбныя?

Цяпер, калі Ліза і Зося амаль супакоіліся, а дзеці сядзелі пад бярозай, выкопвалі з зямлі нешта жывое, жучкоў-чарвячкоў, Захар заўважыў сваю маленькую спадарожніцу. Яна стаяла ля крынічкі наўколенцах, трымала ў прыгаршчах ваду, са смакам сёрбала, хітравата пазіраючы на яго з-за частаколу пальчыкаў, не адважваючыся падысці. Ён ёй усміхнуўся — яна падбегла.

— Дзядзечка? — зазірнула ў вочы і замоўкла, паравёўшы позірк на Лізу, як забылася, што хацела сказаць.

Ліза здзівілася:

— Адкуль пляменніца?

— А мы разам беглі за мост,— адказаў Захар.

— Мы хутка беглі, дзядзечка? — падтрымала размову дзяўчынка.— Самалёты нас не нагналі.

Ліза дастала з рукава кофты свой чорны грабеньчык, які звычайна сядзеў у галаве ў куксе, узялася расчэсваць злямчаныя ад пылу дзяціныя валасікі.

— А дзе ж твае тата, мама? Чаму адна тут? — распытваючы і слухаючы, яна быццам адмахвалася гэтым ад іншых думак, якіх баялася.

— А мой татка на хронце.

— А мамка?

— І мамка.

— Таксама на фронце?

— Яна ў мяне прыгожая, як лялька. Кінула нас

яшчэ зімою. Татка казаў, як ішоў на хронт, што мамка палётае-палётае і вернецца. І каб я далёка ад хаты не хадзіла, чакала мамку. А то яна вернецца, а мяне дома не будзе, і тады яна заплача і зноў куды-небудзь паляціць. І татка вернецца. Яны абое вернуцца. Гэтак цётка Вера кажа.

— Ну, во! Усё ты нам расказала. А як жа цябе зваць?

— Раечка.

— І з кім ты, Раечка, цяпер жывеш? — дапытвалася Ліза.

— А з цёткай Верай.

На пыльным прыдарожным мурагу стаяла босая маладая кабета ў шырокай і доўгай, на цыганскі крой, у чырвоныя кветкі спадніцы, у квяцістай хусцінцы, стрэшкаю пастаўленай над вачыма ад сонца, круглатварая, загарэлая. Яна даўно не зводзіла вачэй з Захара, Лізы, дзяўчынкі, але здалёк, блізка падысці як баялася, і вось цяпер, калі дзяўчынка даверліва разгаварылася, падляцела, нібы каршун:

— Што, дурная, ляпечаш? Знайшла сваіх?

Не здагадваючыся, што гэта і ёсць тая цётка Вера, Захар загарадзіў ад яе дзяўчынку:

— Вы... хто вы такая?

І тады паміж іх кінулася Раечка:

— Гэта ж цётка Вера!

Жанчына груба схапіла дзяўчынку за руку, смарганула да сябе, быццам якую рэч. Збянтэжаны яе грубасцю, Захар змоўчаў, а яна зусім азвярэла:

— Што вылупіў бельмы? Бяжы, Мацей, не згубі лапцей!

Не выпускаючы кволую дзяцінную ручку, яна павалакла за сабою малую, матляючы вакол таўстых ног спадніцай, уздымаючы пясок. Захар заўважыў знаёмы клуначак ля крыніцы — падхапіў, пусціўся наганяць дзяўчынку і ледзь нагнаў, сунуў у ручку клуначак, як жанчына, палахліва азірнуўшыся на яго, кінулася [illegible] дзіцем у натоўп, не паспеўшы, мабыць, і клунак заўважыць, і зразумець, чаму і як ён, Захар, зноў апынуўся побач. Глытаючы сухі дзяркаты пыл, ён стаяў пасярод бальшака, за людзьмі і пылам не бачачы дзяўчынку, а вочы ўсё глядзелі ў той бок, шукалі яе ў пыле сярод людзей.

Ілья прыехаў на сівым карнавухім жарабку, запрэ-

жаным у драбіны. Конь быў з лясніцтва. Захар пазнаў адразу, бо на ім Ілья неаднойчы прыязджаў у Асавец, вазіў цэглу, бярвенне, як ставіў прыбудову, араў і садзіў вясной бульбу, вазіў дровы, гной, сена.

— Як ты яго ўзяў? — пацікавіўся.

Ілья недаверліва зірнуў на Захара, гадаючы, што той думае — ухваляе ці асуджае? Не зразумеўшы, супакоіў:

— Вось і табе палягчэе. Усім будзе добра. Я свае мяхі перакіну на драбіны, а ты бяры каляску.

Захар і не асуджаў Ілью. За што? Конь стаяў у канюшні — каго чакаў? Немцаў? Хай лепш служыць Ільі, свайму чалавеку, чым немцам. Толькі ці варта хітраваць, выдумляць пра нейкія грошы?

Сонца размытай чырвонай капою садзілася на лес, гарачыня спадала, капрызліва-парывісты вецер налятаў ад Сажа, з-пад ног у хвойнік гнаў пясок. Пыл ужо не забіваў дыхалку, нос, вочы, як у зацішку гарадка, ды і людзей было не так густа, як там, хоць усе тыя людзі былі тут; проста была большая прастора, хто крочыў дарогай, а хто і лесам, адзін аднаго не гналі ў спіны, хоць аднаго табуна трымаліся, бо ў табуне чалавек чуў сябе мацнейшым, смялейшым, асабліва ў суцемках, блізкіх да ночы, тым больш што нетры лясоў не кожнаму звыклыя. Шчасліва ўзабраўшыся на воз, пасадзіўшы побач жонку, дзяцей, Ілья [redacted] ахвоткі круціў лейцамі над жарабком, пасцёбваў кароценькай пужкаю. Захар і Ліза з каляскаю адставалі, асабліва дзе пясок глыбейшы, колы грузлі, натужна выкручваліся з пясчаных калдобаў. [redacted] воза гэта бачыла Люба. Яна колькі разоў хапалася за лейцы, якія дзядзька трымаў у сваёй руцэ, прасіла, каб не гнаў, прыцішыў каня, але той яе як не чуў. Люба пачала прасіцца з воза, а ён усё ехаў. І тады яна папаўзла з гары, каб на ходу саскочыць.

Ілья злосна спыніў каня:

— Што? Цяжка ехаць?

Люба падбегла да бацькоў і прыляпілася да аглабліны ля мацеры.

Пакуль тая цемень, ішлі-ехалі больш лесам, як полем, хоць лес стаяў ці ўскрай поля, ці ўскрай лугу. Дарога ляжала роўная, шырокая, з абодвух бакоў аслоненая маўклівымі хвоямі, уперамешку [redacted] ялінамі ды бярозамі. Зрэдку трапляліся астраўкі лугу ці поля.

Некалі гэтым бальшаком, які зваўся гразівецкім — вёў на Гразівец,— з пушчы на рум, у Пагост, на машынах ды конях, болей на конях, вазілі лес, і тады ён быў гаманкі, людны. У апошнія гады блізкі лес выбралі, рум з Пагоста перакінулі вышэй па Сажы, бальшак пацішэў, павузеў, абочыны пабраліся мурагом, выбег, пасмялеўшы, порсткі падлесак. Калі цямнела, бальшак здаваўся вузейшы, хвоі ды яліны вышэйшыя, падлесак гусцейшы. Людзі, рухаючыся ў цемень, ужо не разбрыдаліся лесам, пільней трымаліся табуна. І большая, як пры святле, стаяла ціша. Ніхто нічога не казаў, ішлі моўчкі, да ўсяго прыслухоўваючыся, баючыся, што не пачуюць нейкі адзіны гук, адзінае слова ночы. А гукі былі звычайныя, як на любой дарозе: рыпелі колы, тупацелі і шлёпалі абутыя і босыя ногі, хтосьці пакашліваў, пасопваў, сморкаўся, нехта штосьці казаў і хутка замаўкаў. Нарэшце лес адступіўся ад бальшака, хвоі ды яліны аддалі бальшак жыту, якое за лесам адкрылася з абодвух бакоў, і адразу прахалода дыхнула ў распараныя хадою твары і грудзі, пыл з-пад ног адкаціўся на абочыну, у небе, ужо густа-сінім, прарэзаўся маладзічок, над ім заззяла першая зорачка, павісла над жытам, над полем, і пад зорачкаю ды маладзіком бальшак падзяліўся, нібы расшчапіўся ствол паваленага дрэва,— адна жыла адляцела налева да Сажа, а другая павяла ўправа на жытні ўзгорак. За жытам чарнелі стрэхі, але нідзе, ні ў адным акне не бліскаў агеньчык. Ад хат несла салодкім гарам, быццам пяклі і спалілі бульбу. Там рухаліся цені. Штосьці сярод жыта дагарала. Людзі стаялі з апушчанымі галовамі. Нешта ці шукалі, ці разглядалі на зямлі ў ружовых водблісках.

Выязджаць трэба было на правую дарогу, якая бралася на ўзгорак, Ільля гэта ведаў, але каня спыніў. Усе, хто ішоў і ехаў, запыняліся, насцярожана глядзелі ў бок вогнішча, ціха пыталіся адзін у аднаго, што там дагарае. Што — ніхто не казаў. Кінуўшы лейцы на падол жонцы, Ільля саскочыў на зямлю, наблізіўся да вогнішча.

— Згарэла чыя-небудзь хата? — дапытвалася з воза Зося.

Усе маўчалі.

— Самалёт дагарае,— адгукнуўся нехта з падлеткаў, якія блізка ад каня прысмольвалі цыгаркі.

Пачуўшы пра самалёт, Лёнік усхапіўся і следам за бацькам скаціўся з воза.

— Ты куды? — занепакоілася на возе маці.

Але сын шаснуў па жыце да вогнішча, адным момантам знік у цемені, і гукала яна ў пусты след.

Жыта выгарала кругам. Зямля ў крузе — чорная і сівая. Пахне пражмом, але іначай, як ад жмені каласоў, мацней, аж пяршыць у горле. І не скажаш, што тут жыта стаяла. Валяюцца абгарэлыя рызманы, чорнае пакурчанае жалеззе, аскабалкі, закіданыя зямлёю, вугаллем, сівым прысакам. Пасярэдзіне яміна, а яе ў неба тырчыць хвост самалёта — чорны, абвуглены шкілет. А вакол, кругам, стаяць людзі. Маўклівыя, нібы начныя слупы пры дарозе. Глухія і нямыя. Зрэдку пад нагамі, калі набягае вецер, вугалле чырванее, разгараецца. Ледзь чутна патрэсквае.

Жудасна ў гэтакай цішыні.

Жудасна і тады, як раптам недзе за лесам пачынае бухаць, раз за разам. Бухае далёка, але зямля пад нагамі скаланаецца, нібы тут, пад нагамі, і бухае. З вялізных хвой, што стаяць ускрай жыта, нешта — чуваць — сыплецца, дробна-дробна, усё роўна як пасохлае шыгалле альбо дождж.

За жытам, за чорнымі стрэхамі вёскі чырвань надзімае неба. Яно лопаецца, гасне, але зноў чырванее, надзімаецца. І зноў гасне, згортваецца.

— Нашы мост паляць,— ціха, усё роўна як баючыся, што пачуюць, блізка ад мяне кажа чужы дзядзька.

— Няўжо немцы ў Чэрыкаве? Не верыцца.

— Значыць, у Чэрыкаве.

Я ўглядаюся ў той бок, адкуль чуваць галасы, і заўважаю старога. Ён сядзіць перад ачахлым вогнішчам на ламачыне: у ватоўцы, босы, па костачкі ў прысаку. Гэта не ён сказаў пра немцаў, пра горад. Ён скамянеў і вачэй не ўзнімае на чырвонае неба, усё роўна як не чуе выбухаў, не чуе і не бачыць людзей. Яго вочы, як нежывыя, уставіліся на вугалле, прысак, ашмёткі, сярод якіх я пазнаю лётчыцкі шлем, доўгі і вузенькі, нібы змейка, раменьчык, адным канцом прымацаваны да абгарэлай планшэткі, бот з абгарэлай халявaю. Стары між людзей нібы паранены дзік, які сышоў крывёю: сядзіць, але, здаецца, вось-вось рухне ў пры-

сак. Ногі танклявыя, калашынне кароткае, быццам таксама абгарэлае, матузы вісяць, і горб на спіне, як расце на вачах. А каля ног — старая. Яна стаіць у прысаку па калені, чорнымі маслакавата-худымі, як ногі ў старога, рукамі марудна грабе перад сабою вугалле, усё на адным месцы, быццам у тым вугаллі пяклася бульба і старая, галодная, шукае бульбіны. Абедзве рукі яе тарганулiся, як апякліся, ды, мабыць, не апякліся, бо яшчэ глыбей зарыліся ў прысак, і там, у ямцы, штосьці знайшоўшы, аграбаюць ад прысаку, ад зямлі. Я камянею: пад рукамі ў старой яшчэ адна рука — чорная, быццам галавешка, далонню угару, з чорнымі паўсагнутымі пальцамі.

Старая ўся падаецца ўперад, тварам цягнецца да чорнай рукі і, страціўшы раўнавагу, ціха, не каўкнуўшы, соваецца ў вугалле, у прысак. Людзі, каторыя над ёю, бяруць яе пад рукі, падымаюць.

Стары побач, але ён не заўважае старую. Ён, можа, сапраўды нежывы?

Неба за жытам, за лесам, у тым баку, адкуль мы ехалі, разгараецца ўсё мацней. Твары абдае халоднаю жаўцізною.

Пакутлівым дзяціным голасам крычыць птушка.

Пазней, доўгімі начамі бежанства, на вусцішных лясных дарогах я часта буду чуць гэты не то птушыны, не то дзяціны плач. Ён неаднойчы раздзярэ маё сэрца, напоўніць душу смуткам лясоў, палёў, дарог, вёсак, сірот, трывогамі часу і лёсу, прымусіць плакаць слязьмі, якіх ніхто не заўважыць на маім дробным абветраным тварыку, навучыць чуць, бачыць і разумець чужую бяду як сваю, і я ўжо не толькі дазнаюся, што гэта плача сава Неясыць, але і выразна ўбачу яе ў вобразе вялізнай калматай птушкі над чорным начным выганішчам, у азораным блізкімі пажарамі небе.

Зноў марудна, без ахвоты, бухае на ямках ды каранях лясной дарогі дзядзькаў воз, а за ім дробненька ляскоча двухколка, якую пхаюць перад сабою бацька і мама. Бацька ўжо зняў капялюш, і яго галава відаць мне з воза над усімі мяхамі, што на возе і на калясцы, відаць яго шырокія плечы ў чорнай куртцы, а Любы і мамы не відаць, хоць я ведаю, што яны ідуць побач з бацькам — іх, ніжэйшых, ад мяне засланяюць мяхі. У зорным небе высока ззяе маладзік, а вакол

высыпалі, нібы насенне на раллі, зоркі, зорнаю сівізною абдае мяхі на калясцы, бацькавы плечы, яго чубатую галаву, хоць яна і так белая. Сівой здаецца ўся дарога, што плыве ў маіх вачах з-пад воза, за бацькавымі плячыма. З абодвух бакоў дарогі грознымі пікамі да неба ўздымаюцца хвоі, дзе радзейшыя, дзе густыя, зліваюцца ў адну сцяну, зблізканыя цеменню ночы, адна адну абдымаюць галінамі, засланяючы дарогу і ўсіх нас, людзей на дарозе, нас і наш скарб. Яны засланяюць нас ад таго свету, які недзе крычыць, стогне, паміраe, не жадаючы паміраць, як на мосце пад крыжамі-самалётамі. Яны ратуюць нас. Цяпер ужо я гэта ведаю і пачынаю разумець, чаму людзі, усе, хто пакінуў свае хаты, ідуць лесам, пушчаю. На нашай дарозе былі згарэлыя самалёт і лётчык, чорнае вуголле, чырвонае полымя, плыў сіні смярдзючы дым, але ўсё гэта там, збоку, дзе вёска, Сож, поле. Дзе пушча — ціша і жыццё. Людзі гэта ведаюць і таму ідуць лесам. Мне гэтага ніхто не сказаў — сам адчуў, зразумеў. Пушча шэпча мне ў вуха мірную казку, пяшчотную, як маміна песня. Я чую яе шэпт, а слоў не магу зразумець.

Але аб чым крычыць птушка? Трывожна дзярэ крыкам душу. Яна таксама пушчанская? Можа, яна жыве ў той самай вёсцы? Ці на тым выгане? Ці ў тым жыцце?

Аціхае нарэшце. Угаманілася? Ці гэта я пакаціўся ў сон, страчваючы сувязь з трывожнай птушынай жальбай?

Чую, як нехта бярэ мяне на рукі і кудысьці нясе. Моцныя пяшчотныя рукі кладуць на нешта мяккае, падсоўваюць пад галаву клунак. Нехта ў некага, але не ў мяне, пытаецца: можа, я хачу есці? І нехта адказвае:

— Якая цяпер яда? Хай дзіця спіць.

Мама?

Гэта яна адказвае. І кладзецца побач са мною.

Навокал становіцца яшчэ цішэй. А мне — цёпленька.

Захар Падабед ішоў на ўсход дарогамі, якімі ішлі тысячы людзей, але далучанасць да людское плыні не супакойвала, не пазбаўляла ад думкі: ці тое робіць, што цяпер трэба рабіць, ці на тую дарогу ўзбіўся ў ліхую для ўсіх часіну? Ён заўсёды давяраў арцельнаму выбару, але за спіны ні ў чым не хаваўся, шукаў, хай пакутліва,

сваю сцежку, і ўжо сваю, выпакутаваную, вёў так, каб яна ляжала не насуперак тым, якія пракладала супольнае народнае сумленне.

У гэтыя горкія дні Захар стараўся зразумець развіццё падзей, месца чалавека ў іх. Ён бачыў, як адна людская хваля кацілася ад мірнага берага на захад, дзе вораг, яму насустрач, у агонь, і як другая хваля ад таго самага берага рушыла на ўсход. Абедзве дарогі не новыя, пратораныя немаведама ад якіх часоў, ад варагаў ці крыжаносцаў, татараў ці шведаў, ад тых, калі пачаліся войны, бо ва ўсе часы не кожны мог узяць у рукі зброю, і той, хто гэтага не рабіў — жанчыны, старыя, дзеці, хворыя,— павінны былі сваім шляхам мацаваць людскі строй і род. Жыццё — не толькі права, але і абавязак. Гэтак думаў яшчэ летась, калі пра тое, што пачалося цяпер, ніхто не здагадваўся, хоць ад Гітлера, які захапіў палову Еўропы, можна было ўсяго чакаць. Колькі адных беларусаў раскідала па свеце першая сусветная? Ці ўзяць армян? Колькі іх у Арменіі? Не болей, як у іншым свеце? І ўсё — войны? Год назад, апынуўшыся з Лізай у Арменіі па пуцёўках настаўніцкага прафсаюза, забрылі на ўскраіне Ерэвана ў сялянскую мазанку. Стаялі і глядзелі, як жанчыны пяклі свой хлеб — лаваш. Цеста раскатвалі танчэй за блінцы — і на чарэнь. А чаму гэтакі хлеб? Здаўна, калі мужчыны ішлі насустрач ворагу ў бой, жанчыны ішлі ў горы. На спінах і руках яны неслі малых дзяцей, а ўзяць што яшчэ — рук не ставала. І тады лавашом абкручвалі, як бінтамі, сваё цела — ён быў заўсёды з імі і не даваў загінуць ад голаду. А яшчэ ж даўней быў Майсей, той самы, біблейскі, які выводзіў яўрэяў з егіпецкага палону. Зноў — бежанства. А было, можа, і да Майсея?

Цяпер бежанцам зрабіўся ён — Захар Падабед. Свае маладыя гады, а з імі маладую, патрэбную на полі бою сілу кідаў у агонь яшчэ першай сусветнай вайны, гэтая мабілізацыя ягоны восемдзесят сёмы год абышла, вайсковая скатка напаткала ўжо сынавы плечы, і вось таму, што паміж ім і сынам лёг франтавы акоп, не знаходзіў месца ні ў школе, ні дома, не ведаў, куды і да каго кінуцца.

Правёўшы Мішу, прыйшоў у ваенкамат. У калідоры спыніўся: далей — куды? Падышоў малады капітан:

— Вы да каго?

— Да вас.

Капітан завёў у пакойчык, пасадзіў на крэсла, сам стаяў ля акна, рукамі ўхапіўся за падаконнік. Быў гатовы слухаць. А Захар не ведаў, што казаць. Пакутай было тое, што жыццё вырвала з сям'і сына, што не ведаў, дзе Міша. Але хіба гэта скажаш? Яшчэ адна пакута — куды дзець сябе?

Капітан зразумеў яго па-свойму:

— Вы, бачу, не верыце ў нашу перамогу? Разгубіліся?

Захар абурыўся:

— Я настаўнік. Хіба я магу не верыць у сваіх вучняў? Ці ў сына? У іх перамогу?..

Але капітан не гаварыў — дапытваў:

— За тую, імперыялістычную, першую, як кажуць, сусветную, вы мелі Георгія? Ці не так?

Насцярожыўся:

— А што? За Георгія сплаціў яшчэ на той вайне. Ваяваў не за кайзера Вільгельма. За айчыну!

Капітан апусціў вочы, адчуўшы сваю памылку.

— Я не пра тое, Захар Макаравіч.

«Ведае, як зваць? — мільганула ў галаве.— Але... што дзіўнага? Там, куды выклікалі за Георгія, пра яго таксама ўсё ведалі...»

Спытаў, адчуўшы, што размова пайшла наперакасяк:

— Я, можа, вас не зразумеў?

Капітан смялей паглядзеў яму ў вочы:

— А ў васемнаццатым?..

— Банды гулялі. Тры гады на ліквідацыі банд...

— І зноў былі цяжка паранены?

Захар пачынаў здагадвацца, што гэта не допыт. Але чаго дамагаўся капітан? Што яму трэба?

— Асколак у плячы. Не адмаўляюся.— Заўважыўшы ўсмешку ў вачах капітана, Захар спахапіўся: — Гады залячылі. Пастаўце на камісію. Ну? Я прашу паставіць мяне на камісію.

Твар капітана пацяплеў яшчэ больш, і гэта мацней, як допыт, спалохала Захара.

— Вы забыліся, што вам шосты дзесятак? Гады не франтавыя. І камісія не дапаможа. Я сам тое-сёе магу засведчыць. Больш як хвіліну вы не ўтрымаеце томік Купалы ў левай руцэ. Будзеце спрачацца?

Захар узіраўся ў твар капітана, шукаў і, здавалася, вачыма ўжо намацваў знаёмыя рысы.

— Не пазнаяце Абабурку? Сем гадоў назад сядзеў у вашым дзесятым, на «камчатцы».

Захар схапіў капітана за плечы:

— Косця? Я ж ніколі не бачыў цябе ў ваеннай форме. Партупея, наган, шпалы. Ну, Капсуль! — Абодва зарагаталі.— Косця Капсуль, ад якога ў класе былі ўсе выбухі. Узмужнеў!

— Але ж і вас, Захар Макаравіч, гады не абмінулі. Шавялюра — нібы Асавецкі бор! Але ўжо не ягадны. Нават не грыбны. З зімовым беленькім халадком.

— А ты што хочаш? Настаўнікі старэюць, вучні сталеюць. Усё як трэба. Ды і не цяпер нам гаварыць пра старасць. Я хачу, Косця, каб ты мяне зразумеў. Хто зразумее, як не ты?

Блiснула надзея: каб вучань не ўважыў настаўніку? Але той зноў зрабіўся строгі:

— Вам трэба ісці на ўсход.

— У тыл?

— Тыл будзе каваць фронту не толькі танкі. Людзей! А вы — настаўнік. Хто, як не вы? Цяпер і тыл — фронт.

Захар абурыўся:

— Вучыш? Ужо ты — настаўнік, а я — вучань? Я не ведаю, што такое фронт і тыл? Я не правёў на вайну сына? Магу спакойна? Сын — на захад, бацька — на ўсход? — Адвярнуўся, адышоў да акна. На ўтаптаным пляцы ваенкамацкага двара сіратліва, нібы забытыя чалавекам, стаялі драбіны, і руды, нібы з гліны, конь драмаў у аглоблях.— Скажы, Косця, што чакае Мішу?..

Абабурка стаяў побач, таксама глядзеў у акно на каня і драбіны. У драбінах ляжаў, выпрастаўшыся, тварам уніз, чалавек — нерухомы, як мёртвы.

— Не хвалюйцеся. Ваш сын трапіць у танкавае вучылішча. Можа, Ульянаўскае...

Па драбінах, па спіне чалавека скакалі вераб'і, жывіліся зярнятамі ў саломе.

— Можа? Ці пэўна?

— Хутчэй за ўсё... І вы... ідзіце на ўсход.

Размова дала Захару каліва веры, што трэба сапраўды ісці на ўсход. А можа, Абабурка знарок, каб супакоіць, далёка на Волзе запаліў у вачах зорачку надзеі на сустрэчу з сынам?..

Вярнуўшыся ў вёску, Захар кінуўся шукаць Вацуру,

дырэктара школы. Той як у ваду кануў — ні ў школе, ні дома. Жонка сядзела пасярод хаты на чамадане, а за спіною стаялі дзве танкляненькія, нібы галінкі, дзяўчынкі-школьніцы,— сумнымі, у роспачы, вачыма глядзелі на Захара, як хацелі пачуць ад яго пра мужа, пра бацьку. Надоечы ён позна прыйшоў са школы, зваліўся, павячэраўшы, на ложак, а раніцай, калі прачнуліся, ужо не было дома. Як так? Знік, нічога не сказаўшы? Цяжка было ў гэта паверыць. Але і не верыць не мог.

Захар падышоў да хаты калгаснага старшыні Вакулы. Сям'і ў Вакулы не было, жыў з удовай сястрою — яна і сустрэла ў сенцах. Ледзь спытаў пра гаспадара, як пакаціла бочкі: і бяздушны, і немца спалохаўся. А ўсё з-за таго, што звечара пагнаў на ўсход калгасных кароў. Хацела, каб застаўся з ёю ў вёсцы. Дурная баба. Не жадаючы слухаць, выйшаў на вуліцу, падаўся да сельсавета і не дайшоў, спыніўся: ад хаты з чырвоным флагам на вільчыку ад'язджала палутарка, у кузаве якой пазнаў старых асавецкіх паляўнічых і галоўнага сельсаветчыка Лявона. Ішлі міма бабы, сказалі, што ваўкадавы — гэтак вёска называла сваіх паляўнічых — паехалі лавіць дыверсантаў. Чутка, што ў асавецкі луг выкінуўся варожы дэсант, гуляла другі дзень, і хоць тых дыверсантаў ніхто не бачыў, ніхто і не сумняваўся, што яны недзе блізка, бо ля канторы ляжалі белыя парашуты, падабраныя касцамі ў полі,— чысты шоўк. Захар прыйшоў дадому — Ліза ў слёзы. Яна ўжо ад некага чула, што муж быў у гарадку, кінулася распытваць, каго бачыў, што чуў пра Мішу, ці заходзіў да Асташонкаў. Сэрца як здагадалася, што ганяла трывога за Мішу. Але не ўсё ёй сказаў. Адно тое, што магло супакоіць. А што сын, магчыма, апынецца ва Ульянаўску, змоўчаў. Скажы — і дарогу, якой лепш ісці, выбіраць будзе позна, іншай, як на Ульянаўск, Ліза не захоча бачыць.

Вось тады, усё і ўсіх абышоўшы, на ўсё, што вакол адбывалася, нагледзеўшыся, Захар адчуў, што далей сядзець у Асаўцы, глухім мяху, нельга, што прыйшоў час яго пакідаць. Сабраліся — куды ісці? Міма Асташонкаў не пройдзеш. Куды ў бядзе кінешся, як не да сваіх? Але і тут, у гарадку, сядзелі на чамаданах ды клунках, нечага чакалі. Штосьці павінна было зрушыць з месца. Якая сіла? Усё роўна як шукаючы тую сілу,

Захар зноў і зноў выходзіў [redacted] Асташонкавай хаты, ішоў у горад. Адны ўстановы былі на замках, другія адчыненыя, але пустыя, бязлюдныя. У пакойчыках раённага аддзела народнай асветы гуляў вецер, са сталоў і паліц змятаў на падлогу забытыя ўсімі паперы. Апусцеў рынак. Вокны ў крамах і будачках былі застаўлены глухімі дашчанымі шчытамі, дзверы на завалах. Ля раённай бальніцы стаяла машына, у яе грузілі скрыні, цюкі, шафы, сталы. Пахла лякарствамі, спіртам. Насупраць машыны Захар затрымаўся, угледаючыся ў людзей, якія бегалі то ад машыны, то да машыны, нешта неслі, грузілі, спадзяваўся каго-небудзь пазнаць, бо некаторых дактароў ведаў, але ў гэты час над гарадком грымнуў звон — усе думкі забраў. Звон у гарадку чуў першы раз. Некалі ў самым цэнтры стаяў вялікі двухпрастольны сабор, але ўлады яго разбурылі ў дваццатыя гады як сацыяльнае зло, а звон саборны, самы вялізны, царскі, як казалі, усцягнулі на пажарную каланчу. Захар сам бачыў яго там на вышцы, дзе заўсёды нехта дзяжурыў з пажарнікаў. Але не званіў ніколі. І вось — грымнуў. Чаму, з якой нагоды? Паспяшаўся да пажарні. Як дайшоў — звон аціх. Стаяў, задраўшы галаву, глядзеў на пажарную каланчу, але ніякага знаку — каб што новае адбывалася. І людзі стаялі, глядзелі на каланчу — у неба. Калі, настаяўшыся, апусціў галаву, успомніўшы, што трэба бегчы дадому, зірнуў уніз, на зямлю,— убачыў перад сабою вялізную калюжыну, якая заўсёды залівала выганчык ля пажарні, у любое надвор'е. Цяпер яна была белая ад берага да берага, як снегам накрытая. Бліжэй падышоў — яшчэ мацней здзівіўся: нехта вывернуў воз папер, дзе-нідзе абгарэлых, дзе-нідзе звязаных у пукі. Паперы плавалі, ляжалі ў гразі, лёталі па бліжэйшых вуліцах, дварах, агародах. Захар, як настаўнік, меў заўсёды ўвагу да кожнай паперыны і цяпер таксама не прайшоў міма, каб не падняць адну-другую. То былі цыркуляры казённых устаноў, людскія заявы, скаргі. Нехта даносіў, што «былы прапаршчык царскай арміі Зыскін прабраўся ў крэсла культорга Дубаўскага лесапункта і распявае [redacted] абчэсценнай сцэны буржуйскія песні «Машанька», «Эй, гусар!» і іншыя, варожыя рэвалюцыйнаму слыху». Захар сам сабе ўсміхнуўся: людзі-людзі! Што толькі іх не мучыла! «Калгаснік Бандэра з вёскі Кобля, пазычыўшы ў сабакі

язык і вочы, набрахаў на свайго суседа Пехцерава, быццам Пехцераў спёр з калгаснага гумна мятлу і рыдлёўку, а старшыня Сідарэня паверыў Бандэру, свайму шураку, падаў на яго ў суд». О-го, мятла і рыдлёўка! Яны маглі і вымесці, і закапаць Пехцерава. Яшчэ як маглі! Захар гэта ведаў. «Мне, Антосю Вераб'ю, веценару з вёскі Гразівец, сыну Івана Вераб'я, па бацьку Дзямідавіча, былога геройскага чырвонагвардзейца, якому атаман Булах крыжаваў сьпіну шомпаламі, сельсавет не дае права набыць каня з мянушкаю Белы. Хоць і маю наглядную сухарукасьць, а людзям і жывёле яшчэ патрэбны, бо веценарсамавук, жывую прыроду чытаю без памылак, і таму, каб па меры сіл аказваць дапамогу савецкаму обчаству, мне край трэба яздовы конь. Робіцца зьдзек з мяне, Вераб'я, сына Івана Вераб'я, па бацьку Дзямідавіча, а таксама з каня. Яго мянушка хоць і Белы, але не мае сувязі з контраю, конь не стары, каб здаваць у салатопку, зубы не з'еў, хвост не згубіў, капыты не знасіў, яшчэ можа араць і пераворваць буржуйскую контру і нашу савецкую ніву, засяваць яе на карысьць сусветнай рэвалюцыі. Таму, згодна апісанаму, пацьвярджаю, што ў салатопку здаваць Белага злачынства, таксама як злачынства не прадаць яго мне для службы на наша савецкае обчаства».

Колькі тут было людскога болю ці крывадушнай жорсткасці, у залежнасці ад таго, скардзіўся чалавек ці даносіў, шукаў праўды ці закапваў праўду ў яму, сеяў дабро ці зло, спадзяваўся на закон ці на беззаконне. З паперак дыхала жыццё, кожная сведчыла, як на судзе, пра час. І куды цяпер гэтыя сведчанні? На вецер? Спіша вайна? Спіша скаргі і даносы? Вайна — суддзя і пракурор? А дзе адвакат? Сам Бог? Ва ўсіх трох абліччах? Захар не кінуў паперчыны зноў у гразь, а склаў і сунуў ва ўнутраную кішэню пінжака. Пагадзіўшыся, што вайна — суддзя і пракурор, ён не паверыў, што яна будзе за адваката. Вайна можа пакараць, але апраўдаць можа толькі чалавек. Здалося, што, пакідаючы пры сабе паперы, як бы апраўдвае Пехцерава, якому нейкі падлюга прыпісаў крадзёж мятлы і рыдлёўкі. І Вераб'я гэтым самым падтрымлівае, сына Івана Вераб'я, па бацьку Дзямідавіча, ратуе каня Белага, якога яшчэ адзін падлюга гоніць на салатопку. А праз дзень, прайшоўшы за Сажом першыя

кіламетры на ўсход, адаспаўшыся ў чужой хаце на земляной падлозе, засланай саломаю, выйшаў ранічкай на вуліцу, калі дзеці і Ліза яшчэ спалі, сунуў руку ў кішэню, намацаў паперкі — апёкся: што [redacted] імі рабіць? Сон на дасвецці ўбачыў: Проню каля Прапойска, бераг белы ад белай гліны, крэйды, вясковую сямігодку на беразе, браценіка Сідара, настаўніка, акоп пад школьнымі вокнамі на беразе Проні, а ў акопе мужыкоў, знаёмых і незнаёмых, каго з вінтоўкай, каго з куркоўкай, а каго і [redacted] цаглінай. На адных салдацкія каскі, на другіх пілоткі, на іншых зімовыя шапкі, фуражкі-сталінкі, а хто з голаю галавою. Нехта кажа: немец зараз паваліць на Проню, пачне фарсіраваць, дык трэба ўсёй арцеллю дружна ўперціся ў бераг, каб яго сюды не пусціць. Хто гэтак кажа, які камандзір? Захар азіраецца на голас і бачыць побач у акопе нібыта знаёмага чалавека. Высокі, стройны, як быццам і самастойны, і горды, ён падкладае бліжэй да сябе, пад руку, чырвоныя цагліны, нібы гранаты. Захар у яго пытаецца: ты, Пехцераў, будзеш адбіваць Проню цэглай? А Пехцераў смяецца і вачыма паказвае на суседа [redacted] кулямётам. Той у гімнасцёрцы з пятліцамі, у пятліцах кубічкі, фуражка [redacted] малінавай зорачкай. Захар пытаецца: гэта твой, Пехцераў, камандзір? А Пехцераў адказвае: Бандэру не пазнаяце? Вось дык дзіва! Захар — зноў: каторы на цябе, Пехцераў, данёс, што ты ўкраў на калгасным гумне мятлу і рыдлёўку? Пехцераў ківае — той самы. Як жа так, Пехцераў? Ён на цябе данёс, хоча цябе пасадзіць, згнаіць, а тут вы побач, як браты, супраць аднаго ворага? А калі ён, пачаўшы касіць з кулямёта, заадно і табе галаву знясе? Проста так, неўпрыкмет. Ты не паспееш цаглінай махнуць. Немца і цябе — адной чаргой. Бо калі ён хацеў цябе загубіць учора, дык хоча гэтага і сёння? А Пехцераў, душа добрая, зноў смяецца: ці я гэтакі адзін? Захар аглядаецца і бачыць за школай белага каня, на ім — конніка. Здагадваецца, што гэта Верабей, сын Івана Вераб'я, па бацьку Дзямідавіча, на Белым. Вакол — яшчэ коннікі. Што за войска? А Пехцераў кажа: там, дзе Верабей, людзі з салатопкі, парцейцы, яны хацелі каня пусціць на сала з Вераб'ём разам. А яшчэ, кажа Пехцераў, тут ходзіць Зыскін, а за Зыскіным назіркам ходзіць дробненькі мужычок, які на яго страчыў данос. Як жа так?

Пісарчукі ў адным акопе з тымі, на каго пісалі? Што за войска? І адкуль тут браценік Сідар? Ён таксама ў гэтым войску? Пяць гадоў мінула, як яго забралі, абвінавацiўшы ў нацдэмаўшчыне, завезлі на паўночны Урал у тайгу. Зімою прыйшоў першы ліст з нейкай Чардыні. Пісаў, што там, у тайзе, працуе на сплаве лесу, стварыў у таежным лагеры хор, за што далі вольнае пасяленне. Спявалі ў хоры песні катаржнікаў, пакуль з Масквы не прыехала камісія, якая забараніла спяваць пра катаржнікаў, і вось невядома, што з ім будзе, бо шукаюць вінаватага. Цяпер хор спявае песні пра Сталіна, бацьку роднага, і зноў чакаюць з Масквы камісію — можа, адкупяцца? Расказаў пра адну катаржную песню. Маці ўгаворвала сына не вадзіцца са злыднямі, бо давядуць да Сібіры. Сын маці не паслухаў і пайшоў па Сібірскім тракце. Канвой у дарозе крыўдзіў хлопца. Аднойчы, не сцярпеўшы крыўды, ён забіў канвойнага салдата. Маці якраз папярэджвала: «Не стрывае тваё сэрца, ты заб'еш салдата...» Усё атрымалася — як казала маці. Захар яшчэ дзівіўся: як мог Сідар, чалавек вопытны, напісаць гэтакі ліст? Як дайшоў ліст па пошце? А пасля агледзеў, што на пячатцы месцам адпраўлення стаяў Магілёў. Значыць, нехта з сяброў вярнуўся адтуль — кінуў ліст у Магілёве? Адтуль, значыць, вяртаюцца? Ці, можа, уцёк? Не было зваротнага адраса на канверце. Але адкуль Сідар узяўся на Проні? І раптам бачыць, як браценік узносіцца ў неба. Чуе, як з неба гукае: «Кладзіся, Захар!» Не паспеў Захар пляснуцца на зямлю — бліснула ўваччу, усё роўна як ля ног снарад разарваўся. І тады прачнуўся. Ускочыў: дзе ён, што з ім? Агледзеўся: побач — Ліза, дзеці. У акне світае. Падняўся, выйшаў з хаты — лісты ўспомніў. Цап-лап па кішэнях — навошта яны? Яшчэ хто дазнаецца — бяды мала? Падбіраў з-пад ног, бачачы ў іх Пехцерава, Зыскіна, Вераб'я, каня Белага. Ратуючы лісты, усё роўна як людзей разам з канём ратаваў. А цяпер — іншых убачыў: хто пісаў-даносіў на Пехцерава, на Зыскіна, на Вераб'я, на каня Белага. Зноў, як у сне, падумаў: дажыліся — адзін на аднаго! Як жа адбіць ворага, калі ворагі — паміж сабою?

Падышоў да плота, аберуч схапіўся за чорныя гнілыя калы, на якіх няроўнай, уверх-уніз, шарэнгай віселі чырвоныя, чорныя, жоўтыя, паліваныя і без

палівы, збаны. За збанамі, праз яшчэ адзін частакол золатагаловага сланечніку, заўважыў пасярод двара пярэстую карову і маладую жанчыну, якая сядзела пад каровай на маленькім слончыку — цыркала малаком у даёнку. Проста так спыніўся, без усялякай думкі, адчуўшы прывабны зацішак вясковага двара. Жанчына разагнула спіну, трывожна павярнула круглы загарэлы твар да Захара, лыпнула на яго вачыма.

З хлява пачуўся капрызны дзяціны голас:

— Мамка!

Сонца ўзнімалася над зямлёй. Першыя промні цеплынёю абмылі збаны на плоце, праз адчыненыя вароты лінулі святло ў хлеў, і там, за падваротніцай, на сонечным лапіку, Захар заўважыў хлопчыка, які сядзеў пад шулам, спусціўшы ніжэй каленяў штонікі, бліскаў на сонцы, яму насустрач, белым сланечнікам.

— Ну чаго ты там? — не адразу адгукнулася маці.

— А навошта мы заганяем на ноч гусей? Цімохавы начуюць на пашы і цэлыя, бежанцы іх не палавілі.

Жанчына трывожна лыпнула на Захара — зазлавала:

— Ідзі ў хату! Каму кажу?

— А я не хачу ў хату,— занатурыўся хлопчык.

— Ну... паходзяць па табе матузы!

Яна падхапіла вядро, ускочыла з ім у сенцы, а хлопчык падцягнуў штонікі і выйшаў з хлява. Надзьмута-самавіта, быццам гаспадар, падышоў да плота, нагнуў спелы сланечнік, сапучы, узяўся вылускваць семкі. Галава была круглая і жаўтлявая, нібы той сланечнік. Спакойна лузгаў, пакуль не заўважыў Захара. Лушпайка павісла на падбародку, залаценькія броўкі грозна сышліся на пераноссі.

— Мамка-а!

— Ну што табе, надаяда?

— А што тут робіць чужы дзядзька?

Жанчына выйшла з сянец на ганак. У руках яна несла збан з малаком, наліты паўнютка, з краямі. Каб не разліць, асцярожна падышла да плота, за якім стаяў Захар, нейкі час глядзела на яго, ні слова не кажучы. І ён на яе глядзеў. Яна была не брыдкая, налітая, як збан у руках, маладой сілаю.

— Што ж ты сабе думаеш? — спытаў.— Людзі ідуць на ўсход ад немца, а ты тут кароўку доіш?

Яна скаланулася — малако плёхнулася на загарэлыя рукі.

— А куды ж мне, разумок, бегчы? — Яе вочы звузіліся, пахаладнелі, пачалі калоць.— Ну, ты мне падкажы — куды? З гэтакімі вось,— кіўнула на хлопчыка, які стаяў у яе пад рукою, зашпільваючы штаны на вялізны белы гузік. Пятля была малая ці гузік надта вялікі — доўга мусоліў у пальцах, соп.— А яшчэ драбнейшыя — у хаце. Далёка іх на гарбу дапру?

— Дзе муж?

— А ты быццам не ведаеш, дзе цяпер мужыкі? Павесткі па дварах раскідалі, паўдня на зборы — і пагналі, як гусей, на Гразівец.

— Чаму на Гразівец? — здзівіўся палагаднелы Захар.— Чаму не ў Чэрыкаў ці Асавец? — Сам не заўважыў, як ад слоў яго дыхнула спагадай.

— А ў Гразіўцы зборны. Хто дзе ў лузе махаў касою, ці сякерацю ў лесе, ці з канём мыліўся ў полі — усіх падчысцілі, ніводнага стояшчага не пакінулі. Дык куды ты нам, бабам ды дзецям, перціся загадаеш? Пад сваёй страхою хоць з голаду не здохнем, ад холаду не акалеем.— Яна падала збан цераз плот, зусім не маючы зла на Захара.— Ну, бяры. Бачу, дарога ў цябе не салодкая. Злосны дужа.

Яе дабрыня брала верх. Адчуўшы гэта, Захар быў адарваўся ад штыкецін, працягнуў рукі да збана, ды ногі, насуперак, адступілі ад плота, не пусціўшы да збана рукі. Адвярнуўся і хутка, не азіраючыся, пайшоў.

Вуліца вывела да сажалкі, забеленай гусіным пухам. Над вадою схіліліся вербы, распухлыя ў камлях, а пад імі, бліжэй да вады, у зацені туліліся маленькія лазні, задымлена-чорныя, кожная з вокамакенцам на вёску, накрытая лапікамі чароту, бляхі, саломы, дранкі. Ля кожнай загародка з драўмі, бярозавыя венікі на жэрдках пад стрэшкамі. Ад венікаў па вуліцы плыў сухі бярозавы водар.

Захар спыніўся. Гэтакія куточкі ён любіў у Асаўцы. З лазенкамі на рэчцы, з трывалым водарам венікаў.

Блізка шоргаў гэбаль. Жоўценькія габлюшкі вылятали праз адчыненыя дзверы бліжэй лазні. За дзвярыма варушыўся стары ў доўгай палатнянай кашулі. Захар здзівіўся: якая цяпер майстроўня, калі вайна і, можа, заўтра прыйдзе немец?

Але з яшчэ большым здзіўленнем за спіною пачуў голас Лізы:

— Захар?

Яна падбегла, хакаючы, як здалёк спяшалася, босая, непрычасаная, з заспанымі, яшчэ не прамытымі, вачыма, у накінутай на плечы шарсцяной кофце.

— Што здарылася? — захваляваўся.

— Ты... пайшоў, нічога не сказаўшы,— павісла ў яго на плячы, цяжка дыхаючы.

— Дзеці спяць?

— Спяць яшчэ. Там... Вацура. Цябе чакае.

— Вадзім Сямёнавіч? — Захар здзівіўся дужа нечаканай навіне.— Адкуль ён узяўся?

— Пайшла, устаўшы, па вёсцы, дзецям малака купіць, а ён з-за плота, носам да носа — тыц. Не пазнала, дык ён мяне пазнаў. А дзе ты яго пазнаеш? Зарос, няголены, у ботах, суконных штанах, куфайцы. Зроду гэтакай вопраткі не насіў. За спіной торбачка палатняная, пастухоўская...

Свайго школьнага дырэктара ледзь пазнаў і Захар. Вацура быў адносна малады чалавек, вясёлы, прыемны тварам, стройны, апрануты заўсёды з густам і чыста. Некалі, ужо за савецкай уладай, вучыўся ў ваеннай школе, служыў на флоце, скончыў педфак. Вайсковая выпраўка засталася, ішла да яго школьнай пасады, і цяпер, у ботах ды галіфэ, якія адразу састарылі, прыгнулі, ён здаўся чужы, загадкавы.

— Дык... якім ветрам, Вадзім Сямёнавіч?

Вацура агледзеўся, нібы асцерагаючыся лішніх вачэй і вушэй, адвёў Захара ад хат на загуменне і толькі там загаварыў:

— А тым, які ўсіх гоніць. Ветрам вайны. Цяпер адзін вецер. Супраць яго не пойдзеш.

— І што вы на сябе ўсцягнулі? Дзе знайшлі гэты мех — галіфэ? Куды з Асаўца зніклі? Там вас шукаюць? А вы?.. Дзе ходзіце.

— Аню бачылі? — спытаў Вацура.

— Жонка вас чакае,— паспяшаўся супакоіць Захар, рады, што Вацура спытаў пра сям'ю раней, як пачаў адказваць на яго пытанні.— Я да яе: дзе гаспадар? А яна — у слёзы. Ніхто не верыць, каб жонка не ведала, дзе муж. Дык спяшайцеся, пакуль не позна, пакуль немец на тым баку Сажа. Забірайце сям'ю, выходзьце на бальшак. Вам у раёне заставацца нельга.

Вацура разумеў не толькі тое, што сказаў Падабед, але і што ён хацеў сказаць, ды не сказаў — пра цяжкасці, у якія траплялі на акупіраванай тэрыторыі і ён сам, камуніст, дырэктар школы, і жонка — яўрэйка.

— Куды ж яшчэ? У Асавец і пайду.

Захару здалося, што разважае Вацура надта спакойна, быццам над галавой не грыміць.

— Ці, можа, таксама тут застаяцеся? — спытаў Захар, не разумеючы гэтага спакою.

Вацура насцярожыўся:

— Чаму — таксама?

— На вёску глядзіш — не скажаш, каб ёй пагражаў немец. Паляць у печах, выганяюць на пашу кароў, гусей, косяць, жнуць, пякуць праснакі, нічога не хаваюць, нікуды не бягуць. Ці не ведаюць, што, як сцямнее, хай заўтра ўранні, як сонца ўзыдзе, прыйдзе немец? Можа, людзям усё роўна, якая ўлада: савецкая ці нямецкая?

Вацура строга глядзеў на Падабеда, і ў гэты момант Падабеду кінулася ў вочы, як дырэктар за апошнія дні асунуўся, пастарэў.

— Што вы кажаце, Макаравіч? Што з вамі?

— А я хачу ў вас спытаць: што з вамі? Вы ж камуніст, настаўнік, афіцэр. Я — хай сабе, царскі падпаручнік. Георгіеўскі крыж ужо зрабіў мяне ворагам народа.

— Не цяпер успамінаць,— сякануў Вацура, ведаючы, на што намякнуў Падабед. Пяць гадоў назад яго ўсё цягалі ў асобы аддзел, цікавіліся і Георгіем, і браценікам Сідарам. Па святах, дзівак, чапляў Георгія на пінжак. Вацура тады адразу сказаў, каб схаваў ордэн у шуфляду, падалей запхнуў, не час царскім ордэнам выхваляцца. І ён, праўда, зняў. Але нехта ўжо напісаў у НКУС, паспеў.

— Не хачу ўспамінаць. Але бывае, што прымушаюць.

— Можа, я прымусіў?

— Ну... іншае ў галаве.

— І што, калі не сакрэт?

— Цяпер галоўнае — выбар. Што выбраць? Якую дарогу? Такія, як вы, у вашых гадах, паскідалі лапці, фуфайкі, апранулі форму Чырвонай Арміі. Дзе Павел Бойка? Пакуль вы бадзяліся па вёсках, нешта шукалі,

ён прыняў бой на Проні. Можа, там і застаўся. Навечна. Дзе нашы дзесяцікласнікі? Мой Міша — дзе? А вы? Прабачце, вам яшчэ б пугу цераз плячо — чым не пастух? Толькі дзе цяпер ваш статак?

Вацура слухаў цярпліва, як знарок даваў Падабеду выгаварыцца, зліць з языка гаркату, а калі Захар замоўк, спытаў:

— Ну? Усё сказалі?

Зняў з пляча торбачку, паклаў каля ног, кіёк — наверх, у кішэні галіфэ знайшоў піпку, абгрызеную і абсмактаную чужымі ратамі, бо сам піпкі раней не курыў. З той самай кішэні дастаў шчэпаць тытуню, набіў піпку, прытаптаў, як заправскі курэц, пальцам. Яшчэ дастаў крэсіва, трут, камень. Ён хоць і глядзеў на сваё курэцкае прычындалле, звесіўшы галаву, ды бачыў, як Падабед сочыць за ім. Заўважыў:

— Дарэмна мы з вамі не прызнавалі гэтакіх, як цяпер у мяне, штаноў. Кішэня — пуня.

Як даўно ўмеючы, раздзьмухаў трут, ад яго — піпку, укінуў курэцкае прычындалле ў кішэню-пуню, падхапіў на плячо кій з торбачкай і, пыхкаючы з-пад піпкі дымам, паклаўшы руку на плячо Падабеду, павёў загуменнай сцежкай у суседні лясок.

— Людзей, Макаравіч, судзіць не спяшайцеся. На ўсход хто ідзе? А хто не ідзе? Возьмем Асавец. Пайшлі настаўнікі, ляснічы, фельчар, тэхнік лесапункта, інжынер. А селянін, які жыве з зямлі? Яму чым большая бяда — тым мацней трымаецца за аўчынку зямлі.

Падабед уважліва слухаў Вацуру, але не мог звязаць ягоныя словы з ягоным абліччам, з маскаю мужыка, якую той на сябе напяліў, у якой, як пачаў здагадвацца Падабед, збіраўся тут, у сваіх мясцінах, адседзець вайну.

— Хто ж цяпер вы? Кулак ці бядак? Ці артыст? Ці, можа, агітатар? За каго агітуеце? Ці ўсё ж пастух?..

Вацура падвёў Падабеда пад апошні, ля самага лесу, хлеў, сеў за глухой сцяною на бервяно, паставіў торбу на зямлю паміж ног, развязаў, выцягнуў штосьці цяжкаватае ў тоўстай крамнай паперы — разгарнуў.

На каленях ляжаў шэры брус, падобны на мыла. Вацура перавёў позірк на Падабеда.

— Вошы вас не з'ядуць,— прамовіў Захар.

Вацура ўсміхнуўся.

— Сапраўды, Макаравіч, гэта ад вошай. Але не ад тых, пра якіх вы падумалі.

— Тол?! — раптам вырвалася ў Захара.

Вацура спакойна загарнуў дабро ў паперу, паклаў у торбу, дастаў ■ яе штосьці ў белым вафельным ручніку. Цяпер у яго на каленях ляжалі дзве гранаты — малая, пяхотная, і большая, процітанкавая. Іх Вацура схаваў хутчэй, як брус.

Падабед маўчаў.

— Чаму ж не пытаецеся, хто мне ўсё гэта падарыў і за якія заслугі? — Вацура ўжо зашморгваў торбу шпагацінай. Захар стаяў над ім, не зводзіў вачэй ■ ягонае торбы.— Не ведалі, куды дырэктар школы знік ■ Асаўца? Ну дык... Той ноччу, пасля апошняга педсавета, на якім мы абняліся і расцалаваліся, у вёску прыехаў грузавік. Вы, можа, спалі. Ён спыніўся за школьным садам. Мяне пасадзілі ў кузаў на саломку і павезлі. Гэта Аня ведае. Яна не сказала? Малайчына. Загадана маўчаць. А большага яна не ведае. Большага тады не ведаў і я. Калі ўзышло сонца, ужо быў у лесе пад Рослаўлем. Але... сядайце, слухайце...

Тое, што расказаў Вацура, Падабеду адкрыла новы свет, пра існаванне якога ён не здагадваўся.

У кузаве ЗІСа ехала васьмёра мужчын. Сярод іх Вацура пазнаў аднаго Карпушкіна, які да вайны працаваў інжынерам на лесазаводзе. Раніцай іх прывезлі ў стары бор, дзе стаялі палаткі, зямлянкі, буданы, на хуткую руку скіданыя з тонкага бярвення. Коні пад сёдламі ля канавязяў адмахваліся ад аваднёў і сляпнёў, ірвучы павады. Яны былі чыстыя, гладкія, аж blішчалі. Пад хвоямі ды маскіровачнымі сеткамі стаялі легкавушкі-«эмкі», палутарка. Усюды хадзілі ваенныя і цывільныя, пры зброі і без зброі. У вялізнай палатцы паснедалі. За сталом сядзела чалавек трыццаць. Потым — сталы з лаўкамі пад хвоямі, на сталах — вучэбныя гранаты, міны, стралковая зброя. Пажылы чалавек у скураной куртцы і хромавых ботах, без усялякіх вайсковых адзнак, якога называлі брыгадным камісарам, расказаў пра нямецкую армію, яе тактыку на імклівы захоп тэрыторыі, пра зверствы гітлераўцаў. З'явіўся малады афіцэр з кубічкамі ў пятліцах гімнасцёркі, паказаў, як збіраць і разбіраць пісталет і вінтоўку. Тое самае — назаўтра. Вучыліся ставіць міны, працаваць на рацыі, падрываць чыгуначныя

рэйкі, масты. На трэці дзень прывялі пад павець, дзе ляжала і вісела звычайная вопратка, абутак. Бралі хто што хацеў. Вацура не браў нічога. Камісар паглядзеў на яго чаравікі і сам выбраў яму боты. Ялавыя, якраз па назе. Тады ўбачыў, што пад боты трэба галіфэ. Выбраў чорнае, дыяганалевае. Да галіфэ ўжо не падыходзіў касцюмны пінжак — ускінуў на плечы куфайку. Але і пінжак не кінуў — згарнуў і паклаў, разам са штанамі ды чаравікамі, у рэчавы мех, які знайшоў пад павеццю. Пасля выдалі стралковую зброю. Вацуру дастаўся рэвальвер з барабанам. Кожнаму далі па тры дзесяткі патронаў, па некалькі цаглін толу, па дзве гранаты. Расказалі, што такое дыверсійная работа, як выходзіць на сувязь з партызанамі і падпольнымі групамі. Усё як быццам высветлілі, і ўсё было цёмным.

Вярталіся ноччу. Людзей у машыне назад ехала болей, як туды, падсуседзіліся крычаўцы, але з тых васьмёх засталося пяцёра. Двое дамагліся, каб іх накіравалі на фронт, у баявыя часці, яшчэ адзін знік невядома куды. Вацура памятаў таго маленькага мужчыну, вастраносенькага, з кароценькімі, як пэндзлікі, вусікамі, з рыжымі калючымі броўкамі, падобнымі на ячмянёвыя каласкі. Вочы сінія-сінія — валошкі ў жыце. Надоечы выкладаў перад камісарам паперы аб сваіх хваробах. Баяўся? Ды які з яго дыверсант? Тыя вусікі-пэндзлікі хоць і скінуць, дык вочы-валошкі нікуды не дзенеш, не перафарбуеш, кожнаму адразу запомняцца, нідзе з імі не схаваешся. Упрагчыся, каб пасля воза не пацягнуць? Каму гэта трэба? А што воз не па ім — Вацура бачыў. І строга чалавека не судзіў. Калі разгубіўся — таксама не дзіва. Ці шмат цяпер такіх, хто спакойны, упэўнены? Абы скацінай не зрабіцца, разгубіўшыся. Як тыя трое, што неўпрыкмет выскачылі з кузава ўначы, калі вярталіся назад, недзе яшчэ на Смаленшчыне, не даехаўшы да сваіх мясцін. Збеглі, як пацукі.

Вацура і Карпушкін дамовіліся трымацца разам. Сышлі з машыны за Крычавам, калі зямля яшчэ спала, пеўні маўчалі, першы раз адгаласіўшы, пачынала шарэць. З Варшаўкі звярнулі да Сажа, знайшлі ў кустах рыбацкі човен, пераплылі раку і мокрым скошаным лугам падыгалі ў бок вёскі Пагост, якая ледзь віднелася ў ранішняй смузе. Кіравалі не на самую вёску, а наўскраек. Вёў Карпушкін, а Вацура за

ім ішоў са згодаю, бо дарогу той выбраў у напрамку Асаўца. Крокаў за трыста ад вёскі спыніліся ў хмызняку пасярод лугу. Віднеліся гумны, хлявы, пахла цёплым жытлом. Хацелася есці. Карпушкін падахвоціўся схадзіць у вёску. У другой ад краю хаце жыла яго нейкая знаёмая, можна было спадзявацца на хлеб ды сала. З хмызоў Вацура бачыў, як Карпушкін зайшоў у хату. Але чакаў яго надта доўга. З гадзіну сядзеў у хмызах — няма Карпушкіна. Яшчэ крыху пачакаўшы, сам падаўся да той хаты. На двор зайшоў з агародаў, ад поля, каб не згледзела лішняе вока. Ля ганка старая ляскала таўкачом у ступе. Спытаў чалавека з торбаю. Старая апусціла таўкач у ступу, развяла рукі: не бачыла і не чула. А вочы замітусіліся, як украўшы. Здагадаўся — паддурвае. Торбу з пляча, сеў на ганку, закурыў. Старая — у хату. Ён — за ёю. Маладзіца з-за печы выскачыла зачырванелая-разагрэтая, як з лазні, кофта расшпілена і спадніца не на месцы. Вацура спытаў у яе пра Карпушкіна — таксама рукі раскінула: не ведае, не бачыла. Як гэта так? Каб не глядзеў з хмызоў у спіну Карпушкіну, не заўважыў, у якую хату зайшоў? Набраўся нахабства ды за печ, а там і акно насцеж у агарод, і сляды ад мужчынскіх ботаў на падаконніку. Плюнуў ды і падаўся на сваю сцежку. А з галавы не выходзіла: можа, Карпушкін і не такі, як тыя, што збеглі, можа, не збяжыць ад лёсу, абавязку, але калі ад яго, можна сказаць — аднапалчаніна, збег, памяняў на бабскую спадніцу, схаваўся — дык усё роўна падлюга. Выйшаў на вуліцу, а там Ліза Падабед. Абрадаваўся, як даўно нікому не радаваўся. Ёй, а пасля — Захару. І вось, расказаўшы, што адбылося з ім у апошнія дні, чакаў, што Падабед адкажа.

Захар спытаў не адразу:

— Вайна ў тыле ворага? Як і на фронце?

— Усенародная.

— Казалі, што нядоўгая, раз-два — і ў дамках. Адступім і наступім.

— Тое, Макаравіч, казалі ўчора. А сёння ўсё не так.

— Дубіны, каб па-сапраўднаму замахнуцца ды ўдарыць, яшчэ ў лесе не высеклі? У песнях яна гуляе, а ў руках няма? Зноў патрэбны Дзянісы, Васілісы?

— Я сам не ва ўсё, што чую, веру. Кожны дзень нешта новае, але не лепшае, усё горшае ды горшае. Што

там заўтра будзе — хто ведае? Хто скажа? Я — не ведаю, не скажу. Ну... трэба ісці.

Яны абняліся. З хвіліну не выпускалі адзін аднаго з абдымкаў, баючыся, што бачацца апошні раз. Калі Вацура падхапіў з зямлі кіёк з торбачкай, ускінуў на плячо, Падабед паспешліва, як усё роўна недазволенае, спытаў:

— Калі не сакрэт... Ці ведаеце, што вы тут павінны рабіць, як прыйдзе вораг? Ёсць адрасы, сувязі?.. Баюся за вас.

— Ёсць, Макаравіч. І няма. Ёсць і няма.

— Як гэта?

— А так, як сказаў.

— Хтосьці вамі павінен кіраваць?

— Хтосьці знойдзецца. А пакуль што... Хай кіруе сумленне.— Вацура скінуў з пляча на зямлю торбу, развязаў на ёй шпагаціну, пакорпаўся, дастаў анучку — у ёй ляжала складзеная газетка.— Гэта вам. Даўно не чыталі газеты?

— Даўно.

— Пачытайце.

Да лесу, які пачынаўся адразу за хлявамі, Вацура ішоў лёгка, пераскокваючы, быццам малады казёл, цераз яміны, купіны, карчы. Азірнуўся, махнуў рукою і знік за хвоямі.

Падабед падышоў да хвой, за якімі схаваўся Вацура. Пачыналася прасека, зарослая лубінам. На зялёным лісці высыпала буйная срабрыстая раса. Вацурава сцежка паміж дрэў па расяным лубіне ляжала цёмная, зварочвала з прасекі ў яшчэ малады падгоністы хвойнік. Сцежка вяла ў Асавец, і Захару, калі падумаў пра гэта, убачылася доўгая драўляная будыніна Асавецкай школы, школьныя вокны, расчыненыя ў прашытую сонцам прахалоду парку, тэхнічка баба Гапа на школьным ганку з жоўтым латуневым званком ў руцэ, а вакол Гапы — дзеці, як кураняты вакол курыцы. Сцепануўся, нібы ўся тая раса з лубінавага лісця сыпанула на голую спіну.

Не то ў вёсцы, не то за вёскаю, недзе на бальшаку, убачыў агонь. Ён то шугаў высока ў неба, то, прыдушаны ветрам, садзіўся на вясковыя стрэхі. Хутчэй засунуўшы газету ў кішэню, пабег у вёску.

Ліза і дзеці ўжо выкацілі каляску з двара, чакалі на вуліцы.

— Што гарыць?

— Ой, Захар! — узрадавалася мужаваму голасу Ліза.— Што гарыць? Кажуць, гумно. Можа, праўда — гумно?

Пажар павыганяў людзей на вуліцу. Рыпелі падводы, бразгацелі вёдры, бітоны, брахалі сабакі, наганяючы яшчэ большыя жахі, мясцовая дзятва выскаквала з двароў і шыбавала да пажару, а бежанцы хутчэй, як звычайна, збіваліся ў табункі. Іх дарога ляжала ў той бок, дзе гарэла.

— Нешта не відаць Асташонкаў? — спытаў Захар у Лізы.

— А яны паехалі. Сказалі, што будуць ехаць ціха, мы іх нагонім.

Захар абурыўся:

— Пешыя павінны наганяць конных? Ну, разумцы.

Лізе самой было крыўдна, што брат не захацеў чакаць Захара, хоць учора, калі пайшоў у лясніцтва і яго доўга не было, Захар нават не падумаў, каб ісці, не дачакаўшыся. Яго тады ўсе чакалі. Але Лізе не хацелася лішнім словам падліваць газы ў агонь, дзьмухаць на пажар, які час ад часу ўзнікаў паміж мужам і братам,— спытала пра іншае:

— Што Вацура казаў? Дзе ён быў? Куды пайшоў?

Гэта яе хвалявала нібыта мацней, як паспешлівы ад'езд Асташонкаў.

Але на размову не быў настроены Захар:

— Куды пайшоў? У Асавец. Куды яшчэ ісці, як не да сям'і?

— Ці паспее выскачыць з Асаўца?

Захар усё роўна як не пачуў — спытаў:

— Што-небудзь елі?

Пакуль Ліза збегала ў хату, вынесла каструлю з яшчэ цёплай бульбай, затоўчанай скваркамі і цыбуляй, паўлітровы слоік з малаком, Захар падышоў да дзяцей. Яны ціха, нібы шпакі на халоднай раллі, сядзелі пад плотам на лаўцы. Ён абмацаў сінякі на каленках у сына, агледзеў абутак, параіў:

— Ты, Вася, як ідзеш, глядзі пад ногі. У Любы сандалікі цэлыя, а твае ўжо кашы просяць. Разам куплялі.

Калгаснае гумно яшчэ гарэла, калі Падабеды выйшлі за апошнія хаты ў поле. У натоўпе казалі, што ў гумне начавалі бежанцы, ды яны яго пакінулі нібыта

раней, як загарэлася, яшчэ да сонца. Надоечы ў вёсцы знайшлі лістоўкі, пісаныя па-руску, але немцамі, бо ў тых лістоўках была агітацыя, каб сяляне не разбягаліся, чакалі новай улады, якая нясе вызваленне ад жорсткасці і безгаспадарчасці камуністаў, дасць зямлю, машыны. З лістоўкамі звязвалі пажар на гумне. Як можна было звязаць? Зноў загаварылі пра дыверсантаў, якія нібыта і лістоўкі параскідалі, і гумно спалілі. А калі так, то вораг, значыцца, блізка, побач? Не там недзе, за Сажом, на Варшаўцы, хоць Сож і Варшаўка недалёка таксама, а тут, у вёсцы, на бальшаку, сярод сваіх, вяскоўцаў і бежанцаў. Гэтая думка не давала спакою, усіх гнала ў спіну: хутчэй бегчы, як найхутчэй.

Месца пажару натоўп абыходзіў па бульбе, яшчэ ўчора зялёнай, цяпер чорнай ад блізкага агню, гарачыні. У твары несла гарам, попелам, які ліпнуў да цела і пёк, нібы агонь. Людзі адварочваліся, затуляліся каўнярамі, рукамі, хусткамі.

За счарнелым бульбоўнікам пачынаўся зялёны лес — бярэзнікавая чысціня і святлынь.

Першы раз я заўважыў яго, калі ішлі па чорным бульбоўніку, абміналі ахопленае агнём гумно. Ён нечакана апынуўся побач, паміж мной і гумном, і мне было зручна хавацца за ім, вялізным, у расхрыстаным, з абвіслымі плячыма паліто, ад гарачыні, гары, ліпкага, нібы смала, пякучага попелу, які вятрам несла з гумна. Але тады я не разгледзеў яго твар. Ён ішоў маўклівы, адвярнуўшыся ад мяне, углядаючыся ў пажар, і я не чуў ягонага голасу. Разгледзеў і пачуў яго пазней, на ўзлеску, дзе натоўп спыніўся, мінуўшы пажар і перайшоўшы поле.

Ён быў высозны, з твару худы і чорны, як зацярушаны гарам, нагадваў пудзіла, якое стаяла пасярод дзядзькавага агарода. Паліто на ім было ў вялізныя клеткі, чорныя з шэрымі, нібыта шахматная дошка, з невысокага каўнерыка тырчэла доўгая, нібы ў гусака, шыя, галава, буйная і чорная, зарослая смаляным касмыллем, круцілася ва ўсе бакі, нібы чалавек штосьці ўвесь час шукаў ці прадаваў лупатыя, як у жабырапухі, вочы.

— Хто мне скажа — доўга яшчэ ісці? Я іду ўжо два

тыдні. Куды я іду? Хто скажа — куды? Хто вядзе? Дзе той мудрэц, які вядзе? Я хачу на яго глянуць.

Пытаецца невядома ў каго, нібы крумкач крумкае з высокай яліны. Можа, ён пытаецца ў маленькай жанчыны, якая крочыць з ім побач, над якой звесіў нос — доўгую глюгу? Яна маўчыць. Не чуе? Ці баіцца на яго зірнуць? Яму ніхто не адказвае, бо ён усім пратрубіў вушы.

На грудзях, пад крысом паліто, маленькі і чорны, як вугаль з вогнішча, кучаравы, нібы ягнятка, сабачка.

Калі з ім ніхто не гаворыць, ён гаворыць з сабачкам. Аб тым самым:

— Можа, ты, Мушка, мне скажаш, чаго людзі маўчаць, як мерцвякі? Мы ж яшчэ жывыя? Хто нас вядзе? Куды вядзе?

Учора, пакідаючы гарадок, натоўп гаманіў, лямантаваў, людзі адзін аднаму нешта даказвалі, сварыліся, а сёння ўсё роўна як не тыя людзі — валакуцца ціха, кожны сапе ў сваю дуду і маўчыць, баіцца слова кінуць. Нават коні, якія там-сям ідуць у натоўпе, не фырскаюць, як фырскалі, каровы не равуць, як раўлі, не мэкаюць, як раней, козы, нідзе сабака не гаўкне. Адно колы спяваюць, як спявалі ўсю дарогу, песню-нуду, ды недзе наперадзе ляскоча падвешанае пад возам пустое вядро. Можа, людзі стаміліся гаварыць? Берагуць сілы? Ці пра ўсё за тую дарогу, што за спіною, нагаварыліся, няма чаго казаць? Але як гэта — няма? У Пудзілы — ёсць? І мама ў таты колькі разоў пытаецца пра Вацуру, хоць той маўчыць, як рыба. Мне ўчора таксама было цікава пра ўсё, што чуў і бачыў, распытваць у таты, у мамы, у Лёніка, нават сёння з раніцы ахвота была гаварыць, а цяпер, калі сонца высока, а лес абапал дарогі здрабнеў, няма той ахвоты. Учора, як увайшлі ў пушчу, абдало прахалодаю, лёгкасцю, тады здалося, што пушча надзейная, як мама і тата, схавае ад спякоты, як хавае ад немца. А сёння горача і ў пушчы. Можа, не так горача, як у полі, але потам усе абліваюцца. І дарога — адзін пясок. Лягчэй таму, хто босы. Мне гэтак здаецца. Я зайздрошчу босым. У сандаліках поўна пяску. Адзін сандалік сцёр нагу — малы палец і костачку на вялікім. Я кульгаю, як падбіты сабака.

— Вася! — гукае мама. Я адстаў ад яе, ад таты, ад

Любы, і яны спыняюцца, чакаюць мяне.— Што ў цябе з нагою?

Мы сыходзім з дарогі пад хвойкі. Я з радасцю сядаю на белы мох, здымаю сандалік. Бацька бярэ маю нагу ў руку, і яны ўсе, нават Люба, думаючы, што яна таксама вялікая, дзівяцца, як я сцёр — да крыві.

— А дзе твае шкарпэткі? — пытаецца бацька.

Я маўчу. Але праўду ведае мама:

— Не захацеў надзяваць. Зусім просіцца ісці босы.

Бацька доўга не думае:

— Малы, не разумее.

Мама ■ бутэлькі лье цёплую ваду, мые мне нагу, потым абкручвае анучкаю. Сандалік на анучку ледзь узлазіць. Бацька ўскідае мяне, быццам мячык, на каляску, на мяккія мяхі, напханыя вопраткай, і мы зноў выкочваемся на дарогу.

Усеўшыся пан панам, я думаю: чаму тата пасадзіў мяне на мяхі, калі я не прасіўся? Як мы з ім вясною ішлі з Асаўца ў гарадок і вярталіся назад у Асавец, я вельмі стаміўся, ногі заплятаціся, ісці не хацелі, а ён мяне на плечы не браў, казаў, што я мужчына, павінен цярпець, не стагнаць. Сёння не стагнаў, не прасіўся на плечы, на воз, а ён мяне ўскінуў на мяхі. На мяхах мякка, сядзець — не ісці. Колы цяжка рыпяць, грузнучы ў пяску. Тата налягае на ярмо, і колы марудна выкручваюцца з пяску, шукаюць цвярдзейшай дарогі. Я ведаю, што ён моцны. У Асаўцы каля ганка заўсёды ляжалі камяні, якія я не мог дзвюма рукамі зрушыць з месца, а ён іх кожную раніцу падкідаў і лавіў, доўга падкідаў і лавіў. Але, хоць ён моцны, мне сорамна сядзець на возе, бо гэта ўсё роўна што ў яго на руках. Мне ахвота спаўзці з мяхоў на зямлю. Я ёрзаю, як на гарачым. І раптам чую:

— Скажы, Мушка, за што ірады растрэслі нашу сям'ю? Ці мы каму зрабілі шкоду? Дзе цяпер мае дзеткі? Дзе мае кніжкі?

Пудзіла?

Ён крочыць побач з каляскай, звесіўшы доўгі нос над кудлатым сабачкам, які ў яго з-пад паліто высунуў, нібы з нары, пыску. Сабачка час ад часу задзірае галаву, глядзіць гаспадару ў твар і лыпае, як гаспадар, вачыма, разумеючы, што той гаворыць. Я адварочваюся, хаваю ад Пудзіла вочы, усё роўна як ён мяне не заўважыць, калі я не буду яго бачыць. Я гляджу далей

і вышэй — на сонца. На сонца час ад часу глядзяць і бацька, і мама. Сонца павінна скамандаваць, калі нам спыніцца, як скамандавала ўжо шмат каму — хто сышоў з дарогі, зваліўся пад дрэвам ці кустом, у засені расклаўся есці, адпачыць. Нам каманды яшчэ няма.

Сонца круглае, нібы кола каляскі. Есць вобад, нібы ў кола, блішчыць металам шыны, надраенай рашпілем пясчанай дарогі. І бляск усярэдзіне, нібыта спіцы ў ім мільгацяць.

— Ліза!

Хто там гукае маму? І бацьку:

— Захар?

Цётка Зося? Дык мы іх нагналі?

Пад таўшчэзным дубам стаіць воз, а пад возам на спіне ў скураной куртцы ляжыць дзядзька Ілья, заклаўшы рукі за галаву, раскінуўшы ногі, як воз аглоблі. Побач з ім на посцілцы хлеб, сала, яйкі. Дзядзька трымае ў руцэ пук зялёнай цыбулі, совае ў рот і хрумстае, але твару не відаць, ён схаваны пад фуражкай, і мне здаецца, што дзядзька Ілья совае цыбулю не ў рот, а пад блішчасты казырок сваёй зялёнай камандзірскай фуражкі. У гэтай фуражцы ён служыў на граніцы, яна старая, выцвіла на сонцы. Над казырком яшчэ летась блішчала чырвоная зорачка, а цяпер яе няма, згубілася, і ў тым месцы, дзе была зорачка, засталася пяціканцовая плямка, зялёная, сонцам не злізаная, такая зялёная, якою раней, можа, была ўся фуражка. Адзін казырок на дзядзькавай фуражцы не змяніўся, блішчыць, чорны, як і блішчаў.

Свой ручнік мама рассцілае побач з дзядзькавай посцілкай. Выкладае хлеб, ставіць зялёную каструлю з бульбай, якую не даелі ўранні, слоік з кіслым, перакалочаным у дарозе малаком. Мама запрашае да свайго ручніка Асташонкаў, але тыя кажуць, што наеліся. Дзіўна, што яны і мы ядзім асобна. Калі прыязджалі да іх у гарадок ці калі яны бывалі ў нас у Асаўцы, елі за адным сталом, не дзяліліся, як цяпер. Чаму гэтак? Ці ў дарозе, у бежанстве, жыць, як раней, нельга? Я хачу пра гэта спытаць у мамы. Чаму ўсё ж? Мы з татам ядзім дружна, у ахвоту, адзін на аднаго паглядаючы, баючыся адзін ад аднаго адстаць. Я налягаю на бульбу, бяру бульбіны рукою, бо яны халодныя, а тата — на хлеб ды сала. Ды і Люба не адстае, змятае з ручніка ўсё, што ляжыць. Адна мама як сытая:

аблупіла яечка і трымае каля рота, не кусаючы. На нас пазірае, каб мы елі. Яе яда не падабаецца тату:

— Ну, што сядзіш, думаеш? Еш! Дарога доўгая. Не паеўшы, далёка не зойдзеш.

І тады мама кладзе яечка ў рот, адкусвае.

Я ляжу пад возам на спіне, заклаўшы рукі за галаву, раскінуўшы, як дзядзька Ілья, ногі. Пад возам меней чорных мух і зялёных сляпнёў. Але мне ахвота бегчы туды, куды Лёнік пагнаў свайго карнавухага каня, на лясную пашу. Ен недзе блізка, можа, за кустамі, пад якімі стаіць воз, але мяне тата і мама нікуды ад сябе не пускаюць. Ды і падняцца цяжка. Я не магу варухнуць ні нагой, ні рукой — яны сёння цяжкія, чужыя. Адно тое, што ўсімі жылкамі чую, як гудуць, кажа мне, што не чужыя, мае, а значыць, я павінен іх шкадаваць. Гэтак і мама неаднойчы казала: не бегай, не лётай, як ачмурэлы, сядзь пасядзі, пашкадуй свае ногі. Я цяпер зразумеў, што ногі трэба шкадаваць.

Каля галавы гудзе не то авадзень, не то пчала? Але вачэй не адкрыць — векі цяжкія. І рукою не матлянуць, каб адагнаць назолу,— цяжкая. Хай гудзе. Але — замоўкла. Ці хто адагнаў? На твар амаль нячутка кладзецца штосьці лёгкае, цёплае, нібы подых ветру. Маміна шаўковая касынка? Не адкрыўшы вачэй, бачу яе — блакітную, у белы гарошак. Яна пахне мамінымі валасамі, памытымі пахкім ружовым мылам.

Чую мамін голас. І татаў. І цётчын. Яны называюць Вацуру. Тата расказвае, жанчыны перапытваюць. Значыць, мама ўгаварыла, каб расказаў. Я таксама хачу паслухаць, але не чую слоў, бо яны ціхія і ўсё цішэюць, адлятаюць ад мяне на крылцах тых аваднёў, тых пчол, тых мух, адлятаюць далей і далей, пакуль не заціхаюць зусім.

Гэтак надыходзіць сон. Але ўдзень сон нядоўгі. Паеўшы і адпачыўшы, мы зноў ідзём. Спыняемся, як цямнее, на беразе пятлястай рэчачкі. Да нас падыходзіць мужчына ў доўгім, да зямлі, шэрым плашчы, з пастухоўскай пугаю цераз плячо.

— Людцы добрыя, хто з вас доіць каровы? Другі дзень нядоеныя. Малачко сабе возьмеце, на здароўечка. Грэх зліваць у зямлю. Хоць і ў зямлю здойваем. Абы кароўкі не пагінулі.

Вогнішча вельмі ўтульнае ў ямцы, паміж пнёў, на якіх можна сядзець, грэцца ад агню і размовы. Тут усе,

акрамя Лёніка. Мужчына-пастух не спяшаецца ад нас. Ён з вёскі, якую ведае тата, тата і распытвае пра вёску, пра дарогі, якімі мужчына гоніць кароў, пра ўсё, што на сваіх дарогах чуў і бачыў. Я ўжо заўважыў, як любіць бацька распытваць людзей, ад усіх усё хоча ведаць. Дзядзька Ілья штосьці адно спытае і замоўкне, закурыць цыгарку, а тата пытаннямі сыпле. Чалавек адыходзіць ад вогнішча, а ён яшчэ глядзіць яму ўслед, услухоўваецца, што той кажа далей, падышоўшы да суседняй людской купы. А кажа і там тое, з чаго пачаў у нас:

— Пасобце, гінуць кароўкі. Добрыя кароўкі...

У той бок, за ім следам, ідуць мама, цётка Зося і Люба. З адным вядром.

— Чалавек з-пад Чавус, з маёй вёскі, з Караньkoў,— кажа тата дзядзьку Ільі. Дзядзька глядзіць яму ў вочы, быццам хоча штосьці спытаць і не пытаецца. І тады, як здагадаўшыся, што трэба дзядзьку Ільі, тата дадае: — Я яго пазнаў, а ён мяне не пазнаў. Гадоў трыццаць не бачыліся. Можна і не пазнаць. Хацелася яму сказаць: ну што ты, Пятрок, сын ненаежнага Нупрэя, не пазнаеш сваіх?..

Дзядзька Ілья сядзіць на пні супраць таты, з другога боку вогнішча, смаліць цыгарку, пускае дым струменем у агонь, глядзіць на тату хмура, спадылба.

— Што-небудзь не падзялілі? — пытаецца.

— Не было што дзяліць. Я з вёскі пайшоў у свет рана, у чатырнаццаць. Ён тады яшчэ малы быў. Бацька яго, Нупрэй, першы на вёсцы злодзей. Усё, што ўбачыць, бывала, валачэ пад сваю страху. Кола, сядзёлку, стары бот, дошчыну, чарапок, рукавіцу. А жыў як сабака: ні цёплай кануры, ні сытнага дня. І што дзіўна? Было ў яго два сыны і дзве дачкі. Усе зладзеі, а Пятрок, сярэдні, быццам з іншага кодла — ціхі, сарамяжлівы, скарынку ў галодны дзень не возьме з чужога стала. І дасі — не возьме. За ўсю сям'ю пакутаваў, крыж, можна сказаць, нёс. З-за сваячкоў людзям у вочы глядзець саромеўся, з вёскі збег. А як бацька памёр, Пятрок вярнуўся. Быў на пасадах. Брыгадзірыў, потым сельсаветчыкам паставілі. Людзі хвалілі. Дзіўнага сумлення чалавек аказаўся. Сваё апошняе аддасць, а чужога каліва не возьме. Вось як бывае, Ілья. Корань бацькаў, а пагон свой.

Дзядзька хмурнее. Тое, што расказвае тата, яму не

падабаецца, хоць тата кепска ні пра кога не кажа. У яго вінаватыя заўсёды не людзі, а штосьці такое, што робіць людзей кепскімі.

— Што ж вы? Землячкі, а не паразумеліся?

— Ты мне, Ілья, прабач. Я ж не хацеў...

Дзядзька ўстае з пня, адыходзіць ад вогнішча. Стаіць воддаль на беразе рэчкі, спіною да нас усіх, смаліць сваю бясконцую цыгарку, а я гляджу яму ў спіну, і мне шкада, што ён пакрыўдзіўся. Ці было за што? І чаму ён гэтак часта крыўдуе на тату? Ды ці на аднаго тату?

— Прынясі, Васілёк, галля.— Тата кажа мне, а глядзіць, як і я, на дзядзьку Ілью, яму ў спіну. Глядзіць доўга, сумна. І кажа ўжо не мне і не дзядзьку, а самому сабе: — Не думаў я пра тваіх сыноў, кажучы пра Нупрэя. Ні на Лёніка не ківаў, ні на Аляксея. Якая мне ахвота чапаць тваю больку?

Цяпер я здагадваюся, за што ўзлаваўся дзядзька. Яму здалося, што тата сказаў не пра нейкага там Нупрэя, яго сыноў і дачок, а пра Лёніка, пра Аляксея, якія таксама далёка бачылі, дзе што чужое ляжыць і стаіць без нагляду. Раней ён казаў гэта дзядзьку Ілью адкрыта. Я сам чуў. І заўсёды дзядзька ці пачынаў сварку, ці пакрыўджана адварочваўся.

Галля вакол вогнішча хоць заваліся. Нацягаў на ўсю ноч, бо які начлег без агню? Дзядзька Ілья прынёс ад рэчкі чайнік з вадою, паставіў у агонь.

А вось і яшчэ госць — сабачка: малы, чорны, як ночка, вочы бліскаюць з-пад калматае поўсці. Сунуўся да агню і адскочыў, галавою закруціў, зафыркаў, апёкшыся. Але не ўцёк. Лёг, выпраставў да вогнішча чорныя, з белымі кіпцікамі, лапы, выставіў чорны, нібы наваксаваны, нос-гузічак і чмыхае, як яму што не падабаецца. Муха? Пазнаўшы, азіраюся: дзе Пудзіла? З чамаданам у руцэ ён стаіць у мяне за спіною, нібыта яшчэ вышэйшы, як там, на бальшаку. Я адварочваюся, утаропліваю вочы ў агонь і не варушуся, чуючы, як усё ўва мне ледзянее. Можа, гэта шатун з казкі, якую расказвала мама? Цягаецца па начах, рэжа жывёлу, крадзе маленькіх дзетак? Я шукаю вачыма тату і бачу, што Пудзіла ўжо на тым баку вогнішча.

— Добры вечар,— чую яго глухі, як з магілы, голас.— Ці можна пагрэцца ля агню?

Дзядзька Ілья прыўзнімае над вачыма казырок

фуражкі, глядзіць на госця з недаверам. А тата запрашае:

— Падсаджвайцеся. Чаму ж гэта нельга пагрэцца?

— Раса выпала. Ноч будзе халодная.

Пудзіла садзіцца да вогнішча і адчыняе чамадан. Мне здавалася, што яго чамадан паўнюткі дарагіх рэчаў, цудаў, якія ён недзе, на нейкім свяце, накраў, а там звычайная вопратка, як у нашых мяхах. Яшчэ — паласатая торбачка. Ён развязвае на ёй вяровачку, дастае бутэльку з малаком, акрайчык хлеба, падыходзіць і працягвае мне цукерку. Адмовіцца? Але — як? Я бяру цукерку не ад радасці — ад страху. Цукерка вялікая, прыгожая, з белым мядзведзем на блакітнай абгортцы. Гэтакія цукеркі з мядзведзямі мама прывозіла раней з Мінска. Я іх вельмі любіў. І вось, трымаючы ў руках любімую, з мядзведзем, цукерку, адчуваю, як ува мне штосьці мяняецца да Пудзіла, чую цяплынь і радасць. Следам за радасцю ў душы прачынаецца ўдзячнасць. Не толькі за цукерку, але яшчэ за тое, што Пудзіла ні слова не сказаў, не застаўся са мною побач, аддаў цукерку і пайшоў на сваё месца да Мухі. Можа, ён зусім не той шатун, які крадзе маленькіх дзетак?

Есць моўчкі, ні на кога — ні позірку, ні слова. Як і не ён, ранейшы, бо ў дарозе ўсім абрыдзеў размовамі. Час ад часу паглядвае на Муху, што ляжыць побач, глядзіць гаспадару ў рот. Адшчыкне кавалачак хлеба і пакладзе ў сабачы рот. Дае кавалачак варанага яйка. Каб сабака еў яйка? Гэтакага дзіва яшчэ я не бачыў і зноў пачынаю думаць, што, можа, не трэба было браць цукерку ў Пудзілы? Можа, гэта не звычайныя чалавек і сабака? Нячысцікі, як казала баба Марфа? Апранутыя ў чалавечае і сабачае. Цукерку я запіхваю ў кішэню штаноў, у самы куточак кішэні, баючыся есці, але шкадуючы выкінуць.

Пудзіла дастае з чамадана бляшанку, налівае з бутэлькі малако і падсоўвае сабаку. Сабе ў белую алюмініевую конаўку налівае кіпеню з чайніка, на якім ужо танцуе-ляскоча века.

Якраз з'яўляюцца мама, цётка Зося і Люба. Яны прыносяць поўненькае вядро малака.

— Во, піце, хто колькі хоча. Сырадойчык,— усміхаецца мама, ставячы вядро на зямлю.— Трыста кароў гоняць, няма каму падаіць. Бабы сабраліся, здойваюць, хто ў вядро, хто ў кубак, а хто на зямлю, абы кароў

ратаваць. Іншыя трэці дзень нядоеныя. А колькі і мы тых кароў падаілі? Я пяць падаіла — рук не чую. Ты, Зося, колькі?

— А я трох.

— І я адну,— хваліцца Любка.

— От мне даярка! — рагоча мама.— Каб тую карову за рогі не трымалі, дык яна б цябе забіла за такое даенне.— Мама стамілася, спацела, аж валасы на ёй мокрыя. Яна іх рукою адкідае з ілба, глядзіць на Пудзіла: — А вы чаму п'еце ваду? Ці ж малака мала? Падстаўляйце пасуду.

Той ахвотна выплёсквае ваду, і мама налівае з вядра паўнюткую конаўку. Потым — мне ў слоік, тату ў шклянку. Дзядзька Ілья сумна глядзіць на вядро з малаком, на нас, як мы дружна п'ём. Можа б, і ён малака напіўся, ды звычкам сваім здрадзіць не хоча. Кажа, што як нарадзіўся — малако на губу не ўзяў, і з таго часу — ні кроплі. Не п'юць і мама з цёткай Зосяю, кажучы, што ў іх жываты трашчаць — напіліся, як даілі. А Люба там хоць таксама піла колькі хацела, тут зноў з поўным кубкам.

— Нашаму чалавеку галоўнае паесці,— другі раз падстаўляючы сваю пасудзіну да вядра, кажа Пудзіла.— Як сытыя, у жыватах сіла, дык ніякі нямчук нас голымі рукамі не возьме.

— Гэтак думае той, хто галадаў,— адказвае тата.

— Вы таксама, бачу, галадалі. І вы — настаўнік.

— Адкуль ведаеце? — здзіўляецца тата.

— А настаўніка ўгадаеш адразу. Калі настаўнік.

Тата хваліць малако, што тлустае, салодкае, ад добрай каровы. Ён паглядае на маму, усё роўна як хоча, каб яна расказала, якую карову даіла, ды мама пераводзіць размову на Пудзіла:

— Ці здалёк жа вы ідзяце?

— З Мінска, любая.

Мамін твар ружавее, гарачэе, быццам увесь агонь ад вогнішча дыхнуў на яе:

— Дзе ж вы там жылі?

— А каля ГУМа, на Савецкай.

— Насупраць ГУМа жыве мая сястра з сям'ёю.

— Жыла.

Мама аж скаланаецца:

— Мо яе ведалі? Ксеню...

— Мінск вялікі. Усіх ведаць не будзеш.

Цяпер усе мы глядзім на Пудзіла як на нечаканую знаходку ці жахлівую страту. Ён, адчуўшы гэта, хуценька, ледзь не давячыся, праглынае кавалак хлеба, запівае глытком малака, ад спешкі ікае, выцягваючы доўгую танклявую шыю, і гэтаксама паспешліва, як баючыся спазніцца, супакойвае:

— Ды вы не хвалюйцеся. Вось і я там жыў, на Савецкай. Нашу вуліцу моцна бамбілі. Ніводнага дома не засталося. Я таму і сказаў: жыла. А вашай сястры я не ведаў.

Як стаміўшыся ад размовы, ён робіцца ціхі, задумлівы. І малако ўжо не п'е. Здаволіўся? Муха таксама кідае хлябтаць — глядзіць у вочы гаспадару. Пудзіла забірае з-пад сабачага носа бляшанку, выплёсквае недапітак у вогнішча, са сваёй конаўкі вылівае яшчэ ў бляшанку. Муха зноў сове ў малако нос, фыркае, аблізваецца і пачынае зноў хлябтаць.

— Жывёліна, а ведае, што цяпер наядацца трэба не на адзін дзень,— разважае Пудзіла.

У маіх вачах ён увесь час мяняецца. І мяняюся я ў сваіх думках. То ўжо згодны, што ён чалавек як усе, хоць не такі, вядома, як тата ці дзядзька Ілья, дзівакаваты, але чалавек, а то зноў гляджу як на гароднае пудзіла, шатуна, нячысціка. То мне яго шкада, што ён адзін, шкада Муху; а то зноў апаноўвае жах — вочы б не бачылі, і тады дзіўлюся: чаму з ім ахвотна размаўляюць тата і мама? Дзядзька хітрэйшы. Ён маўчыць, паглядае на Пудзіла насцярожана. Як і я. А цётка Зося — як мама:

— Вы ж вось неяк выбраліся з Мінска?

Дзядзька Ілья здымае з плячэй куртку, раскідае на цёплай ад вогнішча зямлі пад колам воза, сам выпростваецца на куртцы. Я з ім згодны. Не трэба надта слухаць Пудзіла.

Але той чапляецца, як смала да рук:

— З Мінска не ўсе выскачылі. Не ўсе паспелі.

— Але ж вам удалося? — паўтарае яму ў вочы цётка Зося.— А ваша сям'я? Ці ў вас няма сям'і?..

Ён закрывае вочы, быццам засынае, седзячы, зноў адкрывае, міргае, і яны закрываюцца зноў. Усе мы глядзім на яго: няўжо заснуў? А ён, не адкрываючы вачэй, кажа:

— Я сваіх не знайшоў.

Зноў адкрыўшы вочы, дастае з кішэні пінжака

фотаздымак, працягвае цётцы Зосі. На здымку жанчына і хлопчык. Жанчына пад капялюшыкам, а хлопчык з жывым кацянём на каленях. Здымак пераходзіць з рук у рукі, але ніхто не пытаецца ні пра жанчыну, ні пра хлопчыка.

Тады ён сам расказвае:

— Віталіку тут восем гадкоў. Вось, можа, як вашаму.— Глядзіць на мяне ўважліва, нібы гадае, а ці восем жа мне? І як угадаў? Хто яму падказаў? — А цяпер Віталіку дзесяць. Выдатнік. Разумная галоўка. Калі наляцелі нямецкія самалёты, я быў у інстытуце, а жонка з сынам на возеры. Там грала свята. Я тры дні сядзеў на развалінах, чакаў іх. Сядзеў днямі і начамі, пад бомбамі, не піў і не еў, не спаў, баяўся адысці на хвіліну. А яны не прыйшлі. Пажарнікі і салдаты раскідалі руіны, выцягвалі забітых, параненых, а я ці ім пасабляў, ці сядзеў. Ноччу, калі заснуў, чую — нехта ліжа руку. Вочы расплюшчыў — Муха. Якая радасць! Можаце ўявіць? Я раней не ведаў, каб гэтакую радасць мог прынесці сабака.

Дзядзька Ілья ўсхопліваецца, уважліва глядзіць, седзячы, на Муху, на Пудзіла.

У лесе, зусім блізка, плача, нібы дзіця, знаёмая з мінулай начы сава Неясыць. Жаласць да яе зноў напаўняе мяне. Якая яна — тая птушка Неясыць? Мне яе трэба ўбачыць. Тую ноч мы былі далёка адсюль, а яна і тады была з намі, крычала, каб я не мог ні заснуць, ні думаць пра што-небудзь іншае, акрамя як пра яе. Цяпер — зноў. Яна ляціць следам за намі? Навошта мы ёй?..

— А ці мог ваш сабака загадзя адчуць, што бомба трапіць у дом? Можа, ён таму і пакінуў дом, што адчуў гэта? — дзіўныя пытанні задае дзядзька Ілья.

Калматыя бровы ў Пудзіла падымаюцца ўверх, яблыкі вачэй выкатваюцца з вачніц, аж страх бярэ — каб зусім не выскачылі?

— Ці магла Муха?.. О, вы кажаце штосьці вельмі важнае! — ускліквае Пудзіла.— Свет трымаецца на загадках. Тры гады назад гарэў наш дом. Тады Мухі таксама дома не аказалася. Я заўважыў, што яна знікла за гадзіну да пажару.

— А калі я служыў на граніцы, на Каўказе, у дваццаць сёмым,— з ахвотаю працягвае размову дзядзька Ілья,— дык там змеі павыпаўзалі з гор перад

тым, як пачаўся землятрус. Я гэта навошта кажу? Вось мы ўсе носімся: ча-ла-век ды ча-ла-век!.. А што — чалавек? Ці гэта такая ўжо знаходка прыроды? Жывёла, можа, лепей за чалавека ведае, што ўсіх нас чакае? Што ты на гэта скажаш, Захар?..

Тата глядзіць на яго з ледзь прыкметнай усмешкаю:

— Даўно вядома, што ў жывёлы абвостраная інтуіцыя. Яшчэ Паўлаў казаў. Але і загадак шмат. Іх адкрываць і адкрываць. Загадкам прыроды канца няма і не будзе. А ўзвышаць жывёлу над чалавекам нельга.

— Нельга ўзвышаць? Кажаш, быццам мы з табою можам яе ці ўзвысіць, ці прынізіць. Яе прырода ўзвысіла. Хоць і карову.

Цяпер я здагадваюся, чаму дзядзька Ілья ўсхапіўся, загаварыў з Пудзілам, пачаў прыглядацца да Мухі. Ён да ўсіх [redacted] тым самым пытаннем, [redacted] якім раней чапляўся да Паўлюка Бойкі, да мяне: ці адчувае жывёла блізкую бяду? Яно ў яго з'явілася тады, як на Бярозавым балоце каровы жыўцом кінуліся ў тарфяную печ. Ужо мог забыць пра кароў, а не забывае. Ён гэтакі, дзядзька Ілья: што возьме ў галаву — будзе доўга хадзіць са скабкаю.

Гэтую скабку зразумеў тата — не хоча, каб размова зноў павярнула да кароў:

— Вы, значыцца, працавалі ў Акадэміі?

— Я фізік.— Пудзіла складае ў чамадан пажыткі, устае, а [redacted] ім разам падхопліваецца Муха.— Ну дык... спакойнай ночы.

— Куды ж вы? — пытаецца мама.— Можа, каля нашага вогнішча заначуеце? У адну дарогу ісці.

— Дзякуй вам за малачко. Дарога адна, а вогнішчаў многа,— кажа ён і знікае ў цемені разам з Мухаю.

Мы глядзім яму ўслед. А мама, уздыхнуўшы, кажа:

— Бедны чалавек. Ходзіць ад людзей да людзей. Шукае сям'ю.

Бацька, нічога не адказаўшы, таксама пакідае нас каля вогнішча, ідзе ў той бок, куды пайшоў Пудзіла.

Я разглядаю цукерку [redacted] белым мядзведзем на абгортцы. Рупіць з'есці, бо я ўжо не баюся Пудзіла. Але мацней, як з'есці, ахвота пахваліцца цукеркаю перад Лёнікам, і я, аблізваючыся, хаваю яе ў кішэню.

Далёка нічога не відаць, акрамя зорак у небе, якія разгараюцца ўсё мацней. І мацней, як ад невыноснай тугі, крычыць птушка. Можа, яна плача па дзетках? Не

па мне, вядома, не па Любашы, не па Лёніку, нават не па Мішу, хоць яго з намі няма. Мы ж не згубіліся, каб па нас плакаць. Плача па Віталіку, якога згубіў Пудзіла. А можа, гукае Лёніка, які даўно паехаў на кані за рэчку, на пашу? Дзядзька Ілья загадаў вярнуцца, як пачне шарэць, на ноч у лузе не заставацца, а ён не вяртаецца. Вось і птушка замоўкла.

Люба спіць, згарнуўшыся каля вогнішча на бацькавым паліто, якое мама выцягнула з меха, паслала нам абаім.

Дзядзька Ілья гучна выплёўвае, нечага злуючы, пагаслы бычок і насуплены, мацюкнуўшыся сам сабе пад нос, ідзе ў той бок, дзе рэчка. Ён ідзе міма чужых вогнішчаў, і яго валюхастую каржакаватую постаць я пазнаю нават за рэчкай, у лузе. Пайшоў шукаць Лёніка? Можа, Пудзіла, а можа, птушка, яе жалобны крык, нагналі на яго трывогу? Дзядзька Ілья хоць крычыць на Лёніка, злуе, але сэрца ные за сына.

— Дык, можа, і нам, ідучы, пытацца ў людзей пра Ксеню, пра Валодзю? — кажа цётка Зося.— Можа, знойдзецца чалавек, які пра іх што-небудзь ведае?..

Цётцы Зосі гэта, вядома, баліць, як баліць і маме, і бацьку, усім нам, але, кажучы гэта, яна ўвесь час глядзіць у той бок, дзе Лёнік і дзядзька Ілья, а значыць за іх, асабліва за Лёніка, сэрца яе баліць мацней. Пастаяўшы, нічога больш не сказаўшы, ідзе ў той бок, усё роўна як насустрач Лёніку. Прайшла крокаў дзесяць — спынілася. Пастаяла — зноў пайшла.

Мама скідае з маіх ног сандалікі, і я кладуся побач з Любаю, на бок, спіною да сястры, каб відаць былі вогнішча, мама, далеч ночы паміж кустоў і дрэваў, у якую пайшлі адно за адным Пудзіла, бацька, дзядзька Ілья, цётка Зося, адкуль яны, можа, прывядуць Лёніка, а Лёнік — каня. Ці дасць ён мне праехаць верхам? Не сёння, вядома,— заўтра. Не дасць? Скажа: малы яшчэ? А за цукерку? Што мне гэтая цукерка? З'ясі — няма. А на кані праедзеш, і ўжо не такі, які быў дагэтуль, ужо зраўняешся нечым з Лёнікам, абставіш Любку, хоць яна і старэйшая. Яна будзе зайздросціць. А што падумаюць пра мяне пасля гэтага бацька, мама, дзядзька Ілья, цётка Зося? Што я ўжо дарослы? Трэба аддаць цукерку. За цукерку Лёнік не пашкадуе свайго карнавухага. Ён любіць, калі яму што даеш. Ён тады добры. А не дасі — сам забярэ. І не дакажаш, што

цукерка ў цябе была. Нікому не пажалішся. Забярэ і каня не дасць. Значыць, цукерку з белым мядзведзікам трэба або з'есці зараз, або аддаць за каня. Лепш аддаць. Але каб Лёнік пакляўся, што дасць праехаць.

Вогнішча дагарае. Начная цемра навокал гусцее. Зноў пачынае плакаць птушка Неясыць.

Чаму ж мама не падкідае голлейка ў вогнішча? Мяне ўклала і сама яго не глядзіць. Падаткнула краі коўдры мне пад бок, пад ногі, пад плячук, паверх коўдры на нас з Любаю ўскінула сваю шарсцяную кофту, а самой зябка. Я гэта бачу праз патаемныя шчылінкі ў вачах. Здагадалася нарэшце ўскінуць сабе на плечы дзядзькаву скураную куртку, якую ён ад хваляваннняў забыўся на зямлі. Куртка вынашаная, лысая на кантах, локцях, плячах, але цёплая, афіцэрская.

Бацькаў голас нечаканы і мне, і маме:

— Дзеці спяць?

— Ды ўжо... І ты кладзіся. Калі хочам рана ўстаць.

Я не сплю. Ляжу на левым баку, і адно левае вока ў мяне закрылася, прыдавіў яго левай шчакою, а правае то закрываецца, то адкрываецца, і калі адкрываецца, я бачу дзве спіны — вузейшую маміну і шырокую бацькаву. Яны сядзяць побач, адвярнуўшыся ад нас з Любаю, глядзяць у вогнішча і шэпчуцца:

— Чалавек ведаў Лыскаўца,— кажа бацька.— Не думаю, што блізка, але разам былі ў вучоным савеце. Яшчэ да таго, як Лыскавец пераехаў да нас у Горкі. Кажа, што Лыскаўца ў трыццаць сёмым забралі і выслалі.

— Няўжо? — ледзь чутна ўсклікае мама.— Бачыш? А ты казаў, што Лыскавец на людзей даносіць. Значыць, не так, калі самога забралі? Можа, не трэба было нам кідаць Горкі? Дарэмна ты збег ад яго даносу.

— Ты не ўсё ведаеш. Проста знайшлася паперка і на Лыскаўца. І не страх мяне гнаў. Брыдка было ўсё тое бачыць. З вёскі вырваліся, у вёску і вярнуліся. На сваім крузе. У Асаўцы, зрэшты, жылі няблага.

Цяпер я мала што разумею ў іхняй размове. Ніякага Лыскаўца я не ведаю. Навошта ён мне? Закрываю абодва вокі. Але вушы не заткнеш:

— Захар, ці сказаць табе?..

— Што?

— Ілья куртку сваю забыў.

— Не прападзе.

— А ты памацай падкладку.

— Якая мая справа?

— Не, ты памацай, Захар. Колькі тут грошай!

— А навошта не ў сваё нос сунеш?

— Ды я выпадкова. Накінула куртку на плечы, рукі схавала ў кішэні, а там дзіркі. Хацела зашыць. Чую — шамоча. Я руку ў дзірку — пачкі. Выцягнула адну — трыццаткі чырвоненькія. Аж спужалася. Адкуль у Ільі столькі грошай? Як ты думаеш?..

— Ты свайго братца лепш за мяне ведаеш.

— Цяпер я здагадваюся, навошта ён учора бегаў у кантору лясніцтва. Можа, і хацеў раздаць грошы леснікам ды рабочым? А яны не прыйшлі? Дык ці добра, што ён не свае грошы забраў? Можа, тут і казённыя? Дужа многа.

Мама чакае, каб бацька што-небудзь адказаў. Але бацька маўчыць.

Вогнішча зноў патрэсквае, разгараючыся.

Каля майго вуха сапе Люба. Ад яе сапення мне замружвае вочы, ды заснуць штосьці перашкаджае. То Пудзіла, думкі пра яго, пра Муху, пра Віталіка, пра цукерку з белым мядзведзікам, пра Лёніка, яго карнавухага каня і пра тое, ці ўдасца мне гандаль з Лёнікам, ці дасць ён праехаць верхам. То ўсе гэтыя размовы паміж мамай і цёткай Зосяй, паміж мамай і бацькам пра тое, чаго зразумець да канца не магу, але што хвалюе, як хвалюе таямніца, якая ўжо не побач са мною, а ўва мне. Заснуць не даюць і неабсяжнае неба над галавою, загадкава-маўклівыя сцены лесу, вогнішча, раскінутыя па ўзлесках, па лузе і берагах рэчкі, таямнічыя цені ля іх і ад іх, чыесьці нечаканыя шолахі, крыкі, плач Неясыці па маленькіх дзетках, якія не могуць знайсці мамаў і татаў. Яна адна, птушка Неясыць, пазбавіць сну не на адну ноч, напоўніць сэрца страхам і радасцю, якіх яно яшчэ не ведала. І нават тое, што ўжо неаднойчы бачыў, тут хвалюе куды мацней: сяйво зорак, запаленых не проста над чалавекам, а над начлежнікам-бежанцам, якога яны павінны сагрэць і аберагчы; далёкі сабачы брэх, які ўсчынаецца не проста так, выпадкова, а таму, што самой ночы гэты брэх патрэбны — як лес, зоры, вогнішча; ды і вогнішча незвычайнае, сёння яно тваё, табе любае кожным язычком агню, кожным вугольчыкам, кожнай іскрын-

каю, ты і яно сёння адно для аднаго існуеце і адно ад аднаго залежныя. Калі-небудзь ці адчуваў я вакол сябе і ў сабе гэты агромністы свет увесь адразу? Ці адчуваў усё зямное і нябеснае як адно, як сваю хату? Раней гэты свет драбніўся ў вачах, у думках на асобныя гукі, вобразы, бо ўсё гэта не адчуваў як сваю хату. Сёння ён іншы. Ён бароніць, хавае ад бяды, і таму ўзнікаюць новыя, якіх раней не ведаў, радасці. Так-так — і радасці. Жыццё разумееш як радасць, як шчасце. І ў сваім новым шчасці пачынаеш шкадаваць тых, у каго, як табе здаецца, гэтакага шчасця няма. Бачыш і чуеш Пудзіла. Табе ўжо шкода і яго, і сабачку, і невядомага Віталіка. І ты адчуваеш, як па шчацэ паўзе-шчыкоча слязіна.

Божа мой!..

Я ўжо неаднойчы чуў ад людзей гэтыя два словы, зварот да невядомае сілы, чуў ад бабы Марфы, калі яе штосьці вельмі хвалявала, абурала, уражвала, чуў ад мамы, ад цёткі Зосі. Цяпер сам нечакана злавіў вуснамі гэтыя словы. Божа мой!.. Калі вайна — зло, дык чаму мне радасна быць у гэтым свеце? Калі вайна — бяда, дык чаму гэтая ноч вайны нясе столькі дзіўных адкрыццяў? Калі вайна — смерць, дык чаму ўва мне, у маім сэрцы, у маіх думках за апошнія дні і ночы нішто добрае не памерла і столькі добрага нарадзілася? І калі вайна — слёзы ад болю і страты, дык чаму мае слёзы ад дабраты, радасці, любові, ад таго, што я іх у сабе пачуў? Чаму гэта так?..

Засынаю не сцёршы са шчакі слязіну, з чыстай расінкаю на шчацэ, з пытаннем на несамкнёных губах: «Божа мой!»

Ці доўгі сон у бежанца? Чуў, як пра гэта казаў бацька: у бежанца ночка — на голым сарочка. А чаму яна, ночка, такая маленькая, як сарочка?

Я ўсхопліваюся. Вакол — туман, белае разліванае мора, з якога вытыркаюцца шапкі кустоў, макушы дрэваў, галовы людзей і коней. Яшчэ сонца не відаць, а ўжо ніхто не спіць, усе на нагах, глядзяць за рэчку, адкуль чуваць страляніна і лямант.

Што [redacted] Лёнікам? У тым баку, за рэчкаю, ён [redacted] карнавухім? Але, падумаўшы пра Лёніка, я заўважаю яго пад дубам. Карнавухага ён трымае за аброць. Конь стрыжэ вушамі і глядзіць у той самы бок, куды глядзіць Лёнік, куды глядзяць усе. Там стракоча, як

маміна швейная машына, пакінутая ў Асаўцы. Нейкі жалезны звон, нібы косы мянташаць і клеплюць у лузе. З тымі гукамі далятае людскі лямант. А страляніна ўжо радзейшая: тах-тах — заціхне, зноў — тах, тах, тах.

Раптам зусім аціхае, быццам галасы і гукі тонуць у тумане. І тады галосіць цётка Зося:

— Ілья! Бяжы сюды! Запрагай! Ілья, ці чуеш? Лёнік, вядзі каня!

Ужо і мама, як падагнаная цёткай Зосяй, яе лямантам, прыспешвае бацьку:

— Захар, збірайся! Трымай мех! Люба, нясі паліто, збірай Ваську!

Паямінах і купінах, пятляючы між хмызоў і дрэў, мы выбіраемся на дарогу, з якой звярнулі ўчора, як сцямнела. Дарога свежая, не людная, як удзень. Безлюдзь стрымлівае, каб не спяшаліся. Мы спыняемся. У тым баку, куды вядзе дарога, узыходзіць сонца. Яно вялізнае і чырвонае, нібы вогненны шар. Зоркі ■ неба змытыя белай смугою, можа, туманам, які плыў з-за рэчкі, а месяц яшчэ на небе — ссінелы, танклявы. І сонца, і месяц — дзіўна! Трава пры дарозе мокрая, хоць дажджу ўначы не было, паветра волкае, халоднае, аж усяго калоціць, але і дарога, і трава пры дарозе блішчаць цёплым святлом, паруюць, грэюцца, і мне, калі гляджу на іх, робіцца цяплей. У горле гарчыць ад свежага палыну на абочыне.

Дарога выводзіць у поле, а там — жыта з абодвух бакоў.

— Ілья! — гукае бацька.— Стой!..

Дзядзька Ілья і цётка Зося ідуць за возам, на якім высока сядзіць Лёнік. Яны зноў адарваліся ад нас, але, пачуўшы бацькаў голас, спыняюцца.

— Ну? Што ў цябе? — пытаецца дзядзька Ілья.

— Куды мы едзем? Гэта ж дарога на Выселкі. За Выселкамі — Сож, Варшаўка. Там увесь гром.

Лёнік глядзіць з воза на мяне, міргае, быццам хоча нешта спытаць. Можа, дазнаўся, што ў мяне ў кішэні цукерка з белым мядзведзікам? Нічога не сказаўшы, кладзецца на спіну і пачынае свістаць у неба, як гаспадар дарогі, воза, каня. Яму ўсё роўна, куды ехаць. Абы ехаць, не выпускаючы з рук лейцы.

— А ліха ведае! — злуе дзядзька Ілья.— Куды ўсе, туды і мы. Ад табуна не адаб'ешся.

— Табун можа і ў балота завесці.

— Адзін супраць усіх не пойдзеш?

— Не трэба ісці супраць. Можна ісці з усімі, але разумна. На беразе рэчкі начавалі, а што за рэчка — ці падумалі? Жабурынка? У Сож за Выселкамі ўпадае.

— Як мы тут апынуліся?

— А ішлі табуном, адзін на аднаго спадзеючыся. Трэба вярнуць управа, праз лес — на Гразівец. Іншай дарогі няма,— упэўнена кажа бацька.

Хто ішоў паперадзе нас, той пайшоў далей, але ўсе, што ішлі за намі, спыняюцца, збіраюцца на дарозе, слухаюць спрэчку паміж дзядзькам Ільёй і бацькам. Ніхто ўжо не адважваецца ісці, як ішлі, бальшаком, але і вярнуць на поле з бальшака, як кажа бацька, таксама ніхто не адважваецца. Хтосьці павінен звярнуць першы. Але — хто?

Зноў далятае стрэл. Усяго адзін. Але яго дастаткова, каб узрушыць людзей.

— Дык чаго мы стаім?

Хтосьці абыходзіць воз, шыбуе наўздагон тым, што пайшлі бальшаком далей і далей.

— Вярніцеся! — крычыць ім бацька.— У той бок не ідзіце!

Той-сёй вяртаецца, але іншыя бацьку не слухаюць. Ён крычыць зноў, выбягаючы на сярэдзіну бальшака, ды ўжо ніводнага чалавека павярнуць не можа. Тады, спяшаючыся, падганяе дзядзьку:

— Што, Ілья, стаіш? Вярні з дарогі да лесу!

Бацька рашуча зварочвае каляску ў жыта. Люба падбягае да аглабліны, пасабляе, а мама хапае мяне за руку, і мы з ёю бяжым следам за татам і Любаю.

Зноў чуваць стрэлы. Яны слабыя, але, пачуўшы іх, Лёнік лупіць каня лейцамі, гоніць па высокім густым жыце, абганяючы нас, да лесу. І раптам спыняе каня:

— Васька! Бяжы сюды!

Тата ўскідвае мяне высока на воз, і Лёнік зноў узмахвае ў паветры лейцамі. Воз падскоквае на камянях-камлюгах, калоціцца, як у ліхаманцы, мяне шпурляе ва ўсе бакі, я хапаюся то за Лёніка, то за вяроўкі, якімі ўвязаны воз, вачыма лаўлю, тут жа губляю, зноў лаўлю каляску, што следам за намі прабіваецца праз высокае жыта, каля яе — тату, маму, дзядзьку, Любу, бачу, як яны разам з каляскаю то ўзлятаюць над жытам, то правальваюцца, нібы ў яміну.

За татавай спіною вочы знаходзяць Пудзіла з Мухаю, якая выглядае з-пад крыса яго чорнага паліто, і я зноў згадваю цукерку з белым мядзведзікам, сваю ахвоту пахваліцца цукеркаю перад Лёнікам, паабяцаць яму, калі паклянецца даць карнавухага, каб я праехаў верхам. Я разумею, што ўсё гэта — не цяпер, але мая рука намацвае цукерку ў кішэні: ці цэлая, ці не падавіў яе! І раптам воз падлятае на калдобіне вельмі моцна, мяне адрывае ад мяхоў, і я, нібы мячык, лячу з воза ў жыта.

Я ляжу ў жыце і чую, як крычыць на Лёніка, прабягаючы міма мяне, дзядзька Ілья. Зямля ў жыце мяккая, мне ніколечкі нідзе не баліць, хоць адкаціўся ад воза далёка. Хутчэй, каб не падумалі, што баліць, я ўскокваю на ногі, разгублена азіраюся. Мама атрасае з мяне зямлю, а ўжо і бацька побач, і Люба. Яны ў мяне штосьці пытаюцца, але я чую аднаго дзядзьку Ілью:

— Балалай!

Лёнік разам са мной кульнуўся з воза, але стаіць і рагоча. Каб не паказаць, што спалохаўся, я пачынаю таксама рагатаць, хапаючыся за жывот і прысядаючы.

Зноў мы на возе. Цяпер ужо лейцы побач са мною трымае дзядзька Ілья. Ён усё яшчэ лаецца на Лёніка, не астывае, а той сумна тупае ўслед за возам. Там, за возам, побач з бацькам ідзе Пудзіла. Яны ўдвух, бацька і Пудзіла, упіраюцца ў ярмо каляскі, а Муха ў Лёнікавых руках. Далей ідзе танклявы, чарнявы, вачыма і тварам вельмі падобны на Пудзіла хлопчык, большы за мяне, але меншы за Лёніка. Можа, у гэтай калатнечы ці ўначы, абышоўшы ўсе вогнішчы, Пудзіла знайшоў свайго Віталіка? Мне ахвота сказаць дзядзьку Ілью, каб ён узяў на воз хлопчыка, ды дзядзька Ілья злосны — баюся зачапіць.

Жыта высокае і сухое, даспелае, звонка шастае і асыпаецца пад коламі, пад нагамі, конскімі і людскімі. Усе, хто ішоў бальшаком з намі і следам за намі, не адстаюць ад воза і цяпер, брыдуць жытам. З воза ўсіх відаць. Людзей — поле ўсеяна. Калі я ішоў побач з возам — столькі не бачыў. І ўчора, калі ехалі лесам і я таксама сядзеў на возе, столькі не бачыў людзей. Адкуль набраліся? Шмат хто мне ўжо знаёмы ў твар. Але куды больш такіх, каго першы раз бачу. Вочы выхопліваюць з натоўпу то адну постаць, то другую, хутка знаходзяць і хутка губляюць. Даўжэй я гляджу

на жанчыну, якая ўподбег шыбуе збоку ад воза, качае ў далонях каласкі, падносіць далоні да твару, дзьмухае ў іх, перасыпаючы зерне з далоні на далонь, сыпле зерне ў рот. Галодная, ці што?

А вось і лес. Дзядзька Ілья спыняе каня, азіраецца, шукае вачыма бацьку:

— Захар! Як ехаць? Дарогі няма, а лесам з вазамі не прадзярэмся. Ці ведаеш хоць сам, куды вывеў?

— Ведаю, Ілья! Паганяй!

Мне дзіўна, што дзядзька, ляснік і паляўнічы, усю пушчу выхадзіўшы са стрэльбаю і грыбным кошыкам, не ведае, як ехаць, пытаецца ў бацькі.

А дарогі ўсё не відаць. Падлесак рэдкі, малады, хваінкі ды елачкі, ды пясок, дзе парослы сіўцом, дзе пацягнуты жаўтлявым мохам, але і па ім, не злавіўшы коламі каляіну, ехаць цяжка. Дзядзька Ілья саскоквае з воза і вядзе каня за аброць. Чым далей, тым лес гусцейшы. Пачынаецца бярэзнік. Галіны дрэваў знаходзяць мяне на возе, сцёбаюць па спіне, па галаве, не то гуляючы са мною, не то зганяючы з воза. І калі дзядзька Ілья зноў спыняе воз, я спаўзаю з мяхоў на зямлю, на пасланы мне пад ногі мякенькі мох.

— Дык што ты, Захар, цяпер скажаш? — пытаецца дзядзька Ілья, насупіўшы густыя шэрыя бровы.— Далей з канём не прабіцца. І каня не кінеш.

Вакол нас збіраюцца людзі.

— Едзь, Ілья. Ідзіце, як ішлі,— кажа бацька і дзядзьку, і ўсім людзям.— Ці вы не ведаеце гразівецкія імшарнікі? Кіруй управа. Там блізка прасека.

Прасека сапраўды знаходзіць нас. Ці мы яе? Сцежка з абодвух бакоў зарослая хвойкамі, бярозкамі, ялінкамі, але можна праехаць. Горш, што яна канчаецца, і дарогі ўсё няма. Дзядзька зноў спыняе воз, спрачаецца з бацькам, і тады бацька кідае ўсіх пасярод паляны, знікае ў гушчары.

Неба заплыло хмарамі, абяцае дождж. Ён, яшчэ рэдзенькі, ледзь чутна лапоча па лісці дрэў, імжыць на галовы.

Людзі стаяць, збіўшыся ў кучы.

— Што ж гэта робіцца? — трасучы касцістым кулачком сабе перад тварам, дапытваецца ў мужчын жанчына, тая самая, што, шыбуючы побач з возам, сыпала ў рот зерне.— Куды мы ідзём? Хто нас вядзе? Хто?!

Мужчыны пачынаюць не то спрачацца, не то дамаўляцца, не то пагражаць:

— Нас збілі з дарогі. Людзі як ішлі, так і пайшлі, а мы? Хто падбіў звярнуць з бальшака?

— Дарога не туды пайшла,— уставіла нясмела мама.

Але на яе адразу накінуліся жанчыны:

— Куды не туды? Іншым — туды, а нам — не туды?

— Пайшлі, бабы, назад!

— Цяпер як выбрацца з лесу?

— Але ж і тут не стаяць? Выберамся!

— Хто сюды нас утравіў? Каб яго трасца стравіла!

— Вунь той... з канём. Пан у камісарскай куртцы.

Жанчыны — да дзядзькі Ільі:

— Ты нас вёў?

Адчуўшы небяспеку, дзядзька Ілья спрытна ўскоквае адной нагой на атосу, другой — на ступіцу пярэдняга кола, ускідвае над галавой пугаўё:

— Ану! Хто вас вёў? Кожны — сам сабе галава! Ідзі як хочаш і куды хочаш!

Паміж ім і жанчынамі ўзнікае Пудзіла, а з ім побач — цётка Зося. З Мухаю на грудзях, склаўшы пад ёю рукі, Пудзіла спакойна, як нічога не здарылася, кажа:

— Ну што вы, жанчыны, бунтуеце? Супраць каго? Усе мы ў адной бядзе!

Смялее і цётка Зося:

— Прысталі, як да якога гярманца.

Жанчыны заціхаюць, але ў іх за плячыма — мужчыны:

— Зубы не загаварвай! Дзе той, што вёў?

— На кані едзе! А чый конь? Можа, крадзены? Тут абы ногі панесці, а ён, бачыш, дабро вывозіць. Цягні пана камісара з воза!

Нехта вагаецца:

— Ды не ён, не гэты. Той сівы, у капелюшы.

Сыкаюць на абаронцу — старую жанчыну:

— Ты, баба, не ведаеш — маўчы! Хто, калі не ён?

Жанчыны зноў, лямантуючы, рушаць на дзядзьку Ілью, і якраз у гэты момант з'яўляецца тата:

— Я вас вёў! Дык і што? Можа, хто-небудзь павядзе лепш? Хто смелы — вядзі! Можа, ты, маці? — звяртаецца ён да самай крыклівай бежанкі, якая ўсё чаўкае

зернем, не наеўшыся, і яна закрывае рот.— Ну, што прыціхлі?

Тая, з зярнятамі ў роце, худая, як рагаза, ажно спадніца спаўзае, кідаецца да бацькі, як перад гэтым кідалася да дзядзькі Ільі, выстаўляючы наперад кулаччо, суючы ім тату ў твар:

— Куды завёў, сівы ірад?!

Напалохаць тату цяжка хоць крыкам, хоць кулаччом. Ён, усміхаючыся, глядзіць на дурную бабу:

— Цішэй, любая. Ці ты лесу баішся? Не на пагібель завёў. Сам [redacted] табою іду. Яшчэ падзякуеш.

— Табе, сівому?

І раптам штосьці нечаканае адбываецца [redacted] натоўпам. Усе змаўкаюць, пачынаюць углядацца ў канец прасекі, стоячы нерухома, слупянеючы, глядзяць на людзей, якія выходзяць з ельніку. Нехта ледзь чутна пытаецца:

— Хто там?

Яшчэ цішэй нехта адказвае:

— Немцы...

Войкнула жанчына. Мужчыны загулі, нібы чмялі. Бежанка, што совала кулачча ў твар дзядзьку Ільі і тату, шмыганула ў гушчар. Але астатнія стаяць.

Незнаёмыя ідуць да нас. На іх брудныя, падраныя, нібы ваўкамі, штаны і гімнасцёркі, боты, салдацкія чаравікі, абмоткі, за плячыма ў некаторых тырчаць вінтоўкі. На адным кашулі зусім няма, ён чорны ад гразі, закарэлай на жываце, аднак на галаве пілотка, насунутая да самых вачэй, і на пілотцы кропля чырвонага сонейка. Зорачка наша, але ў руцэ ў чалавека чорны, нібы галавешка, аўтамат, нямецкі шмайсер, што косіць чэргамі, як кулямёт. Пра яго мне ўжо расказваў Лёнік.

Няўжо гэты — немец?.. Але ж — зорачка?

Яшчэ колькі чалавек выбіраюцца з ельніку, той самай сцежкаю. Спачатку — двое. Трэці бездапаможна, нібы мех, вісіць у іх на руках. І яшчэ двое.

Мала не дайшоўшы да нас, яны кладуць таго, каторага неслі, на траву. Адзін з іх пытаецца ў наш бок:

— Вада ў каго ёсць? Глыток ротнаму?

— Ёсць, таварыш палітрук,— адгукаецца дзядзька Ілья. Ён выцягвае з-пад меха на возе алюмініевую біклажку, суе ў рукі Лёніку, і той бяжыць з ёй міма мяне, міргаючы, каб і я — за ім.

Пачуўшы ваду, ротны варушыць губамі, што спякліся ад гарачыні, пылу, крыві. Значыць, жывы. Пад гімнасцёркаю ўвесь у крывавых анучах, якія відаць з-пад каўняра, праз дзіркі ў гімнасцёрцы, месцамі таксама цёмнай ад крыві.

— Хто старшы? — Палітрук глядзіць на дзядзьку Ілью, але той нічога не адказвае, позірк пераводзіць на тату, які ўжо таксама тут, і палітрук пытаецца ў таты: — Вы?

— Мы тут усе бежанцы,— адказвае бацька.— Калі людзі бягуць, кожны сам сабе камандзір.

Трымаючы над ротным біклажку, палітрук кліча:

— Сяржант Трынчанка?

Адгукаецца чырвонаармеец, які стаіць у яго за спіною. Ён выцягвае з-пад гімнасцёркі планшэт, разгортвае на зямлі карту, абодва апускаюцца перад ёй на калені. Палітрук падымае вочы на бацьку:

— Якою дарогай пойдзем?

— За лесам вёска Гразівец. А за ёю ростанькі. Дарогі там разбягуцца. Адна на Клімавічы, а другая, правейшая, на Касцюковічы. Трэба ісці касцюковіцкай. Ад Варшаўкі трымацца падалей. Там, можа, немец грукоча?

Ці чуе яго палітрук? Ён спіць, седзячы на каленях, прываліўшыся да дрэва. Але, не адкрываючы вачэй, як працягваючы спаць, ціха адгукаецца:

— Накарміце людзей, сяржант.

Той маўчыць, не ведаючы, як выканаць каманду. У яго няма чым накарміць нават ката, не толькі людзей. Але бежанцы ўжо нясуць — што ў каго ёсць: хлеб, сала, цыбулю. Чырвонаармейцы ядуць і кладуцца на зямлю, засынаюць. На нагах адзін сяржант — маленькі, але, мабыць, моцны, калі сон не валіць, як валіць іншых. Падсаджваецца да чырвонаармейца, ля якога на траве ляжаць хлеб і сала. Нехта яго зноў гукае. Ён цяжка ўстае, з салам і хлебам у руках ідзе на голас.

Пад кустом на шынялі ляжыць ротны. Каля яго сядзіць чырвонаармеец без гімнасцёркі, загарэлы, з сінімі малюнкамі, жанчынамі ды змеямі, наколанымі на грудзях, руках, плячах. Ён лье з бутэлькі малако хвораму ў рот і п'е з яе сам. Да яго падсаджваецца сяржант і цяпер, як забыўшы пра ротнага, яны абодва па чарзе п'юць з бутэлькі, кусаючы сала і хлеб.

Лёнік прыносіць у шапцы вараныя халодныя бульбіны, кладзе шапку ля чырвонаармейцаў, падзывае мяне і дае цыгарку:

— На, дымні.

Ен даўно курыць, я гэта ведаю, бо ад мяне не хаваецца, як хаваецца ад бацькі, які не раз лупцаваў за курыва і рэменем, і вяроўкаю. Я баюся курыць. Мяне Лёнік раней частаваў, і я тады моцна кашляў. Ен сам казаў, што з мяне курца не атрымаецца. І доўга рагатаў. Можа, яму і цяпер ахвота парагатаць? Ды яшчэ каб разам з ім рагаталі чырвонаармейцы? Мне — ахвоты няма. Але ж цыгарка ўжо ў маёй руцэ. Чырвонаармейцы закурваюць, кінуўшы есці. Лёнік усіх частуе з жоўтага пачка, якога я раней не бачыў. Паглядаюць на мяне, быццам падганяюць. Я зацягваюся, як вучыў Лёнік, але не глыбока, з асцярогаю, і кашаль ужо не душыць. Я пераможна гляджу на Лёніка. Усміхаючыся, ён трэпле мой чуб, называе браценікам і кажа, што я малайчына. Забірае цыгарку і сам зацягваецца, як сапраўдны курэц. А я шчаслівы. Бачу, што Лёнік і чырвонаармейцы прызнаюць мяне за свайго чалавека. І тады дастаю з кішэні цукерку з белым мядзведзікам, сую яе Лёніку.

— Дзе ты ўзяў? — Ен, здзіўлены, разглядае на цукерцы мядзведзя, перадае цукерку чырвонаармейцам, і тыя разглядаюць таксама.

Цукерка вяртаецца да мяне, але я зноў сую яе Лёніку:

— Вазьмі сабе.

У гэты момант чуваць каманда:

— Пад'ём!

Лёнік адводзіць мяне ўбок, усё роўна як не хоча, каб бачылі чырвонаармейцы, разгортвае на цукерцы паперкі, блакітную, ■ мядзведзікам, і звонкую, бліскучую, падносіць цукерку пад нос і, прыжмурваючы ад асалоды вочы, нюхае:

— Чысты шакалад. Табе хто даў?

— Бяры сабе,— паўтараю я.— А ты пакляніся, што дасі праехаць верхам на карнавухім, як сам ездзіш.

Браценік рагоча:

— Ну, клянуся. Дам праехаць.

Чырвонаармейцы збіраюцца ля ротнага, а Лёнік спяшаецца да каня. Я іду за ім следам, рады, што змова адбылася, што ён прыняў мае ўмовы — пакляўся.

Мы рушым далей. Два чамаданы і мяхі з дзядзькавага воза перакінулі на каляску, астатнія мяхі, мякчэйшыя, з вопраткаю, раскладзены на драбінах, засланы шынялямі — на іх ляжыць ротны. Лёнік прымасціўся ля яго ног у перадку, спіною ўпіраецца ў падэшвы ягоных ботаў, і калі ротны стогне, Лёнік нацягвае лейцы, прытрымлівае каня. Дарога, на якую выбраліся, гразкая, вузкая, два вазы не размінуцца, з абодвух бакоў заціснутая кустамі ляшчынніку, дзенідзе хаваецца пад ваду, як пасля добрай залевы. Але дарога, якая ні ёсць, весялейшая за бездараж, балоты ды зараснікі, якіх мы паспыталі. Тут людзі ідуць дабрэйшыя. І тыя, што паперадзе каня, і тыя, што за возам. За возам у гразі чвякае і брынчыць наша каляска. Яе перад сабою пхаюць бацька і чырвонаармеец, каторы быў голы да штаноў,— цяпер у старой ватоўцы, кімсьці падоранай. Праз дзіркі ватоўкі на плячах і спіне вылазіць жоўтая, падсмаленая ля вогнішчаў, вата. Лес цёмны, быццам зноў абяцае блізкую ноч, але наперадзе святлее. Дарога выводзіць на ўзгорак. Хмызняк канчаецца, пачынаецца хвойнік, перасыпаны чэзлым танклявым бярэзнікам, і мы спыняемся.

У гэты час даносіцца гул самалёта. Ён пралятае з боку ад дарогі, у той бок, куды мы ідзём.

За ўзгоркам лес канчаецца — мы выходзім на поле.

Поле зялёнае, у лапушыстым бульбоўніку. Яно не роўнае, пагорыстае. Ад лесу відаць, як дарога бяжыць з узгорка на ўзгорак, міма астраўкоў маладога бярэзніку, за трэцім узгоркам віднеецца вёска, таксама на ўзгорку. Аб тым, каб хутчэй выбрацца з лесу, усе марылі, але цяпер, калі выбраліся, людзі стаяць у падлеску, на поле выходзіць ніхто не асмельваецца, хоць і вёска наперадзе.

Над намі зноў пралятае самалёт — ужо ў другі бок. Той — назад вяртаецца? Цяпер ён ляціць зусім нізка, над самымі дрэвамі, і на пузе ў яго выразна відаць чорны, нібы абгарэлы корч, крыж. Такія крыжы і на крылах. Пад ім людзі шыюцца ў гушчар, баючыся, каб не секанў з кулямёта, як на мосце цераз Сож.

Не секанў. І назад не павярнуў.

— Нас, вайсковых, ці не шукае? — шэпча побач са мною жанчыне, усё роўна як ёй адной, сяржант.

— Дзе вас у натоўпе пазнаеш? Ды яшчэ з неба,—

адказвае жанчына, таксама ціха, як яму аднаму.— Адзін босы, другі ў падраным ватніку. Якое з вас, абарванцаў, войска?

Першым на поле з лесу выходзіць палітрук. Ён далёка не ідзе. Спыняецца насупраць мяне і, абапёршыся на сукаваты кій, падняўшы вочы ў неба, слухае. Поле маўчыць, як і лес. І неба маўчыць. Ні гуку. Палітрук робіць яшчэ некалькі крокаў — зноў спыняецца. І тады на поле выязджае, кіруючы канём, Лёнік. Следам за ім выходзяць два чырвонаармейцы, не адстаючы ад воза, і крыху далей — табунок жанчын. Усе яны азіраюцца адно на аднаго, баючыся ісці, але конь не спыняецца, апынуўшыся на дарозе праз поле, і тады з-за дрэваў выкатваюць каляску бацька і дзядзька Ілья.

Поле вільготнае, бульбоўнік блішчыць, а дарога сухая, абветраная. Яна і не вузкая, але ўсім яе не хапае, і людзі сыплюць у поле, не зважаючы, што расяна, брыдуць па зялёным націнні. Мама хоча нагнаць бацьку з каляскаю і валачэ мяне за руку ўсё хутчэй, я ледзь за ёй паспяваю. Спяшаюцца ўсе. Палітрук шыбуе побач з возам, ухапіўшыся рукой за драбіну, як забыў, што нага хворая, што на яе трэба прысядаць, ідучы. І раптам, калі ўсе пасмялелі, як забыліся пра той самалёт, рушылі, адно аднаго абганяючы, неба зноў загуло. Спыніўся воз з ротным і Лёнікам. Спыніўся палітрук. Спыніліся ўсе на полі. І бацька з каляскаю. І мама. І я. А неба чысцюткае — ні хмурынкі. Ужо сонца над галовамі і ўсе мы — пад сонцам. І гудзе. Няўжо там, у небе? Гудзе мацней, яшчэ мацней.

— Кладзіся-а!

Над полем, якраз над дарогаю, над усімі намі, з-за лесу вылецеўшы, з'яўляецца крыжак. Нешта шпурляе мяне на зямлю, я пляскаюся тварам у мокры бульбяны куст, аглушаны моцным гулам і свістам, трэскам і цыўканнем.

— Лёнік! Вярні ў лес!

Гахае ў мяне за спіною, у лесе, дзе той голас, і яшчэ — недзе ўперадзе, блізенька, можа, побач са мною, свішча,і гахае, і раве неба. Я не магу адарваць ад зямлі твару, не бачу, што вакол робіцца, але чую, як скаланаецца зямля, як з неба сыплецца штосьці цяжкое, зямля ці каменне, як мяне засыпае зямлёю, чую, як нехта блізка крычыць, нібы перад смерцю, і мне

таксама ахвота крычаць, не ахвота — трэба, адчуваю, што крычаць трэба, каб жыць, але крычаць не магу, толькі даўлюся зямлёю, прыціснуты да яе тварам. І раптам усё навокал замаўкае. Зноў чую:

— Лёнік, вярні ў лес!

Дзе ён — Лёнік? Куды паскакаў на карнавухім? Адкуль дзядзька Ілья хоча яго вярнуць? Я намагаюся ўзняць галаву, каб убачыць, дзе Лёнік, дзе яго карнавухі, на якім я буду таксама ездзіць верхам, але цішыня зноў поўніцца жахлівым гулам, які наплывае на мяне, і мая галава зноў цяжэе. Я ўжо без каманды прыціскаюся тварам да зямлі, да мокрага націння.

— Кідай каня! Ба-ла-ла-ай!

Чую, як іржэ конь. Трывожна, прагна. Я ўжо не маю сілы ўтрымаць галаву ў бульбоўніку, як раней не меў сілы ўзняць яе над бульбоўнікам. Прыўзняўшыся, бачу зялёнае поле, людзей, якія бягуць полем да лесу, бачу сонечнае неба, у небе — самалёт, а пад самалётам — Лёнікаў воз.

Карнавухі імчыць воз па полі, па бульбоўніку. Але самалёт наганяе...

— Сыно-ок! — крычыць, як разрываецца ад крыку, цётка Зося. Яна, хоць я не пазнаю яе голасу.

Перад самым канём, перад возам, вырастае чорная земляная сцяна, конь п возам знікаюць у ёй, яшчэ вышэй, над той сцяною, узлятаюць аскялёпкі ад воза, і толькі ўбачыўшы ўсё гэта, я чую страшэнны выбух. Над чорнай сцяною — дуга, аглобля і круглае, нібы сонца, кола. Яны сыплюцца з неба на ўзаранае выбухам, таксама чорнае поле.

Цётка Зося, ускінуўшы рукі ўгару, бяжыць ад лесу па полі, згубіўшы з галавы хусцінку і матляючы ва ўсе бакі светла-русымі доўгімі валасамі,— усё роўна як гоніцца за самалётам. Яна бяжыць то спатыкаючыся і падаючы ў бульбоўнік, то зноў падхопліваючыся на ногі, а за ёю следам бягуць дзядзька Ілья і Люба. Яны бягуць у той бок, дзе разам з возам, ротным і канём у чорнай хмары знік Лёнік, мой браценік, якога я, аказваецца, неверагодна люблю. Чорную сцяну вецер адносіць да лесу, але ў тым баку я нікога не бачу, акрамя палітрука, які шыбуе полем, высока ўзмахваючы кульбякаю. І ўжо я таксама хуценька бягу ў той бок.

Насустрач цётцы Зосі з-пад чорнай сцяны па дарозе коціцца кола ад воза. Яно блішчыць сонечнай шынаю,

да белага бляску адшараванай наждакамі пясчаных і камяністых дарог.

Кола коціцца ціха, усё цішэй і цішэй, і там, дзе цётка Зося траціць у нагах апошнія сілы і ніцма валіцца ў бульбоўнік, яно зварочвае ў той самы бульбоўнік, робіць вакол цёткі круг і кладзецца побач з ёю на бок, смяротна параненае.

Тое кола, бліскаючы шынай на сонцы, паўвека коціцца на мяне.

Скалануўшыся ад думкі — што з ротным, з Лёнікам? — я прачынаюся, хоць, здаецца, які страх праз столькі гадоў, хай сабе і ў сне, можа быць і за Лёніка, і за першага ў маім жыцці ротнага?

У сянніцы дзеда Піліпа сонечная паводка. Такога яшчэ не было. Але не дзіва. Учора, калі сцямнела і мы з Сярожам забраліся на сена, клаліся спаць, разгулялася навальніца. Бабахаў пярун, пасля шухнуў дождж, а калі дождж сціх, ашалеў вецер, ламаў і ў лесе, і тут, на ўзлеску. З пуні сарваў вільчык, запаліў над намі зорны шлях, і яшчэ добра, што наляцеў пасля дажджу, сцягнуў з неба хмары, а то б дождж заліў і пуню, і сена, нарабіў бы бяды і дзеду, і бабе, і нам з Сярожам. Вільчык — не бяда. Шалёўка ў дзеда ляжыць пад плотам новенькая — вільчык зробім не горшы, як быў. Можа, стары ўжо сам за яго ўзяўся, бо з пуні чуваць, як чэша сякерай.

З думкаю, што пара ўставаць, я саджуся, азіраюся, гляджу на Сярожку, які побач са мною соладка сапе ў тоўсценькую кірпу, смыкае ў сне пухлымі губкамі. З губ на шчаку сцякла і бліпічыць на сонейку салодкая слінка.

— Сынок,— шапчу, каб ён мяне пачуў, калі моцна не спіць, але і так, каб не пабудзіць, калі сон яшчэ моцны.

Не чуе. Спіць.

Звычайна мы ўстаём дружна. Толькі аднойчы ён прачнуўся, калі мяне побач ужо не было — я раней устаў і пайшоў на рэчку,— тады ён горка плакаў і быў пакрыўджаны ўсю раніцу. Пасля таго выпадку я ніколі не пакідаю яго аднаго, каб не плакаў, прачнуўшыся. Вось і цяпер, хоць ужо трэба ўставаць, я зноў кладуся з ім побач. Закрываю вочы, і адразу перада мной

паўстае бульбянае поле — стаптанае людскім табуном, здратаванае коламі, узаранае бомбамі, але ўсё роўна зялёнае. Пасярод поля, на ўзгорку, карнавухі конь ляжыць на спіне мёртвы, у хамуце, жахліва заламаўшы галаву, выпрастаўшы заднія ногі пад воссю драбін, пярэднія, падагнутыя, трымаючы на грудзях. Сонца сушыць на капытах зямлю, блішчыць на падковах — цёплы сонечны бляск. Людзі падыходзяць, з жахам глядзяць на карнавухага і адыходзяць.

Старая жанчына збірае ў прыпол бульбіны. Бярэ вывернуты з зямлі корч, атрасае і падбірае дробную, нібы гарох, бульбачку.

Дзядзька Ілья стаіць сярод поля, звесіўшы шэрую стрыжаную галаву над упляжаным у зямлю ламаччам, што засталося ад воза, над усім сваім багаццем, растрэсеным па полі.

А дзе ж цётка Зося? Дзе Лёнік?

На полі ціша-ціша. Адно чуваць, як галосіць жанчына:

«А сыночак-дубочак мой, чаму ты закрыў свае ясныя вочанькі? А на каго ж ты мяне пакідаеш у гэтым чорным лясочку? А я ж буду вечна плакаць пякучымі слёзкамі! А што ж яны, ірады, сеюць, каб іх саміх рассеяла па зямлі дробным попелам! А навошта ж яны забралі цябе, каб іх саміх забрала зямля ненаежная! А навошта ж мне цяпер мае ручанькі, калі яны ўжо нічога для цябе, сыночак, не зробяць! А навошта мне цяпер мае вочанькі, калі яны цябе, сыночак, не ўбачаць! А навошта мне мае ножанькі, калі яны да цябе, сыночак, не прыйдуць!..»

Яе, пакутную, маці, я не бачу — адно чую. Яе боль блізкі, у суседнім гаёчку, але тут, на полі, ціша глухая, доўгая, яна тут, мабыць, затым, каб усе чулі плач маці, каб чулі не адны людзі, але і травінкі, камлюжынкі, пясчынкі, якімі яна гаворыць.

Ці гэта сон? Бывае: спіш і думаеш, быццам усё навокал уяўнае. Але чаму сон знаёмы?

«А дзетачка ты маё любенькае, зорачка ясная, сонейка ты маё адзінае! А куды ж цяпер мне ісцібегчы? А навошта мне цяпер усе дарожанькі, калі я цябе, сыночак, на іх не ўбачу! А бо-о-жанька, дзе ты быў!»

Два высозныя, круглыя, нібы боханы, узгоркі, зялёны бульбяны і жоўты жытні, а паміж імі, збоч

дарогі, на меншым узгорку, зусім блізкім, бярозавы астравок — вясковыя клады. Курганкі, усыпаныя скочкамі-параскочкамі, удзірванелыя, шэрыя драўляныя крыжы на іх, шэрая, дзе-нідзе абваленая агароджа з дзвюх жардзін, жоўты пясок пад агароджаю, выкінуты са свежых ямак, на пяску — ротны на шынялі ў чорных закарэлых штанах, гімнасцёрцы, ботах, адзін з якіх увесь у свежай крыві, і кроў сцякае на пясок з халявы. Побач з ротным, на тым самым шынялі, хлопчык гадкоў трох-чатырох, галоўкаю беленькі, а ножкі чорныя ад зямлі, з танклявымі сінімі пальчыкамі. Тут і жанчына. Маці? Тая, што галасіла? Цяпер маўчыць. Нежывая? Сядзіць, уставіўшыся шклянымі вачыма на хлопчыка.

Мякка, як жывое да жывога, ляціць у ямку зямля. Ледзьве стаіць на нагах, хістаючыся, падпіраючыся кульбаю, палітрук. Ён трымае ў руцэ над галавою наган. Чырвонаармейцы вакол яго ўзнялі над галовамі вінтоўкі. Яны не страляюць — няма патронаў. Вінтоўкі грозна блішчаць на сонцы.

За спіной у палітрука — Пудзіла. Ён без Мухі. Дзе Муха? Можа, ляжыць на бульбяным полі разам з карнавухім?

А вось і Віталік. Не, гэта іншы хлопчык, падобны на Віталіка. Пудзіла, відаць, таму і водзіць яго за сабою, што ён яму нагадвае сына.

Муха ў Віталіка. Але чаму ён трымае яе за заднія ногі, уніз галавою? Гняце Муху галавой аб рог драўлянага дома? Адкуль на кладах дом? І за што ён гняце Муху? Чаму гэта не бачыць Пудзіла? Муха залілася крывёю, вісіць, як ануча, мёртвая, а хлопчык гняце і гняце яе аб рог дома. Яго рукі ў крыві, і нешта белае заляпіла пінжачок. Ці не сабачыя мазгі? Ён звар'яцеў? Але дзе Пудзіла? І — ні кладоў, ні палітрука, ні чырвонаармейцаў. Гэта — ужо не клады? Але ўсё роўна: хто спыніць хлопчыка? Што з ім? Людзі-і?!

— Тата! Прачніся!

Я ўсхопліваюся, цяжка дыхаю, быццам мяне хто душыў у сне, гляджу на Сярожу, а ён сядзіць побач, глядзіць, здзіўлены, мне ў вочы. Пытаецца:

— Чаго ты крычаў? Ты бачыў страшны сон?

Я ўсё яшчэ цяжка дыхаю, аж гаварыць не магу. Адно ківаю галавою — так-так, маўляў, бачыў сон,

невясёлы. Ведаю — сын зараз спытае, што я бачыў, і, каб не паспеў спытаць, сам пытаюся:

— Дзед Пілiп што робіць?

За сцяною ўсё яшчэ ляскае сякера, стары, напэўна, чэша шалёўкі на вільчык, я ў гэтым больш чым упэўнены, можна было б не пытацца, што ён там робіць, але Сярожа паддаецца на маю маленькую хітрасць:

— На калодзеж новую страху.

— А вільчык, які бура скінула?

— Пра вільчык маўчыць.

— А што яшчэ кажа?

— Што боты і чаравікі зноў Ленушку на Брадах чакалі.

Ленушка — алянушка. Дзед Піліп кажа — алянушка, а Сярожа — Ленушка. Ей, можа, не было і месяца ад роду, як хлапчукі з лесапункта знайшлі сірату ў лесе і прывялі на школьны двор. Падкармлівалі малаком з соскі, пячэннем, шакаладкамі, і яна прывыкла да іх. Была малая — школе радасць, а вырасла — як трымаць побач? Убачыць дзверы адчыненыя — ляціць куляю ў калідор, а там — у клас, на стол, на парты; якія кнігі, сшыткі, чарніліца — усё на падлогу. Хлопчык паспрабаваў выпхнуць з класа, а яна яму капытцам у грудзі. Таго ледзь адхаялі, і яе за вушы ледзь выцягнулі са школы. Пасадзілі ў кузаў, вывезлі за Сож: вольнаму — воля. А яна, не прыбіўшыся да аленяў, пайшла па вёсках, па садах ды агародах, пільнавала кожныя дзверы, каб ускочыць у хату. Недзе звярнула мызаю накрыўку з вулляка, пчол узбунтавала. Дзяўчынка на гармоніку іграла — падышла з-за спіны, мызу на гармонік паклала: тая спалохалася — гармонік вобзем. А самая шкода — панадзілася ў грады: каліва з'есць, а ўсё — стопча. Пачалі на яе спускаць сабак, ставіць ля дзвярэй качэргі ды стрэльбы. Адчула, што людзі, без якіх жыць не магла, яе не разумеюць, і тады ці куды далёка сышла, ці блізка дзе затаілася — на вочы не выходзіла. А неяк, калі сонца ўзышло і яшчэ не паказала свайго чырвонага грэбеня з-за кучаравых дубкоў на пойме, пачуўся стрэл. Старая таўкла парсюкам бульбу ў сенцах — ускочыла ў хату: «Піліп, дзе іржаўка?» Выбег стары на ганак, а тут і алянушка са сцежкі — скок! Стаяць — грудзі ў грудзі. Скура на ёй ходарам ходзіць, а баба з таўкачом: «Куды цябе трасца гоніць?» Тая заднімі нагамі — з ганка,

а мызаю — да таўкача: пачула цёплую бульбу. Сунула ёй таўкач — ліжы. І раптам: «Глянь, Піліп, што за кроў?» А там — цёплая рана на шыі, карцечынай секанула. Пакінуў стары звярыну з бабаю, сам — у лес. Выйшаў на дарогу — сляды ад ботаў чужых, далей прайшоў — пыж з шэрага лямцу, патрон з чырвонага кардону. Усё чужое. Перазараджаў, свалата, прамазаўшы. З адным ствалом. І яшчэ сляды, надта дзіўныя: ад малых чаравікаў з вострымі насамі, маленькімі абцасікамі. Жаночыя? Боты і чаравікі — побач. Няўжо за алянушкаю ганяліся мужык і баба? Ды і баба — якая? Вясковая на гэтакіх абцасіках па лесе не гуляе, след паказваў на гарадскую свісцёлку. Але ж ці свісцёлка пагоніцца за алянухаю?..

Вярнуўся і зачыніў звярыну ў хлеў. Але хлеў быў не яе хатай. Яе сэрца не падобнае да кароўскага ці авечынага. Пачала кідацца ў сцены — стары спужаўся: ці хлеў забурыць, ці сама разаб'ецца. Выпусціў у двор, дык яна курэй ды гусей параскідала, а сабаку загнала у будку. Тры дні жыла на двары, хадзіла па ім як свая жывёліна, пакуль не прыехалі госці. Да рук ідзе, з рук бярэ, у твар лізне — а жывёліна ўсё ж дзікая? З'явіўся стары з машынай, адкінуў задні борт, усцягнуў канцы дошчын на кузаў, завёў звярыну ў кузаў, даў шаферу траяк — гані, хлопец, падалей. Сярожка ў слёзы. Ну, а што паробіш? Дзень паплакаўшы, супакоіўся як быццам, але ў дзеда ці бацькі зноў і зноў спытае: ці вернецца Ленушка?

А ўчора дзед Піліп зняў са сцяны старую, з аблезлай ложаю і крывой, зваленай на бок мушкаю, куркоўку — ён яе называе «іжаўкай», а мы ўсе называем «іржаўкай»,— і выйшаў у сенцы. На ганку падыміў цыгаркаю, вярнуўся ў хату, павесіў стрэльбу на сцяну і без яе падаўся ў лес.

Малы старога зразумеў адразу: недарма зборы ў дзеда — зноў пахадзілі тыя боты і чаравікі, а калі пахадзілі, то і алянушка недзе блізка.

Мне не хочацца, каб Сярожа пакутаваў, думаючы пра алянушку, і я пытаюся пра іншае:

— А што робіць баба?

— Баба чакае снедаць.

Гэтую размову я падтрымліваю:

— А дзед паснедаў?

— Баба сварыцца, што пайшоў не снедаючы.

Здаецца, даю маху. Дзе размова пра дзеда — там думкі пра алянушку. Але сам думаю: няўжо вярнулася?

Скаціўшыся з сена, мы з Сярожкам у трусах бяжым на возера, якое адразу за лазняю паруе белым ранішнім сырадоем. Паскідаўшы трусы, галяком сыплемся з берага ў сцюдзёную ранішнюю ваду, кладзёмся побач на спіны і ціхім катамаранчыкам, пабраўшы адзін аднаго за плечы, плывём да берага. Сонейка ўжо над намі, лагодаю поўніць паветра, ваду і нашы вочы. Чайкі носяцца з галодным енкам, нагадваючы пра бабіну печ, бліны і скваркі.

Выскакваем на бераг — вунь і стары. Стаіць на ганку, зноў з іржаўкаю на плячы, глядзіць у той бок, дзе па-над лесам разгараецца абшар неба. Яго, як нас, радуе мяккая сонечная раніца, і ён ніяк не можа зразумець, патрэбна яму на плячо стрэльба ці не патрэбна?

Ідучы да хаты, здалёк крычым дзеду Піліпу:

— Вайны не будзе! Кідайце іржаўку пад лаўку!

Сярожа скача то на правай назе, то на левай, выліваючы ваду то з аднаго вуха, то з другога, і ўсё паўтарае як заведзены:

— Іржаўку пад лаўку!

Падышоўшы, пытаемся:

— Куды, дзед, сабраўся гэтакі грозны?

Стары быццам апраўдваецца:

— Сляды свежыя, зладзюганскія. Усё тыя — мужчынскія і бабскія. Пайду прайдуся.

А Сярожа быццам голас алянушкі пачуў:

— І я з табою, дзед Піліп!

Ну як яго супакоіць?

— Вярнуся — будзем лодку смаліць,— бароніцца стары.

Малы колькі дзён чакае, калі дзед Піліп пачне смаліць лодку, новую, праканапачаную яшчэ да нашага прыезду на хутар. Шмат разоў на дні ходзіць за лазню, дзе кацёл, смала, на калодках пузам угару ляжыць лодка, чакае агню і смалы. Але ў гэтую хвіліну голас алянушкі жыве ў Сярожавым сэрцы мацнейшым, як тая лодка, хваляваннем, і ён упарта пераконвае:

— Не, дзед Піліп. Лодку мы будзем смаліць пазней. Яна не гарыць. А цяпер ты возьмеш мяне з сабою ў лес.

Зноў прымушае старога чалавека хлусіць:

— Ды я не пайду нікуды. Я тут, за плотам, пастаю, лес паслухаю. А вы снедайце. Бліны стынуць. З бабаю лепш не сварыцца.

Хітравата гаворачы з Сярожам, ён звычайна паглядае мне ў вочы з ледзь прыкметнай усмешачкай, сэнс якой малому зразумець цяжка, а я павінен успрымаць як нашу са старым і змову, і згоду. Але цяпер звесіў галаву і глядзіць у зямлю, усё роўна як не хоча глянуць мне ў вочы, баіцца, што па вачах я зразумею таемны сэнс яго слоў і думак, яго трывогу, ці проста слухае, засяроджваючыся, лес, зямлю, неба, ловіць нейкія гукі і галасы. Мы з Сярожам таксама пачынаем услухоўвацца ў таемнае жыццё зямлі, лесу.

І яно, усё роўна як тое, што нам трэба пачуць, узнікае. Спачатку Сярожа заўважае пыл за выганчыкам, цэлую дарогу шэрага, над хмызняком і падлескам, пылу. Шэрая дарога паўзе бліжэй, абыходзячы выганчык, хаваючы лес і ранішнюю чысціню далягляду, адтуль даносіцца цяжкі натужлівы гул, і вось ужо з падлеску выязджае зялёны «уазік». Спыняецца, убачыўшы перад сабою хату дзеда Піліпа і нас траіх, але едзе далей, і за ім паказваецца цяжкая грузавая машына з шэрым брызентавым верхам, потым — яшчэ адна, жалезная будка з маленькімі акенцамі, за будкай — дзве адкрытыя, з салдатамі. Машыны выпаўзаюць на выганчык асцярожна, быццам змяіныя пазванкі, выцягваючы следам за сабою будку з дзіўнай трубою. Выехалі і сталі на дарозе. З «уазіка» выходзяць два афіцэры, перамаўляюцца, зноў сядаюць у свой «уазік» і пад'язджаюць да нас. Адчыніўшы дзверцы, маёр, які побач з шафёрам, пытаецца:

— Як праехаць на Галапузаўку?

— Прама,— кажа дзед Піліп.— Там, за кладамі, трымайцеся левай дарогі.

Маёр з машыны аглядае наш выганчык, хату, двор, дуб над хатаю, на якім жывуць буслы, зачыняе дзверцы, і машына вяртаецца на дарогу. За ёю рухаецца ўся калона, зноў хаваючыся ад нас у бары.

— Чаго яны ў Галапузаўку? Можа, манеўры?

Стары маўчыць. Я заўважаю, што трывога, якая жыла ў ягонай душы да з'яўлення вайсковай калоны, мацнее. Што з ім? Не вайна, каб перажываць, трывожыцца.

Да нас падыходзіць старая. З двара ці з хаты яна таксама бачыла вайсковую калону — кажа:

— А ў мяне сэрца ёкнула, быццам тое лета вярнулася. Цябе, Піліп, з намі тады не было. Ты быў на фронце. А я ў хаце, з малымі дзецьмі. У акно гляджу — выпаўзае гэтакая змяя зялёная. З лесу. Там, дзе вербалоз, тады бор стаяў, далей — хаты, вёска — Лісань. Цяпер адна наша хата засталася, хутар, а тады была вёска. Машыны выпаўзлі і спыніліся. Немцы высыпалі. Адзін на матацыкле пад'ехаў пад самыя вокны. Гергеча, а я не разумею. Адно зразумела, што Галапузаўку пытаецца. Паказваю ў той бок, як ехаць. Тады і той немец на матацыкле і ўся калона пасунуліся далей па дарозе. Толькі ад'ехалі — стрэл чую: тах-тах-тах!.. Да вечара баялася галаву з хаты высунуць. А вечарам выйшла, гляджу — пад дубам бусел ляжыць, мёртвы.

Старому гэты ўспамін не спадабаўся:

— Кармі малога, пакуль бліны не астылі.

Забыўшы і пра Ленушку, і пра лодку, Сярожа слухмяна ідзе за бабаю ў хату. Мы застаемся ўдвух са старым. І тады ён кажа:

— Трэба мне ў Галапузаўку. Трэба Тхорыка, лесніка, убачыць. Алянушка сёння-заўтра аб'явіцца. З Тхорыкам яе куды-небудзь адвязем.

— Ужо ж адвозілі?

— Трэба адвезці, каб не вярнулася.

Зноў маўчым. А я думаю: не тое кажа стары, не алянушка ў яго ў галаве, не Тхорык кліча ў Галапузаўку — нейкая большая трывога. А можа, і Тхорык?

Дзед Піліп глядзіць на бор, у якім знікла калона ваенных машын. Ці не тая калона трывожыць?

Шмат дарог прайшоў Захар Падабед за сваё жыццё. З усіх, што выпалі на яго долю, у памяць наймацней урэзаліся лясныя дарогі. Былі сярод іх гразкія, топкія, па якіх не ідзеш — плывеш, былі люта-халодныя, спякотныя, навальнічныя, але ўсе яны, лясныя, мацней, як іншыя, баранілі ад вятроў, маразоў, дажджоў, гарачыні і голаду. Можа, таму, што быў Захар на гэтых дарогах свой чалавек — лесавы. Ён з'явіўся на свет і вырас у Караньках, малой лясной вёсачцы на беразе Проні, і змалку, ці не тады ўжо, як навучыўся басанож

шлёпаць па зямлі, зазнаў, што ў хаце нічога не выседзіш, трэба, каб шлункі напхаць, топаць за вёску, там знойдзеш ці грыб, ці рыбіну, ці ягадзіну, ці гняздо птушынае з яйкамі. Бацькі сваімі камяністымі мазалямі не ўзбіліся на хлеб надзейны, былі першымі ў вёсцы гаротнікамі. Адкуль магло ўзяцца багацце, калі бацька з турэцкай вайны, з-пад Плеўшы, насіў пад рэбрамі марскі снарадны аскабалак, задыхаўся ў баразне, а маці, нарадзіўшы да Захара пяць дачок, у чатырнаццатым богу душу аддала. З маленства наракі хлебнічкам, і ўжо як хлебнічак, апора сям'і, змалку пайшоў на папас. Ледзь падрос, як заўважыў пан Краснеўскі, узяў свіным пастушком. Бывала, залезуць панскія свінні ў гразь па вушы, за імі ўслед пастушок, выграбецца на сухое — ногі па калені ў глеі. Галінкаю намалюе па глеі перады, прагоніць шво, гузікі абвядзе. Гразь на сонцы ды ветры ўмомант закарэе — фарсіць у адмысловых боціках. Дадому вернецца, у ставочку адшаруе ногі дзяркатай кацелкай сланечніку — яны ўжо і не чорныя, ужо чырвоныя, падрапаныя, патрэсканыя на сіверы ад гразі, ад мачалкі-сланечніку, абсыпаныя цыпкамі, свярбяць да слёз. Пастушком ці ў пошуках грыбоў, ягад, шчаўя, птушыных гнёздаў, рыбіны, нейкага прыробку выхадзіў вакол Каранькоў усе, якія былі, сцежкі-дарожкі яшчэ да таго лета, як выйшаў на сваю першую вялікую дарогу. А першым бальшаком быў Волак, якім мужыкі вазілі панскі лес на Проню. Дзве дарогі — Волак і Клюкаўка — адна пры адной, побач, паміж імі — шнур бярозак. Волакам мужыкі цягалі лес праз Каранькі на Падгорны рум, а Клюкаўкай вярталіся назад, здаўшы лес на руме і там наклюкаўшыся ля купецкіх бочак. Клюкаўкаю ці Волакам — ужо не памятаў — у свой першы далёкі заробак пайшоў з Каранькоў на ўсё лета разам з дзедам Грынькам. Дзед быў сляпы, жыў бабылём, на хлеб зарабляў сам, вось і выбраліся — стары ды малы. Захаркавы маладзенькія вочкі добра бачылі сцежкі-дарожкі, а стары ігрою на скрыпцы выбіваў у людзей слязу, прымушаў кідаць медзякі ў шапку. Праўда, на Падгорным у шапцы не звінелі ні грошыкі, ні паўгрошыкі, свае сяляне Грыньку за скрыпку не плацілі, хоць паслухаць любілі. Лічылі, што ім Грынька павінен граць задарам. Ды і ён не скупіўся на музыку, пад якую забываюць на грошы, сваім адмовіць

не мог. А тут яшчэ на мужыкоў бяда звалілася, якой не чакалі. Ішоў 1897 год — паны кідаліся прадаваць лясы, чуючы блізкі народны бунт. Вакол Каранькоў лес валілі няшчадна, на рум вазіць не паспявалі, а вясна выдалася гнілая, зацяжная, з неба ліло і ліло, як з рэшата. Волак затапіла вадой і граззю, усюды багна, і купец, каб прымусіць мужыкоў рабіць ад цёмнага да цёмнага, пакаціў на рум бочкі з гарэлкаю. Прывёз мужык бервяно — атрымай карац, яшчэ бервяно — яшчэ карац. Што тая гарэлка купцу значыла? Грашы. А выгады — кашы. Мужыкі кінуліся [illegible] лесам, нібы сляпні, на дармавую гарэлку, і ўсіх коней папарвалі на топкіх грэблях Волака. Тут вясна, зямля нагрэлася, падышла, як цеста ў дзежцы, а на чым араць-сеяць? Пайшлі да купца, да пана: то мы ўважылі, лес вазілі праз сілу, ірвалі жылле і коней, а цяпер вы нас уважце, дайце коней зямлю ўзараць, адсеяцца. А дышла, як кажуць, у зубы не хочаш? Мужыкі ўзбунтаваліся — тут і казакі на конях. Засвісталі і калы мужыцкія, і нагайкі казацкія. Захарка малы быў, але тое, што на руме рабілася, бачыў і запомніў на ўсё жыццё. Беглі яны адтуль з Грынькам, не азіраючыся, берагам Проні шыбанулі ў бок Прапойска. Пазней, як вырас, чуў ад вяскоўцаў, што бунтароў усіх да аднаго пагналі этапам у Сібір. А яны ўдвух з Грынькам тады за лета дайшлі па Проні і Сажы аж да Гомеля. І пасля хадзілі той дарогаю тры гады запар, на зіму вяртаючыся ў вёску. Абышлі свет і шмат насеялі ў ім сваіх слядоў, малых і вялікіх. Хоць дарогі і былі жорсткія, ды любым аказваўся шырокі, вольны, як песня, свет, асабліва калі накорміць, напоіць, знойдзе ласкавае слова з цёплым ветрыкам, сонейкам, птушынай песняю, вогнішчам. Захар усё гэта ўспомніў на другі дзень свайго цяперашняга бежанства ў Пагосце, а ўспомніўшы, падумаў, што, магчыма, пайшоў у гэтае бежанства, не адчуваючы ў нагах і за плячыма цяжару, таму, што раней, усё жыццё, не адчуваў цяжару дарог, бо на дарогах вырас. Моцна павярнулі тыя дарогі да свету, да людзей, хоць на дзесятым гадку і скончыліся. Бацька тады сказаў: ты, сын, забыўся, што нарачоны хлебнічкам, дык я табе гэта хачу нагадаць — хопіць з Грынькам бадзяцца па свеце, хлеба з твайго бадзяння мы не ядзім, бярыся за гаспадарку, прырастай да зямлі, іншага здаровага мужыка ў нас няма, а з баб карысць

малая. І стаў ён у дзесяць гадкоў да плуга, бараны, сабе па росце падагнаў касу. Тады ўжо быў у іх конь Махоня, адзін на два двары, ды і той сляпы. Сусед напытаў каня ў прышлага шахцёра, а бацька ўступіў у складчыну, бо сусед быў гэтакі самы багацей — адзін лапаць, адзін чунь. Хай сляпы, затое прыдбалі за паўцаны. І пачаў Захар ганяць Махоню на начлег да ракі.

Калі ўвайшлі ў лес, натоўп бежанцаў здаўся гусцейшы, як раней, на полі, пайшлі цішэй, і вось тут, у лесе, думаючы пра жыццё, Захар адчуў, што бежанцам зрабіўся не цяпер, а яшчэ тады, побач з Грынькам. Пазнейшы лёс ужо не даваў забыць, што бежанец, ганяў па свеце, падсцілаючы пад ногі ўсё новыя вёрсты. Дарогі шмат чаму навучылі, і найперш — слухаць і бачыць чужое, разумець чужое галавою і сэрцам як сваё, ды і ў свае думкі-мары паглыбляцца, сваю душу слухаць. І ці не на тых дарогах, калі бадзяўся з Грынькам, ці не пад музыку ягонай плачкі-скрыпкі запаліўся неадольнай марао дазнацца, што пішуць у кніжках. На ўсё жыццё запомніў высокі бераг, белую гару, пад гарою — Сож, дзе аднойчы расклаліся з Грынькам падсілкавацца. Раптам стары дастаў з Захаркавай торбачкі кніжачку. Захарку аж агнём апякло. Ен купіў яе ў Гомелі цішком ад Грынькі, за шчакою, нібы ледзянец, схаваўшы пятак, баючыся, што стары не раскашэліцца, калі папрасіць на кніжачку, якой ні ён, сляпы, ні Захарка чытаць не ўмелі. Пакуль Грынька на вуліцы пад дрэвам іграў на скрыпачцы, Захарка заскочыў у кнігарню і вярнуўся з кніжачкай пад кашулькаю. У ёй былі вельмі прыгожыя малюнкі, усё роўна як спісаныя з Захаркі і Грынькі: стары, хлопчык, торбачка, быццам іхняя, і рака — як Сож, з параходам. Грынька доўга абмацваў кніжачку. «Пра што тут, Захарка, напісана?» Хлопчык маўчаў. Грынька падумаў-падумаў і спытаў: «Пра злых людзей ці пра добрых?» Хітра спытаў. «Пра добрых,— адказаў Захарка, хвалюючыся.— Пра злых я не купляў бы».— «Адкуль ведаеш, што пра добрых, калі прачытаць не можаш? Вось я — адкуль ведаю, калі вочы не бачаць? Ды хоць бы і бачылі — не прачытаю».— «А ты не бачыш малюнкаў, таму і не ведаеш»,— адказаў Захарка. «Ну а ты бачыш, дык

расказжы, што на малюнках?» Захарка ўзяў у Грынькі кніжачку: «Тут рэчка, як Сож, шырокая, па ёй плыве параход, а над рэчкаю высокі бераг, на ім сядзяць дзед, галава белая, у лапцях, і хлопчык у кашульцы зрэбнай, як мая, босы, а паміж імі клунак, усё роўна як яны бадзягі, на нас падобныя».— «Дык, можа, у іх і скрыпачка ёсць?» — спытаў Грынька. «Няма скрыпачкі»,— адказаў Захарка. «А ты лепей паглядзі». Дзед Грынька пачухаў у барадзе, не зусім задаволены, але ўсё роўна дабраты не страціў: «Яны, Захарка, нашага табару, хоць і без скрыпачкі. Такія, як мы, бо мы, такія, не адны ў свеце, гэтакіх шмат. І ты сам гэтак сказаў: як мы, бадзягі». Грынька, сляпуючы, намацаў Захаркаву галаву, пагладзіў па валасах, усё роўна як падзякаваў за кніжачку, за тое, што ён, Захарка, яму такое расказаў. А ці шмат мог расказаць, не чытаючы? Вось яшчэ каб і пачытаць! Адчуў тады Захарка з той кніжачкай у руках пякучую ахвоту навучыцца чытаць і расказваць Грыньку ўсё, што пішуць у кніжках. Ажно заплакаў. Тая размова і тая кніжачка запомніліся на ўсё жыццё. І тыя малюнкі. З таго дня, можа, і пачалася новая, самая светлая ў яго жыцці дарога — да кніг. Праз два гады ён тую кніжачку сам прачытаў. Называлася яна «Архіп і Лёнька». Напісаў яе чалавек з прозвішчам, якое Захарка адразу адчуў на смак засмяглым, перасохлым ад хвалявання ротам: Горкі.

Лета, якое падарыла тую кніжачку, было апошнім летам побач з Грынькам. Наступнай вясною бацька не пусціў бадзяцца, а без яго, Захаркі, і Грынька нікуды не пайшоў.

Жыццё вечна такое: не ведаеш — дзе бяда, дзе каляда.

Неяк узялі сёстры Захарку ў мястэчка на кірмаш, везучы на продаж наплеценыя бацькам кашы, палукашкі, лапцікі. Пакуль яны гандлявалі, ён выгледзеў школку, што стаяла зусім блізенька. Ускочыў на прызбу, зазірнуў у акно. А тут і пані настаўніца: «Што табе, хлопчык, трэба? Табе цікава?» Хацеў даць дзёру, а яна — цап за руку: «Чый будзеш? Як звацъ?» Куды дзенешся? «Захаркам». Пачала ўшчуваць: «Нядобра пад вокнамі лазіць». Спалохаўся: пані настаўніца — не баба вясковая. «Я адным вокам зірнуць хацеў, я не злодзей». А яна ўсміхаецца: «Ці ж я сказала, што ты злодзей? Ты не злодзей. Табе ахвота вучыцца? Але ці

шмат ты адным вокам убачыш? Трэба глядзець двума, смела. Хочаш зайсці ў школу?» Ён кіўнуў: «Хачу!» Яна адчыніла перад ім дзверы. Школа была пустая. Настаўніца завяла Захарку ў клас, пасадзіла за стол, а сама пачала хадзіць вакол, прыглядацца. Апрануты ён быў у світку старэйшай сястры, у лапціках з белымі анучкамі. Калі што везлі прадаваць на рынак, бацька заўсёды патрабаваў, каб чыста апраналіся, каб не адпудзіць купцоў. Сядзеў як на шыле, круціўся, усё, што ў класе, хацелася разгледзець. Убачыў на падваконні глобус — аж з-за стала ўскочыў, уставіўся, як на дзіва. «Што гэта?» Настаўніца крутнула блакітна-шэры шарык, і Захарка зусім разгубіўся. «Гэта наша зямля, хлопчык»,— кажа. Дзе ж ты ёй паверыш? «Зямля? Гэтакая малая? А як мы тады на ёй аром, сеем, жнём?» Яна ўзяла ў руку аловак і пачала вадзіць ім па глобусе: «Вось горы, шэрыя, як твая світка. А зялёнае — лясы, раўніны. Сінія стужачкі — рэкі. А гэта Чорнае мора, яно саграваае поўдзень Расіі. А вышэй — Паўночны Ледавіты акіян, заўсёды заледзянелы, зімою і летам. А ўсё гэта разам, увесь шар — планета, на якой мы, людзі, жывём. Гэта наша зямля». Захарка не ўсё зразумеў, але галоўнае, мабыць, зразумеў, бо сказаў, цяжка ўздыхнуўшы: «А дзе тут Караньні, калі ўсё гэта наша зямля?» Настаўніца зноў усміхнулася: «Твае Караньні такія маленькія, што іх тут не відаць». Ён не паверыў, спытаў: «А дзе Проня?» Яна зноў сваё: «І Проня малая, не відаць».—



«А дзе Сож?» Настаўніца торкнула чырвоным алоўкам у глобус: «Вось тут».— «Але тут нямашака сіняе нітачкі?» — злавіў Захарка настаўніцу. «Няма, бо і Сож танчэйшы за нітачку». Тады Захарка зусім абурыўся: «Няпраўда! Ты брэшаш. Сож гэтакі доўгі, што яго з канца ў канец не прайсці за ўсё лета. Мы з Грынькам тры гады па Сажы хадзілі, а ўвесь не прайшлі. Бяжыць і бяжыць невядома куды, не спыніш». Тады настаўніца спытала: «А што ты, хлопчык, яшчэ бачыў, акрамя Сажа і Проні?» Тут Захарка і разышоўся, пачаў казаць, дзе папахадзіў [redacted] Грынькам, колькі чаго пабачыў. Яна слухала, здзіўленая. Паківала галавою — пытае: «Ці шмат жа табе гадоў, хлопчык?» — «Шмат,— адрэзаў Захарка.— Дзесяць».— «Дзесяць? — Яна зноў здзівілася.— А што ты можаш рабіць?» — «Магу касіць, араць, сеяць, жаць, замешваць свінням, вазіць лес, даіць карову...» Настаўніца прыгарнула яго галаву да сябе, пагладзіла, нібы матка: «Табе трэба вучыцца. І не кажы да старэйшых «ты», кажы «вы». І да мяне — «вы». Ты шмат чаго ведаеш для сваіх гадоў». Захарку захацелася расказаць настаўніцы яшчэ што-небудзь, бо яна яму спадабалася, і ён пачаў пра тое, як каранькоўскія мужыкі біліся [redacted] казакамі на Падгорным руме. Настаўніца спыніла: «А ты за каго? За казакоў ці за мужыкоў?» Захарка аж крыкнуў: «За мужыкоў!» Яна сумна і ціха яму адказала: «Не, хлопчык, табе навука небяспечная. Калі ты яшчэ і грамаце вывучышся, дык абавязкова трапіш у астрог». Гэта яго ўсё роўна як узлавала, ён закрычаў яшчэ мацней: «А я буду вучыцца назло табе!» І толькі світка яго матлянулася за дзвярыма. У той час ён яшчэ не ведаў, што пані настаўніца даводзілася сястрою пану Краснеўскаму, які валодаў лясамі вакол Каранькоў, па Проні ды Сажы, на якога якраз і рабілі каранькоўскія мужыкі, за што ён іх частаваў казацкімі нагайкамі.

Нават у адным гняздзе, пад адной маткаю яйка на яйка не падобныя. Колькі чубатак у вывадку, а ў кожнай свой нораў.

У канцы лета, як жалі жыта, вазілі ў асець, лёгенькая пралётачка пані настаўніцы з'явілася ў Каранькох, нетаропка праехала паўз платы і спынілася каля Захаркавай хаты. Бацька якраз прывёз з поля снапы, насіў на вілах праз двор. Конь Махоня стаяў у драбінах ля брамы, касіў вялізным, як чорнае яйка,

вокам на жарабка ў пралётцы. Не сышоўшы на зямлю, пані настаўніца дачакалася з двара гаспадара, спытала, ці тут жыве Захарка. Бацька разгубіўся. Але якраз на вуліцу выбег Захарка. Настаўніца і ўзялася за бацьку: ці думае ён вучыць сына? Справіўшыся з разгубленасцю, якая адразу скавала мужыцкую думку і мову, бацька спытаў, не хітруючы: «А хто будзе на зямлі рабіць? Я хворы, турэцкае жалеза пад рэбрамі, а больш мужыкоў у сям'і нямашака». Пані настаўніца аж ускліккнула: «Які ён яшчэ мужык? Ён жа дзіця!» Адно аднаго не зразумелі. Настаўніца паехала ў пралётцы, нічога не даказаўшы. І ўсё ж Захарка ў школу прыйшоў. Праз год, на пачатку зімы, калі работы паменела, бацька, вярнуўшыся аднойчы з рума на добрым падпітку, успомніў тую размову з настаўніцай: «Захар! Ты хочаш вучыцца? Дык збірай торбу. Лапці абуй новыя. А то, бачыш, ласыя віць вяроўкі з цёмнага мужыка. Дакажы ім, панам ды падпанкам, што таксама не дурань». Нешта тады на руме здарылася, а што — бацька не сказаў. Раніцай, працверазеўшы, пачаў дапытвацца, ці не раздумаў сын вязацца з кніжкамі? Завагаўся: ці адпускаць? Захарка занепакоіўся. Але бацька на слова быў цвёрды. Паабяцаў, хоць і з п'янкі,— не адступіць. Якраз аказія надарылася: сусед ехаў у мястэчка прадаваць свінню. Зборы ў мужыка нядоўгія: лапці на ногі, андарак на плечы ды ў воз. І хоць заняткі ў школе даўно ішлі, Захарку не прагналі. Праўда, бацька папярэдзіў, калі сын ужо сядзеў у возе, што адпускае да першага жаваранка. Але пра жаваранка, калі настаўніца пакідала ў школе, Захарка не сказаў: абы ўзяла — там відаць будзе. Зімы хапіла, каб усіх у класе нагнаць у чытанні, у пісьме. Ды вясною, ледзь над полем узняўся той жаваранак, бацька з'явіўся па сына. Захар не запярэчыў, ведаючы бацькаву натуру. Але прыбегла настаўніца: «Не аддам хлопчыка, пакуль год не скончыцца!» І ўпарты бацька адступіў. Не часта гэтакае з ім здаралася. Захарка не мог паверыць ні вачам, ні вушам сваім: не толькі скарыўся, але пакідаў яму брус сала, яйкі, галоўку масла, пляцёнку цыбулі, якія вёз на рынак. Усю вясну петаваўся з бабамі на зямлі, а сына не чапаў. Закончыў Захарка год на «выдатна». Але ўвосень бацька ўжо не пусціў вучыцца. І тады яго зноў знайшла настаўніца. Вайны з бацькам

у той раз яна не пачынала, убачыўшы, што ўжо не саступіць, але ўгаварыла Захарку раз на тыдні бываць у яе доме ў мястэчку, браць кніжкі. Жыла яна асобна ад брата, багатага Краснеўскага, мураваны палац якога стаяў на беразе возера за Каранькамі, у яе быў свой драўляны дамок у цэнтры мястэчка, трыма вясёлымі вокнамі глядзеў у стары сад, на Проню, на заліўныя лугі. Жыла настаўніца са старою цёткаю, сівой, у акулярах з залачонымі абадкамі на доўгім носе, і хлопчыкам, яшчэ малым, гадкоў пяці. Казалі, што быў і муж — хварэў, лячыўся за мяжою. Завітваючы ў дом, Захар кожны раз нясмела таптаўся каля парога, а калі запрашалі ў пакой, здымаў лапці, выстаўляў іх за парог, у анучах мякенька ішоў да паліц з кнігамі, далёка абмінаючы чорны блішчасты клавесін. Што з кніг выбірала настаўніца, а што дазваляла выбраць яму самому. Гэтак зіма і кацілася: у працы ды кнігах. Зноў вясна вярнулася, жаваранкі заспявалі. Аднойчы, у сонечны вясновы дзень, яшчэ дзе-нідзе снег ляжаў, прыйшоў да настаўніцы па кніжкі, а яна ўзяла яго за плечы, ласкава паглядзела ў вочы і кажа: «Не перажывай, Захар, што нельга хадзіць у школу. Ты шмат чаму навучыўся за гэтую зіму. Экзамены я прыму ў цябе экстэрнам». Што ж гэта за такі экстэрн, пры якім можна не хадзіць у школу, а здаваць экзамены разам з тымі, хто кожны дзень ходзіць? Слова дзіўнае, чужое, але цёплае, добрае. І вось — экзамен. Адказаў ён на ўсе пытанні, якія сыпала пані настаўніца. Нават бацюшка гэтак не сыпаў, прымаючы Закон божы. Яна яго слухала ды ўсміхалася. І тады ён першы раз у жыцці зразумеў, што чалавекам можа быць і пані, а мужык можа быць горшым за сабаку. Жыццё і пазней колькі разоў пераконвала ў гэтым. У трыццатыя, калі настаўнічаў у Грazіўцы і Асаўцы, часта, бываючы ў Караньках і мястэчку, прыносіў на магілу пані настаўніцы кветкі. Пра гэта дазнаўся загадчык райана. Выклікаў да сябе і кажа: «Вы, Падабед, робіце вялікае глупства. Дзе ваша класавая свядомасць? Вы кладзеце кветкі на магілу ворага рэвалюцыі. Вам гэта можа дорага абысціся». Але ён ад сябе не адмовіўся: «Гэта мая настаўніца. Яна мяне заўважыла ў галечы, вывела да навукі, дала ў рукі кніжку, навучыла чытаць і пісаць». Загадчык райана не зразумеў: «Над вашай пані быў народны суд». Той суд Захар бачыў. Гэта было

ўлетку семнаццатага года, напярэдадні рэвалюцыі. На троне ў Петраградзе сядзеў Часовы ўрад. Захар вярнуўся [illegible] фронту, а тут — галадоўка. Падаўся ў мястэчка, каб прадаць ці змяняць на хлеб салдацкі шынель. Але ногі прывялі да дома пані настаўніцы. Падняўся на ганак, адчыніў дзверы ў сенцы — людзей поўна. Пазнаў школьнага дваровага, які вазіў дровы, пілаваў і калоў, паліў печы. «А ты ідзі ў склеп»,— адказаў той. Захар задумаўся: як гэта ён пойдзе ў чужы склеп? Але пайшоў. Замка на дзвярах не было. Адчыніў — спусціўся па ганачках у сутані, гукнуў— ці ёсць хто жывы? Ніхто не адгукнуўся. І раптам, паміж пустых сусекаў убачыў круглую цынкавую балею, накрытую старой цыратаю. Глядзіць — ці не нага чалавечая тырчыць з-пад цыраты? Адкінуў цырату — настаўніца! Уся ў крыві, скурчаная, без галавы. Галава — асобна, адсечаная, вочы адкрытыя, глядзяць, як жывыя. Усяго на фронце набачыўся, крыві і пакут, але тут, у склепе, ледзь не зваліўся — за сцяну схапіўся. Выбраўся на двор, апусціўся на лаўку пад вокнамі. Стары падышоў. Сеўшы побач, расказаў, што забіў настаўніцу яе вучань Мікіта Хаўбок, сын беднага мясцовага селяніна. Яна прывяла яго, як Захара, у сваю школу, навучыла грамаце, ён пасля паехаў у Пецярбург, працаваў на заводзе, служыў у флоце на рэвалюцыйным крэйсеры і вось, вярнуўшыся ў родную вёску, ажыццявіў заклік рэвалюцыі: «Далоў паноў!» Праз колькі гадоў матрос назусім вярнуўся ў вёску, стаў сельсаветчыкам, у бацькавай хаце гуляў вяселле, і ў тую шлюбную ноч нехта пусціў яму пад страху чырвонага пеўня. Хата згарэла, згарэў і сам з маладою. Зразумелі тую падзею ўсе аднолькава: знайшліся людзі, што адпомсцілі за пані настаўніцу, якая нікому ў жыцці зла не зрабіла, любіла сялянскіх дзяцей, усіх вучыла, хто жадаў, бараніла, а з братам мела часцей вайну, як мір, за яго жорсткасць да людзей.

Пасля таго экстэрна Захар загарэўся падацца ў свет ужо не па кавалкі [illegible] Грынькам, а па вялікую навуку. Як адарвацца ад зямлі? Хоць бы зямлі той як у людзей, а то ж тры дзесяціны пяску. І тады яго зноў знайшла пані настаўніца. У мястэчку адкрывалася двухкласная царкоўнапрыходская школа з пяцігадовым навучаннем, і яна падбірала вучняў. Невядома, што казала бацьку, але той нечакана лёгка адпусціў сына. Дый,

мабыць, не адны яе ўгаворы падзейнічалі. Бацька зняверыўся ў гаспадарцы, махнуў рукою на жытку, якая не заладзілася, ударыўся ў гарэлку і адным супакойваўся: на тым свеце ўсе зраўняюцца. Прынялі Захара ў трэці клас. Два гады вучыўся. Зіму — у школе, лета — на зямлі. Закончыў курс — нагледзеў Бабруйск, настаўніцкую семінарыю. Ды тут жыццё дало круты паварот. Надумаў бацька шукаць шчасце ў Сібіры. Шмат сялян тады цягнулася ў Сібір. Прадаў каня Махоню, кабана, авечак, дзве дзесяціны, сабраўся ў Сібір хадзяком, каб шукаць там зямлю. Перад ад'ездам у хаце кожны вечар збіраліся мужыкі, палілі лучыны, гаварылі да поўначы. Не адзін бацька збіраўся ў хадзяцкі шлях, а як надышоў той дзень, дык застаўся адзін. Іншыя ці збаяліся доўгай чужой дарогі, ці страцілі веру. Але бацька, якому з яго здароўем ляжаць бы на печы, упёрся і не адступіў. Бедакоў у вёсцы хапала, хапала і наказаў, каб шукаў зямлю на іх долю. У складчыну купілі падношаныя ялавыя боты, новы суконны андарак, доўгі, да пят, картуз на галаву прынёс Грынька, хоць далёкай зямлі ад бацькі не чакаў, прыглядаючыся ўжо да сваіх двух метраў пад бярозкамі. Картуз быў суконны, бацьку спадабаўся. Праводзілі яго ўранні, выганяючы кароў. На возе, што спыніўся пад вокнамі, сядзелі тры такія, як ён, хадзякі з суседніх вёсак, ехалі на кані да Мугулёва, каб там ужо сесці на цягнік. Тады Захар бачыў бацьку апошні раз. Мужыкі з іншых вёсак павярталіся па сем'і, знайшоўшы зямлю, якую шукалі, і тыя людзі прывезлі бацькавы хадзяцкія дакументы, боты і Грынькаў картуз, а ў андараку, казалі, бацьку паклалі ў зямлю на Васюгане, прытоку Обі, за Томскам. Расказалі і пра ўсю дарогу, і пра апошнія хвіліны бацькавага жыцця. Яго хадзяцкае сведчанне за нумарам 2233 на права праезду па перасяленцкім тарыфе да станцыі Томск Сібірскай чыгункі было пазначана 10 днём чэрвеня 1913 года, і ў ім пісалася, што прад'явіцель сведчання Падабед Макар, сын Іванаў, выпраўляецца ў Сібір хадзякам ад названых асоб вёскі Караньki для выбару зямельнага вольназахопнага ўчастка пад добраахвотнае засяленне. Сярод асоб, якія пасылалі хадзяку Падабеда Макара, сына Іванавага, былі перапісаны ўсе сямейнікі, у тым ліку і Захар, а гэта азначала, што ён таксама як быццам пасылаў бацьку па далёкую зямлю. Былі там названыя

сяляне, што куплялі ў складчыну ялавыя боты, андарак, нават Грынька — як жа было не ўпісаць яго ў важны дакумент, карыстаючыся картузом? Замацаванае прыгожым подпісам земскага начальніка і пячаткаю, хадзяцкае сведчанне ляжала і цяпер у Захара, бо дакументы далёкіх часоў ён шанаваў, асабліва гэтакі, што сведчыў пра бацькава жыццё і яго смерць на Васюгане. Хадзякам, у тым ліку і бацьку, тады ўдалося атрымаць у Томску, у сялянскім банку, крэдыт — купілі коней на станцыі Тайга. Да Васюгана коні былі агульныя, а калі заплылі на плытах па Томі, Обі і Васюгане ў глыб тайгі, знайшлі сярод балотаў дзікую зямлю, высадзіліся, коней падзялілі. Бацьку дасталася белая мангольская кабылка, мірная і цягавітая. На хадзяцкім савеце вырашылі не разбрыдацца па тайзе, каб не згубіцца, жыць табуном, падняць аблогу і будаваць заімку, адну на ўсіх, а ўжо вясною, перазімаваўшы, ехаць па сем'і. Упрагліся вазіць лес. І вось аднойчы бацькава кабылка [redacted] лесам правалілася ў багну. Там усё было побач: кедроўнікі, аблога, балоты. Бацька паспеў абсекчы пастронкі, учапіўся за аброць, упёрся нагамі ў корч, ды шчасця свайго не ўтрымаў. Кабылка ўсё глыбей грузла ў д'яблаву засосную багну, сама ўжо не магла з яе вырвацца, а ў бацькі сілы толькі на тое хапіла, каб мёртвай мужыцкай хваткаю ўклешчыцца ў аброць, не выпусціць з рук, і шаснуў ён у багну разам [redacted] белай кабылкаю. Гэта ведалі людзі, якія прывезлі ў вёску бацькава хадзяцкае сведчанне, боты і картуз. Хоць тым парадавалі, што выцягнулі з балота, абмылі, пахавалі на выспе над Васюганам у прыгожым месцы, паставілі на магіле вялізны крыж са смолкага камлёвага кедра, і калі па Васюгане плылі вольныя людзі, мясцовыя ці перасяленцы, дык крыж бачылі здалёку і здалёку здымалі шапкі.

Часта пра ўсё гэта думаў Захар. І пра дарогі побач з Грынькам, і пра свае пуцявіны да кніжкі, [redacted] кніжкаю, і пра бацькава хадзяцтва па Сібіры ў пошуках зямлі. Але ніколі думкі не здаваліся гэтакія прывязлівыя, учэпістыя. Таемная патрэба была цяпер у іх? Шукаў разгадку самога сябе, сваёй дарогі — праз бацькавы дарогі? Чым глыбей унікаў у бацькаў і свой лёс, тым выразней адчуваў, што прагнасць да кніг — ад бацькавай прагнасці да зямлі, тая бацькава ўпартасць вяла

яго, Захара, іншай дарогай, усё роўна як адчуваў, што яго зямля там, дзе кнігі. Бацька не проста загінуў ад сваёй упартасці там, у Сібіры, але ўпартасць мужыцкую перадаў яму, сыну, і ён распарадзіўся ёю іначай не таму, што быў мудрэйшы, проста іншы выдаўся час, які падказаў іншыя пуцявіны. Цяперашняе бежанства было як працягам бацькавага лёсу. І бацька, і ён, сын свайго бацькі, былі заўсёды хадзякамі, самаходамі, заўсёды беглі ад голаду, ад цямноты, ад смерці, ад палону, не мірыліся з тым, што даў лёс, шукалі лепшае долі, і гэтыя шуканні выганялі на новыя дарогі. Ды ці яны адны, Падабеды, пабраліся з гэтакай доляй? А Грынька? А сяляне, што валакліся ў Сібір разам з бацькам? А што ж гэта за беларусы насялілі Сібір, Карэлію, казацкія стэпы Украіны, Расіі? Ці не тыя самыя хадзякі, якіх лёс абдзяліў зямлёю ў родных вёсках, а яны не змірыліся — ішлі шукаць і зямлю, і хлеб, і волю?

Хоць і неаднолькавыя людзі. І ў сялянстве — неаднолькавыя. Адны баяліся страціць тое, што трымалі ў руцэ, а другія ішлі хоць на край свету, абы знайсці ўсё, што чалавеку трэба.

Пасля спрэчкі і паразумення з Вацурам, думаючы пра асобнага чалавека і ўвесь народ, нішто не адмятаючы, усё прымаючы як гістарычную рэальнасць, Захар пачынаў глыбей разумець, што нітачкі, па якіх ішлі і ідуць людзі, звязаныя паміж сабою, без кожнай з іх нельга ведаць усё пра народ, яго душу, аблічча і лёс.

Успомнілася кароценькая замалёўка: «Яна выйшла на станцыі Тайга, ці то ехала толькі дагэтуль, ці то каб перасесці на томскі цягнік. Я ссадзіў ёй з вагона Шурыка і падаў кошык». І за ёю — фраза, абсечаная нямоцнай памяццю ці проста часам: «Цягнікі на станцыі Тайга заўсёды стаяць вельмі доўга...» Не памятаў, калі, у якой газеце ці кнізе чытаў сібірскі абразок свайго зямелі Максіма Гарэцкага, але радкі засталіся ў галаве, бо станцыя Тайга, што ў Гарэцкага, тая самая, на якой некалі спыніў падарожжа чыгункаю бацька, дзе ён з сябрамі-хадзякамі купіў кабылку, што зацягнула ў чортава вока на Васюгане. І яшчэ з тых сібірскіх абразкоў Захар памятаў хлопчыка ў лахманах, які па-беларуску прасіў капеечку і якому Максім Іванавіч даў залатоўку. Той, узрадаваны, завёў добрага дзядзьку пагрэцца ў брудную камору, дзе жыў, і там

пісьменнік убачыў маладую сястру хлопчыка, салдата, які груба, нібы жывёла, разглядаў дзеўку, змардаваную маці, убогасць жыцця перасяленцаў. Запомніўся расказ жанчыны, як яна ў дарозе пахавала старога, проста кінула ў яму, і яе слёзы: навошта паехалі, дурныя, на край свету, галавою ў вір? Тады і цяпер Захар падумаў: а мог жа і ён апынуцца ў тым трынаццатым годзе на месцы хлопца ў лахманах, сястра магла быць той дзеўкаю, над якою стаяў азвярэлы салдат?

Як варам абдало — спыніўся пасярод дарогі, устрывожанымі вачыма акінуў вакол сябе:

— Вася!

Сын з апошніх сіл валокся следам, побач з Лізаю, шкроб пыл сандалікамі, а за імі ішоў палітрук, у адной руцэ нёс Захараў партфель, другой абапіраўся на кій. Дзе ж Люба? Партфель несла яна — чаму апынуўся ў палітрука? Захар затрымаў крок і, зраўняўшыся з палітруком, узяўся за мяккую скураную ручку партфеля побач з яго маленькай рукою. Той адразу выпусціў партфель, адчуўшы яго ў Захаравай руцэ.

— Дык што будзем рабіць? — спытаў палітрук.

— Як што рабіць? — не зразумеў Захар.— Ідзем. Трэба ісці. Работа такая. Хадзяцкая.

Адказаўшы палітруку, зноў падумаў пра сваё: нёс мяхі з вопраткай, анучы валок, а на партфель, у якім самае, можа, дарагое, забыўся. У ім ляжалі чатыры тоўстыя тамы Платана — вядомага на ўсю Еўропу доктара, абруселага немца, якія прыдбаў яшчэ ў той руска-германскай вайне, як быў у палоне пад Дрэздэнам. Жыў там больш-менш вольна, працуючы ў баўэра. Да гаспадара прыязджала сястра Ірма. Памяталася восень. Вазілі снапы з поля. Захар нагрузіў мажару, выехаў на роўненькую палявую дарогу, бачыць — стаіць на дарозе Ірма ў белым касцюмчыку. Спыніў каня. Яна дастае з сумачкі аркуш паперы, падае Захару. Разгарнуў — карта Германіі, падрабязная, усе на ёй, здаецца, і рачулкі, і фермы. Разгубіўся: што з немачкай? I тут яна кажа, што з падручніка братавай дачкі знікла карта, забраў яе ён, Захар, яна, Ірма, гэта ведае, але нікому не скажа, бо яе муж таксама ў палоне ў Расіі, можа, таксама будзе бегчы з палону дадому, у Германію, і яна хоча памагчы Захару, бо, можа, нейкая добрая душа ў Расіі дапаможа яе мужу. Карту тады забрала назад, але праз тры дні зноў прыехала —

ноччу, у брычцы. Пастукала ў акно каморы, дзе жыў Захар, паклікала ў сад. Пасадзіла ў брычку і павезла на чыгуначны вакзал. Там дала яму праязны білет да прыгранічнай станцыі, чужы пашпарт, нейкага Ганса, маркі, тую самую карту, сумку з ядою і кнігамі Платана, кішэнны гадзіннік фірмы «Павел Бурэ», абняла ў вагоне, як свайго чалавека. Як жа ён мог згубіць кнігі і Паўла Бурэ? Тым больш цяпер. У кнігах Платана была навука лячэння сродкамі, што ў бежанца пад рукамі: травамі, вадою, паветрам, цяплом, масажам. Ці ж мог ён не пільнаваць партфель? А яшчэ ж там ляжалі кніжачкі Гарэцкага, Шаўчэнкі, Пушкіна, пра якія нікому не казаў. Адна Ліза пра іх ведала.

Натоўп рухаўся ўроссып: хто дарогаю, пылам, які лез у рот, вочы, нос, хто — абочынай, прысадамі, полем. Жанчыны, салдаты, дзеці — усе ў адной шэрай плыні маўклівыя, глухія і нямыя, бераглі сілы на вёрсты і вёрсты.

— Можа, спынімся? — спытаў палітрук.— Дзеці хай адпачнуць.

Ён дбаў, вядома, найперш аб сваіх абарваных, падбітых чырвонаармейцах, якія валакліся не лягчэй, чымся дзеці, але Захара ўразіла, што падумаў пра дзяцей, і пагадзіўся адразу:

— Спынімся. Людзі яшчэ не елі.

А людзі ішлі. І яны, Захар і палітрук, таксама працягвалі ісці, як адчуўшы, што сказалі за людзей не тое, чаго тыя хацелі. Углядаючыся ў знясілены, упарты ў хадзе люд, Захар, быццам у працяг ранейшых думак, адчуў, што бежанскі рух, не гэты, але на гэты падобны, якраз і паклікаў Гарэцкага ў Сібір, бо бежанцы былі для яго гораснай часцінкай народа, якая хвалявала і непакоіла. Гэтая думка з'явілася як падтрымка ягонае веры ў тое, што дарогу выбраў не насуперак усім, хоць іншыя дарогі былі, выбраў згодна са спаконвечным народным лёсам. Нібыта ішоў следам і за бацькам, і за ўсімі тымі мужыцкімі спінамі, якія кудысьці неслі сваю долю.

Наперадзе, за яшчэ адным астраўком бярэзніку, адразу і блізка паказалася, выкаціўшыся з-за пагорка, вёска. Яна прываблівала цёплымі стрэхамі, вясёлымі вокнамі, а падышлі бліжэй — прывеціла яшчэ і студняю на гусіным выганчыку, выгараджаным старымі вербамі, карані якіх, неашчадна вылузаўшыся з зямное нетры, суха лупіліся, ружавелі пад сонцам. Хаты

з хлявамі стаялі далей, а тут, на грудку, на сонцы, смажылася недагледжаная, быццам нічыя, лазенка, за якой бугрясты выганчык ляцеў-куляўся крутаберагам да здзічэлае ў лазовых зарасцях рэчкі.

Захар і палітрук першымі звярнулі на выганчык і адразу з дарогі за імі сыпанулі бежанцы.

Студню абступілі з усіх бакоў. Жоўтагаловы стары трымаў бодню, налітую да краёў, і шухнуў Захару ў бітончык, акаціўшы рукі і ногі.

— Ну во, адразу напіўся,— зарагаталі вакол.

Ліза з дзецьмі прымасцілася пад плотам, дзе густа спляліся вішні ды слівы. На зялёным, не выгаралым у засені мурагу выклала яду, але дзеці, як падышоў Захар, пацягнуліся да бітончыка. Ліза баялася даваць ім халодную ваду. Ліла на ручкі, каб змыць пыл, але яны прагна сёрбалі з брудных далоняў — яна аж заславала. І памыліся, і напіліся, і абліліся.

— Дзе нашы? — спытаў Захар.

— Вунь...пад вярбою.

Пад кудлатай зялёнай навіссю стаяла каляска, заваленая мяхамі і чамаданамі — побач з ёй на зямлі ляжаў Ілья ў скуранай куртцы.

— Трэба мяхі патрэсці. Дарога, чым далей, не лягчэйшая.

Жонка пра гэта гаварыць не захацела:

— Хлеб канчаецца.

— Трэба ісці па хатах. Можа, дадуць за вопратку? Выкідай з мяхоў цяжкое, зімовае. Хоць бы да зімы той дажыць.

Захараў настрой насцярожыў Лізу. Ён гэтакім ніколі не быў. Пераджыўшы за сваё жыццё нашмат болей, як яна, як Ілья, як Зося, ніколі не плакаўся, не губляўся і ні ў чым не адступаў. Ліза неаднойчы здзіўлялася, як ён усё трывае, як лёгка нясе ў сэрцы і памяці пераджытае. Побач з ім сябе адчувала мацнейшай. Але тое, што сказаў цяпер, было як ад стомы, страты веры. І яна, нібыта яго ранейшым голасам, адказала:

— Дажывём. І да зімы, і да вясны.

Ён глянуў на яе не то здзівіўшыся, не то павесялеўшы.

— Дажывём,— пагадзіўся.— Не адны мы такія.

— А каб жыць — трэба і апрануць што-небудзь.

— Дзяцінае не чапай. Маё.

Не сеўшы да яды, падаўся да Асташонкаў.

Ілья быў злосны на ўсіх. Яго можна было зразумець — на гэтакай дарозе, з такім барахлом на руках страціць каня? Але хто вінаваты? Радавацца трэба, што сам цэлы, сын цэлы. Былі б рукі, ногі, галава. Ідуць і без коней. Захар сеў побач з Лёнікам, узяў за плячо:

— Што, герой?

Лёнік адвёў плячо ўбок:

— Баліць. Не чапайце.

Ён еў адной левай рукою, правай не мог паварухнуць, леваю браў і хлеб, і лыжку. Паклаўшы лыжку, узяўся расшпільваць кашулю, каб паказаць ссінелае плячо, але бацька гаркнуў:

— Зашпіліся!

Лёнік смалянуў на яго вачыма, слухмяна схаваў плячо пад кашуляю, зноў узяўся за лыжку.

— У вёску пойдзеш? — спытаў Захар у Ільі.

— Што я там не бачыў?

— Можа, удасца абмяняць якую адзежыну на хлеб.Ісці будзе лягчэй. Не відаць, каб дарога хутка скончылася. Можа, тут мы яшчэ і за грошы купім?

За грошы ўчора нічога купіць не маглі, улада грошай на вёсцы нечакана знікла, у іх цяпер ніхто не верыў, ад чаго на сэрцы ў Захара рабілася прыкра і крыўдна: усё ж нашы грошы, савецкія? Але за вопратку можна было змяняць і хлеб, і яйкі.

—Падавіліся б яны сваім хлебам і маімі анучамі.

У Асташонкаў хлеб вёўся, а дабро, якое везлі, растрасаць не спяшаліся.

—Ты на каго злуеш? — не стрываўшы, спытаў у лоб Захар.

— Конь патрэбны. Будзе конь — будуць хлеб і анучы, усё давязеш, не растрасеш. А без каня? Як без каня? — Асташонак бразнуў аб чыгунок лыжкаю, усхапіўся на ногі.

— А як людзі?

— А што мне людзі? — азвярэў Ілья.— Людзей паслухаеш — у дурні пашыешся. Цябе, здурнеўшы, паслухаў.

— І чым я табе нашкодзіў? — не зразумеў Захар.

— А тым... Ішлі берагам, мірна, ціха, дык жа ты дарогу тую скруціў, павярнуў праз жыта, у лес. Па Сажы — не было б калатнечы. І конь...

Захар не стрымаўся:

— Табе ўсё конь!.. А ротнага памятаеш?..

— У салдат свая дарога, у нас свая. Яны хай ваююць, а не туляюцца па лясах. Бежанцамі парабіліся. Ваякі!..

— Ды ты што кажаш, Ілья?!

З гэтым крыкам, які нечакана вырваўся, Захар падхапіўся, агледзеўся. Людзі, якія былі блізка, чулі, што яны тут адзін аднаму казалі, бачылі, як счапіліся, глядзелі на іх, і Захар, заўважыўшы гэта, адчуў сорам перад усімі, хто чуў. Быццам ні Ілья, ні хто іншы не быў ні ў чым вінаваты — ён адзін. І ўжо нічога нікому сказаць не мог. Адвярнуўся ад швагра, падышоў да мяхоў, выцягнуў з меха сваю яшчэ новую, на ваце, з лісіным рыжым каўняром куртку, у якой толькі адну апошнюю зіму хадзіў у школу, ускінуў на плячо і, не пачуўшы, што казала, пратэстуючы, Ліза, падаўся ў вёску.

Гразівец ведаў з трыццаць трэцяга года, калі прыехаў сюды з накіраваннем раённага аддзела народнай асветы. Цяжкі быў год. Ён як бы расплатаю прыйшоў за светлыя гады работы ў Горках, у акадэміі, дзе Захар выкладаў мову і літаратуру. Праўда, і там не ўсё было светлым, іначай не кінуў бы акадэмічны гарадок, каб зашыцца ў глушэчы. Прыехаў адразу з усёй сям'ёй. Знайшлі першы прытулак у Марфы Іванаўны, а ў Гразівец падаўся спачатку адзін. Было самае жніво, лета, а ўжо халады, дажджы лілі кожны дзень, гразь непралазная. У гэтай глушэчы, думалася, не знойдзе ніхто — ні сябра, ні злыдзень. Але злыдзень і тут чакаў. Ім аказаўся сам дырэктар школы з сямікласнай адукацыяй. Захваляваўся, пазнаёміўшыся з Захаравымі дакументамі, і хоць настаўнікаў не хапала, вучыць не было каму, заявіў адразу, што не верыць, каб спрацаваліся. Чаму? Тлумачыць не стаў. Баяўся канкурэнта? А ці Захар на яго крэсла замахваўся? Ніколі пасад не шукаў, акрамя радавой настаўніцкай. Праз нейкі месяц, не болей, камісія прыехала — правярала канфлікт паміж дырэктарам і настаўнікамі. Членам камісіі быў Вацура, які і запрасіў да сябе ў школу, у Асавец. Разам тады і пайшлі з Гразіўца.

Гразівецкая дзесяцігодка стаяла ў ліпах, некалі панскіх. Высокі, на ўзгорку, цагляны будынак з белымі калонамі прыгожа глядзеўся над доўгім азярцом. За

школьным дваром у канцы возера — мураванка з чырвонай цэглы, колішняя панская стайня, у якой цяпер былі настаўніцкія кватэры. Захар узбег на ганак пад белыя калоны, далей не пусціў замок на дзвярах. Сцежкай уздоўж возера дайшоў да стайні. У кожную кватэру свае дзверы — у якія падацца? Тутэйшых настаўнікаў ведаў, але не памятаў, дзе хто жыў. Позірк слізгануў міма стайні на драўляную хатку — спыніўся. Хатка знаёмая. І жанчына ў градах за частаколам — Панасаўна? Падышоў бліжэй — гукнуў. Яна разагнулася, змахнула з ілба бялявыя валасы рукою, у якой трымала пук зелля, кінула зелле ў баразну, пазнаўшы Захара.

Праз нейкі час яны ўжо сядзелі на лаўцы пад вокнамі хаты паміж кустоў вяргінь. Ён трымаў у руках фарфоравы кубак, яна — збан з малаком.

— Куды ж вы ідзяце? У які свет? Каб хоць ведаць — куды? — Яе здзівіла і ўзрушыла тое, што Захар і Ліза ідуць на ўсход з малымі дзецьмі.

— Куды ідзем? Зямля круглая.

Жыццё ў Гразіўцы кацілася па-ранейшаму, хоць у нечым і па-новаму. Вёску пакінулі мужчыны, якіх паспела ўзяць мабілізацыя, ды яшчэ паштавікі, сельсаветчыкі, а старшыня калгаса, чалавек пажылы, кожную раніцу збіраў праўленне, пасылаў людзей на жніво, на касьбу, у лес. Што ў свеце робіцца — ніхто добра не ведаў. Газеты не даходзілі, радыё з вясны вялі і не давялі, яшчэ ставілі ў полі слупы. Навіны лавілі больш ад бежанцаў, і вёска сыпала на бальшак, каб там штосьці пачуць. Жыць ўсляпкі, глушцом, было цяжка.

Захара асабліва абурыла, што дырэктар школы трымаў настаўнікаў у вёсцы, кожны дзень даваў работу — касілі, вазілі сена школьнаму каню, у лесе нарыхтоўвалі дровы, вазілі на двор, у класах бялілі сцены, фарбавалі падлогу.

— Па якіх праграмах будзеце вучыць? — спытаў Захар.— Па якіх падручніках? Можа, дырэктар новыя надрукаваў?

Ён зноў успомніў Вацуру. Той у чымсьці пераканаў. Але цяпер, як пачуў ад Панасаўны, што рабілася ў Гразіўцы, апанавалі ранейшыя думкі: каго людзі чакаюць, на што спадзяюцца? Грукнуў кубкам аб лаўку, зняў з пляча куртку, кінуў на лаўку.

Панасаўна разгубілася.

— Што ж мне рабіць? Каб жыла мая Верачка, я, можа, таксама пайшла б на ўсход. А чаго адной ісці? Сябе ратаваць?

Хаваючы слёзы, сунулася тварам у Захарава плячо і закалацілася безгалоса. Ён абняў яе.

— Супакойся, Вольга,— сказаў нечакана ласкава, як ніколі не казаў, заўсёды называючы ці Вольгай Панасаўнай, пры людзях, ці Панасаўнай, па-вясковаму.— Не губляйся. Бацькаўшчына ў нас адна была і будзе. Яе ўсюды бараніць трэба. І там, куды я іду, і тут, дзе ты застаешся.

Яна выцірала твар далонькамі, малымі і чорнымі ад зямлі, і нічога настаўніцкага ў ёй зараз не было, адно дзяцінае.

— А можа, Макаравіч, тут і вам лепей застацца? Яшчэ падумайце. Дзетак пашкадуйце. Ці далёка яны зойдуць? Ножкі пазбіваюць...

Яна любіла дзяцей, усіх, чые б ні былі, любіла не толькі як настаўніца, а па-жаночы, як маці. Два гады назад страціла беленькую, як сама, слаўную дзяўчынку, а праз паўгода і маладога мужа, інжынера леспрамгаса; дачку задушыла шкарлятына, што гуляла па вёсках, а муж загінуў на лесапавале, накрыты дубовым камлём. Пра яе лёс — не дай Бог нікому — Захар думаў заўсёды, сустракаючыся. Жыў у сэрцы неспакой, большы, як спагада ці жаласць, і нікому яго не паказваў, глушыў у сабе з таго, можа, часу, як з'явіўся тут, у Гразіўцы. Яна тады была зусім маладая, не замужам, першы год выкладала, і толькі з ёю мог гаварыць шчыра. І тады, і пасля. І заўсёды.

— Пра гэта не будзем,— адказаў рашуча, адганяючы ад сябе і яе думкі, і свае пачуцці.— Ісці ці не ісці... Скажы лепш, ці ёсць у вас тут коні?

Жанчына быццам здзівілася нечаканаму пытанню, але па тым, як адразу задумалася, Захар здагадаўся, што яна яго і цяпер зразумела.

— Калгасных пабралі. Лепшых у войска, горшых пагналі пад Клімавічы — там капаюць процітанкавы роў. Хіба ў леснікоў? Дык яны сваіх коней хаваюць у лесе. Але... пачакайце мяне тут.

Яна кінулася са збанам у хату. Вярнулася з сякерою.

— Вазьміце, Макаравіч. Ідзіце да школьнай канюшні. Збівайце замок і забірайце Буланчыка. Вы яго

ведаеце. Ціхі конь. І калёсы там, на двары. Хамут і сядзёлка ў калёсах.

Захар ўзяў сякеру:

— А дырэктар? Дзе ён?

— Па сакрэту? Другі дзень гуляе вяселле ў суседняй вёсцы. Дачку туды аддаў. А ключ ад канюшні мне пакінуў.

— Дык нясі ключ.

— Не, збівайце абухам. Каб не падумаў, што я каня аддала. Хай думае, што ўкралі.

Той замок — адна назва: гахнуў абухам — каня вывеў. І ўсё на месцы: хамут, дуга, сядзёлка, лейцы, нават бочка з дзёгцем. Не да дзёгцю. Запрог, спяшаючыся, і хутчэй выехаў з двара. Усё рабіў, сябе не пазнаючы. Краў? Не, тут было іншае. Браў каня ўсё роўна як робячы нешта патрэбнае, ледзь не святое. Конь цяпер быў патрэбны ўсюды, нават на фронце. А чаго ён тут, пад замком? Як гаспадар, дырэктар школы, чакаў немцаў?

Панасаўна стаяла на дарозе. Пад'ехаўшы, Захар напяў лейцы, саскочыў з калёсаў.

— Ну?

— Скажы, Макаравіч, тое, што даўно хацеў мне сказаць... Ці я сляпая была?..

— Ты, Вольга, была не сляпая. Але цяпер... Жыві разумненька.

— Як гэта — разумненька?

— Помні, што ўсё вяртаецца на кругі свае. Зламаць круг жыцця не змогуць нават танкі.

Яны з нейкім аголеным болем глядзелі адно аднаму ў вочы, як штосьці адно аднаму абяцаючы. Ён у гэтую хвіліну быў быццам іншы, як там, ля хаты, калі суцяшаў яе на сваім плячы, там быў увесь ад сэрца, тут — ад розуму, але яна, гэта заўважыўшы, падумала спакойна, ведаючы, што гэтак цяпер трэба. Прыўзнялася на дыбачкі і, абапёршыся на яго моцныя плечы, пацалавала горача, як свайго, дарагога.

Захар ускочыў на драбіны.

З суседняга двара, з-пад варот, выскачыў сабачка, гаўкнуў на каня і пабег па вуліцы, шукаючы, на каго яшчэ гаўкнуць.

Вуліца ляжала пасярод вёскі надзіва пустая, ціхая. Адно куры ў нейчым двары кідаліся, сакочучы, нібы іх там хто лавіў пад сякеру.

— Стой, Макаравіч! — спахапілася Панасаўна, калі ён ужо ад'ехаў.— Стой!..

Яна падхапіла каля ног кошык, засланы зверху газетамі, пра які была забылася, падала на воз.

— Што гэта?

— А там убачыш. Ну, не забывайце, вяртайцеся!

З-за плятня ад гумнаў павеяла волкім лагодным ветрам. Ён узняў на вуліцы пыл, закружыў, пагнаў віхор на каня, на воз, і конь, адчуўшы лейцы, крануўся [redacted] месца.

Пыл, узняты ветрам на вуліцы, аддаліў ад воза Панасаўну, ветру пасобіў Буланчык, адразу пайшоў шырокім спорным крокам, але вецер улёгся, пыл сагнала за пляцень, і Захар яшчэ доўга і ясна бачыў як ніколі дарагую яму зараз жанчыну, пакуль не звярнуў за рог вялізнага, [redacted] дзіравай зялёнай страхою, хлява.

Конь быў чырвона-рыжы, як з агню пашыты, на школьнай гаспадарцы не спрацаваны, надзейны. Некалі Панасаўна прыязджала ў Асавец, і тады Буланчык драмаў пад Захаравым акном. Стаяла зіма — у школе былі канікулы. Гразівецкая настаўніца ўвайшла ў хату ў белым кажушку, белых катаначках, белай пуховай хустцы — вясёлая, маладая. Прыехала па беларускія кніжкі, пачаўшы выкладаць беларускую мову, літаратуру. Яны разам з Лізай канчалі ў Магілёве педкурсы, ды яе курсы па батаніцы мала чаму вучылі ў выкладанні літаратуры. А вясной, як снег сагнала з палёў, дарогі падсохлі, прыйшоў ён у Гразівец — да яе на ўрок. Сама даўно аб гэтым прасіла — не забыў. Восьмы клас вучыў «Новую зямлю» Коласа. Настаўніца ўвесь урок чытала твор, так чытала, што дзеці слухалі раты разявіўшы, цішыня — як у полі. Тут — званок. Хлопчык ускочыў: «Гэта ўсё пра майго бацьку! І пра мяне! І пра наш лес! Я ведаю!» Разгубіўся, зачырванеўся — бягом з класа. Выйшаў і Захар. Адразу — на ганак, у двор, у поле. А там — цяплынь вясновая, жаваранак над галавою ў небе. Такое хараство на душы. Вось — паэзія. І там, у класе, і тут, на зямлі. Раптам — голас побач: «Што ж вы, Макаравіч, ні слова пра ўрок мой не сказалі? Ён вам не спадабаўся? Партфель забыліся». Азірнуўся — яна яму падае партфель і сшытак: «Вось план урока». Узяў з яе рук і партфель, і сшытачак, а што сказаць? «Я хацела ў вас спытаць, што такое сюжэт, а што — фабула? Дзеці спытаюць — сама не ведаю».

Паклаў яе сшытачак у свой партфель — усміхнуўся: «Не хвалюйцеся. Вы добрая настаўніца. У вас вялікая душа». Падаўся сваёй дарогай на Асавец. То была незвычайная дарога. Сонечная паводка навокал, цёплы водар ад зямлі і вады, неба чыстае, вясёлае, а ў вушах яе голас: «Мой родны кут, як ты мне мілы, забыць цябе не маю сілы...» І ўсё гэта — адзін свет, адно жыццё. Ідучы, думаў: «Што трэба настаўніку? Любіць! Жыццё, зямлю, людзей, прыроду. Любіць моцна. Так, каб, слухаючы цябе, твае словы, чалавек разам з гэтымі словамі напаўняўся тваёй любоўю, браў яе ўсю, не праліўшы ні кроплі». Тыя думкі і пачуцці перапаўнялі, з імі не мог доўга сядзець у Асаўцы, і праз колькі дзён зноў выйшаў на гразівецкую дарогу. Прычыны і апраўданні былі: сшытачак з настаўніцкімі планамі не вярнуў, не адказаў на пытанне — якая розніца паміж сюжэтам і фабулай? З'явіўся, як ішлі ўрокі. У Панасаўны быў урок па заалогіі, яна яго праводзіла на старажытных курганах за вёскаю — там яе і знайшоў. Сядзіць, акружаная вучнямі, на пні, трымае на калене хвост яшчаркі і ледзь не плача. Злавіла яшчарку, каб расказаць пра яе дзецям, а тая пакінула хвост і ўцякла. І як [redacted] хвастом у руцэ пра яе раскажаш?..

Бліжэй, як тады, яны, мабыць, ніколі не былі, але і тая, што была, блізасць, хвалявала абаіх. Яны ў ёй адчувалі большае.

Думкі пра Панасаўну вялі Захара ўсю дарогу, як той пыл за спіною вёў, не адпускаючы ад сябе, воз. Сваю вярбу, пад якою чакалі Ліза і дзеці, на адлегласці не заўважыў, яна раптам з'явілася ў каня перад дугою, быццам конь сам прыехаў, лепш за Захара ведаючы, куды ехаць. І нават пад вярбою не адразу вызваліўся ад думак, з якімі ехаў. Воз спыніўся, а ён сядзеў і маўчаў, быццам не заўважаючы, як вакол каня і воза збегліся дзеці, Ліза, Ілья, Зося. Ілья ўжо ляпаў каня далонню па бугрыстай шыі, мацаў персі.

— Чый гэта? Дзе ты яго ўзяў? — дапытваўся.

Захар споўз [redacted] драбіны, адпусціў падсядзёлак.

— Мой, калі ў маіх руках. Вось і я разбагацеў. Не ўсё ж табе, Ілья, багацець. Бог дае ўсім. Аднаму, пасля другому.

Дзеці палезлі на воз. Люба поркалася ўжо ў кошыку:

— Глянь, мама? Сала! Хлеб! Яйкі!

Ліза стаяла ўбаку, з нядобрым хваляваннем глядзе-

ла то на Захара, то на каня. Захар насцярожыўся: ці не здагадалася, у каго быў?

— І гэта ўсё за куртку? — спытала.

Захар цяпер толькі ўспомніў, што ў яго была куртка, што пакінуў яе ў Панасаўны на лаўцы.

— Няроўны абмен,— заключыў Ілья.

— Чаму няроўны? — як не пагадзіўся Захар.— Куртка новая, на футры. Коні ёсць, а куртку гэтакую дзе цяпер знойдзеш? Не валяецца.

— Цяпер галоўнае — конь,— па-свойму думаў Ілья.

— Каму — конь, каму — куртка.

Захар, кажучы, кідаў вачыма па людскіх астраўках, падплоцці, дзе ляжалі і сядзелі, расклаўшыся, бежанцы, шукаў чырвонаармейцаў, але нікога з іх не бачыў.

— Што там у школе? — спытала Ліза, і Захар адчуў, што гэтае пытанне хвалявала яе ўжо тады, як ён падаўся ў вёску.

— Адкуль ты ведаеш, што быў у школе?

— А хіба ж я не пазнала Буланчыка?

— Панасаўну бачыў.

Яго кожная паездка ў Гразівец насцярожвала жонку. У яе да мужа ніколі не было ніякіх западозранняў, але сэрца падказвала, што ён не можа быць абыякавы да гразівецкай настаўніцы, як і Панасаўна не магла глядзець на Падабеда тымі самымі вачыма, што на іншых мужчын. Яго свет быў шыршы, неба над ім вышэйшае, каля яго заўсёды чыста, надзейна, і ў тым, што гэтакі свет мужчыны прываблівае жанчыну, Ліза не бачыла нічога дзіўнага ці забароненага. Хіба сама іншая? Але і насцярожвалася. Даўно адчула: свет гразівецкай настаўніцы — паўшар'е, якому патрэбна другое адпаведнае паўшар'е, а свет Захара, яго думак і пачуццяў, усяго ім пераж̌ытага — таксама паўшар'е, і яны, гэтыя паўшар'і, існуюць блізка, адно другое прызнаючы і прываблівають. Але Захар ведаў большае: паўшар'і могуць застацца паўшар'ямі, а ён і Ліза — не паўшар'і, яны — шар непадзельны, планета, на якой жывуць не ўдваіх. Ен у гэтым быў упэўнены і таму не хаваў ад жонкі ні думак, ні ўчынкаў.

— Дырэктар гуляе вяселле. Выдае дачку. Ну, ты падумай! Знайшоў калі гуляць! У школу возяць дровы. Фарбуюць, беляць. Збіраюцца вучыць пры немцах. Па якіх праграмах, падручніках?

— А ты, Захар, упэўнены, што вяселлі гуляць цяпер нельга? Ці што вучыць пры немцах нельга? Можа, яны, маладыя, даўно адно аднаго кахалі, а цяпер, у бядзе, хочуць быць разам? Можа, разам пойдуць на фронт? Калі гінуць, дык, можа, лепш разам? Ці дзяцей вучыць — па якіх яшчэ кнігах, як не па нашых, савецкіх? А можа, і збаяцца па нашых? Мы з Зосяй пайшлі па хатах. Я за кофту выменяла галоўку масла і сыр, а яна за ленінскія чырвонцы — дулю. Во як!.. А яшчэ ж немцы не прыйшлі?..

Захара не здзіўляла, што жонка думала не так катэгарычна, як ён, пра гразівецкага дырэктара, вяселле, школу, і разам з тым яго радавала, што яна ўсё, што адбывалася, заўважала, як заўважаў і ён,— хоць і з чырвонцамі.

Падышоў Ілья. Цяпер, як Захар прыехаў на кані, ён нібы падабрэў. А спакою не было:

— Дык дзе ты ўзяў каня?

Захар у душы і яго смяяўся — памрэ, калі не дазнаецца. Як жа! Гаспадар Асташонак каня згубіў, а лайдак-настаўнік знайшоў? Адказваць не спяшаўся — хай галаву ломіць.

— Можа, будзем збірацца? — спытаў.

Дарога за вёскай зноў пыліла, узварушаная.

— Пойдзем,— пагадзіўся Ілья.— Тут нічога не высёдзіш.

— Дзе палітрук?

— А навошта палітрук? У яго свая дарога.

Нічога не адказаўшы, Захар адышоў ад Ільі, агледзеўся, заўважыў на другім баку выганчыка, ля лазенкі, чубатую галаву сяржанта — падаўся ў той бок. Але на паўдарозе спыніўся: затрымаў позірк чалавека, злоўлены раптам, краем вока. Ён, доўгі і хударлявы, з доўгім тварам і носам, падобным на трэсачку, стаяў па той бок плота ў жаўтлявым абвіслым світэры і шарачковых штанах, увабраных у халявы ялавікоў, з-за вострa зачасанага колля ўзіраўся ў Захара.

— Не пазнаеш? — гучна крыкнуў, хоць можна было, каб Захар пачуў, спытаць спакайней.

Падабед падышоў да плота:

— А вы пазналі? Не памыліліся?

— Я цябе, настаўнічак, і на тым свеце пазнаю.

Нешта скурчылася ўсярэдзіне ў Захара, не ад страху — ад непрыязнасці, але адказаў спакойна:

— Час гэтакі, што і там можна сустрэцца.

— Але ж бяжыш? Добра падмазаў пяты?

Размова траціла сэнс: нарваўся на дурня ці хворага? Ды кажа: настаўнічак? Ведае, значыць? Хто ён? Гразівецкі?

— Чаму гаворыце, як з ворагам? — спытаў.

— А хто ж ты мне будзеш?

— Вораг у нас з вамі цяпер адзін.

— У мяне з табою? — цынічная ўсмешка на вузенькіх губах рабіла твар брыдкім.— Сваячок знайшоўся? І вораг адзін, кажаш? У каго, можа, адзін, а ў каго два?

Абодва замоўклі, але стаялі, адгароджаныя вострымі каламі плота, елі адзін аднаго вачыма.

— Бяжы-бяжы, парцеец! Нябось глыбака закапаў свой чырвоны білецік? Каб я яго не знайшоў?

Бліснула думка: «Я — не парцеец. Білеціка, на які намякаеш, няма. А вось ты — скаціна». Прыкра зрабілася ад свае думкі: ці гэта — апраўданне? Рукі рвануліся за плот, паміж калоў, каб там, за імі, схапіць злыдня за хаўбоцце. Плот хістануўся, затрашчаў гніллем, і Захар, пэўна, зваліў бы яго пад ногі, каб дацягнуцца, ды ў гэты момант за выганчыкам, ля лазні, хтосьці дзіка зароў. Чалавек, што стаяў за плотам, кінуўся бульбоўнікам у той бок, праз кожны крок падкідаючы ўгару правы плячук, і як толькі Захар заўважыў ягоны бег, дык адразу, з далечыні ці глыбіні гадоў вобраз бліснуў у памяці, адно бліснуў, але не акрэсліўся выразна, не паспеў, бо лямант за выганчыкам пагнаў туды і Захара.

Першае, што пачуў ад людзей, калі бег, дык гэта самае жахлівае, што можна пачуць:

— Чалавека забілі!

Якога чалавека? За што? Хто забіў?

Натоўп гуркнуў да лазні. Там ўжо мільгацела чарнявая Лёнікава галава, але да яго было не дабрацца, і Захар даў задні ход, зайшоў з тылу. Яго заўважыў палітрук — паклікаў да сябе. Людзі прапусцілі Захара. Чырвонаармейцы стаялі за лазняй кругам, а паміж іх на зямлі ляжалі двое ў скрываўленых гімнасцёрках — адзін на спіне, раскінуўшы ногі ў абмотках, з акамянела скрываўленым і скрыўленым ротам, другі — тварам у пясок, з заламанымі назад, звязанымі вузкім салдацкім рамянём, рукамі, у ботах. Каторы ляжаў у ботах, быў жывы. Ён стагнаў, соўгаў галавой у пясок, душыўся

ім і выплёўваў, шкроб зямлю нагамі, як шукаў на ёй камень ці пень, каб уперціся. На карку, абхапіўшы яго, ляжалі навушнікі радыста.

— Што здарылася?

Палітрук узяў Захара за плячо:

— Вядзі людзей на дарогу. Ды хутчэй. Лесам вядзі. Зараз тут будуць нямецкія самалёты.

Дзеці ўжо сядзелі на возе, на клунках, Ліза стаяла ля іх, абапёршыся на драбіны, углядаючыся ў той бок, адкуль паявіўся Захар, а Зося бегала вакол воза, хапаючыся за ўсё і не ведаючы, за што яшчэ хапіцца. Каляска стаяла побач, вяроўкі на ёй былі раскіданы, мяхі Ілья і жанчыны ўскінулі на воз, але два чамаданы і драўляны куфар ляжалі на калясцы — іх не паспелі яшчэ перакінуць.

— Дзе Лёнік? — хвалявалася Зося.— Ну, сынок!

Чырвонаармейца, які не мог не толькі ісці, але і сядзець, ледзь паднялі на драбіны. Мяхі з драбін давялося перакласці зноў на каляску.

Палітрук быў ужо тут:

— Паганяй, настаўнік. Хутчэй! — Сам выцяў каня кійком, і воз тарганууся, зарыпеў, падскокваючы на купінах, старым карэнні, камянях.

Ідучы побач з возам, Захар убачыў, што бежанцы ўжо адхлынулі ад лазні, разбіралі клункі, скрынкі, вёдры, убачыў Ілью, як той паспешліва ўвязваў на калясцы свой скарб, нават пачуў, як матам крыў не то Зосю, што блыталася пад рукамі, не то Лёніка, якога ўсё яшчэ не мог дагукацца, не то яго, Захара, што не ўзяў на драбіны ўсе чамаданы, мяхі. Асташонкаў трэба было пачакаць, пакуль збяруцца, ісці-ехаць разам, але ж палітрук пагнаў, не даўшы на зборы ніводнай хвіліны.

Ужо з бальшака Захар пачуў адчайна-пранізлівае:

— Лёні-ік!

Крычала, нібы плакала, Зося. І наўздагон — матперамат, нібы раскат грому, Ільі:

— Ба-ла-ла-ай!

Захар устрывожыўся: што з Лёнікам, дзе ён?

За спіною грымнуў рэзкі стрэл. Блізка, на выганчыку. Рука з лейцамі смарганулася, але конь не стаў — мацней, стрыгануўшы вушамі, ірвануў наперад.

Ліза схапілася за мужа:

— Што там?

Устрывожыліся ўсе, але ніхто не спыняўся. Азіраючыся, не разумеючы, што адбываецца, беглі яшчэ хутчэй.

— Ці мала што? — як мага спакайней адгукнуўся Захар.— Там палітрук. Можа, сігнал сваім.

Сказаўшы гэта, сам сабе не паверыў. Які сігнал, калі ні ў адным ствале ніводнага патрона? І чаму палітрук пагнаў, як з пажару ці на пажар? Чаму ў адзін момант усе скалыхнуліся, пабеглі? Што здарылася? Што за стрэл?

Дарога вяла ўгару на пляц, высыпаны жарствою, гарачай ад сонца. Там, на пляцы, у цэнтры вёскі, стаяў вялізны, як стадола, драўляны дом, шэры ад гадоў і ад пылу, з нізкімі вокнамі, гнілымі вугламі, высокім, нібы трыбуна, ганкам, у якім размяшчаліся амаль усе вясковыя службы — сельсавет, праўленне калгаса, пошта, хата-чытальня. Дом патанаў у пыле, які ветрам несла з дарогі. Пад сонцам пыл жаўцеў, у жаўцізне ўсё здавалася мроістым, нежывым, і калі Захар заўважыў на ганку Панасаўну, ён яе спачатку не пазнаў: яна ці не яна? Панасаўна пазнала—падбегла да Лізы і Любы, абхапіла абедзвюх, адразу абедзвюх цалуючы. Захар здзівіўся, якая яна ў гэтым жоўта-сонечным пыле непадобная на сябе, састарэлая, нібыта праз пылавую заслону зазірнуў у іншы час, не той, што быў пражыты, а ў той, што пільнаваў наперадзе. Аж спужаўся. Панасаўна совала Лізе ў рукі куртку, пра якую ўжо забыўся, а Ліза, малайчына, куртку не ўзяла, і тады Панасаўна, прыціснуўшы яе да грудзей, адстала ад воза. Яна хуценька ўзбегла на высокі ганак, сарвала з галавы пажоўклую, як усё навокал, хусцінку і махала ёю. Захар доўга, пакуль можна было, бачыў яе, і яму здавалася, што цяпер, з ганка, яна глядзіць на яго аднаго.

За вёскаю пачалося жыта. Добры загон пры дарозе быў зжаты, снапы стаялі ў бабках, ля бабак стаялі жанчыны з сярпамі, моўчкі, нешта думаючы, углядаліся ў бежанцаў.

Далей пачынаўся лес. Захар звярнуў з дарогі:

— Будзем чакаць сваіх.

На драбінах стагнаў пажылы чырвонаармеец, прасіў піць. Збоку сядзеў маладзейшы, як спаў, звесіўшы галаву на грудзі, але стогны чуў — казаў, не расплюшчваючы вачэй:

— Далі б напіцца.

Ліза адкаркавала бутэльку з вадою і ліла чырвонаармейцу ў рот. Ён цяжка глытаў, аблізваў ссохлыя ад спёкі і пылу вусны, зноў адкрываў рот. Ліза ліла зноў, ліла і баялася ліць, глядзела то яму ў твар, то на жывот, дзе крывёю набухала гімнасцёрка.

— Шмат піць нельга,— казала, адымаючы бутэльку ад прагнага рота.

І зноў яе ўгаворваў той, што сядзеў:

— Не шкадуй, сястрыца. Шлункі цэлыя, ваду можна даваць. Нямчук варсануў яго нажом вышэй, у лёгкія. А шлункі цэлыя. Клімавец жывучы. Я з ім ад Слуцка адступаю. Я яго ведаю.

— Адкуль жа сярод вас нямчук узяўся? — спытаў Захар, адчуўшы, што тут нітачка здарэння, якое адбылося ля лазні.

— Ды ішлі як бытта ўсе свае. Радыст ён. Навушнікі, рацыя. Акружэнец, як усе мы. Выходзіў на сувязь як бытта са сваёй, нашай, часцю. А знаходзіў немцаў. Той ноччу нас акружылі. Ледзь вырваліся. І штурмавікоў навёў. Цяпер засеў у лазні, антэну ў акенца выкінуў. Сафонаў пачуў, як ён па-нямецку з эфірам гергеча, накрыў яго. А нямчук — нажом у грудзі. Мы з Клімаўцом туды — на крык. Здаровы, зараза. Ён і Клімаўца паспеў варсануць. У мяне калена разбітае. Гэта — не цяпер, раней.

— А хто страляў? — спытала Ліза.

— Палітрук. Апошні патрон не пашкадаваў. Значыць, сёння ўжо сабакі гада развалакуць.

— Як жа так? — не мог зразумець Захар.— Немца ад нашага чалавека заўсёды адрозніш. Я іх пабачыў. Яшчэ ў тую германскую два разы ў палон трапляў.

— А ён гаварыў па-руску. Апрануты ў наша, салдацкае. І ■ морды — Іван. Пазнай ты яго?

— Значыць, не немец — наш?..

Пад лесам, дзе спыніўся Захар, бальшак дзяліўся на дзве дарогі. Адна вяла налева, паўз лес і жыта, другая шылася ў цёмны глухі хвойнік, а паміж іх, на самай ростаньцы, з-пад аграмаднага ледавіковага каменявалуна біла крыніца, і над ёю стаяў вялізны дубовы крыж. Крыніцу называлі Святой, і кожны чалавек, які сюды дабіраўся, браў з яе ў дарогу вады, хоць бутэлечку, тут піў, тут мыў твар, вочы, бо здаўна лічылася, што вада гэтая лечыць боскай сілаю. А крыж

стаяў аброчны. Гэтакія крыжы ў старыя часы стаялі па ўсёй Беларусі на ростанях, выводзілі [redacted] вёсак, і Захар на іх нагледзеўся яшчэ ў маленстве, цягаючыся па свеце з Грынькам. Стаяў крыж і ля Каранькоў. На ім заўсёды віселі ці ручнік, ці вяночак. Аднойчы, калі пакідалі вёску на ўсё лета, свой ручнік павесіў на каранькоўскі крыж Грынька. Тады ён сказаў Захарку, што, вешаючы ручнік, яны даюць крыжу аброк вярнуцца ў сваю вёску. Грынька пацалаваў і ручнік, і крыж, стаў на калені, перахрысціўся і прашаптаў малітву. Усё гэта побач з Грынькам зрабіў Захарка. Толькі не сказаў малітвы — не ведаў.

Тут, за Гразіўцом, аброк давала столькі людзей, што крыж схаваўся пад ручнікамі ды вянкамі. Нехта павесіў белую, вышываную чырвонымі пеўнікамі кофту, нехта — суконную камізэльку.

Ля крыжа стаяў дзед — маленькі, у вялізных лапцях, у споднім сарочцы. Твар — як у Грынькі: дробны, чырвоны, густа пасечаны маршчакамі. Захар запыніў на ім позірк не таму, што пазнаў штосьці ад Грынькі, калянула думка: ці не [redacted] ягоных вузкіх плечукоў камізэлька? Яму на сарочку яе проста не хапала. Стары трымаў у руцэ капшук, шчэпцем раздаваў тытунь па газетных шматках, за якімі цягнуліся рукі, і сярод ахвотнікаў прысмаліць на дармавінку Захар заўважыў Ілью. Той ужо атрымаў сваё, прыпаліў цыгарку і керхаў.

— Ілья? Ну, ты нас увагнаў у страх! Стаім і гадаем: ці ўперад ехаць, ці назад?

Але Асташонку было зараз нібыта не да Захара: керхаў ды зноў зяцягваўся, паглядаючы на старога.

— Моцны мультан, зараза. Ну, моцны!

Не ён адзін кашляў, і стары ўсё роўна як здзекаваўся са слабых курцоў:

— Ну, хто яшчэ смелы?

— Паехалі, Ілья.

А стары ўжо і да Захара з капшучком:

— Дымні, настаўнік?

— Ад душы?

— Не грашы — дымні!

Захар, пакуль стаяў, звярнуў увагу на тое, што з дзвюх дарог, якія вялі ад крыжа-аброка, людзі выбіралі добра ўезджаную левую, што паміж лесам ды полем, і калі павярнуў направа ў ельнік, бежанцы, якія

сабраліся ля воза, за ім не пайшлі. Засталіся нават тыя, хто дагэтуль ішоў з ім, давяраючы.

— Людзі, бачыш, не ідуць? — заўважыў Ілья.— Дарога нятораная. Куды яна?

Каня Захар запыніў, але не пагадзіўся:

— Тораная на Клімавічы, а там — Варшаўка.

— А гэтую ты ведаеш? Хадзіў па ёй?

Захар гэтай, на якую выехаў, не хадзіў і не ездзіў. Ад людзей чуў, што левай хадзілі-ездзілі на Клімавічы, правай — на Касцюковічы. Клімавічы бліжэйшыя, таму і дарога тарнейшая.

Падышоў табунок жанчын у белых хустачках, з клункамі на спінах:

— Вунь чалавек дарогі чытае, мясцовы. Усім паказувае паўз лес. Іншай, кажа, нямашака.

Ілья ўхапіўся:

— Дзе ваш чалавек?

— А вунь — рукамі махае...

Гэта быў той самы, Захару знаёмы, танклявы, у шэрым абвіслым світэры, з носам-трэсачкай. Цяпер, убачыўшы яго, Захар адразу успомніў далёкі, за гадамі, як за лясамі, дваццаць дзевяты год, зазімак з белымі мухамі над чорнай голай зямлёю, Васькаўскі хутар праз куртаты, на балотах, бярэзнік ад Гразіўца, мажару з мяхамі збожжа, маўклівага гарбуна і гэтага, тады яшчэ стрыгунка, прыгнутага пад мехам, калматага дварняка на ланцугу, маладзенькага, як гаспадар-стрыгунок, чырвонаармейца ў дзіравых чаравіках, абмотках, старым доўгім шынеліку і ў будзёнаўцы з абшарпаным, аж белым, шышаком і бялесай плямкай на лбе ад згубленай зорачкі. У руцэ чырвонаармеец псціскаў наган, то соваў ў кішэнь шыняля, каб падхапіць мех са спіны стрыгунка, кульнуць у мажару, то зноў выхопліваў з кішэні, настаўляў на гаспадара ці гаспадыню, якія не пускалі сына з мехам да мажары. Яшчэ запомніліся хлапчукі і дзяўчынкі, пяцёра ці болей, усе малыя, на ганку. Яны туліліся адно да аднаго, напужаныя, глядзелі на ўсё, што рабілася, вялізнымі разгубленымі вочкамі.

Захар быў кінуўся ў натоўп да носа-трэсачкі, але той усё роўна як пад зямлю праваліўся. Азірнуўся: тут як тут — жанчыны ў белых хустачках.

— Дык дзе той ваш... разумны?

— Вось быў — нямашака. А казаў, сёроўна як ве-

дае. Мы не тутэйшыя, далёкія, нам трэбо слухаць, што кажуць людзі тутэйшыя.

Захар па гаворцы бачыў, што нетутэйшыя. Гэтую гаворку ён чуў яшчэ з той германскай вайны, седзячы ў акопах пад Брэстам. Здзівіўся сам сабе: усю Беларусь прайшлі!

Падышла жанчына з дзіцем на руках, мурзатым, сівенькім ад пылу:

— Не кажы, дзядзька. Ён, той, можа, не ўсё петрыць, але ногі яго дарогу чуюць. Свая — яна і ёсць свая. І дарога.

Жанчыны Захару падабаліся разважлівасцю. Ён наогул любіў разважлівага чалавека. Ахвота з'явілася і гаварыць:

— Ды ён, той, сапраўды ўсё тут ведае. Блізка ягоны Васькаўскі хутар стаяў. Бацьку раскулачылі, выслалі. А ён кінуў малых брацікаў ды сястрычак на самапас, пайшоў у банду. Як жа яму не ведаць тутэйшай дарогі? Але якія паказвае? І — каму? Я вось хацеў у яго спытаць — ён ад мяне уцёк. А вам доўга, відаць, даказваў, як немцу ў зубы трапіць.

Вакол Захара сабралася шмат жанчын, і ўсе цяпер, яго пачуўшы, маўчалі. Адно тая, з дзіцем на руках, разгублена шаптала:

— Во гад! А прыкідваўся...

Яна сама мела выгляд дзіцяці ад драбнаты, зморанасці, але ў твары, як прыгледзішся, ляжалі сляды немалых гадоў. Нервова хапаючы дзіця за носік, выціскала сопелькі, пальцы выцірала аб спадніцу, аж дзяўчынка ўздрыгвала, круціла галоўкай, хоць зацята, як ад перапуду, маўчала, і ў гэты час выразна глядзелася асколачкам люстэрка свае нервовае маці, як маці — яе люстэркам. Калі Захар узяў малое на рукі, яно, лёгенькае, нібы пушынка, даверліва прыхінулася да пляча галоўкай. Падняў на воз, пасадзіў паміж чырвонаармейцам, які драмаў, звесіўшы з драбін ногі, і сынам. Жанчына падышла да воза, ухапілася рукой за драбіну, і Захар, убачыўшы, што цяпер яна яе не выпусціць, гатовая доўга ісці побач з возам, туды, куды ён будзе кіраваць, смаргануў лейцы:

— Но-го, Буланчык, паехалі!

Конь слухмяна зрушыў воз, а Захар у той самы момант падумаў: чаму цяпер, калі незнаёмая жанчына даверліва аддала малую на воз, ён скамандаваў гэтае

«но-го, Буланчык!»? Не спытаў, ці ехаць далей, ні ў Ілы, ні ў Лізы, ні ў палітрука, толькі вачыма стрыгануў па возе, па дзецях і — «Но-го!» Усё роўна як яна, чужая, выпадковая на яго дарозе, жанчына, ды і тыя, у белых аднолькавых хустачках, загадалі ехаць. Захару зрабілася няёмка перад Ільёй, ужо не за тое, што пакінуў там, ля лазні,— за тое, што цяпер, паганяючы каня, на момант забыў пра яго. Каб згладзіць віну, павярнуўся да швагра:

— Бачыш? Там палітрук нас гнаў, напужаў самалётамі. А ў небе ціха. Вось і навука: бегчы — бяжы, але і азірайся, каб сваіх не пагубляць.

Ілья нібыта не зразумеў:

— Маўчы, не пераскочыўшы рэчку.

Захар зноў, цяпер — удзячна, зірнуў на Ілью, бо Ілья, гэтак адказаўшы, як бы апраўдваў і палітрука, і яго, Захара, за тое, што ад лазні вельмі хутка, нібы ўцякаючы ад сваіх, патарахцеў з возам.

Дарога пайшла — нагам адпачынак. Ні калдобін, ні пылу, ні гразі, раўнюткі муражок, па якім даўно ніхто не ехаў і не ішоў. Усе ішлі ціха, нібы ў асалоду. Парыпвала віхлястае задняе кола, за спіной у Захара танклявую песню выцінала каляска, ціха брынчэла вядзерца, нехта зрэдку пакашліваў, маўчаў на возе чырвонаармеец, нібы тут, на гэтай мякчэйшай дарозе, яму адпусціла ўсе болі. Зрэдку хто-небудзь кідаў слоўка, але ўсе словы — нібы ў ваду: булькне — і ціха. Чакай, калі зноў булькне.

Ціша Захара ніколі яшчэ не пужала. Часцей яе шукаў, як пазбягаў. У ёй чуў трываласць, сваё паразуменне са светам. Цішыня пасабляла дайсці думкай да нечага важнага, патрэбнага. Вось і цяпер — аціх натоўп, і ў галаў палезлі думкі-пытанні: хто той радыст? а раптам — памылка? а раптам — нізашто забілі чалавека? забілі — ці закапалі? свайго Сафонава на каго пакінулі? ці пахавае вёска ў гэтай калатнечы? І адразу частакол уваччу — спыніў усе пытанні. За частаколам — нос-трэсачка. Ні твару, ні вачэй, ні таго жыцця, што абавязкова, хоць якое-ніякое, павінна існаваць на твары, проста нос-трэсачка, ражонца танклявае, а пазнаў — ён, злыдзень. Спачатку разгубіўся: чаму — злыдзень, вораг? чаму мы з ім ворагі? чаму ўсе мы — я, Ілья, жанчыны ў белых хустачках, жанчынка з малым на руках...— яго ворагі? ці ён

ворагам нарадзіўся? чаму падлеткам-стрыгунком пайшоў у банду? таму, што раскулачылі і вывезлі бацьку? за што вывезлі? за тры мяхі збожжа, схаванае ад улады? а за што раскулачылі браценіка Сідара, калі той настаўнічаў у вёсцы, не меў ні каня, ні каровы? можа, і той васькавіцкі гарбун, бацька носа-трэсачкі, не большы кулак, як Сідар? можа, і яго, Захара Падабеда, трэба было, як Сідара, раскулачваць — абодва ж настаўнікі? І тады — чаму з ім, Захарам, атрымалася наадварот — сам пасабляў выяўляць схаванае ў кулакоў збожжа? і чаму ён гэтым займаўся? і ці толькі гэтым?.. Чым у тыя гады настаўнік не займаўся, куды яго толькі не кідалі? Сеяў, жаў, араў, валіў і вазіў лес, быў на сяле і артыстам, і агітатарам, і міліцыянерам, і ўпаўнаважаным па хлебе, нядоімках, і першым штыком супраць банд. Чым стаў бы, калі б не сустрэў на сваёй дарозе Грыньку, ці пані Краснеўскую, ці Акуліка?..

Свеце ясны, колькі гэтых пытанняў вісела над яго сівой галавою? Віселі і маўчалі, пільнавалі, калі выдасца зацішная хвіліна — тады ўжо ад іх не бачыў ратунку. І што за Акулік? Адкуль прозвішча? Усё роўна як нехта некага гукае: Аку-лік! А-ку-лік! Ку-лік! Птушку гукае? Птушыным голасам?

Злавіў яго, птушыны, а тут — жончын:

— Што за чалавек, Захар? Чаму ён хацеў нас збіць з дарогі? Гэта той, што ля студні, зверам глядзеў на цябе з-за плота?

— А ты яго там бачыла?

— Баялася, каб вы не счапіліся. Звер зверам.

— Памятаеш Васькаўскі хутар? Я табе расказваў, як раскулачвалі. Гаспадара выслалі, а дзеці з маткаю засталіся. Поўная хата малявак. Дык гэта старэйшы з дзяцей. Я пазнаў. І ён мяне пазнаў. Збожжа ў іх забіралі. Даўно было.

— О, божа! Іх хату сельсавет заняў?

Яна вымавіла гэта спалоханым, як вінаватым, голасам. Захар паглядзеў на яе — віна была і ў твары.

— А ты? Ты — пры чым? Сельсавет — не ты?

— А нас з Панасаўнай туды, на хутар, завезлі бульбу выбраць з ямы. Яны, дзеці, жылі ў лазенцы, маленькай-маленькай, з адным сляпым акенцам.

— Калі гэта было? Ты ж не казала?

— Ну, не тады, як тое збожжа. Як у раён прыязджаў

Гікала? Памятаеш? Хто ён быў? Першы сакратар ЦК? Выступаў у клубе. А назаўтра нас, настаўніц, пагналі па вёсках забіраць ў людзей бульбу. Калі гэта было?

— У трыццаць трэцім?

— Зімою. Як галадоўка была на Украіне, людзі мёрлі. Дык я памятаю. Гэтыя, васькаўскія, у Панасаўны вучыліся. Ямка была ў лазні, у прымыльніку. Сельсаветчык загадаў лезці ў ямку, выграбаць бульбу. Панасаўна палезла — і няма. Палезла я. А яна, бачу, стаіць у ямцы, тварам у сценку, плача, аж калоціцца. А сельсаветчык зверху крычыць, чаму нас не чутна. Я села браць у мех бульбу. А там той гнілой бульбы — пяць вёдзер. Стаю, як дурная. Тады сельсаветчык — скок да нас у яму: «Вы чаго не насыпаеце мех? Вам шкада ворагаў народа?» Панасаўна як заплача ўголас. Ён яе ў плечы: «Ану з ямы!» На мяне: «Трымай мех!» Трымаю, рукі трымцяць, а ён сам набірае ў вядро і сыпле, набірае і сыпле. Усю чысценька падабраў, не пакінуў ані бульбінкі. Вывалак мех з бульбай на двор, на снег, а жанчына, матка тых васькаўскіх дзетак, як кінецца на мех жыватом — у крык-лямант: «Не дам, ірад! Чым дзетак карміць буду?» Скінуў ён бабу з меха, мех — на калёсы, і пагнаў каня. А мы [illegible] Панасаўнай плачам, адна да адной прыціснуўшыся. Баба на снезе — аж разрываецца ад ляманту, дзеткі пазабіваліся ў лазню, тварыкамі белымі ўставіліся ў акенца. А хлопца, вялікага, не памятаю.

—А ён тады [illegible] бандай хадзіў. Пайшоў, як бацьку забралі, з хаты сям'ю выкінулі.

— А як жа, Захар, тыя дзеткі? Ці выжылі? Панасаўна табе не казала? Помню, тады... Глядзяць з-за бруднай шыбкі, тварык ля тварыка, на матку ў снезе, на свой дом, а над іх домам — флаг сельсавецкі, чырвоны. А яны... Ці, можа, не выжылі ў тую галадуху— памерлі?

У Захара ў самога ў галаве было поўна пытанняў і зусім мала адказаў. Як жыў на адным месцы, працаваў, было іх, здавалася, куды меней, а цяпер, як апынуўся на дарогах сярод розных людзей, як убачыў зямлю шырэй, чым бачыў,— не было куды ад пытанняў дзецца. Што адказаць жонцы на ўсё, што ўспомніла?

— Ідзі да Ільі, пасабляй пхаць каляску. Ідзі.

Як прагнаў ад сябе. І тады зноў у галаве загукала: «Ку-лік! А-ку-лік!»

І вось, пачуўшы гэты голас другі раз, убачыў круглы твар, нос шырокі, з ямкаю пасярэдзіне, перабіты, падбародак у жаўтлявай шчаціне, вочы вузкія, сумныя, заплытыя гноем ці слязьмі. Успомніў палкавога пісара, зямелю з-пад Прапойска. Ростам маленькі — птушка-амялушка, з кукіш днушка, як казалі ў палку. А што было б з ім, Захарам, калі б не тая амялушка? Кукіш і атрымаўся б, можа? Гэта — у акопах пад Баранавічамі, у семнаццатым. Блізка сышоўся тады [redacted] пісарам Акулікам. Сам ужо быў прапаршчыкам. Ведаў грамату — даслужыўся. І Георгія на грудзь павесілі не за дурыкі — за баявыя заслугі. Крыж яшчэ блішчаў сонейкам, туманы восеньскія не з'елі бляску, калі камандзір эскадрона, вусаты чарнявы хахол-палтавец, прыліп са сваёй агітацыяй: едзем, Падабед, на Украіну — там жыццё кавалеру Георгія! А ў самога Георгіяў — тры. На Украіне, казаў, фарміруюцца баявыя палкі з адных георгіеўскіх кавалераў — вось сіла! Ну і што рабіць: ехаць — не ехаць? Лепей, вядома, у сваю вёску, але ж трымае акоп? Праўда, ужо і бегчы з акопаў пачалі. Хоць і армія, дысцыпліна знікала. Быў паддаўся на ўгаворы палтаўца, ды якраз Акулік падвярнуўся. Ты, кажа, здурнеў бегчы? З кім? Ці ведаеш, куды цябе эскадронны зманьвае? Там фарміруюцца палкі супраць Леніна, а Ленін адзіны, хто дасць мужыку зямлю, мір і хлеб. Вяртайся, кажа, у сваю вёску, там пасядзіш, агледзішся, тады і ўбачыш, за каго ісці. Як сцямнела, з'явіўся зямляча-пісар у эскадрон, знайшоў Захара. Прайшліся туды-сюды, дайшлі да лесу. Уся размова — пра вёску, зямлю, сваякоў, якія ў каго дома на Магілёўшчыне. Зайшлі ў лес — Акулік суе Захару пад крысо шыняля анучу з пакетам. Тут, кажа, твае дакументы, бяжы з імі праз лес да рэчкі, бяры яе ўброд, лясы пойдуць да самае Магілёўшчыны. Вось які аказаўся пісар Акулік. Вывеў на дарогу, не даў заблытацца. Дык, можа, і васькаўцу, носу-трэсачцы, на нейкай пуцявіне, ля нейкага крыжа, патрэбны быў гэтакі Акулік? Калі ішоў у банду. Замест Акуліка сустрэў на дарозе свайго эскадроннага, як палтавец, і апынуўся па той бок плота. Не толькі ад яго, Захара. Ад палітрука, ад бабак у белых хустачках, ад жанчынкі з дзіцем — ад сваіх людзей.

Захар агледзеўся і здзівіўся: ці не ўвесь той народ, што ішоў там, ля вёскі, праз жыта, дарогай адзінай

і ўшчэнт, да дзесятага пяску, выбітай, рухаўся цяпер за ім, хоць тут і дарогі, можна сказаць, не было, проста доўгі, нібы дарога, прагал ляжаў паміж лясных сцен. Калі ўсе ішлі за ім, дык гэта азначала, што ніхто не пайшоў тою, на Клімавічы, дарогаю. Кінуўшы вачыма ў адзін бок, у другі, убачыў і Зосю з Лізаю, і Лёніка з Любаю, і палітрука, Ілью — усе ішлі. Па-ранейшаму трымаючыся за драбіны, ішла жанчына ў чорным мужчынскім пінжаку. Позірк на ёй затрымаўся, і здагадаўся Захар, чаму там, ля крыжа, як бы па яе волі, адчуўшы яе згоду, ён рушыў на доўгі прагал. За ёю стаяў гэты, што выцягнуўся ў прагале, натоўп бежанцаў, стыхіярака людская, яны ўсе былі такія, як яна, як жанчыны ў белых хустачках — звёны ланцуга, што падсвядома, нейкай таемнай сілай і воляй Захар вёў за сабою і весці які ён ужо быў абавязаны. Усё было рухам, які ён не мог да канца ўсвядоміць, як быццам і не імкнуўся гэта зрабіць, які можна было толькі адчуваць, прадчуваць, бачыць.

Як і яны, мажа, адчувалі сваю сувязь з ім.

Дзень цягнуўся доўга. Ішлі, пакуль не сцьмелі палі і лясы, пакуль у небе не прабіўся бляклы месячык, хоць і з'явіўся яшчэ як сонца за лес хавалася. Даўно б зваліліся дзе на абочыне, ды то лес цягнуўся бясконца панура, ельнік ды вольхі, то поле — бульба, буракі, бручка. Хоць бы жыта на мяккім пясочку ці якая вёсачка-разваляха?!. Яшчэ і хмаркі нагнала. Дажджу амаль не было, а траву змачыла.

Ішлі, пакуль не прыбіліся да гумна ў полі, над якім змрочна стаяў вятрак. Быццам лёс пашкадаваў бадзяг, падарыў за пакуты гумно. Ды яшчэ і пры самай дарозе. Ды яшчэ і вятрак.

Каля гумна гарэла вогнішча. Двое мужчын і старая палілі аконную раму, абраслую гноем. На ламаччы варылі ў чыгунку.

— Дзе тут абначыцца? — спытаў, паздароўкаўшыся, Захар.

Старая варушыла белымі вуснамі, лыпала вырачанымі, нібы ў вар'яткі, вачыма, пад якімі смыргаліся сінія мяшкі. Нешта намагалася сказаць, але ніводнага слова ад яе нельга было пачуць.

Азваўся мужчына:

— У гумне месца хопіць. Лепшага начлегу не знойдзеш.

— А дзе тут каня пусціць? — пацікавіўся Ілья.— Каб і ў шкоду не ўлез, і галодны не застаўся.

Ён ужо выпрагаў. Ужо два чырвонаармейцы, якія ўсю дарогу ішлі побач з возам, падхапілі з драбін на рукі параненага, каб аднесці яго ў цёплае гумно.

— Дзе пусціш, там і будзе хадзіць,— не адразу загаварыў другі мужчына.— Якая цяпер шкода?

У гумне стаяў храп. Што людзей тут поўна, Захар адчуў адразу, як зайшоў Лізай і дзецьмі, хоць разгледзець што-небудзь у цемені было немагчыма.

У баку ад варот сунуліся на кучу нейкага амецця — яго і разгрэблі пад бакі.

Прачнуўся Захар на золку. Штосьці пабудзіла, не іначай, бо сам, без дай прычыны, пасля пройдзенага за дзень, не ўсхапіўся б гэтак рана. Усе яшчэ спалі. Ён памацаў побач Васю, які ўгрэўся паміж ім і Лізай, нацягнуў яму на плечы свой пінжак, хоць холаду ў гумне не пачуў. Пад пінжаком шаматнула. Сунуў туды руку — паперы, вываліліся з кішэні. Сабраў іх у жменю. Ляжаў і глядзеў угару, на лапік яшчэ цёмнага, зорачкамі прабітага неба. Страха была дзіравая — падумаў: не гаспадары тут жывуць.

Пачуўся шэпт. Мужчынскі. З хвіліну пастаяла ціша, а потым данёсся жаночы голас — смялейшы ці зласнейшы:

— Не чапай мяне. Людзі кругом.

Грамчэй азваўся мужчына:

— Людзі спяць.

— Дык і што, калі спяць? Усё роўна — людзі.

— Га! — Мужчына не то з'едліва, праз смех, кпіў, не то шчыра злаваў.— Каму сябе беражэш? Заўтра, можа, абое з зямлёю абдымемся. Ці чакаеш?

Спытаў жорстка, але самае жорсткае не дагаварыў, як спужаўшыся сваёй думкі.

У гумне было святлей, чымся ўчора, калі клаліся. Можа, што зоркі праз страху ззялі зырчэй, а можа, світала.

Зноў пачуў, як жанчыну ўгаворваў мужчына:

— Не плач, дурненькая. Не малая.

Грымнула, усе роўна як штосьці звалілася з вышкі на ток. І ціха-ціха зрабілася. Абое там быццам прытаіліся і слухалі: ці не прачнуўся яшчэ хто?

Ад грукату Ліза перастала сапці, як не дыхала. Зноў засапла.

Нешта шарганулася ўбаку, пачуўся дрыготкі, з няроўным дыханнем, жаночы голас:

— Не трэба, кажу! Ну?..— І ўжо з перапудам: — Ой! Куды ты-ы... зараза?

Захару захацелася падняцца і выйсці з гумна, ды цяжкой спіны было не адарваць ад мяккага амецця, ногі нылі, як патузаныя сабакамі, гарачыя, нібы апечаныя, падэшвы чулі дарожны жвір, усё роўна як той жвір прырос да іх.

Прыўзняўшыся, убачыў пасярэдзіне гумна малатарню. З-пад яе выпаўзала жанчына ці дзеўка. Устала, абмяла далонню каленкі, спадніцу, падхапіла з току вопратку і, крадучыся, каб ніхто не пачуў, матлянулася да прачыненых варот, у шчыліне якіх то яснела, то шэрхла, быццам недзе за гумном штосьці ўспыхвала і гасла. Які белы агонь? Ці бліскавіцы?

У тым святле з'явіўся мужчына. Прыслухоўваючыся, пастаяў, у напрамку варот бліснуў электрычным ліхтарыкам і выйшаў за вароты.

Па постаці, якая выразна акрэслівалася на шчыліне зыбкага знадворнага святла, па ліхтарыку Захар угадаў палітрука — ён адзін меў гэткі трафей.

Адкрыццё было нечаканым. Падабед зноў лёг, уставіў позірк у высокую гнілую страху. Зоры трацілі начную ядранасць, жоўклі. Ляжаць рабілася мулка. Прыўзняўся, усхапіўся на ногі і падаўся ў вароты.

Далёка-далёка, дзе ўспыхваў і гаснуў белы агонь, спакойна яснела. Чысцелі неба, прыгуменне, сцены гумна, ямкі, выбітыя капытамі жывёлы, пацяруха ад шэрай саломы і кастрыца пад нагамі. Двор быў з аднаго боку абгароджаны жэрдзем, зелянела лагчына, за якую яшчэ чапляўся туманок. Было свежа, нават сцюдзёна, але раніцу ўжо грэла песня драча. Калі клаліся і ўначы ніякага драча чуваць не было, а цяпер, на золку, і ён прачнуўся.

Углядаючыся ў тумановую бель, Захар заўважыў дзве постаці. Яны то стаялі на адным месцы, то рухаліся, набліжаліся з глыбіны не то поля, не то пашы, станчэлыя ў тумане, з яго лахманамі на плячах і галовах. Захар здагадваўся, што там палітрук і жанчынаю, і, каб не трапіць ім на вочы, як падыдуць блізка, падаўся за гумно.

Ад учарашняга вогнішча ляжала чорнае вугалле, яшчэ курэў дым. Стаялі і драбіны, і каляска з мяхамі.

У задку драбін тырчэлі Асташонкавы ялавыя боты. Ілья спаў адзін на мяхах, накрыты сваёй скуранай курткаю.

Далей не пайшоў — сеў пад возам на аглоблю, каб ужо тут і дачакацца, калі прачнецца Ілья, з гумна выйдзе Ліза з дзецьмі, з'явіцца з канём Лёнік. Але з таго цяпла, што ў гумне, адразу адчуў, што куртачка на ім лёгкая, не сагрэе, і ўставаць ужо не хацелася. Захінуў на грудзях крысо за крысо, шчыльней, каб не пусціць да сябе блізка ранішні холад. Пад крысом, на грудзях, шаматнулі паперы. Дастаў іх з кішэні. Чытаць было цемнавата, ды і не было ахвоты. Зноў засунуў у кішэню.

Як не выспаўся: вочы змружвала, галаву, цяжкую яшчэ ад учарашняй стомы, гнула ўніз. Але куды ўжо спаць? Нечым трэба было адбіцца ад санлівасці — зноў дастаў з кішэні паперы. Сляпуючы, прачытаў старонку. Гэта было хадайніцтва чалавека перад уладамі, каб яму далі ссуду, выпісалі лес і цэглу на хату, бо жыве, як пісаў, у братавай хаце, а ў таго свае дзеці дробненькія і хваравітыя, усім, як сядуцца, не павярнуцца, спяць на падлозе ўпокат ад покуці да парога. Ні назвы вёскі, ні прозвішча, хто пісаў, Захар не знайшоў, мабыць, яшчэ была нейкая старонка, але ці гэта цяпер важна? Вось — яшчэ ўчора чалавек думаў, як зляпіць хату, каб жыць па-людску, а сёння — ці патрэбна яна яму? Хацеў чытаць наступную паперку, ды ні слова не разабраў: літары па макавіне. Зажмурыўся, пасядзеў гэтак ■ хвіліну, вочы расплюшчыў, а ўжо — стаіць палітрук, ліхтарыкам бліскае.

— Не спіш, настаўнік?

— Вайна закончыцца — адаспімся.

— Як жа цябе? Ідзём разам, а як зваць — не ведаю.

Захар назваўся. Назваўся і ён:

— Аляксей Зубараў. Іду ад Баранавіч.

— З акружэння?

— Было. Цяжка выходзілі. Дарогі адзаду і наперадзе ў немца. Што за паперы? Школьныя сачыненні?

— Людскія скаргі, прашэнні. Учора былі адны раны, а сёння другія. А заўтра — якія будуць?

— Адкуль яны ў цябе?

— Вецер па гарадку ганяў, а я падабраў. Цяпер ёсць што чытаць. І цікава, і карысна.

— Цёмна, каб сляпіцца.

— Асабліва як вялікія грамацеі напішуць. Іншы накруціць, аж вочы выварочваюцца.

Палітрук падаў ліхтарык:

— Вазьмі. Цікавае прачытаеш — раскажаш.

Захар ліхтарык узяў, але трымаў цацку ў руках першы раз, не ведаў, як карыстацца. Палітрук дакрануўся да ліхтарыка адным пальцам, шчоўкнуў сабачкаю — запаліў. Яшчэ раз шчоўкнуў — выключыў. Цёпла, як свайму, усміхнуўся, і Захар падумаў: вось — як не той чалавек, што ўчора ледзь стаяў на нагах, гаварыў і спаў, абапіраўся на кій і падаў знясілены. Цяпер і гаваркі, і паголены, памыты. Нават гімнасцёрка пазашываная, залапленая. Чуб здаваўся чарнейшы, блішчаста звісаў на чысты круты лоб. Відаць было, што памаладзеў не аднымі сваімі стараннямі, але і клопатам жаночых рук. Калі паспеў?

— Ці будзем сёння ў Касцюковічах?

Цяпер Захар мог сказаць пэўна:

— Будзем.

Прачнуліся пеўні. Адзін — гарласты, блізка за гумном, другі — хрыпаты, прастуджаны ці стары. Адзін аднаго прывецілі: «Доб-ры ра-нак!» І прагналі палітрука ў гумно. Захар сядзеў і чакаў, калі зноў пеўні загалосяць. Але голас падаў Ілья — захроп.

Захар сам сабе ўсміхнуўся: малайчына Ілья — спаць дык спаць, пакуль ціха, не грыміць. Бліснуў ліхтарыкам на паперку: «Заява». Ліхтарык выключыў — можна было ўжо і без яго чытаць.

Павеяла цёплым пячным духам, як можа павеяць толькі ад блізкай вёскі, што прачнулася ад свайго адвечнага клопату. Захар пачуў яго і носам, і шлункамі чалавека, які лёг нічога не еўшы. Пра гэта рана было думаць, і ён зноў сунуў вочы ў паперку: «За верную службу цару-бацюхну настаўнік Падабед З. М. заробіў Георгія і мае ў Асавецкім лесе закапаны чыгун золата».

Во як! Кроў шыбанула ў твар, апякло ўсяго, і ўжо ні тых пеўняў не чуў, ні таго салодкага пячнога духу. Вочы не адрываліся ад паперы: «Апынуўшыся ў германскім палоне, не толькі вывучыў нямецкую мову, але яшчэ наладзіў сувязь з нямецкай разведкай. Працаваў у Горках, але там разгадалі яго варожую дзейнасць, і ён быў вымушаны адтуль збегчы, замятаючы сляды, у вёску Асавец. Цяпер вораг народа прытаіўся і чакае сваіх германскіх гаспадароў...» Тут аркуш быў разарваны. Што пісалася далей? Хто пісаў? Почырк роўны, ніводнай памылачкі, коскі нават усе на месцах.

Сумненняў няма — пісаў настаўнік. Але — хто? У Асаўцы гэтакага не было — Захар быў упэўнены. Дык дзе ён — гэтакі? Хто — ён?

Захар збянтэжыўся адно ў самую першую хвіліну, зусім не чакаючы, што ў кішэні гэтакая паперка, але цяпер, прачытаўшы, адчуў зусім іншае. Гэткія паперкі на яго пісаліся і раней, недарма ён ад іх і бегаў, і цярпеў, але цяпер, калі вакол грымела не такая бяда, зрабілася не то смешна, не то прыкра — людзі-людзі! Раптам падумаў, што, можа, вайна і прыйшла ў нейкай узаемасувязі з усімі гэтымі паперкамі, начытаўшыся якіх за гэтыя дні, яго ўжо гнула на рвоцікі? Ва ўсякім выпадку, вайна ўзняла вецер,які растрос, як смецце, паперкі, усё роўна як яны і чакалі гэтага ветру. Якога іншага ветру яшчэ былі вартыя? Агню! Толькі агню! Ад гэтых думак зрабілася страшнавата, бо атрымлівалася, нібыта ён знаходзіць апраўданне вайне. Што з ім? Заблытаўся? У гэтым было больш праўды — адчуў: заблытаўся. І ўжо [illegible] гэтай думкай пачаў супакойвацца, ведаючы, што тут не самая вялікая бяда, што большая бяда, калі не адчуваеш, што заблытаўся. Тады ўжо — і дурань поўны, і бяда жахлівая.

Цяпер, калі зноў схаваў паперкі ў кішэню, калі думаць пра іх не хацелася, а ў душы засталася лёгкая прыкрасць, зноў пачуў вясковы цёплы дух, бульбяны ды хлебны, салодкі і гаркава-кіслы адначасова — дух жыцця, такога, якое ведаў. Гэты дух быў вельмі блізкі, дарагі — свой. Усё роўна як яго прынесла ветрам [illegible] Каранькоў ці Асаўца. Але ў гэтую хвіліну павеяла не адтуль. Была ў жыцці яшчэ вёсачка. І была яшчэ раніца.

У трыццаць сёмым годзе, недзе ў канцы жніўня, за тыдзень да пачатку заняткаў у школе, ён вяртаўся цягніком з Мінска ў Асавец. Дакладней, цягніком ехаў да Крычава, а далей, кіламетраў трыццаць, трэба было дабірацца пехатой, не спаткаўшы спадарожны грузавічок ці якую падводу. Гэтакая дарога чакала. Але раптам ён яе зблытаў, калі, не даехаўшы да Крычава, сышоў на маленькай станцыі Цёмны Лес. І памылкі ў тым ніякай не было. Выйсці з вагона ў Цёмным Лесе загадала даўняе патаемнае жаданне, якое непакоіла заўсёды, калі цягнік, якім ехаў, спыняўся на гэтай станцыі. Калі-нікалі яно было цьмяным, калі-нікалі моцным, а той раз — невыносным: схапіў з лаўкі партфель,

напханы ў Мінску кніжкамі, і хутчэй, пакуль не пакінула рашучасць, саскочыў з жалезных вагонных лесачак на заліты чорнай смалою шчэбень перона.

Цягнік у Цёмным Лесе стаяў хвіліну, не болей, і як толькі Захар адышоў на абочыну, вагоны затузаліся, пабеглі па рэйках далей. Агледзеўся: можа, якая падвода да Меншай Багацькаўкі? Падводы не ўбачыў. Падышоў да жанчын, распытаў, як выйсці на багацькаўскую дарогу.

Чуткі, што Гарэцкага ў Беларусі няма, што ён у Вятцы, да Захара даходзілі, але падштурхнула на гэты крок нечаканая сустрэча ў Мінску з калегам Міколам Цітаўцом, які быў родам з Амсціслаўшчыны, [redacted] Ходас, цяпер настаўнічаў у Мінску і ведаў пра Максіма Іванавіча калі не ўсё, што хацелася ведаць, дык, ва ўсякім выпадку, болей Захара, які сядзеў у глушэчы-Асаўцы. Цітавец расказаў, што з Вяткі Гарэцкі вярнуўся, але ў Мінск яго не пускаюць, жыве пад Смаленскам у рабочым пасёлку, выкладае ў школе, што гады, пражытыя ў далёкім суровым краі, абвастрылі тугу па родных мясцінах, і ён наязджае ў Багацькаўку, сваю родную вёску. Там нібыта цяпер, пакуль не пачаліся заняткі ў школе. Гэтая развага і павярнула Захара.

Дарога вяла больш лесам, як полем. Ею ішоў першы раз, але ў памяць яна ўрэзалася на ўсё жыццё. Можа, што стаяла цудоўная раніца: хмарыла, як на дождж, а дажджу ні кропелькі, і не горача, лес абапал дарогі цягнуўся светлы, лісцвяны перасыпаўся [redacted] хваёвым. Захар дзівіўся: чаму лес называецца Цёмным, калі ён светлы? Але, вядома, дарога запомнілася найперш таму, што гэта была дарога любімага чалавека, вадзіла яго ўсё жыццё [redacted] вёскі ў вялікі свет і [redacted] вялікага — назад у вёску, без якой ён жыць не мог. Таму і вока Захарава на гэтай дарозе, як нідзе яшчэ, можа, было вострае, да кожнай драбніцы ліпла, каб усё запомніць. Вёрст дванаццаць, а здалася кароткай. Выйшаў з лесу апошні раз — тут табе і жыта злева, і лён справа, васількі-валошкі абапал дарогі, а полем яна раўнюткая, свежая, і ўвесь час — пад жаваранкам, пад песняю.

Убачыў вёску — спыніўся. І вось тады, да яе не дайшоўшы, пачуў гэты хлебны і бульбяны водар, цёплы, салодкі і кіславата-горкі адначасова. Мацнейшы, як цяпер. Выццам усе печы Багацькаўкі, адставіўшы

засланкі, дыхнулі ў адзін бок, на дарогу, дзе стаяў Захар, яму ў твар.

Ад левага боку вілася ціхая рачулка, вузкая — як пераскочыць, далей у маладым бярэзніку — клады, а паміж кладамі і рачулкай — сцежка ў вёску. Бальшак пыліў, і Захар пераскочыў рачулку, дзе вузей, па камянях, пайшоў сцяжынай. Сустрэў драбіны — стаялі на бальшаку супраць кладоў. У драбінах сядзела дзяўчынка — галоўка залаценькая, астрыжаная пад полечку,— а маленькі, шчуплаваты, ■ вялікай барадой стары, абышоўшы каня, падцягваў падсядзёлак. Мінуўшы воз, Захар зняў з пляча кій з партфелем, узяў у рукі. За кустамі, якія атулялі клады, пад бярозкамі, якраз насупраць воза, заўважыў постаць чалавека ў люстрынавым пінжаку. Той стаяў над магілкай, звесіўшы галаву, спіной да Захара. Захар быў затрымаў на ім позірк, але з воза да яго ўважліва прыглядалася дзяўчынка, стары таксама павярнуўся ў яго бок тварам, глядзеў, як гадаючы, што за чалавек, і Захар падаўся далей сцежкай, углядаючыся ў першыя вясковыя хаты.

Прайшоў колькі хат—калодзеж на беразе рачулкі. Ля калодзежа ў вёсцы самае бойкае месца — запыніўся. Якраз падышлі жанчыны з вёдрамі, малады мужчына. Спытаў, дзе хата Гарэцкіх.

— А вы да каго? Ці не да Максіма? — угадалі адразу.

— Да яго,— прызнаўся.

— А ён паехаў на Цёмны Лес, да цягніка.

— Як паехаў?

— Ды вось...

— З дзяўчынкай, можа? Стары...

— Галя, дачка. З Пясочні па яе прыязджаў. А павёз іх да цягніка Іван Кузьміч, Максімаў бацька. Вы ж, можа, сустрэлі?

— Падвода ля кладоў стаяла. Старога не ведаю, а Максіма Іванавіча не было. Дзяўчынка... Га!.. На кладах, можа?.. Там мужчына стаяў. Са спіны не пазнаць... Пінжак люстрынавы.

— Максім і стаяў. Курганок у іх свежы. Ахрасіння, матка Максіма, два гады як памерла. Ен тады быў далёка. Нават пахаваць не пусцілі. А вы ... адкуль будзеце?

Захар як не пачуў:

— Дзе іхняя хата?

— Ды вось — стадола ў два канцы ад ганка.— Жанчыны паказалі на доўгую, за гародчыкам у штыкетніку, хату.— Там, у хаце, Парфір. Можа, ён што вам скажа?..

Куды бегчы — у хату ці на дарогу? Парфір — навошта? Дабег да кладоў. Але ўжо не было ні каня, ні Гарэцкіх. Спыніўся, дзе стаяў воз, перабраўся цераз рэчачку, праторанай у траве сцежкай падышоў да бярозак. Магілку знайшоў адразу і месца, дзе стаяў Максім. Крыж ужо шэры, валошкі свежыя, [redacted] расінкамі на вяночках, пад крыжам ляжалі. І кусточак спелых суніц.

Захар падчапіў пальцам срэбны ланцужок ля нагруднай кішэнькі пінжака, дастаў гадзіннік «Павел Бурэ» з пажоўклым пласціглазавым цыферблатам. Стрэлкі паказвалі на дванаццатую гадзіну. Яшчэ дзве гадзіны — і праз Цёмны Лес [redacted] Оршы на Рослаў павінен прайсці цягнік. Ён жа — на Крычаў, на Смаленск. Захар ускінуў на плячо кіёк [redacted] партфелем і пашыбаваў тою дарогай, якою прыйшоў сюды,— у Цёмны Лес.

Хоць бы адна спадарожная падвода. Ніхто не нагнаў, не сустрэўся, не падвёз. Хадок Захар быў трывушчы, з маленства хадзіць навучаны, але на цягнік ледзь паспеў. Паравоз пратрубіў адыходную, смаргануў усю сваю зялёную яшчарку, ляскат пракаціўся ад вагона да вагона, і яны паплылі, калі Захар адбег ад акенца чыгуначнай касы. Не паспеўшы агледзецца, ускочыў на падножку і ўжо з тамбура бачыў ля дашчанага станцыйнага дамка падводу, каня, старога, які падбіраў сена з-пад каня, аглядаючыся на вагоны, што ляскаталі міма.

Захар пайшоў па вагонах. Максім Іванавіч з дачкой сядзелі ў самым апошнім за столікам, глядзелі ў акно, [redacted] там, за акном, беглі палі, дзе зялёныя, дзе даспелыя, пералескі, хаты, хадзілі каровы, авечкі, коні. Захар пастаяў на праходзе і не адважыўся падысці, загаварыць. Прайшоў міма. Пастаяўшы ў другім канцы вагона, вярнуўся назад. Ішоў марудна, углядаючыся ў Максіма Іванавіча. Ён быў у люстрынавым пінжаку, белай сарочцы, пад танклявенькім, як вяровачка, гальштукам. Не змяніўся, такі, як тады, на курсах у Калінінскай акрузе. Толькі лоб стаў вышэйшы ад глыбокіх залысін ды вочы, калі глянуў Захару насустрач, здаліся надта глыбокімі, цёмнымі. Побач [redacted] дачкой, насупраць Гарэцкага, сядзеў стары з кіем

у руках, і яны гаманілі. Захар затрымаўся на праходзе, прыслухаўся. Гаворка была пра вёску. Гарэцкі распытваў спакойна і ціха, уважліва слухаў, а стары ахвотна расказваў. Пра сваркі ў вёсцы, як мужыкі адзін аднаго са свету гатовы зжыць.

— Дык жа час новы? — спытаў Максім Іванавіч.— Як жа? Варожых класаў ужо няма. Усе роўныя. Ці калектывізацыя мужыкоў не пияднала?

— Час новы, але старога хапае. Мацюгі тыя самыя. Мардабой. За што? А завядзёнка. Зямля агульная, а варожасць у кожнага свая. Адзін на аднаго — згрызоты, лаянка.

— Адзін на аднаго? — перапытаў Максім Іванавіч.— Ад цямноты, можа? Святло прабілася, але яшчэ мала?

Стары не зусім пагадзіўся:

— Хто у вёсцы святлейшы, як не сельсаветчык? Паложана, каб быў ён святлейшы. А ён узяў ды набіў морду ціхаму чалавеку, школьнаму конюху. Той, бачыш, не з'явіўся з канём на лясны расцяроб. Ды яшчэ абазваў пілсудскім. А які ён пілсудскі? Хвост у прозвішча на той самы манер — Грабскі? Мала што назваў, дык яшчэ і пад канвой здаў. Ціхага чалавека нізашто павезлі. Дык гэта — ад чаго? Ад цямноты? Рогі вялікія. Ад рагоў!

Максім Іванавіч звесіў галаву, глядзеў у падлогу, і, калі стары замоўк, ён яго больш ні аб чым не распытваў, нават вачэй на яго не ўзнімаў, быццам болей не заўважаў. Адкінуўся спіной да сцяны, узняў галаву, і тады вочы ўставіліся на Захара. Пагляд быў доўгі, пранізлівы, як з глыбіні памяці, часу. Пазнаваў і не мог пазнаць?

— Дзень добры, Максім Іванавіч!

Гарэцкі нічым не выдаў ні здзіўлення, ні радасці — позірк той самы, стомлены, як у размове са старым, як тады, калі маўчаў ці слухаў пра мардабой у вёсцы. На твары ляжала пячатка нялёгкага жыцця і моцнае волі.

Узняўшы на Захара вочы і стрымана кіўнуўшы ў адказ, адразу і нечакана спытаў:

— Вы настаўнік?

Пытанне здзівіла. Як гэта ён адразу не памыліўся? Па чым пазнаў? На твары напісана? Ці здагадаўся па гальштуку, па акулярах? Акулярамі Захар звычайна карыстаўся, калі чытаў, пісаў, але цяпер быў пры

акулярах, бо як начапіў ля касы, беручы білет да Крычава ў Цёмным Лесе, дык не паспеў зняць, спяшаючыся ў вагон.

— Не толькі,— углядаючыся ў строгі прывабны твар Максіма Іванавіча, адказаў Захар.— Яшчэ і былы слухач першых настаўніцкіх курсаў у Клімавічах.

Твар Гарэцкага пасвятлеў, ажывіліся вочы.

— Дваццаць пяты год? Я тады прыязджаў да вас з Мінска. А вы... усё ў школе?

— У Асаўцы. Але... выкладаў і ў Горках. Вас там ужо не было.

Гарэцкі не зводзіў вачэй з Захара, усё ўглядаўся ў яго, але Захару здалося, што ён яго пазнаў, што ўспомніў, як пісаў яму, Захару, ліст, запрашаў пераехаць у Горкі на работу ў акадэмію. Гэта было недзе пасля курсаў у Клімавічах. Няўжо ўсё тое ўспомніў? І запрашэнне? Калі ўспомніў, то зараз, можа, скажа пра гэта?

Захар маўчаў, чакаючы.

— А што... потым? — неяк неканкрэтна спытаў Гарэцкі.

— Потым? Вярнуўся з Горак у свой раён, у вёску. Быў вымушаны. Трыццаць трэці год...

Гарэцкі апусціў вочы, усё роўна як далей ужо не хацеў слухаць. Але раптам рэзка глянуў да старога, спытаў:

— Дык дзе ваш Грабскі? Ці вярнуўся?

Стары не чакаў, што пытанне будзе да яго, адказаў не адразу, губляючыся:

— Ды-ы... не, не вярнуўся...

Тады Гарэцкі зноў паглядзеў на Захара:

— Вы курыце? — спытаўшы, не чакаў, калі Захар штосьці адкажа, адразу, следам за пытаннем, прапанаваў, устаючы з лаўкі: — У тамбуры, можа, пакурым? Тут, у вагоне, нельга.

Вагон рыпеў, калыхаўся з боку на бок, калаціўся, як у ліхаманцы, за тамбурам, на пераходнай пляцоўцы, ляскаталі счэпкі, масты, на стыках рэек хрупалі колы, пад падлогай грымела і звякала, а за шэрым ад даўняга закарэлага бруду шклом дзвярэй праплывала прастора зямлі — бацькаўшчына.

— Бачыцеся з калегамі, хто быў з намі на курсах? — спытаў Гарэцкі.

— Я мала дзе бываю. Зашыўся, як мыш.

— Можа, разумна зрабілі, што зашыліся ў ціхую вёску? Наша з вамі работа ўсюды патрэбная. Чулі, што казаў стары: цямнота ў вёсцы. Ціхі выселак і ў мяне. Раней мала было Вільні, Мінска, хацелася з усім гаротным светам паяднацца. А цяпер задаволены малым куточкам.

— Няўжо задаволены? — паспешліва, як не маючы згоды з апошняй думкаю, перапытаў Захар.

Гарэцкі, гледзячы ў акно, не адказаў.

Ён нібыта забыў, што ішоў пакурыць, але Захар, падумаўшы пра гэта, успомніў, што ён раней не курыў, ва ўсякім выпадку, на курсах яго ніколі не бачылі з цыгаркаю.

Ціха, нібы туды, у акно, прамовіў:

— Трэба жыць. Трэба рабіць тое, што за нас не зробіць ніхто. А рабіць можна ўсюды...

Захар каторы ўжо раз заўважыў, што думку сваю Максім Іванавіч усё роўна як не дагаворвае, абрывае ў такім месцы, дзе застаецца загадка, але і разгадка сама напрошваецца. Кожны раз Захар ведаў, як яго абарваную думку прадоўжыць,але ў той жа час адчуваў, што нехта іншы, чалавек выпадковы, зрабіць гэта не зможа. Максім Іванавіч як бы разлічваў на здагадлівасць Захара, на тое, што Захар яго разумее з паўслова. Гэтакай манеры гаварыць ён ніколі не заўважаў за Гарэцкім на курсах, калі той чытаў настаўнікам лекцыі, там кожная думка была выразная і завершаная, дакладная і адкрытая. Але і чужою гэтая манера не здалася Захару. Яна яму ўжо была нібыта сваёй.

— І што вы, Максім Іванавіч, цяпер робіце? Я ведаю, што настаўнічаеце на Смаленшчыне. А што пішаце? Калі не сакрэт. І ці пішацца вам цяпер?

— Пішу хроніку свайго сялянскага роду. Тое, што баліць. Што нам, беларусам, трэба пісаць.

— Калі трэба, то чаму — хроніку? Чаму не раман?

— Жыццё кароткае, Захар Макаравіч. Вось я і ўспомніў, як вас зваць. Кароткае, а зрабіць трэба шмат. Дык трэба ўсё дакладна ўзважыць. На адны шалі — задача, на другія — магчымасць. Я ўзважыў. Выйшаў на хроніку. Род мой сялянскі — ушыр і ўглыб. Шмат работы, каб падняць. А трэба, у сялянскай абшчыне наша сіла. Яе трэба ведаць. Не ведаючы, не цэнячы, лёгка па свеце растрэсці гісторыю і сілу сваю.

Захар успомніў сібірскія абразкі Гарэцкага — і там гэты самы боль. Зачапіўся:

— Вашы перасяленцы бягуць не па сваёй волі. Бягуць ад войнаў, ад галечы. І хоцімка, і...

Гарэцкі згодна ківаў галавой:

— Не па сваёй. Але ж... свая такая зямля! А бяжым. То ў лахманах самаходаў, беспрытульных хадзякаў, то ў світках арыштантаў...

Яны стаялі побач, плячыма адзін да аднаго, з хваляваннем глядзелі праз мутнае шкло на палі, узлескі. У апошнія дні навальніца паклала шмат жыта, і яно, не падняўшыся ў халоднае лета, ляжала паклычанае, быццам па ім качаліся коні. Захар падумаў услых:

— Балюча глядзець на гэтакі хлеб.

І пачуў, ужо не зусім сялянскае:

— Затое свой, не чужы. Са сваім, калі ён горкі, сэрца, можа, і плача, але без яго, свайго, яно зусім канае.

Аж сціснулася штосьці ўсярэдзіне ў Захара ад гэтых слоў. Столькі болю адчуў у іх, што і сам, можа, усёй яго глыбіні не зведаў. Але галоўнае — адчуў. Таму, відаць, што аб існаванні гэтага болю здагадваўся.

За спінамі цяжка грукнулі дзверы. Гарэцкі таропка, як чакаўшы гэтага груку, азірнуўся. І адразу азірнуўся Захар. За імі стаяў здаровы чырванатвары мужчына — яго позірк варожа сустрэўся з халодным позіркам Гарэцкага. Незнаёмы адвярнуўся, адышоў да процілеглых дзвярэй тамбура, за брудным шклом якіх мільгацеў цёмны, быццам начная заслона, ельнік. Гарэцкі павярнуўся да яго спіною і зноў пачаў углядацца ў палі з палеглым жытам. Ён маўчаў, а Захар, угадаўшы гэты настрой, зразумеў, што ўжо не пачуе ні слова.

Цягнік замаруджваў бег. Зарыпелі тармазы. За шыбаю паплылі хаты, вялізны, заліты вадою, кар'ер, паравозы на тупіковых рэйках. Праехалі дэпо. Пачаліся шэрыя пакгаузы.

— Крычаў,— прамовіў Гарэцкі.

Вагон тарганууся. У тамбуры з'явіўся праваднік. Захар адступіў у глыбіню тамбура, каб не замінаць правадніку, які адчыняў дзверы, і не заўважыў, як Гарэцкі зайшоў у вагон.

Партфель быў у руцэ, і Захар, разумеючы, што

ў вагон яму ўжо не трэба вяртацца, саскочыў з падножкі на бетон перона.

Падышоўшы да будынка вакзала, спыніўся, азірнуўся, нейкую хвіліну ўглядаўся ў вокны вагона, але чалавека, якога хацеў яшчэ раз убачыць, хоць за шэрым шклом, не ўбачыў. Быццам яго і не было там, у вагоне...

У гумне пачыналі гаманіць бежанцы. З прачыненых шырэй, як уначы, цяжка аселых, урослых у гной варот, выйшла заспанае, дрыготкае ад ранішняй стыні дзіця ў доўгай, ледзь не да пят, спадніцы і вялікай, з доўгімі рукавамі, з дарослых плеч, шарсцянай кофце, босае, чарнаногае, калматае. Пацерла кулачкамі вочкі, агледзелася, стулілася і, нікога блізка не заўважыўшы, села пад сцяною ў зацішку, лянуючыся ці баючыся адбегчы.

Следам з гумна выйшла маці:

— Ты дзе села, дурніца? А калі хто ўбачыць?

Можа, яна падняла дзяўчынку, таму што заўважыла Захара? Тая слухмяна падхапілася, аправіла спадпічку, і яны абедзве дружна, апякаючы белай расою ногі, пайшлі да хмызнякоў, вакол якіх курэў, але ўжо добра раставаў ранішні туман. За хмызнякамі ўзыходзіла калматае, як галоўка дзяўчынкі пасля ночы, сонейка.

Адтуль, з-за хмызнякоў, з сонейкам на плячы нехта ехаў верхам на кані. Конь у тумане выдаваў сівым, чужым. Набліжаючыся, ён павялічваўся і чарнеў, як і коннік, і Захар спачатку пазнаў Буланчыка, а пасля ўжо конніка — Лёніка. Абое вярталіся з начной пашы.

6—932

# Круг другі

Чырвонае, нібы крывяная пляма, сонца садзіцца ў забытыя чалавекам і косамі травы. Неба шарэе, цяжэе, зніжаецца. Усё на зямлі акрываецца шэрым прысакам вечара. Па абкілзана-блішчастым бруку, спяшаючыся на захад, дзе ў апошнія дні блізка грымелі, не сціхаючы, баі, працокаў атрад коннікаў, і следам за ім паўз брук, пясчанай абочынай, прапыліў табунок хлопцаў-падлеткаў. Адзін я спазніўся на шашу да коннікаў з усёй хлапечай ускраіны.

Ужо тыдзень, як мы жывём у Касцюковічах каля льнабазы ў вялізным яўрэйскім доме, кінутым гаспадарамі, можа, у першыя дні вайны. Дом стаіць у лагу паміж двума курганамі, на адным з якіх клады славянскія, на другім — яўрэйскія. Кожную раніцу бацька, дзядзька Ілья і Лёнік, узяўшы ў сенцах рыдлёўкі, ідуць да льнабазы, адкуль на падводах едуць за горад капаць процітанкавы роў. Следам за імі [redacted] вёдрамі і граблямі [redacted] двара на вуліцу выходзяць мама і цётка Зося. Там, пад высокай таполяй, збіраюцца жанчыны. Яны гуртам шыбуюць на гару, за якой славянскія клады, у прыгарадны яўрэйскі калгас, а ўвечары прыносяць у вёдрах малако, гуркі, бульбу.

Мы з сястрою звычайна дома ўдваіх, а бывае, што і Люба, угаварыўшы маці, ідзе з імі разам, і тады я ўвесь дзень адзін.

Аднаму добра. Я ганяю па двары курэй, бо, калі заседзішся ў хаце ці забегаешся на вуліцы, іх набіваецца поўны двор. Куры чужыя, але ходзяць па нашым двары, як па сваім. Яшчэ ганяю катоў. А калі на двор забягае вялізны рабы сабака, я хаваюся ад яго ў доме і з акна назіраю, як ён робіць тое, што трэба рабіць мне: ганяе і курэй, і катоў. Занятак у нас [redacted] ім адзін, мы павінны б дружыць, але дружбы няма, бо ён уцякае ад мяне, а я — ад яго.

Яшчэ на двары калі-нікалі з'яўляецца вялікі хлопец у чорным зімовым паліто і галёшах на босых нагах. Яго завуць Раманам. Ён жыве ў нашым доме, але ходзіць праз іншыя дзверы — у другім канцы дома. Жыве ён не адзін. Там цэлы табун хлопцаў і дзяўчат, такіх, як

ён. Яны таксама, як мама і цётка, ходзяць у калгас на работу, а Рамана з сабою не бяруць. Ен хворы.

Ад бацькі і ад мамы я ведаю, што хлопцы і дзяўчаты з дзіцячага дома, што іх дом у Бабруйску, а цяпер яны бежанцы, як і мы. З імі жыве іх настаўнік. Ен [illegible] двума хлопцамі, старэйшымі, ездзіць, як бацька, дзядзька і Лёнік, на працітанкавы роў. Едуць рана, а вяртаюцца позна, і таму я ніколі не бачу яго ні ў доме, ні ў двары.

Рамана я таксама колькі дзён не бачыў, бо ён ляжаў у ложку. Але цяпер выходзіць у галёшах на двор, падоўгу стаіць на сонцы, падпёршыся кіем, захутаўшы грудзі цёплай хусткаю, наставіўшы каўнер, кашляе, як у бочку, ці сядзіць на прызбе, таксама падпёршыся кіем і закрыўшы вочы на сонцы, нібы стары дзед. Учора на двары падышоў да мяне. Я спужаўся, думаў, што ён будзе мяне біць сваім кіем. Бо ён быў злосны. Белы, пад вачыма сіні, а вочы чорныя, бліщчастыя, поўныя слёз і злосці. Але на мяне нават не замахнуўся. Ен спытаў ціха, зусім слабым голасам, нібы самога пабілі:

— Ты хочаш яечка?

Яго вочы адразу падаліся мне добрымі, як у мамы. І я адказаў:

— Хачу.

Тады ён падышоў да плота, сунуў пад яго руку і выцягнуў з-пад зялёных дошак адно за адным два яйкі:

— Сырыя п'еш?

— П'ю,— адказаў я, хоць яшчэ ні разу не піў сырых яек, бо заўсёды гідзіўся іх піць.

— Пі. Вялікі вырасцеш.

Ен падняў з зямлі танклявую вострую трэсачку, прабіў яйка з аднаго боку, прабіў з другога і, задраўшы галаву, піў, цмокаючы, усё роўна як вельмі смачна.

Я таксама знайшоў трэсачку, прабіў з двух бакоў яйка і, як Раман, задраўшы галаву, піў, цмокаючы. Дурань, што раней гідзіўся,— смаката.

З-за таго яйка мы з Раманам пасябравалі. Я перастаў ганяць па двары курэй, а сабак і катоў на двор не пускаю, каб яны не гналі з двара курэй. Хай куры нясуць яйкі пад плотам. Цяпер куры і яйкі нашы. Раман ад яек будзе дужэць, а я вялікі выраету.

Сёння я, можа, таму заседзеўся на прызбе, што чакаў, калі на двор выйдзе мой сябар. Доўга чакаў. Мне здалося нарэшце, што ён на вуліцы, можа, на шашы,

куды бегаюць усе льнозаводскія хлопцы. І я выйшаў за хвортку адзін.

Шаша ад нашага дома не блізкая, але я ўжо на бруку. Грудзі душыць не стома,а крыўда. Рамана няма, і коннікі пранесліся. Іх не вернеш, як ні ўглядайся ў далёкую, на самай гары, кропку дарогі, што камяніста бліпчыць, дагарае малінавым полымем.

Раптам да мяне, як з-пад зямлі, даносіцца цоканне падкоў, звонкае і лёгкае. Ці гэта здаецца? Я азіраюся і зусім блізка бачу перад сабою чырвонага каня, а на ім — конніка.

Конь рэзка спыняецца перада мною, узвіваецца ўгару, сеўшы на калматыя бабкі задніх ног, заграбае пярэднімі паветра, як плывец ваду, храпе і кружыць пад коннікам, выкрасаючы іскры з камянёў-галышоў. А на конніку жоўтая скураная куртка, як у дзядзькі Ілы, нават прыгажэйшая, накрыж перацятая вузенькімі рамянямі, зялёная фуражка з чорным бліпчастым казырком, чырвонай зоркаю і бліпчастым вузенькім раменьчыкам пад падбародкам. На баку прыляпілася кабура з наганам, а каля нагі, шчыльна абцягнутай высокай халявай бота, вісіць доўгая, у чахле шашка.

— Гэй, пацан! — гукае коннік, прыўзняўшыся на нагах, якія ёмка сядзяць у страмёнах.— Тут конны атрад праскакаў?

Я ў адзін міг ажываю:

— Праскакаў, дзядзечка! Я сам бачыў...

Конь храпе, шчэрыцца пад балюча напятымі цуглямі, узвіваецца на дыбкі, скідае з губы на брук камяк белай пены і ляціць па-над шашою, ледзь кранаючы капытамі брук, выкрасаючы яго іскры і дзіўную музыку: чах-чах, чах-чах — галопам.

А я кідаюся за ім следам:

— Дзя-а!.. Таварыш камандзі-ір!

Чахканне на бруку цішэе, коннік усё вышэй узлятае на гару, і ўжо яго таксама ахоплівае малінавае полымя, якое ззяе на даляглядзе паміж зямлёю і небам. Я з усіх ног бягу за коннікам, не ведаючы, навошта бягу. Хачу нагнаць? Дзе там! Мільгаціць пад нагамі брук, а коннік знікае ў полымі малінавага сонечнага далягляду. Я задыхаюся, сапу, як паравоз, але бягу. Ногі слабнуць, чапляюцца за камень, і я пляскаюся ніцма на брук. Ці паспяваю хоць войкнуць? Ці пачую хоць, як баліць?

Расплюшчыўшы вочы, бачу стол, на стале — лямпу

з задымленым шклом пад прагарэлым папяровым абажурам, у лямпе — малінавы грабянёк кнота, які запальвае ў маіх вачах ранейшы малінавы абшар. Кволае святло сеецца па хаце, жаўціць столь, белую ўдзень печ, шырму, за якой мамін і бацькаў ложкі. Вокны завешаны: адно — старой коўдраю, другое — мамінай цёплай хусткаю.

Мама сядзіць побач са мною на ложку. Яе твар жаўтлявы, можа, ад лямпы. Яна трымае на каленях вялізны белы кубак, а вочы заплюшчаны, усё роўна як спіць седзячы. Раз-пораз уздрыгвае, торгае, прачынаючыся, галавою, і тады [redacted] кубка на калені выплескваецца вада.

— Мама? — нясмела гукаю я.

Яна расплюшчвае вочы, здымае [redacted] майго лба мокры ручнік, датыкаецца да лба губамі, змочвае канец ручніка ў чыгунку, у той самы чыгунок выціскае з ручніка ваду і зноў кладзе яго мне на лоб — мокры, халаднаваты.

— Як на агні. Увесь гарыш. І хто цябе?

— А дзе тата?..

— Ці ты чапляўся, можа, за машыну ды сарваўся?

— Тата з Буланчыкам на акопах? А ці можна, мама, надзець на Буланчыка кавалерыйскае сядло? Га, мама?

Яна думае пра іншае. Яна пытаецца:

— Баліць моцна?

— Не баліць. Зусім не баліць,— супакойваю я яе.

— Ах, бяда ты мая! І нос ссініў, і лоб скрываніў. Можа, цябе хто-небудзь каменем? Можа, біўся?

— Не, я не біўся.

— А ці помніш, хто цябе падняў з бруку, дадому прынёс?

Я гэтага не помню: хто мяне нёс ці я сам дайшоў? Але маўчу. Мне шкода маму. Яна сядзіць побач са мною, калоціцца, нібы птушка на белым зімовым провадзе.

— А ці бачыла ты чырвоных коннікаў?

— Ох-ха! Што гэта будзе?

— Ці чуеш, мама? — настойліва дапытваюся. — Яны скакалі па шашы ў той бок, дзе хавалася сонца.

— Спі, сынок. Люба ўжо спіць...

Памаўчаўшы, я зноў трызню тым самым, сваім:

— Коннік быў у скураной куртцы. А на баку наган і шашка. І сядло кавалерыйскае, сапраўднае. Ты такога не бачыла?

— Ну, закрый вочкі... Спі.

Я заплюшчваю вочы, але цокат капытоў па бруку не аціхае ў маіх вушах, мне зноў блізка бачыцца коннік на высокім гарачым кані, у кавалерыйскім сядле, якое аж рыпіць пад ім, бачу наган, шашку, чырвоную зорку над чорным блішчастым казырком.

— Мама! — не адкрываючы вачэй, зноў клічу яе да сябе.— Калі вырасту, я буду чырвоным камандзірам. На кані: з наганам і шашкаю. Я буду ехаць у кавалерыйскім сядле, а ты, мама, будзеш ісці са мною побач. Добра?

Яна ласкава падбівае пад мой бок коўдру і шэпча:

— Я заўсёды побач, сынок. Спі.

Тады я адварочваюся да сцяны, супакоены, падсоўваю пад шчаку далоні і сапу. Можа, мама думае, што я адразу засынаю? Але я, хітрун, не сплю. Я чую, як у хату заходзіць бацька. Ён нечым грукае ля парога, рыпіць каля печы старымі масніцамі, п'е ваду. Масніцы заціхаюць. Я хоць і ляжу носам да сцяны, ад якой пахне чужымі спарахнелымі шпалерамі, але бачу, як бацька стаіць каля лаўкі, на якой вядро з вадою, заклаўшы рукі за спіну, трымаючы ў руках пустую конаўку, задумліва глядзіць у падлогу, у нейкі адзін сук, звесіўшы белы чуб. Маўклівы, ён часта стаіць гэтак пасярод хаты, ці каля печы, ці каля вядра з вадою. Мама чакае, што ён, прыехаўшы з акопаў, ад людзей, нешта скажа, бо ад таго, што і як ён скажа, залежыць ў нашым жыцці вельмі многае: як жыць сёння і заўтра, куды ісці ці ехаць? Але ён маўчыць, быццам першы раз не знаходзіць слоў, якія трэба сказаць, і мама, нічога ад яго не дачакаўшыся, першая падае голас:

— Бачыш, бяда? Вася пабіўся. Пакідаем аднаго, без нагляду. А ён жа — дзіця. Раман падабраў на бруку, прынёс. Кажа, што бегаў глядзець, як наша конніца ішла на Клімавічы. А там... Ці, можа, конь капытом? Ці хто каменем? Лоб і нос сінія, у крыві. Трэба ж гэтак? Без памяці быў.

— Доктара не шукала?

— Дзе цяпер таго доктара знойдзеш?

— А ці дома Асташонкі? — пытаецца бацька.

— Зося на кухні. Гатуе. А мужчыны ж з табою?

— Я сёння на акопах не быў. За пасыльнага трымалі ў камендатуры. З раніцы ездзіў у вёску з павесткамі, пасля суправаджаў абоз.

— Які? — насцярожана пытаецца мама.

— Тут, у лесе, стаіць армія. Яе абозы ўсё яшчэ выходзяць з акружэння. Камусьці трэба суправаджаць у штаб арміі.

— Табе даверылі?

— Палітрук адрэкамендаваў — даверылі. Я гэтыя мясціны ведаю. Усе лясы, да Бесядзі, усе дарогі.

— Бачыў палітрука? Дзе ён цяпер?

— Пры штабе. Аказваецца, ён [redacted] гэтай самай арміі. Удзячны, што мы яго да сваіх вывелі.

— А конніца? Што за конніца ішла?

— Кавалерыйскі корпус арміі. Пайшоў за Клімавічы, на Варшаўку.

— Дык што, Захар? Можа, ён і немцаў затрымае? Кажуць, вялікая сіла пайшла. Доўга ішлі. Не можа быць, каб тыя не пакаціліся назад, калі — сілай на сілу?

Мама замаўкае, чакае, што ёй на гэта адкажа бацька. І я таксама чакаю. Але бацька маўчыць. Нарэшце кажа:

— Ахова нафтабазы збіла нямецкі самалёт. Ну ты падумай — [redacted] вінтоўкі! І як яны пацэлілі? Аднаго лётчыка забралі жывога, а другога баба ўхайдокала матыкаю.

— Матыкаю? — жахаецца мама.— Што ж там за баба? Каб чалавека забіць матыкаю?

— Не чалавека, Ліза. Ворага! А баба?.. Звычайная.

Апошнія словы бацька кажа ў мяне над галавою, падышоўшы. Я добра чую пра самалёт, пра бабу з матыкаю, але яшчэ бліжэй, яшчэ мацней мне чуюцца капыты на бруку, пошчак, бачыцца коннік у брлішчастых рамянях, з шашкаю на баку. Ды яшчэ — чырвань, нібы агонь, над брукам.

У віры, які закруціў усё жывое, зямное, ніхто не мог сказаць, што адбудзецца заўтра. Нават талакою, на якую спадзяваўся дзед Яўсей, людзі не знаходзілі той канвы, па якой тчэцца і шыецца кожны дзень. Конніца прайшла праз гарадок ліха, усіх скалыхнула, запаліла надзею, што сіла спыніць сілу, верне людзям родны парог, дадому верне сыноў і бацькоў, з гэтаю вераю да позняга не спалі ў кожнай хаце, за кожным акном. А назаўтра, калі сонца выкацілася над лесам-зямлёю і касцы ўзялі свае косы, жнеі гнуліся на жніве, прызыўнікі другой мабілізацыі пылілі па пясчаных

дарогах на зборны пункт, вынесены з мэтаю маскіроўкі ў бярэзнік за рэчкаю, з'явіліся нямецкія штурмавікі. Яны ляцелі нізка, як на парадзе, нікога не баючыся, скінулі на базары тры бомбы, секанулі з кулямётаў, за горадам, дзе капалі акопы і процітанкавы роў, зноў разгрузіліся, а на чыгуначнай станцыі вытраслі са сваіх чэраваў астатнюю смерць, якую неслі. Не пацэлілі ні ў чыгуначнае палатно, ні ў вакзальныя камяніцы, але павыварочвалі слупы, дрэвы, развярнулі пакгаузы пад чорнымі ад вугальнага пылу адхонамі.

Ад базара і акопаў праз гарадок пацягнуліся падводы. Везлі забітых, параненых. Пад акном спыніўся запрэжаны ў драбіны Буланчык. У доме былі адны дзеці. Яны, радыя сустрэчы [redacted] канём, выскачылі на вуліцу і нечакана прыціхлі: з лейцамі ў руках ля драбін стаяў трагічна-сумны Раман, а на драбінах ляжаў настаўнік, які жыў з дзетдомаўцамі за сцяной. Ён быў накрыты доўгім Раманавым паліто, якое звісала з драбін да зямлі. Вакол панура маўчалі дзетдомаўцы.

Хавалі ў скверы пад таполямі. Шэрыя, з негабляваных і нефарбаваных дошак труны стаялі адна ля адной на краі вялізнае, адной на ўсіх, ямы, на дне якой шоргалі рыдлёўкі, выкідаючы жоўценькі пясок. Калі шоргат заціх, з ямы пачалі вылазіць мужчыны, і сярод іх на пясчаны бераг выскачыў, абапіраючыся на рыдлёўку, Лёнік. Ён быў мокры ад поту, гарачыні, сіняя сацінавая кашуля на спіне счарнела, але вочы гарэлі. Захар, стаяўшы на процілеглым баку ямы, каля трунаў, падаўся ў абыход яе да хлопца, каб сказаць, што яго шукае матка, але ўлез у пясок, набраў поўныя чаравікі, адышоў пад дрэва, зняў з ног чаравікі, высыпаў [redacted] іх пясок і раптам убачыў перад сабою Майсея. Сустрэча здзівіла абодвух. Але першым сябе выдаў Захар:

— Не пазнаеш, Майсей?

Шчыліна рота распаўзлася ўшыркі, быццам ад радасці:

— Як я, Макаравіч, магу не пазнаць? Вы ж маю крамку не абміналі, слава богу, ідучы ў Асавец. Помню, як казалі: хлеб у дарозе не цяжкі, дарога без хлеба цяжкая.

У вачах у Захара зноў мільганула Майсеева крамка, такая, якою ён яе ўбачыў, калі пакідаў гарадок, калі

праз выламаныя дзверы, кінуўшы іх пад ногі, мужчыны выносілі хлеб, душыліся ў краме і перад крамаю.

— Нічога, Майсей. Да свайго хлеба мы вернемся.

— Каб вашыя слоўкі ды Богу ў вушкі. Вы ж чулі, як яны, ірады, нас, яўрэяў, любяць? А майго Моціка забралі на хронт. Дзіця. Зусім дзіця!

Захар ягоны боль разумеў, бо гэта быў свой боль за Мішу. Але чым мог супакоіць?

— Што дзіця, не хвалюйся. Цяпер дзеці за тры дні мужчынамі робяцца. Вайна. Сам разумееш.

Загаварыўшы пра дзяцей, зірнуў у той бок, дзе павінен стаяць Лёнік. Не ўбачыўшы хлопца, зноў перакінуў позірк сюды, дзе Майсей, але Майсея перад ім ужо не было.

Тым часам Ілья сядзеў на пні і глядзеў на Буланчыка. У сквер ён прыйшоў разам з Захарам, следам за драбінамі, на якіх прывезлі забітага дзетдомаўскага настаўніка. Калі яго знялі з драбін, панеслі да ямы, Ілья застаўся ля Буланчыка. Ён ведаў, што каня Захар здаў у камендатуру, сам не раз ездзіў на ім у лес, дзе штаб арміі, што пры штабе конь і застаўся. Але як апынуўся тут? Можа, працаваў на акопах, адкуль прывезлі настаўніка? Але на акопах Ілья працаваў таксама — каня там не бачыў. Цяпер было цікава, хто да каня падыдзе. Як везлі настаўніка, канём кіраваў Раман, хоць і Рамана з канём раней не бачыў. Гаспадар у Буланчыка павінен быць іншы. Хто? Можа, на яго ўсе забыліся? Можа, ён ад усіх адбіўся? Гэтакі час — усё можа быць. Ілья выкурыў адну цыгарку, затым другую, а да каня ніхто не падыходзіў.

Буланчыку зрабілася мутарна стаяць на каменні, і ён смаргануў драбіны, пакаціў праз вуліцу. На тым баку вуліцы пачынаўся зялёны завулак, вёў з гары ў лагчыну, дзе рачулка, і туды Буланчык валок пустыя драбіны. Ілья падаўся назіркам.

Завулак нядоўгі, тры хаты на адзін бок ды тры на другі, а далей — рэчка, берагі нізкія, мурава зялёная, нестаптаная і сонцам не спаленая. Буланчык спыніўся, звесіў галаву да муравы, але душыў хамут. Ілья падышоў да Буланчыка. Той павярнуў галаву, бліснуў вялізным вокам: пазнаў? Ілья адпусціў падсядзёлак, рассупоніў хамут, а сам адышоў ад вады, сеў на беразе, зноў закурыў. Чым даўжэй сядзеў, тым большая радасць апаноўвала, што яны тут удвух, ён і конь, і ўжо

здавалася, што ніхто трэці ім не патрэбны, нікога трэцяга паміж імі ўжо не будзе. Гэтак думаючы, Ілья ўсё аглядаўся. За рэчкаю быў луг, зялёны, нібы ўвесну, шырэйшы, як на гэтым беразе, за лугам на ўзгорку пачынаўся лес, паміж лесам і лугам пад хваёвымі шатамі, не хаваючыся ў іх, стаяў белы будынак спіртзавода, стары панскі бровар з высозным комінам, і адтуль, ад бровара, праз луг ішлі два мужчыны. Хто яны? Ілья захваляваўся.

Тыя двое спыніліся на процілеглым беразе і ўжо здымалі штаны, кашулі, вязалі вопратку ў вузлы. Адзін за адным [redacted] вопраткаю на галовах, рукамі трымаючы яе, сышлі ў ваду, брылі на гэты бераг.

Ілья ўважліва сачыў за імі. Яны не глядзелі на каня. Аб нечым гаварылі, але не пра каня.

Выйшлі на бераг, апрануліся, Ілью не заўважаючы. Жартавалі, рагаталі. Абуўшыся, рушылі напрасткі ў горад. У Ільі ад сэрца адлегла: пранесла? Ужо сабраўся падысці да Буланчыка, у галаве выспелі планы, як яго забраць, праехаць да льнабазы, ды адзін з тых двух, хлапчук у вайсковай форме, спыніўся, пачаў скакаць на адной назе, выліваючы ваду з вуха. Старэйшы пайшоў і пайшоў, а гэты ўсё скакаў. Перастаўшы скакаць, загледзеўся на каня. І раптам закрычаў:

— Таварыш ваентэхнік! Гэта ж Буланчык!..

Ілья ўвесь ажно сціснуўся ў камяк.

Той, старэйшы, спыніўся, азірнуўся:

— А чаго ён тут? Каму занарадзілі?

— Радавы Дробаў ездзіў у калгас па прадукты. А потым зноў паехаў, таварыш ваентэхнік. Куды — не ведаю.

Старэйшы быў апрануты ў цывільнае, штаны і пінжак, на галаве малая, як у гарадской шпаны, кепачка, на нагах белыя балеткі. І гэта — ваентэхнік?

— Дробаў з пакетам у камендатуры.

— Дык чаму тут конь? Расхамутаны.

Малады чырвонаармеец зацягнуў супоню, падцягнуў падсядзёлак, ускочыў на драбіны. Падышоўшы, побач сеў і старэйшы. Ілья, які хаваўся ад іх за кустом, усхапіўся. Ён ужо набраўся рашучасці даказаць, што конь ягоны, як раптам пазнаў цывільнага: Малыга? Сястрын муж з Мінска? Вачам не паверыў: адкуль тут Малыга? Стаяў разявіўшы рот, не ведаючы, хапацца за

каня ці кідацца ў абдымкі. Але і тыя двое здзіўлена глядзелі на яго.

— Ілья?..— Малыга саскочыў з драбін.— Вось гэта сустрэча!..

Асташонак абхапіў швагра:

— Ты чаго тут?

— А ты? Сядзіш за кустом, як лавец на звера.

— Каня пасу.

— Чужога? Гэта ж конь з нашага батальёна?

— З якога батальёна? Ды і... які ў цябе батальён?

Малыга зразумеў, што Ілья не прызнае яго за вайскоўца ў гэтакай, што на ім, вопратцы. Весела зарагатаў, з форсам змахнуў з галавы кепачку-васьміклінку, выцер ёю пот з ілба, засунуў яе пад шырокі камсастаўскі рэмень, які Ілья заўважыў адразу, падумаўшы: яшчэ не ў форме, а рэмень камсастаўскі. Над загарэлым тварам заблішчалі высокія белыя залысіны.

— Дык дзе твае, Ксеня, дзеці?

— Усе тут. А твае?.. І Захар тут? Я ж за вамі ганюся ад гарадка, ад крамы Майсеевай.

— Да мяне заходзіў?

— Дзе да цябе зойдзеш? Замкоў панавешваў. Кошка ляжыць пад плотам. Твая — рыжая. Плазам ляжыць. Мёртвая.

— Хадора здохла? — жахнуўся Ілья. Аж горача ўсяму зрабілася.

— Нехта забіў. Ну... мы да цёткі Марфы — замок. А вакол страляніна. Людзі бягуць, кажуць, што немцы ў гарадку. Мы да Сажа. Дзе мост? Людзей на беразе поўна, а моста няма. Адны быкі з вады тырчаць. Нейкая бабка схапіла Ксеню за руку: бяжы за мною! Праз роў, крапіву, зараснікі выбеглі да лазні ля вады, а там і дзед у мокрых штанах стаіць, і лодка на доўгай вяроўцы прывязаная. Яны нас у лодку, ад берага адпіхнулі, крычаць з берага: на ўсю вяроўку заплывяце, скачыце ў ваду, там мелка, а лодку кідайце, на вяроўцы выцягнем. Гэтак і апынуліся за Сажом, у лесе.

— А пантоны? На Сажы ляжалі?

— Ні моста, ні пантонаў. Але... што стаім?

Выехалі на дарогу, яшчэ зялёную, лугавую, не вельмі наезджаную. Яна вяла не ў той бок, дзе сквер, а на цэнтральную вуліцу, што выходзіла да камендату-

ры. Лейцы былі ў руках у маладога чырвонаармейца. Ілья здагадаўся, што ў камендатуру ён і кіруе.

— Як жа вы з Мінска вырваліся? — спытаў у Малыгі.

— А як усе. Пёхам.

— У цябе ж была «эмка»?

— Якая «эмка»? Не ведаеш, што на дарогах робіцца? Шафёра майго, Кузьміча, помніш? Ён цябе з Зосяй вазіў па Мінску. Дык мы з ім ледзь у Стайкі прабіліся. Там піянерскі лагер, дачка, Ленка, была ў лагеры. А ў Мінск адтуль ужо не праехалі. Горад разбіты, гарыць. Чырвонаармейцы бегаюць з вінтоўкамі, а ці з вінтоўкі стрэліш па самалёце? Дзе нашы самалёты, Ілья? Ты ж кадравы ваенны, павінен ведаць?

— Мне [illegible] у цябе спытацца. Цяпер ужо ты там, дзе камандуюць, усё ведаюць.

— «Эмку» ў Стайках кінулі. Кузьміч — пёхам у Мінск, у яго жонка паралізаваная, а мы — на Магілёў. Пайшлі — у чым стаялі, з пустымі жыватамі. Але ж вось... дайшлі?

На вуліцы спыніліся.

— Дзе жывеш, Ілья?

— Ільнабазу ведаеш?

— А мне трэба ў камендатуру. Ты мяне пачакай.

На драбінах Ілья застаўся адзін. Намацаў у кішэні метр-складанік, дастаў, перакінуў з рукі на руку, расклаў, склаў, зноў расклаў, усё роўна як хацеў штосьці замераць, а што — не ведаў. Схаваў складанік у кішэню.

З двара камендатуры праз вароты ланцужком выйшлі хлопцы-навабранцы, трымаючы на плячах драўляныя, [illegible] драўлянымі ствaламі, вучэбныя вінтоўкі. Пастроіліся, падраўняліся.

— Вось чаму яна не страляла, не зараджана была! — пачулася з ганка. Там стаяў Малыга — строіў жарцікі.

Правафланговы скамандаваў:

— Аддзяленне, шагам-м арш! За-пя-вай!

І панеслі па вуліцы:

Даешь отпор,
Краснознаменная.
Смелее в бой...

Малыга знік за дзвярыма ў сенцах. Ілья чакаў доўга, але не было куды спяшацца. Сядзеў на драбінах

і глядзеў на Буланчыка з ранейшым жаданнем, хоць разумеў, што конь да яго ў рукі не трапіць, калі трапіў у ваенную часць, у страявы рэестр. Глядзеў на каня і думаў, што цяпер, калі да іх прыбіліся Малыгі, без каня будзе яшчэ цяжэй.

Вароты зарыпелі і шырака адчыніліся. З двара камендатуры выехала палутарка. На кабіне стаяў зялёны буйнакаліберны кулямёт. Пры ім на кабіну абапіраліся два чырвонаармейцы. Ілья пазнаў і палутарку, і кулямёт, зняты з нямецкага самалёта, збітага ваенізаванай аховаю нафтабазы — колькі дзён палутарка патрулявала горад. Пазнаў і шэранькую «эмку», у якой побач з шафёрам сядзеў начальнік аператыўнага аддзела арміі. Працуючы на акопах, Ілья не раз бачыў гэтую «эмку» ў лесе. Неаднойчы бачыў і каменданта, які сядзеў за спіной у аператыўніка.

Следам за палутаркаю і «эмкай» на вуліцу з варот выйшаў чалавек у афіцэрскай форме. Машыны паехалі, а ён, агледзеўшыся, рушыў да Ільі. Падышоўшы, бадзёра адрапартаваў:

— Таварыш-ш швагер! Дазвольце прадставіцца!

Ілья ад нечаканасці аж з драбін споўз:

— Валодзя! — У пятліцах гімнасцёркі было па адной шпале чыстай зіхаткой чырвані.— Капітан? Жартуеш?

Малыга схапіў швагра за плечы:

— Не жартую, Ілья. Капітан, ён жа старшы ваентэхнік першага рангу. Шануй і слухайся, браток! А цяпер — на спіртзавод. І піць будзем, і гуляць будзем, а смерць прыйдзе — паміраць будзем!

Яны ўжо сядзелі на драбінах. Малыга выхапіў з рук швагра лейцы, крутануў над галавою, і конь, адчуўшы на лейцах вясёлыя рукі, панёсся пад адхон, сыплючы на брук пошчак жалезам акованых колаў.

У гэты дзень Малыгу шанцавала. Яшчэ не астыў ад сустрэчы з Ільёй, ад радасці, што тут, у горадзе, Асташонкі і Падабеды, да якіх цяжка і доўга ішоў, ад хвалявання ў новай і жаданай вайсковай форме, як, выехаўшы на луг, сустрэлі Захара і таго самага радавога Дробава. Яны шукалі каня і, убачыўшы, беглі напярэймы ад рэчкі, крычалі:

— Стойце!

Абняліся і доўга адзін аднаго разглядалі, ні аб чым не пытаючыся. Аб чым пытацца? Тое-сёе пра іх Малыга

ўжо ведаў ад Ільі, а Захар пра ўсё, што найперш хацеў спытаць у Малыгі, здагадваўся па ягоным твары, па вайсковай вопратцы. Малыга не даў доўга стаяць, усіх падагнаў на воз, і сам на драбінах усеўся паміж Ільёй і Захарам, абдымаючы абодвух за плечы, радасны. Конь ішоў спакойнай хадою, ніхто не падганяў, як забыліся на яго і на тое, што некуды едуць. Захар спытаў:

— Куды едзем?

— На спіртзавод? — у вочы Малыгу глянуў Ілья, яшчэ не ўпэўнены, што ім туды трэба ехаць.

І тады спахапіўся Малыга:

— Мы ж не ў той бок? Кіруй, Дробаў, на спіртзавод.

— Навошта? — не зразумеў Захар.

— Сям'я там. Ксеня, дзеці.

— Усе тут? — здзівіўся Захар.

— Усе. Забяром маіх і да вас, на льнабазу.

— А ты, Валодзя? У войску — не ў войску? У арміі з сям'ёй? — не разумеў Захар.

— Пяць дзён, як у арміі. Была бронь. Пакарыстаўся, каб сям'ю вывезці з Мінска. А цяпер бронь здаў. Другая мабілізацыя абвешчана. Мой сёмы гадок становіцца ў строй. Якая ж цяпер бронь?

Малыга скончыў Межавы інстытут у Маскве, меў дыплом інжынера-землеўпарадчыка, на вайсковым уліку стаяў картографам, але на ваенныя зборы ні разу не прызываўся. Працаваў вышукальнікам на будаўніцтве шасейных дарог — тут і была яго армейская служба. Хіба не ўклад у абарону краіны хоць бы дарога Масква — Мінск, якой аддаў апошнія гады? Быў галавою экспедыцыі. Атрымаў кватэру ў Мінску, на Савецкай, нават ездзіў на службовай «эмцы». Цяпер выдалі даведку, якая сведчыла, што ён, Малыга Уладзімір Харытонавіч, прызваны ў Чырвоную Армію згодна з Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 22 чэрвеня 1941 года аб мабілізацыі. Выдалі для прадстаўлення па месцы работы. Подпісы, штамп — як паложана. А каму прадстаўляць? Дзе тое месца работы? Пад подпісамі — дата: 20 ліпеня — з гэтага дня прыняў узвод будаўнічага батальёна, які адыходзіў з-пад Баранавіч. Батальён страціў палову баявога саставу, папаўняўся па дарозе, быў неабмундзіраваны, бо камплектаваўся ў першыя дні вайны, калі немцы ўжо захапілі асноўныя базы вайсковай амуніцыі, зброі,

харчу, невядома чыёй галавою размешчаныя блізка ад граніцы. Хто ведаў гэта, той не здзіўляўся, што Малыга, камандуючы батальёнам, хадзіў у цывільнай вопратцы, як здзівіўся Ілья Асташонак.

З лога на спіртзавод не праехалі. Яшчэ раніцай тут ездзілі праз рыплівы часовы масток, але цяпер ён быў разабраны. Давялося вяртацца на гарадскі брук. Ехаў адзін радавы Дробаў — Захар, Ілья і Валодзя ішлі за драбінамі следам.

Зноў данеслася дружнае:

Даешь отпор,
Краснознаменная.
Смелее в бой...

Абочынай вуліцы, уздымаючы густы пыл, насустрач ішлі тыя самыя прызыўнікі з драўлянымі вінтоўкамі на плячах.

З веснічкаў выйшаў-высунуўся стары на мыліцах. На галаве рыжая зімовая шапка, такога самага рыжага колеру барада. Адставіў правую мыліцу да шула, садраў шапку з кудлатае, нібы ў цыгана, галавы і, трасучы шапкаю ў паветры насустрач прызыўнікам, закрычаў на ўсю вуліцу:

— Дайце ім, шалёным сабакам! Дайце ім адпору, сынкі! Смялей, сынкі! Не бойцеся! Дайце ім пытлю!

Яго хрыплы голас нібы тупой пілою дзерануў Захара па сэрцы. Ілья і Валодзя, глянуўшы на старога, пайшлі далей, іх ён нічым не зачапіў, а Захар спыніўся.

Прызыўнікі прайшлі міма старога, і тады ён кінуў шапку сабе пад ногі, схапіў мыліцу, што стаяла ля шула, ускінуў над галавою грозна, як зброю, і закрычаў наўздагон яшчэ мацней:

— Сук-кіны каты!

Захар адвярнуўся, каб не бачыць ні старога, ні бравых абаронцаў з дзеравякамі, пануры пайшоў далей, за Ільёй і Валодзем. Яму захацелася хутчэй нагнаць Валодзю і гаварыць з ім пра ўсё, што за гэтыя апошнія тыдні чуў і бачыў, што перадумаў, да чаго дайшоў і да чаго не дайшоў розумам.

Захара здзівіла, што Малыга, вайсковы цяпер чалавек, не звярнуў увагі на прызыўнікоў з драўлянымі вінтоўкамі. А ці гэта дзіва? У Малыгі на ўвесь батальён было дзевяць вінтовак, з іх тры асаавіяхімаўскія, з дзіркамі ў ствалах. Гэтымі, што з дзіркамі, карысталася каравульная служба: абы выгляд, што зброя.

А радавы састаў? Усе байцы ў батальёне немаладога ўзросту, каторым — па пяцьдзесят, болей, іх падбіралі, адступаючы, яшчэ да прыходу ў батальён Малыгі, па дарозе, усіх, хто не жадаў заставацца пад немцам,— тыя ж бежанцы. Працаваць людзі маглі, былі выдатнымі цеслярамі, сталярамі, печнікамі, любы інструмент да рук прыкіпаў, але колькі з іх было то сардэчнікаў, то з язвамі страўніка, то астматыкаў, са слабымі лёгкімі. Перакуры рабіліся часта, без каманды, глядзіш — працуе чалавек, і ўжо — ляжыць, смаліць цыгарку. І не падымеш — разумець людзей трэба. Малыга іх разумеў, ■ сам сабе здаваўся не на месцы. Ён быў геадэзіст, картограф, сваю справу любіў, ведаў, што краіне патрэбны картографы, што іх не хапае ў арміі, даказваў гэта ў штабе, але чуў адно: рыдлёўку ў руках трымаць умееш — камандуй! Зусім нечакана праз пяць дзён быў ужо камандзірам роты. Арыштавалі камбата, на яго месца паставілі камандзіра роты, у складзе якой быў Малыгаў узвод, а Малыгу перакінулі на роту. Як гэта адбылося? Тут трэба ведаць, што за чалавек быў камбат Мядзведзеў. На батальён прыйшоў са службы асобага рэжыму, быў начальнікам лагера. Але галоўнае не ў гэтым. Зверам быў, ледзь што не па ім — драў горла ды хапаўся за пісталет. У Малыгі з ім адбыўся канфлікт ужо на другі дзень службы. Узвод працаваў на будаўніцтве процітанкавага рова. Піламі валілі ў лесе дрэвы, пні рвалі толавымі шашкамі. З'явіўся камбат. Патрабаваў прынесці чыстую анучу. Прынеслі. Сеў на пень, пачаў чысціць анучаю боты. А далей працавалі дзяўчаты, ля якіх камбат любіў аціраццa. Цяпер зноў туды навастрыўся. І раптам каманда: «Выбух!» Усім, значыць, трэба хавацца ў акопы. Камбат сядзіць на пні, глянцуе боты, быццам не чуе. Аддзялённы крычыць: «Таварыш камбат!» Бяжыць да яго і крычыць. І Малыга: «Таварыш камбат!» Тут і гахнула. Аддзялённы пляснуўся тварам у лужыну, а Малыга не дабег да камбата пяць крокаў — спыніўся. Камбат нават галавы не ўзняў — чысціць боты, як чысціў. А Малыга бачыць: пень ад выбуху ляціць над прасекаю ў яго бок. «Пень, таварыш камбат!» А той павярнуўся да яго: «Сам ты пень, хоць і старшы ваентэхнік!» Пень у лужыну — плялёх! Пяць крокаў да камбата — граззю ўсяго акаціла. Той за пісталет: «Расстраляю!» А каго? Перад ім — Малыга. Да яго

і гразь не даляцела — чысты. Кінуўся з пісталетам да Малыгі, а той стаіць і ў вочы смяецца. Што найшло? Дурны смех ахаладзіў камбата. Сунуў пісталет у кабур і пабег у кусты адмывацца. Увечары выстраіў батальён і пайшоў чысціць: махноўцы, абарванцы! А ты апрані, каб не былі абарванцамі. Як бы з ім жылі далей, калі б не забралі за пуд цукру? Батальён хоць папаўняўся дарогаю, страты людскія раслі, штаты неўкамплектаваныя. Можна было не паказваць у страявой запісцы выбыўшых, а калі паказвалі, то пазней, праз колькі дзён, атрымаўшы прадукты на мёртвыя душы. Не адзін Мядзведзеў гэта рабіў. Ці мала ў часці гасцей — трэба накарміць. Ад салдата не ўварвеш, атэстат не заўсёды спытаеш. Усе трымалі мёртвых у штаце. Але Мядзведзеў абнаглеў. Калі са зборнага пункта ў Казельск адпраўлялі навабранцаў, даў у суправаджэнне свайго ардынарца. Гэтакая шчодрасць шмат каго здзівіла. Але то была хітрасць. У Казельску жыла сям'я. Ардынарац таксама з Казельска — прыгрэў камбат земляка. Адпраўляючы, даў пуд цукру, назбіранага ад мёртвых душ. А ў Казельску ардынарца і прыхапіў ваенны патруль, разам з цукрам. Адтуль нітачка прывяла да камбата — арыштавалі. Камбатам паставілі былога ротнага, а Малыгу — ротным. Цяпер знайшлі гімнасцёрку, боты, галіфэ, фуражку — абмундзіравалі. Усё не новае, але чыстае, моцнае. Галіфэ блакітнае — міліцэйскае. У гарадку стаяў батальён з Мінска, які называлі батальёнам палітработнікаў. Малыга ведаў, што гэта войскі НКУС. Чаму яны тут апынуліся — ніхто не казаў. Вось і атрымаў штаны блакітнага войска. Іншых, па форме, не знайшлося.

На лаўцы пасярод двара стаялі драўляныя начоўкі з рэдзенькай мыльнай пенаю. Зося шаравала бялізну, калі пачула, як на вуліцы, супраць варот, спынілася падвода. Апошнім часам яна жыла быццам пужлівая птушка: што б вакол ні рабілася, усё чула, на ўсё адгукалася нервамі, сэрцам, скураю, ад усяго, што чула і бачыла, чакала бяды. І цяпер, пачуўшы падводу, замерла з мокрай бялізнай у руках. Калі Ілья адчыніў вароты і яна ўбачыла за ім драбіны, бялізна вывалілася з рук у начоўкі:

— Матка боска! Ксеня!

Збянтэжана прашаптала, а ўжо з двара ў вароты беглі Люба і Ліза:

— Ой, дзядзька Валодзя!

Надвечар пасярод двара расклалі цяпельца, паставілі ў агонь чыгунок з маладой бульбаю. Бульбачка была дробная, на чыгунок у агародзе давялося скапаць ладную градку. Гаспадароў няма — няма, можа, і грэху? Агонь раскладаць улады не дазвалялі — жыць належала па правілах ваеннага часу, не забываючы пра святломаскіроўку, каб ні з неба, ні з нейкага іншага боку ніхто не заўважыў. Праўда, хавацца на сваёй зямлі ад чужынца абрыдла і вогнішчы там-сям загараліся кожны вечар. Быў час, калі чалавек і баяўся апынуцца навідавоку, хаваўся, і не мог жыць, хаваючыся.

Пакуль варылася бульба, сабраліся на двары.

— Куды цяпер? Ці ўжо — нікуды? Можа, тут адседзімся, перачакаем? — разважала Ксеня, галінкай падсоўваючы галавешкі пад чыгунок.

Ілья стаяў побач, між пальцаў трымаючы цыгарку, з папяловага канца якой угару цягнулася танклявая ніточка сівога дыму.

— На тое, што адседзімся, не паказвае.

Яна падняла галаву і гэтак паглядзела на брата, быццам усё цяпер залежала ад яго:

— А ты зірні на мае ногі. Бачыш — калоды? Яны доўга будуць насіць? Ці глянь на дзяцей. Дарогі па іх ножках?

Нагамі Ксеня пакутавала з таго часу, як нарадзілася Каця. Находзіцца ці застудзіцца — параспухаюць каленкі, костачкі, пальцы: ночы стагнала, не спала ад болю.

Паглядзеўшы на Ілью, Захар сказаў так, каб хоць крыху супакоіць Ксеню:

— Далёка нас гнаць і немцу няма выгады. Вазьмі Напалеона. Вунь куды дапёр — да Масквы. Моцна не біты. І Масква, і Барадзіно. Не выйграў, але і не прайграў. А што далей?

— Ну... што далей? — падагнаў Малыга, за спіною жонкі трымаючы за плечыкі сваю пястунню Леначку.

— А тое, што далёка забег. Вось і пачаў кружыць, як воўк у загоне. І прайграў вайну. Ад страху, што свой бераг далёка. Калі ён войска згубіў? Адступаючы?

— І што гэта значыць?

— А тое, што як бы лёгка ні наступаў, а думай, як вярнуцца назад. Далей на чужую зямлю зойдзеш —

далей па чужой зямлі і вяртацца. Гітлер гэта не разумее?

Дастаўшы з фуражкі іголку з доўгай суравой ніткаю, Асташонак узяўся зашываць свой пінжак, распораны пад рукавом, і хоць на Захара не глядзеў, лавіў кожны момант, каб сказаць насуперак:

— Дык што ты гэтым хочаш давесці?

— А тое, што далей немцу няма куды перці. Калі мы яго не можам спыніць, дык ужо сам павінен спыніцца.

Малыга зарагатаў:

— Цябе, Захар, паслухаўшы, ваяваць немцам не трэба. Зараз ён табе спыніцца і паверне назад.

Захар сам адчуў — сказаў штосьці не тое:

— Ну... я не веру, каб немец быў гэтакі рызыкоўны. Разыкаваць ён не любіць. Не нашай натуры.

— Але не забывай, што гэта не тая вайна, на якой французы вошай кармілі. Тая была на конях. Гэтая — на калёсах ды гусеніцах. Сам бачыш: усю Беларусь прайшоў і не стаміўся. Сёння перадалі — узяў Рослаў.

Ілья ўваткнуў іголку ў куртку і замёр. Вочы ўставіў на Малыгу. Усе глядзелі на яго.

— Што ж атрымліваецца, Валодзя? — нібыта першым зразумеў сваё становішча Асташонак.— Мы ў мяху? Сядзім не ведаючы?

Малыга доўга думаў, казаць гэта ці не казаць, баяўся, каб трывожнай навіною не давесці да апошняй мяжы адчаю жанчын, але цяпер убачыў, што мацней за ўсіх усхваляваўся Ілья, а жанчыны як быццам спакойна глядзелі на мужчын. Проста яны ўжо былі не тыя палахліўкі, што на пачатку вайны, у першыя дні бежанства. Тады іх гнаў страх, цяпер — вёў розум. І ўсё ж адчуў, што супакоіць трэба. Не манлю. Цвярозасцю.

— Не думаю, што мы, Ілья, у мяху,— разважыў Малыга.— Немец прэ па галоўных дарогах. А мы — збоку. Сюды ён не спяшаецца. Хоць гэта і не значыць, што нам можна адседзецца.

Бульба зварылася. Ліза выставіла з агню чыгунок, тут жа, на цяпельца, адцадзіла, заліла агонь. Яечню смажылі на вугаллі, разраўняўшы пад усю патэльню. Ля сянец на двары стаяў збіты з дошак стол — за ім і сабраліся есці. І ўжо тут, ля стала, агледзеліся, што няма Валодзі. Дзеці кінуліся ў хату — няма ў хаце, выбеглі на вуліцу — ён сядзеў на драбінах з двума

чырвонаармейцамі, якія прыйшлі па яго з часці. Абгарнуўшы чыгун анучаю, Ліза кінулася з ім да драбін.

— Куды ты, Валодзя? А есці?

— Ну, сып у прыгаршчы...

У прыгаршчы — гарачая, адсыпала на салому ў драбіны. Ксеня прынесла гуркі. Ліза пабегла з чыгуном у двор, каб яшчэ ў місе прынесці яечню. Не паспела. Конь панёс драбіны па вуліцы, заглушаючы Валодзеў голас:

— Я хутка вярнуся!

І толькі тады, як паехаў, да жанчын усё роўна як дайшоў увесь сэнс той ягонай навіны:

— Дык няўжо немец у Рослаўлі? Чаго ж мы тут сядзім?

Гэтае пытанне вісела над кожным, ні пра што іншае гаварыць не давала. Мужчыны елі, а жанчынам у рот не лезла ні бульба, ні яечня.

— Ну што ты маўчыш, Захар? — нервова спытала Ліза.— Што нам рабіць? Трэба, можа, кідаць гэтую хату? Чаго мы тут сядзім?

— Вернецца Валодзя, тады і вырашым.

Супраць гэтага ніхто не быў, але Ілья, дастаўшы з кішэні жоўценькі метр, то раскладаючы яго, то складаючы, раптам сказаў:

— Кожная вайна канчаецца мірам. Такой, каб мірам не скончылася, на зямлі яшчэ не было. Гэта вам, бабы, трэба ведаць.

Ці зразумелі яго жанчыны? Прыціхлі, але ці дайшоў да іх сэнс таго, што Ілья сказаў? Нават Захар зразумеў не адразу. Падумаў: «Малайчына Ілья, разумна сказаў. Няма войнаў, якія б не канчаліся мірам. І не трэба панікаваць». У гэтай дарозе ён ужо неаднойчы заўважаў, што ёсць у Ільі розум, калі шчыры, не хітруе, не пра аднаго сябе думае. Але, запіваючы бульбу малаком, Ілья зноў казытнуў сваю больку:

— Буланчыка па-дурному страцілі. Яны, вайскоўцы, колькі коней паклалі? Ды коні-коні! А тут — адзін Буланчык. Ці ён іх выратуе?

Захар не стаў спрачацца:

— Калі ўжо Майсей свайго не ўбярог?..

Пачаў расказваць пра сустрэчу з Майсеем, упэўнены, што гэтым прыемна здзівіць, але сам здзівіўся таму, што адказала Ліза:

— Затое ў яго на двары карова.

— Ты адкуль ведаеш?

— А ён жыве праз тры двары ад нас. Кожную раніцу як падоіць, дык і бяжыць з бітончыкам праз агароды. Камусьці малако носіць.

— Плача, што Моціка прызвалі.

— Але Гірш застаўся?

Калі сцямнела, з'явіліся Раман і Лёнік. Следам за імі ўсім сваім табуном прыйшлі дзетдомаўцы.

Спаць доўга не клаліся — чакалі Валодзю.

Не дачакаліся ні ўвечары, ні ўначы.

Ён з'явіўся на золку, калі ўсе, змогшыся, спалі. Ніводная хвортка на вуліцы яшчэ не рыпнула, ні з аднаго коміна не курэў дым. Па агародах варушыўся рэдзенькі туманок, смужыла ў садах і пад вокнамі. Ніякі сабака гэтакім раннем яшчэ не адважваўся гаўкнуць — яны цяпер, як і людзі, лішняга голасу не падавалі. Пратупаўшы ў вайсковых ботах па ўвільгатнелым за ноч пяску міма запацелых вокан, Малыга ўзяўся за клямку і здзівіўся, што дзверы ў хату незачыненыя — чакалі. На ганку скінуў з пляча рэчавы мех, паставіў ля ног на падлогу, сам сеў на лаўку і адразу пачуў у садзе салоўку. На сходзе лета? Раніца, праўда, завязалася цёплая, духмяная, маладая, быццам галінка маёвая.

Пачуліся далёкія выбухі. Недзе ў баку Клімавіч. Яшчэ і яшчэ. Рука легла на рэчавы мех. Але Малыга не ўстаў. Сядзеў і нечага чакаў, насцярожаны.

Ляснула за спіной — ўсхапіўся, усё роўна як гэта і быў самы цяжкі выбух. Дзверы адчыніліся — на парозе з'явілася Ксеня: босая, у белай начной сарочцы.

— Ты тут, Валодзя! Пад дзвярыма, нібы жабрак.

— А не хачу вас будзіць.

Абняў жонку, разамлела-цёплую. Ад яе ішоў салодкі, нібы ад дзіцяці, водар нагрэтага цела, цёплай пасцелі, хмелю.

— Ідзі ў хату.

— Дзеці спяць?

— Хай спяць. Хопіць, што я цябе ўсю ноч чакаю. З'ехаў, нічога не сказаўшы.

— Ідзі накінь кофту. Ноч... як вясною.

Жонка пайшла, вярнулася ў шарсцяной кофце, і яны

сядзелі, абняўшыся, на ганку, слухалі салоўку, які зноў спяваў у садзе, наганяючы вясновы настрой.

— Гэта... твой мех?

Валодзя нагнуўся, развязаў мех, выняў загорнуты ў тоўстую жоўтую паперу брус, паклаў на калені.

— Што гэта?

— Мыла. Трэба? — Дастаў яшчэ нешта загорнутае ў анучу, паклаў зверху на брус.— А гэта цукар, галоўкамі.

— Усё нам?

— Падзелішся з Лізай, Зосяй.

— Як той... камбат Мядзведзеў?

— Я не камбат.

Яна перагледзела ўсё, што было ў мяху, знайшла кацялок, лыжку, конаўку, чыстыя анучы.

— Небагата ў цябе тут?

— У паходзе багата не трэба. Ідзі будзі дзяцей.

Апошняе сказаў нечакана, ажно Ксеня ўпусціла з рук мех, змоўкла, нічога не разумеючы. Заўсёды шкадаваў дзіцячы сон, не будзіў, пакуль самі не прачнуцца, пяць хвілін назад баяўся пабудзіць, а тут раптам — ідзі будзі.

Усхапілася, адчуўшы нядобрае.

— Будзіць? — перапытала, як усё яшчэ не верыла, што ён гэтак сказаў.

— Будзі, Ксеня.

Цяпер яна ўсё зразумела, бо гэтым страхам жыла апошнія дні. Ведала, што гэта здарыцца, не сёння дык заўтра, і калі нікому сваёй трывогі не паказвала, нават мужу, дык толькі таму, што баялася лішнім словам наблізіць хвіліну самай вялікай бяды.

— Не пушчу! — Яна кінулася яму на шыю.— У цябе бронь. Ты не маеш права ісці. Бронь, Валодзя!

— Ну, цішэй,— супакойваў, як малую, гладзячы далонню па галаве. Стараўся казаць шэптам: — Я бронь выкарыстаў. Ты гэта ведаеш. Бронь дала мне магчымасць вывесці вас з Мінска, адшукаць Падабедаў, Асташонкаў, сабраць усіх у адну сям'ю. А цяпер — якая бронь? Ты не адна. Са сваімі.

— У іх свае сем'і.

— Яны цябе не кінуць. А што цяжка... Каму лёгка?

— Ілья сям'ю не кідае.

— Астматык, інвалід...

— І Захар.

— Захар адваяваў. А я маладзы. Мае гадкі ўжо цэлы месяц галовы кладуць.

Ён ніколі не злаваў на жонку, на дзяцей, на чужых людзей, ад прыроды вясёлы, добры, умеў бяду звесці на жарт ці да нейкай разумнай думкі, [illegible] усмешкай глядзеў на тое, што іншых засмучала, злавала. Вось — і цяпер:

— Я ж крычавец, Ксеня. Ва-шчы-ла!.. Сама казала: цябе, вашчылу, на ланцуг не пасодзіш. Продкі ў мяне якія? Якая кроў?

— Шалёная ў цябе кроў. Галава шалёная.

— Галава, Ксеня, круглая. Як казаў мой дзед Антось. І яшчэ як казаў? Або грудзь у крыжах, або галава ў кустах.

Апошні жарт не ўдаўся. Спахапіўся, ды позна. Жонка ўжо хліпала носам, у слязах тапіла сваю жаночую бяду. І раптам з'явілася Каця, як сам бог прыслаў. Выйшла на ганак, заклаўшы за галаву рукі, пазяхнула, пацягнулася са сну, сустрэтая нізкім, з-за плота, сонечным промнем, падышла, убачыўшы матчыны слёзы, спакойна, нібы дарослая, нібы яны, дачка і маці, памяняліся месцамі, сказала:

— Не плач, мама. Дровы пілаваць і калоць я ўмею, вогнішча распаліць умею. Ты сама кажаш, што рукі ў мяне мужчынскія. Не прападзем. А калі тата не пойдзе на фронт, мне ўсё жыццё сорамна будзе глядзець людзям у вочы.

— О божа!

Маці заміргала, разгубленая, як не пазнаючы сваю Кацю, і хуценька выцерла далонню слёзы.

Дачка села да бацькі, прытулілася, паклала яму на плячо светлую пушыстую галоўку, яшчэ не прычасаную, з тоўстай расплеценай касою, прашаптала:

— Я люблю цябе.

Ксеня са здзіўленнем, як першы раз, глядзела на іх абаіх: якія падобныя! Ды каб толькі звонку, бялявымі валасамі ды курносымі насамі. Аднолькавае ішло знутры, з дыхання. Галасы — як з адной душы. Усё, што рабіла іх, дачку і бацьку, падобнымі, пужала Ксеню, быццам аддаляла іх ад яе, маці і жонкі.

Бацька, расчулены ад дочкыных слоў і пяшчоты, абняў Кацю:

— Камсамолачка ты мая...

Дачок Валодзя любіў. Хоць служба давала мала вольнага часу, вадзіў іх у кіно, у парк на каруселі,

катаўся з імі на тралейбусе, нічога ім не шкадаваў, крыўдаваў на жонку, калі яна штосьці купляла дзяўчатам, з ім не параіўшыся, заўсёды ведаў, што трэба купіць Леначцы, а што Каці, заўважаў і радаваўся, як Каця сталела, хадзіў з ёю па магазінах, выбіраючы сукенкі і чаравічкі, а вярнуўшыся з работы, абуджаў вялікую трохпакаёвую кватэру вясёлым голасам: «Каця! Ле-нач-ка!» Яны кідалі ўсё, што было ў руках, беглі да бацькі, сцягвалі з яго паліто ці плашч, на вешалку ўскідвалі чорны велюравы капялюш, хапалі партфель і пачыналі патрашыць. У партфелі заўсёды былі гасцінцы любімым дочкам. З цукеркамі ў роце абдымалі бацьку, віслі на яго шыі, а ён іх кружыў пасярод светлай гасцінай. Ксеня папракала: «Ох, збалуеш ты дзевак!» Ен рагатаў: «Каму ж іх балуваць, як не бацьку?» Сам пабойваўся, каб не распесціліся, але першыя ж дні вайны, калі ішлі ад Мінска па спаленых пажарамі і сонцам дарогах, ночы па чужых хатах, гумнах, копах, у лесе, ля вогнішчаў здзіўлялі Валодзю і Ксеню: дзе іх дзяўчынкі бяруць сілы, каб трываць? Леначку хоць дзе-нідзе нёс на плячах, ускідваў каму-небудзь на воз, а Каця, таксама ж дзіця, хоць і на пятнаццатым годзіку, нідзе не пад'ехала, не схітравала. Яна лёгка сыходзілася з чужымі людзьмі, ведала, аб чым з імі гаварыць, у лесе хутчэй за маці заўважала і сунічку, і чарнічку, назбірае і сястры, і тату, і маме. Сама, без падказак, адчула патрэбу клапаціцца аб блізкіх. Памые сястрычцы ножкі, пахаладае — накіне ёй на плечы сваю кофтачку, ноччу паклапоціцца, каб не раскрылася, не прастыла. З ёю было лёгка і ў цяжкой дарозе.

З дому выскачыў Лёнік — голы да пояса, босы, загарэлы. Як заўсёды, падхапіўся раней за іншых.

— Што не спіце? — спытаў, усё роўна як ён адзін і мог не спаць у гэтакі ранні час.— Трэба рэчавы мех? Дык у мяне сябра камроты. Свой чалавек. Магу дастаць.

— Ты, Лёнік, цішэй жыві,— параіў Малыга.

— Нічога. Жылі і жыць будзем.

Хлопец смаргануў Кацю за касу і, пераскочыўшы цераз плот, шаснуў у лапушыстыя сланечнікі.

— Во, гляньце!

Ен выцягнуў са сланечнікаў нешта цяжкаватае ў мяху, узваліў на жардзіну, перакуліў на двор.

Пераскочыўшы, вытрас з меха кавалерыйскае сядло са страмёнамі.

— Адкуль яно ў цябе? — здзівіўся Малыга.

— Нехта недзе схаваў, а я знайшоў.

— А ты ведаеш, што можаш за гэта схапіць? Ідзе вайна. Цяпер і сядло — зброя. Ды яшчэ кавалерыйскае.

— А я, можа, вам хачу падарыць? Вось, бярыце. Мой вам падарунак. Каб сядло ваявала. Я такі. Для фронту. Гля...ляньце, Майсей! — Кінуў пад ногі мех, скочыў у тыя самыя сланечнікі і знік. І ніхто ўжо не бачыў ні Лёніка, ні Майсея.

Вярнуўся ён, можа, праз гадзіну. Запыханы, узбуджана-вясёлы, з мокраю галавой.

Каля хорткі сустрэў бацька:

— Дзе бегаў?

— На рэчцы мыўся.

Бацька высмаргнуў з кішэні жоўты складны метр, нервова, углядаючыся ў сына, расклаў, склаў. Сын зразумеў яго па ўсіх гэтых рухах — праскочыў міма.

— Ох, дзялок! — сустрэла на парозе Каця.

— Справа ёсць,— шапнуў па-змоўніцку Лёнік, але не дагаварыў, бо ў хату зайшоў бацька.

На вуліцы, супраць акна, стаяла таўшчэзная старая ліпа. Яшчэ як Лёнік бег дадому, пад ёй нікога не бачыў, і раптам, калі жанчыны паклікалі ўсіх за стол снедаць, пад ліпай заляскатаў бубен. Дзеці кінуліся да акна. Там стаяў воз, на возе малады хлопец бухаў бубнам аб калена, сыпаў званочкамі, побач стары зацягваў прыпеўкі, аж захліпаўся. Спіною да старога сядзела жанчына, падпявала і рагатала. Ля каня стаялі хлопчык і падлетак. Хлопчык трымаў каня за аброць, а падлетак соваў каню ў зубы рыльца бутэлькі з гарэлкаю, ліў праз сашчэпленыя конскія зубы. Конь вырываўся, адступаў назад, падвода сморгалася, стары крычаў «Тпр-ру!», а хлопцы, трымаючы каня за аброць, лілі гарэлку — больш пад ногі, як у каня. Што засталося ў бутэльцы, тое падлетак выліў сабе ў рот, скрывіўся, сунуў пустую пляшку пад сена на падводзе. Конь ці ад гарэлкі адразу сп'янеў, пагарачэў, ці ён і быў гарачы — ледзь хлопцы паспелі скочыць на воз, як на злом галавы папёр, растрасаючы па бруку пошчак бубна, колаў, капытоў. Галасы бязладна зліліся ў знаёмую песню: «Ты не вейся, черный ворон, не маши бойцам крылом, не накличешь сердцу горе — все равно свое

возьмем...» Конь пёр у плот. Стары напяў лейцы, але справіцца не змог. Воз рэзка крутануўся ўлева, з лёту яго кінула ўправа, ён саскочыў з передка, накрыў людзей і песню разам з бубнам, а конь панёсся з передком, які шалёна падскокваў на двух колах.

Дзеці з рогатам вярталіся ў хату, расказваючы, што адбылося, а бацькі ўжо сядзелі за сталом, і размовы тут былі зусім іншыя.

— Выжыць і перамагчы? А як? — невядома ў каго пытаўся Захар.— Як — загадка! Асабліва для навабранца, што першы раз пад агнём.

Малыга прыняў сказанае на сябе:

— Мне ўжо даўно не васемнаццаць.

— Але пад агнём не ляжаў. Зямлёю не накрываўся?

— Хапіла ўсяго, як ішлі з Мінска.

— Бежанскае. А там, у акопах? Ляжым, помню, галодныя, на галовы — не то дождж, не то снег. А германец сыты, свежы. Пачаў мацаць нашу абарону, чаго вартая. Сыпле ды сыпле нам у акопы свае цацкі. Ды прыцэльна. За дзень высачыў пазіцыі. А ў роце адны навабранчыкі. Удзень якраз папоўніліся. Я за хлопцаў ды на бруствер. Бачу: паперадзе варонка дыміць. Камандую: усе ў варонку! Ледзь скаціліся, як германец і накрыў наш акоп. Мы, хто быў тады ў варонцы, [redacted] узвода толькі і засталіся. А на вайне ёсць закон няпісаны: два разы ў адну кропку снарад не цаляе. Хочаш жыць — кацїся ў варонку, ды самую свежую, ды на самае дно. Ты, Валодзя, бывалага салдата заўсёды слухай. Памятаеш, Ілья, як у Гарэцкага юнкер Шалапутаў? У занатоўках Лявона Задумы. Хоць Шалапутаў і хлюст, але навабранчыкаў называў дакладна: шпакамі, шэрымі шляпамі.

Асташонак матлянуў галавою:

— Не чытаў. Не ведаю.

— Чытаў. Забыўся. Я табе кнігу даваў, ты яе паўгода ў спальні на тумбачцы трымаў.

Ілья пачаў хрумстаць гурком:

— У кнігах брахня.

— Не кажы, Ілья. Сам прасіў у мяне Гарэцкага, калі дазнаўся, што з мужыкоў і наш сусед — мсціслаўскі. Не можа быць, казаў, каб наш мужык, калі ўзяўся пісаць, збрахаў. Казаў гэтак?

Асташонак змоўчаў. Ён сёння рашуча не жадаў ні ў чым падтрымліваць Падабеда.

— А можа, і не чытаў. Праляжала ў цябе кніга паўгода, а ты яе не чытаў. Такую кнігу! Яе трэба чытаць кожнаму, хто ідзе на вайну. І хто чакае чалавека з вайны.

Захара за жывое зачапіла тое, што казаў Ілья, яго дурная ўпартасць. Гэта заўважылі нават дзеці. Таму, можа, Каця раптам і ўстрэла са сваім словам паміж дарослымі:

— Дык і ты, тата, як сказаў Шалапутаў, не будзь шэрай шляпай. І шпаком не будзь.

Сказала як быццам жартам, але і сур'ёзна, [redacted] сэнсам. Яе словы і падштурхнулі бацьку ўстаць са шклянкай, да палавіны налітай чырвоным віном:

— Ну дык... Ілья, Захар... Беражыце дзяцей, жонак, адзін аднаго, маю Ксеню, маіх дзяўчат. Я там... за вас за ўсіх. Там, дзе Міша... Толік, мабыць, таксама. Там мы за вас за ўсіх... А вы тут... Адзін за аднаго. Іначай цяпер нельга. І... за перамогу!

Можа, што канчаўся першы месяц вайны, у якім кожны дзень, кожная хвіліна кожнага дня былі да краёў паўнюткія болю і слёз, ці, можа, што за гэты час, нібыта невялікі ў міры і доўгі, як жыццё, у бядзе, вочы паспелі выплакацца, а сэрцы паспелі збалець да атупеласці, нават Ксеня ўжо не плакала. Калі праводзілі Валодзю, па шашы [redacted] захаду на ўсход, ад Варшаўкі, [redacted] боку Клімавіч, сыпанула тая конніца, што некалькі дзён назад усім на радасць пранеслася праз гарадок у бок Варшаўкі, насустрач нямецкім танкавым калонам. Што конніца тая самая, гаварылі ўсе, хоць кожнаму, хто яе бачыў тады і цяпер, у гэта цяжка было паверыць. Тады на кожным кані і конніку зіхацелі кожны раменьчык, кожная спражачка, іграў кожны мускул, яны не ішлі — ляцелі, нібы вецер святой помсты, кара ворагу за пакуты, здзекі, якія ён сеяў на чужой зямлі. Дружны густы пошчак па бруку гучаў песняй надзеі на блізкую перамогу, на вяртанне ўсіх, каго вайна зрушыла з месца, да родных парогаў. А цяпер тую конніцу цяжка было пазнаць. Стомлена рухаліся дробныя табункі людзей, мала хто быў на конях, ішлі пешкі, усе шэрыя, у брудных, парваных і абгарэлых гімнасцёрках з накіпам шэрае солі на спінах, хто кульгаў, абапіраючыся на які ражон, хто валокся з падвязанай рукою, з абматанымі анучамі галовамі. Рыпелі, як плакалі, падводы, на іх сядзелі

і ляжалі цяжка параненыя, густы шэры пыл ляжаў на конях і людзях. Рухаліся моўчкі. Гэтае маўчанне адступлення было самае, можа, трывожнае за ўсе апошнія дні. Надзея, якую звязвалі з конніцай, раптам, за адну хвіліну, знікла. Быццам нямецкія танкавыя калоны, пра якія шмат гаварылі, але якія блізкага жаху дагэтуль яшчэ не наганялі, бо грымелі далёка, за семдзесят кіламетраў, на Варшаўцы, раптам апынуліся зусім блізка, дыхнулі смерці ў спіны, у твары. Цяпер усе адчулі: няма на каго і на што спадзявацца, акрамя як на свае ногі, трэба хутчэй, пакуль не позна, спяшацца следам за апошнімі навабранцамі і гэтымі разбітымі коннікамі без коней — на Унечу. Гэта быў паратунак.

Пра Унечу думаў і гаварыў кожны. Яна была і на вуснах у Малыгі, калі палутарка выязджала ад ільнозавода на брук, а ён стаяў у кузаве і крычаў:

— Ідзіце на Унечу! Чуеце — Ксеня, Захар, Ілья! На Унечу ідзіце сёння ж!

Голас зрываўся, Валодзя кашляў і крычаў адначасова, быццам густы сонечны пыл забіваў горла.

Вельмі хутка ўсё адбылося. Вось стаялі разам, дружна, моўчкі глядзелі, як з апошняга паходу вярталася конніца, і вось ужо ні машыны, ні Валодзі. А коннікі валакліся. То, здавалася, прайшлі апошнія, і то зноў рухаліся малой купкаю, з нейкай падводаю, той-сёй — верхам. На іх ужо мала хто звяртаў увагу. Вуліцы апусцелі, прыціхлі. Але прыбавілася людзей з клункамі, чамаданамі. Амаль усе цягнуліся ў тым напрамку, у якім ішлі коннікі.

Пра свайго каня Ілья ўжо не заводзіў размовы. Ён бачыў, што на конях бежанцаў менела, мала хто вёз клункі на вазах, коней падабралі бамбёжкі, работы за горадам на акопах, ваенныя ўлады, абозы. Праўда, калі пракацілася чутка, што недзе за горадам па дарожных абочынах разбіты атрад папакідаў скалечаных коней, Ілья ўгаварыў Захара выйсці за горад: раптам каторага можна яшчэ запрэгчы? Прайшлі брукаванкай на Клімавічы вярсты тры, але ніякіх коней нідзе не ўбачылі. Ішлі б, можа, далей, ды на ўзгорку, з якога ва ўсе бакі адкрываліся палі, жыта і жыта, спелае, сумнае ў гэтую пару без людзей, жаночых белых хусцінак, данеслася страляніна. З таго боку, дзе чыгуначная станцыя. Цяжка было зразумець, хто з кім схапіўся,

калі тут яшчэ не было немцаў. Ілья і Захар павярнулі назад у горад.

Да чыгуначнага пераезда дабеглі хутка, але на пераездзе затрымаў каменданцкі пост. Завялі ў пастаВую будку. Пашпарты і чырвонаармейскія кніжкі Захар і Ілья цяпер заўсёды насілі пры сабе, без іх было рызыкоўна адысціся ад дому, але на гэты раз і з дакументамі не адпускалі. Можа, што Ілья псіхануў, горла раскрыў: «Ану адпускайце! Дакумент вам не доказ? Там — сем'і, дзеці, а вы тут!..» Паставыя зачынілі будку і пайшлі. І куды дзенешся? На вокнах краты, дзверы на завале.

З'явіўся лейтэнант камендатуры. Ён пазнаў Захара. Вярнуў дакументы, спытаў, як апынуліся на пераездзе. Пасмяяўся: «Якія вам тут коні? Бяжыце на Унечу, пакуль самі цэлыя. Заўтра немец аб'явіцца».

Ад яго дазналіся, што за страляніна ўспыхнула на станцыі. З Клімавіч на матацыклах уварваліся нямецкія аўтаматчыкі, кашанулі са сваіх «шмайсераў», не спыняючы матацыклаў, налева і направа. Іх тактыка была ўжо вядомая: навесці жах на людзей. Ды тут сустрэў каменданцкі пост. Адны матацыклы паспелі развярнуцца, даць лататы назад у Клімавічы, другіх пакасілі з таго самага кулямёта, што знялі са збітага нямецкага штурмавіка.

Прыбеглі дадому, а там свае слёзы. Жанчыны ў роспачы: ні мужыкоў, ні дзяцей. Мужыкі вярнуліся, а дзеці? Ні Каці, ні Любы, ні Лёніка, ні Васі. Куды падзеліся? Ілья за хлеў заскочыў, а там — Лёнік. Ды не адзін — з канём. Што за конь? Здаровы, чорны, як вугаль, аж блішчыць. І сядло на ім кавалерыйскае. Ілья аж спужаўся. Першы раз не абрадаваўся, а спужаўся ад сустрэчы з канём.

— Ты... дзе яго ўзяў?

І сын усё роўна як разгубіўся перад бацькам. Як сам не ведаў, што яму з канём рабіць:

— Ды... знайшоў, бацька. За рэчкаю.

— Ён што? Так і хадзіў? Цябе чакаў? І пад сядлом?

— Ну... пад сядлом. Кінуў нехта...

Каця і Люба з'явіліся разам з Раманам. Ліза як убачыла іх у акно, дык, не пазнаўшы Рамана, падумала, што нейкі чужы чалавек вядзе дзяўчат, усё роўна як яны нешта недзе натварылі. Выбегла з хаты на вуліцу, насустрач:

— Што з вамі? Дзе Васька?

Тут і Ксеня — твар мокры, вочы чырвоныя, глядзіць на дачку, як баіцца ў яе штосьці спытаць.

Але Каця спытала спакойна:

— Што вы за нас баіцеся? Як дзеці, дык ужо і ад дому не адыдзі? Ужо і на рэчку нельга збегаць?

Ксеня цяпер часта маўчала, пачуўшы рашучы Кацін голас. Яна адчувала, што бяда неўпрыкмет зраўняла іх, маці і дачку, у правах, дала Каці правы большыя, як былі яшчэ месяц назад. Можа, што пароўну бяды? Адна бяда — адны правы? Тое самае перажывала і Зося перад Лёнікам. Адно Ліза яшчэ не выпускала з рук лейцаў — меншыя былі дзеці. Яна і цяпер ускінулася на Любу, хоць ужо і Вася быў побач, прывалокся следам за старэйшымі дзяўчатамі і Раманам. Люба — у слёзы. Але падышоў бацька — супакоіў:

— Збірайцеся ў дарогу.

З тым самым спакоем голас падаў Раман:

— Каго й та вядуць?..

Па вуліцы ад рэчкі, якая цякла за льнабазай, на гару цяжка ішлі пяцёра мужчын, кожны трымаў рукі ззаду, звязаныя, а за імі следам ішлі два чырвонаармейцы, наставіўшы ў спіны мужчынам вінтоўкі.

— Дык гэта ж Моцік? — аднаго з іх, першага, пазнала Зося.

— Майсееў? — здзівіўся Захар.— Але ж Майсей казаў, што Моцік пайшоў па мабілізацыі?..

Мужчыны праходзілі блізка ад дому, і памыліцца было немагчыма, хоць усе яны, Моцік — таксама, зараслі чорнымі барадамі. Малады Смаляк ішоў нервова, азіраючыся па баках, пазіраў і ў гэты бок, дзе стаялі Падабеды і Асташонкі, а як праходзіў блізка, дык адвярнуўся — не хацеў, каб пазналі.

У той самы дзень па гарадку пайшла гуляць чутка, што за рэчкаю ў пясчаных кар'ерах узялі дэзерціраў.

Несучы ў хату суды вады, Захар пачуў з вуліцы пранзлівы дзяціны лямант. Паставіў вёдры на ганку, кінуўся за хвортку, а там — сын бяжыць, слязьмі заліўшыся. Што здарылася? Схапіў на рукі, а той аж заходзіцца: «Муха!.. Мушка!..» Аказалася, што Муху забіў хлопчык, якога прыгрэў ля сябе Шатун. Калі

Захар дабег да дома, дзе гэта здарылася, хлопчык яшчэ гнёў сабачку галавой аб сцяну, аберуч учапіўшыся за заднія ногі, хоць яна ўжо вісела ў яго руках мёртвая. Рукі, куртачка, твар былі заляпаны крывёю, кішачкамі, мазгамі. Сам аж закалаціўся: што з хлопчыкам, адкуль гэтая дзяцінаяя прага забойства? Вайна забрала бацьку, маці, брацікаў і сястрычак, усё, што было, грэла, а ён, маленькі ізгой, не напоўніўся агідай да жорсткасці, здзекаў — сам чыніў іх над жывою істотай. Што [redacted] ім адбылося? А што будзе з Васем, які ўсё бачыў? У яго сэрцы абернецца гэтае відовішча дабрынёю ці жорсткасцю? Што робіцца з Лёнікам? Дзе бегае, што чуе і бачыць? Ілья — балалай ды балалай. А як зразумець хлопца? І дзе тое дзіця, немаўлятка, што на кладах у Селішчы намагалася ўспаўзці на мёртвую маму і скочвалася ёй на бок, на магільны пясок? Не крычала, не плакала — паўзло і скочвалася. Ці запамятае яно ўсё гэта хоць адной якой клетачкай? Тое малое абуджала даўняе пытанне: чаго варты свет, калі ў ім пакутуе дзіця?

Несуразмернае: свет-сусвет і адно-адзінае дзіця, яго слязіна? Але хто адважыўся аспрэчыць Дастаеўскага, які паклаў усё гэта, адно і другое, на адны шалі? Пісьменнік пераканаў і Захара: дзе плача дзіця — там плача свет, памірае дзіця — канае свет.

З гэтымі думкамі Захар цяпер клаўся і ўставаў. З імі ляжаў уначы, калі ўсе спалі, а яму сну не было. Спакой адбіралі не толькі малюнкі апошніх дарог. З новай сілаю ў памяці ажывала даўняе: дарогі [redacted] Грынькам, старцы на дарогах, арыштанты, бежанцы яшчэ той германскай вайны, што валакліся, як цяпер, невядома куды, аблепленыя шэрымі торбамі і дзецьмі. Беглі ў свет, каб жыць, а яму заўсёды здавалася, што шукаюць сваю смерць. А пазней? У трыццатым зімою, калі працаваў у Горках, на каляды хварэла цётка Марфа, і Ліза, набіўшы партфель гасцінцамі, выправіла мужа, сама прывязаная да малой Любы, да старой у адведкі. З Горак, ад станцыі Пагодзіна, даехаў цягніком да Верамеек, а ў Верамейках знайшоў спадарожны вазок. Ледзь выехалі за станцыю, апынуліся ў лесе, як насустрач — абоз. За саньмі сані, коней дваццаць ці болей, на паўвярсты расцягнуліся. У кожных санях чалавекі па тры, у кажухах і дзяругах, вясковыя мужыкі, праз кожныя сані — міліцыянер.

Захараў візнік звярнуў з дарогі і, углядаючыся ў абоз, прамовіў: «Кулакоў вязуць на высылку». Захар ужо чуў, што з кулакамі па вёсках вайна, газеты чытаў, ведаў, але гэтак блізка, на ўласныя вочы, першы раз бачыў. Сядзеў у вазку і пільна ўглядаўся ў кожны твар, шукаючы ў ім, кожным, штосьці варожае Савецкай уладзе. Усе твары хаваліся ад марозу і сустрэчнага ветру ў аўчыну каўняроў, у дзяругі, пад калматымі шапкамі, і толькі можна было здагадвацца — ворагі ці не ворагі. Самыя апошнія сані раптам спыніліся. Запрэжаны ў іх конь нагнаў пярэднія сані-розвалы, выскубаў салому, і міліцыянер, які сядзеў у задку пярэдніх саней, трымаючы паміж ног вінтоўку, сунуў прыкладам у конскую морду, аж конь спыніўся. У той жа міг мужык, які сядзеў на апошніх санях тварам назад, у чырвоным лубяным кажуху, ад нечаканасці ўскінуў галаву, высунуў шэры твар з-за чорнага аўчынавага каўняра. Яго позірк затрымаўся не то на Захару, не то на суседу-візніку, і Захар пазнаў у ім васькавіцкага хутаранца, у каторага гады тры назад з мандатам улады пасабляў маладому салдаціку забіраць тры мяхі жыта. Як пазнаў гарбуна-хутаранца, дык адразу і кучу ягоных дзяцей убачыў — падумаў з трывогаю: хто іх цяпер пракорміць, што з імі будзе без бацькі-кармільца? Пытанне тады перакінулася на ўвесь абоз, на ўсіх мужыкоў, адарваных ад зямлі, ад гаспадарак, ад сямей, дзяцей. Яны хай кулакі, ворагі, але за што пакутуюць дзеці? Чым дзеці вінаватыя? Гэтая скабка сядзела ў галаве ўсё жыццё. Бо ўсё жыццё бачыў, як сунуўся па дарогах люд, адарваны ад сваёй зямлі. Не з кніг, з жыцця ведаў: калі чалавека адрывае ад свайго месца, ад каранёў, ад зямлі, хаты, кідае ў свет, як у капейку, калі ён робіцца бежанцам, бяжыць, часта не ведаючы куды, дык чалавек гэтакі ўжо не накорміць нікога, сам галодны, у гэтай дарозе не кожнаму ўдаецца зачапіцца за купіну, каб акрыяць, трэба сіла ды сіла, каб, прайшоўшы кругі пекла, вярнуцца, адкуль цябе сарвала, зажыць, як жыў раней. На дарогах людзі знікалі, губляў сілу народ. Дарогі нявечылі дзяцей. А канца гэтай дарозе не было. Войны ці не войны, а людзі ішлі-валакліся. Неяк у трыццаць трэцім, у дні вясновых канікул, Захар апынуўся ў Гомелі і там нагледзеўся на ўкраінцаў, якіх гнаў голад. Апухлыя, змарнелыя, ледзь жывыя, яны валялі-

ся ў парку над Сажом, па скверах і набярэжнай, запалымі галоднымі вачыма і высахлымі рукамі вымольвалі скарынку, расказвалі, як на Украіне людзі пакідаюць галодныя вёскі, паміраюць на дарогах, як у вёсках іх проста скідаюць у калодзежы і засыпаюць зямлёю, бо няма каму па-людску хаваць. На вакзале з-за бежанцаў нельга было прабіцца ні да касы, ні да цягніка. Ехалі без білетаў. Калі да перона падыходзіў цягнік на Оршу, якім трэба было ехаць Захару, раптам побач [redacted] ім, ля агароджы, нехта дзіка закрычаў. Той крык падхапілі іншыя галасы, не менш жахлівыя. Людзі рынуліся ад агароджы, збіваючы тых, хто стаяў на пероне, на высокай бетоннай пляцоўцы, і некалькі чалавек, не ўтрымаўшыся, зляцелі на рэйкі, пад колы паравоза, які якраз падыходзіў. Лямант узняўся на рэйках. Паравоз рэзка затармазіў, скрыгочучы коламі, але спыніцца адразу не змог. Нехта закрычаў: «Людзей парэзаў!» Да паравоза з перона гуркнулі пасажыры: ля агароджы, дзе стаяў Захар, іх як змыла. У натоўп да рэек ён не палез, туды ўжо нельга было прабіцца, хоць бы і хацеў, застаўся там, дзе стаяў, і вось, агледзеўшыся, кінуўшы позірк у той бок, дзе пачаўся людскі страх-лямант, адкуль усе, як звар'яцеўшы, гуркнулі да паравоза, Захар убачыў дзвюх жанчын. Яны сядзелі пад агароджаю, а перад імі на газеціне ляжаў кавалак, яны яго рэзалі нажом і елі. Жанчыны былі маладыя, чарнявыя, адна — з квяцістай хусткаю на плячах, у шырознай, нібы ў цыганкі, спадніцы, другая — у чорным мужчынскім пінжачку. Захар здагадаўся, што гэта хахлушкі, бежанкі, бо на іх, гэтакіх, нагледзеўся, пазнаваў не па хустках ды спадніцах, а па вачах, якія глядзелі на свет з двух цёмных калодзежаў, па тварах з завостранымі насамі і скуламі, з праселымі лбамі, па скуры на тварах, якая чэзла ў нейкім па-начному фасфарысцыруючым святле. І калі Захар прыгледзеўся да іх газеткі, з якой яны рукамі з-пад нажа бралі кавалкі, неслі да ратоў, то ўбачыў такое, ад чаго раптам змярцвеў: дзіцячая ножка? У галаве закружылася, павяло ўбок, ён грудзьмі ўваткнуўся ў агароджу, і яго пачало ванітаваць, ажно выварочвала шлункі. Трымаючыся за агароджу, прасунуўся далей па пероне, ногі намацалі прыступкі, сышоў за рог агароджы на зямлю і там, ужо не маючы сіл ні ісці, ні стаяць, апусціўся на траву. Зноў ванітавала. Расп-

люшчыў вочы. У галаве кружылася, у скроні біла кроў, разбаleліся грудзі. Вочы заплылі шэранню, быццам сонца зайшло і пачынаўся вечар. Ледзь падняўшыся на ногі, валокся паўз чыгуначныя пуці, незнаёмымі вулачкамі, дварамі, ровам, выйшаў да вады. То быў Сож. Над вадою густа стаялі, сплёўшыся, лазнякі, а вакол — ніводнай жывой душы. Захар шукаў куток, яміну, шчыліну, дзе б яго ніхто не бачыў. Ён быў падобны на смяротна падстрэленага звера, які, сыходзячы крывёю, зашываецца ў гэткую глухую шчыліну і там або залізвае рану, або канае. Пралез праз лазняк, выбраўся на мысік пясчанага берага. Над вадою яго зноў пачало ванітаваць.

Апошняя ноч у Касцюковічах, калі правялі Малыгу, пракруціла ў памяці, у вачах, нібы на кінаэкране, такое, што ў звычайным, не гэтакім узрушаным стане, сярод людзей, Захар баяўся ўспамінаць. З гэткімі ўспамінамі цяжка было ляжаць. Ціхенька, каб ніхто не пачуў, устаў і выйшаў на двор.

Ноч была зорная. Недзе ля Клімавіч бухала. У небе гулі самалёты, ляцелі ў той бок, дзе Варшаўка. Агледзеўшыся, Захар заўважыў папяросны агеньчык. Падышоў — пазваў Рамана.

— І ты не спіш?

Раман уставіў на яго цёмныя ямкі вачэй, чмыхаў у нос:

— Падлаю пахне.

— Адкуль ты ўзяў?

— А не чуеце? У мяне дзед падлу вазіў на салатопку. Я далёка яе чую.

Захар пачуў. Але не той пах, які ўлавіў Раман. Далёкі, адкуль бачыў малюнкі жыцця, лежачы, пакуль не ўстаў, не выйшаў на двор. Тхнула нетутэйшым смуродам.

— Адкуль ты? — спытаў у хлопца.

— З-пад Бялыніч. Вёска — Жукоўка.

— Як жа ты апынуўся ў дзіцячым доме?

— Мама памерла. Дзед злёг у бальніцу, з дзіркамі ў лёгкіх. Я пайшоў па людзях. Зіма. Трэба было нешта есці. Залез да цёткі ў каўбасы — мяне і цапнулі.

— А бацька?

— Бацьку павезлі на варанку. Я зусім мала яго помню.

— А што ён рабіў у вёсцы?

— Што рабіў? — Раман хмыкнуў, як здзівіўся.— Што ў вёсцы робяць? Араў, сеяў, касіў, малаціў.

— Можа, начальнікам быў? Старшынёй, брыгадзірам?

— Старшынёй? Не, не быў. І брыгадзірам не быў. А начальнікам быў. Як стане ў баразну за плуг — тады хто начальнік, як не ён? Ці як касу ў рукі возьме, ці лейцы. Цэп над снапамі ўскіне — тут ужо ён галоўны.

— Селянін, адным словам?

— Ну... людзей хлебам карміў.

— Бачыш?

Не тады, у Гомелі, і не на Васькавіцкім хутары, значна раней, яшчэ ці не поплеч з Грынькам адчуў Захар, што па чужых дарогах бяда найчасцей ганяла сялян і дзяцей. Калі бачыў, як жыццё адрывала ад зямлі, гнала па свеце селяніна, спакою не давала думка: ці знойдзецца каму карміць хлебам свет і што будзе з дзецьмі, хто іх накорміць? Бачыў у бежанскіх натоўпах дзяцей — думкі скіроўвалі ў іншы бок: што будзе [redacted] зямлёю, калі жыццё растрасе дзяцей па дарогах? Даўно заўважыў, што лёс сялянства і лёс дзяцей знітаваны вельмі моцна, лёс у іх, па сутнасці, адзіны: кепска сялянам — кепска і дзецям, знікае з раллі селянін — паміраюць ад голаду перш за ўсё дзеці, а паміраюць дзеці — зямля дзічэе, мярцвее. І яшчэ заўважыў, што калі сяляне і дзеці пакідаюць вёску, адрываюцца ад сваіх каранёў, другія карані, як тыя — моцныя, у іх ужо не адрастаюць, стаўшы бежанцамі, яны становяцца ветрам у полі. А гэта — канец свету. Толькі здаецца, што дарогі бежанца некуды вядуць. Да дабра яны не вядуць. У бежанца ўсё за спіною і вельмі мала наперадзе. Часцей — пакуты,ды слёзы, ды страта самога сябе. Калі Захар выбіраў гэтую дарогу, дык ведаў, што выбірае [redacted] дзвюх бедаў адну бяду, тую, якая можа быць крыху лягчэйшай. Адно зло — з двух. Цяпер, задумаўшыся над гэтым, упершыню сам сябе спытаў: можа, і добра, мудра, што сяляне ў бежанства не спяшаюцца? Можа, тут якраз і надзея на жыццё?

Але зноў думка пра селяніна перакінулася на думку пра дзяцей: чаму цяпер, калі не бягуць сяляне, бягуць дзеці?

На гэтае пытанне адказу знайсці не мог. І гэта ўстрывожыла. І ён раптам успомніў:

— Сябры твае дзе? Спяць?

Раман адказаў без ахвоты:

— Патопалі на Унечу.

— Як гэта? А ты? Вы ж — разам?

— А я з вамі.

Захар здзівіўся, але хлопца зразумеў. Апошнія дні ён усё круціўся ля Каці. Іншае цяжэй было зразумець: у гэтакі час — што ў галаве! Ды і... у чым душа трымаецца? Яшчэ раскашляўся. То бухаў суха-глуха, нібы ў бочку, то, адбухаўшы, хапаў паветра — у грудзях свістала, нібы ў дзіравым гармоніку.

— Лячыцца трэба, а не курыць. Рана пачаў. Цяпер самы чабаровы цвет. Назбірай па дарозе, завары і пі.

— Я квёлы ўсё жыццё. Дзед казаў, што ў мяне папсутая кроў. Маці таксама бухала.

Раман хаваў цыгарку ад Захара ў рукаве накінутага на плечы паліто, і яна прысмаліла рукаў — засмярдзела паленым. Калі прыпякло, страсянуў рукавом — цыгарка выкацілася пад ногі. Прыдушыў чаравікам — збянтэжана зірнуў на Захара. Той быццам не заўважыў.

Падышлі два мужчыны. Адзін высокі, у шынялі, з вінтоўкай за плячом, другі меншы, таўставаты, у гімнасцёрцы.

— Хто гаспадар дома? — спытаў ніжэйшы, у гімнасцёрцы.

— Гаспадара няма. Мы бежанцы,— адказаў Захар.

— Шмат вас тут?

— Тры сям'і. Учора было болей. Пайшлі на Унечу.

— А вы застаяцеся?

— Не для таго свае хаты пакідалі, каб тут сядзець.

— Дык не чакайце, пакуль развіднее. Немец блізка. Падымайце сваіх, ідзіце на Забялышынскі бальшак. За Бесяддзю пакуль ціха. А там — Унеча.

Яны падаліся далей па вуліцы. Адышоўшы, спыніліся, загрукаталі ў дзверы суседняга дома.

Цяжка было ўспорваць дзяцей. Васю апраналі зусім соннага. Захар узяў яго на рукі і, шкадуючы дзяціны сон, трымаючы сына на адной руцэ, другою пасабляў жонцы збіраць у мяхі коўдры, падушкі. Нарэшце паставіў на ножкі — тады сын прачнуўся, захныкаў.

Мяхі з кожным днём лягчэлі, асабліва ў апошнія дні. Распранутымі аказаліся Ксеніны дзяўчаты. Хоць дні сталі цёплыя, для ночы на плечы трэба было

штосьці цяплейшае. Разваліўся абутак, у якім выйшлі з Мінска. Зося аддала Ксені шарсцяную коўдру, і тая цяпер накрывала ёю ўначы дзяўчат. Леначчы якраз па назе аказаліся новыя скараходаўскія чаравічкі, якія Ліза купіла Любе гэтым летам у Мсціславе, як ездзіла ў педтэхнікум на сваю апошнюю сесію. Каця ўжо насіла, не здымаючы, Лізіну кофту, злінялую, расцягнутую на шырэйшых Лізіных плячах, але цёпленькую. Дзяліліся ўсім, чым маглі.

Новы клопат — што рабіць з канём, якога прывёў Лёнік? Ні драбін, ні хамута, ні дугі. Лёнік прывалок кавалерыйскае сядло, ускінуў на каня, сам у сядло — і рады. Бацька аднаму ехаць не даў — узваліў два мяхі, звязаныя вяроўкаю: адзін на адзін бок каню, другі на другі бок.

Пакуль шэра-цёмна, людзі ішлі малымі купамі, сем'ямі, пільнуючыся адно аднаго, гукаючы, як у лесе, падганяючы, каб ніхто свой не адстаў. Ліза трымала Васю за руку, Ксеня — Леначку. Старэйшыя Люба, Каця, Раман трымаліся сваёй купкаю побач з канём, на якім, нібы атаман, узвышаўся Лёнік.

Дайшлі да цэнтра гарадка — пачало віднець. На пагорыстай Прусінскай вуліцы, што вяла на ўсходнюю ўскраіну, у дварах крычалі пеўні, вітаючы раніцу, брахалі сабакі. Дзе ў бок ад вуліцы адбягаў завулак, стаяла, выставіўшы чорныя рогі, пярэстая карова, глядзела, як здзіўленая, што не каровы, а людзі сунуцца ранішнім табуном і што не чалавек, а яна, карова, за пастуха стаіць пры табуне. Адагнаўшы карову, з завулка выехаў грузавік. Ён хацеў выруліць на брук, але натоўп не пускаў. Тут спыніўся на кані і Лёнік. У кабіне сядзелі шафёр і мужчына ў сінім фрэнчы, таўсты і лысы. Нехта пазнаў у «фрэнчы» раённага пракурора. Мужчыны падышлі да кабіны, угаворвалі, каб узяў у кузаў жанчыну з малымі дзецьмі. Тая ўжо ўхапілася за кузаў, а мужчына ў фрэнчы тлумачыў, што машына з воінскай часці, якая ў суседнім лесе, што едзе ў штаб, блізка зварочвае. Яму не верылі. Жанчына ўжо была ў кузаве, ужо ёй падавалі дзіця, як раптам, агледзеўшыся, тая закрычала:

— Ды тут спірцяга, людзі! Цэльная бочка!

Мужчыны ўпляліся ў барты, палезлі на колы. Сіні фрэнч выскачыў з кабіны на падножку. Нехта схапіў

яго за руку. Баючыся, каб не звалаклі з падножкі на зямлю, ён нырнуў у кабіну, паспеў хляпнуць дзверцамі. Машына дала задні ход у завулак, з якога выехала. Усе, хто чапляўся за кузаў, сыпанулі ў бакі, але ў кузаве засталася жанчына. Машына ад'язджала, не спыняючыся, а яна кідалася ад борта да борта, крычала колькі сілы:

— Стой, ірад! Куды ты мяне? Дзеткі-і!

Дзеці — у плач:

— Мамка-а!

Машына рэзка звярнула ўбок, і цераз борт на дарогу ў пясок вывалілася, нібы ашмётак, жанчына. Яна ўжо не галасіла. Машына знікла ў завулку.

— Забілася, далібог,— загаманілі ў натоўпе.

Дзеці, пачуўшы, зараўлі яшчэ мацней, кінуліся да маткі. Яна падхапілася, атрэслася, нібы курыца, выкачаная ў пяску, і ўжо брыла, ківаючыся, нібы п'яная, у бакі, насустрач дзецям.

Гарадок канчаўся, дарога выводзіла ў лагчыну, на малы драўляны мост. Пад ім у зацішных зялёных берагах цякла рэчачка.

— Што, Ілья, можа, да вады сыдзем? Нямытыя, як цыганы. Дзеці чаго з'ядуць?

Захар глядзеў у вочы швагру, лавіў яго позірк, пасабляючы побач пхаць каляску, не ўпэўнены, што Ілья падтрымае. Але той здзівіў, пагадзіўшыся:

— Лёнік! Стой!

Ілья развярнуў каляску і пакаціў яе па мокрай ад расы траве. Зразумеўшы, куды бацька кіруе, Лёнік павярнуў каня, абагнаў і зноў паехаў паперадзе ўсіх да лесу, дзе блішчаў рачны плёс.

У лагу яшчэ курэў туман. Лёнік ехаў недалёка ад усіх сваіх, набліжаючыся да плёсу, а можна было падумаць, што ён апрануты ў белую аўчыну-вывараць. І конь ужо быў не чорны — сівы.

Там, дзе ён ехаў, раптам пачуўся лямант. Ілья і Захар спыніліся: ці туды ідуць-едуць? Лямант мацнеў, і ўжо конь пад Лёнікам закруціўся на адным месцы. Ілья і Захар, не разумеючы, што там здарылася, кінулі каляску і шыбанулі да Лёніка. Але, падбегшы, таксама не адразу ўсё зразумелі. Конь круціўся, Лёнік лупіў яго нагою ў пуза, але за аброць каня трымаў чалавек, якога нельга было разгледзець, бо і ён круціўся з канём разам. Толькі відаць было, што нізкі,

шырокі, з вялізнай чорнай барадой, раз'ятраны. Адной рукою трымаючы каня, ён другою ўскідваў угору дубец і апускаў яго то на каня, то на мех, а цэліў, безумоўна, па Лёніку.

— Зладзюган, я цябе!.. Заб'ю гніду! — крычаў.— Трыбух твой ваўчыны! Цягні яго, Гірш, з каня! Хапай за нагу!

Другі, каторы павінен быць Гіршам, ужо схапіў Лёніка за нагу, але падляцеў Ільля, злавіў самога лаўца за крыссё пінжака. Той кінуў Лёнікаву нагу, развярнуўся і смалянуў Ільі кулаком у твар. Ільля адскочыў, схапіўся аберуч за твар, а той, малады, азвярэла пёр на Захара. Тым жа ўдарам хацеў зваліць і яго, ды Захар паспеў перахапіць цяжкую руку, крутануў яе, і мужчына пляснуўся тварам аб зямлю. Падхапіўся, зноў кінуўся на Захара, але Захар і другі раз перахапіў руку, гнетануў, мацней як першы раз, вобзем.

Ільля, падхапіўшыся, ужо крычаў:

— Майсей! Ці ты здурнеў? Сваіх не пазнаеш?

Падскочыла Майсеева тоўстая Рыва:

— А што ж ты, Майсей, разышоўся? Не бачыш, свае людзі!

Майсей адскочыў ад Лёніка. Доўгім, амаль зусім адарваным рукавом пінжака выціраў з ілба пот, але вочы люта блішчалі.

З хвіліну ўсе маўчалі, нясмела пазіраючы адзін на аднаго, і хвіліна гэтая здалася неверагодна доўгай. Яе спыніў Майсей:

— Даруй, Ільля! Не ведаў, што гэта твой зладзюган. Не пазнаў. А я б яго забіў. Верыш ці не? Я б забіў. Адкуль у яго мой конь? Майго каня ўкралі. А чаго твой сын на маім кані? Ты мне што на гэта адкажаш, Ільля?

Лёнік ужо скінуў з каня мяхі і павалок іх да каляскі.

Ільля стаяў перад Майсеем разгублены, з успухлым, заплытым сінізною вокам, звесіўшы галаву, нікога перад сабою не бачачы — прыціскаў да вока жменю расянай травы.

— Не ведаў я, Майсей, што гэта твой конь,— мармытаў ён, не падымаючы вачэй.— Ці мала іх, чорных, як варанне? Ну, калі твой, дык забірай. Вось... сын табе яго прыгнаў. А ты разышоўся.

— Не брашы, Ільля! — усё яшчэ кіпеў Майсей.

Тады іх разважыў Захар:

— Супакойся, Майсей. Цяпер не такое бывае. Яшчэ не такое будзе. Пабеdoes нервы. Ты ж разумны чалавек. Спытай у Лёніка, дзе ён твайго каня знайшоў. А кулаччам не махай.

Супакоіць Майсея дапамагла яшчэ і яго баба:

— Ну... не стой! Бяры каня, запрагай! Што мы стаім? Смерці чакаем?

Гірш, іх сын, маўчаў, выціраючы рукавом пінжака твар, да крыві абдзёрты аб траву. Захар гэта заўважыў — пашкадаваў, што надта прыклаў хлопца да зямлі. Ніколі не біўся, глядзець не мог, як людзі адно аднаго нявечаць, але цяпер што было рабіць? Ды і не біў ён Гірша. Адкінуў, каб той не змалаціў Ілью. Хоць Ілья, пэўна, таксама мог укласці розуму. Проста не паспеў агледзецца, адвярнуцца, дык і злавіў па воку. А мог і той злавіць.

Мяхі, скінутыя з каня, Лёнік уладкаваў на каляску і, каб хутчэй знікнуць з Майсеевых вачэй, папёр яе з Раманам на дарогу. Майсееў воз быў таксама блізка, пад лесам, і там ужо Гірш ставіў каня ў аглоблі. Воз быў высокі. Захар паглядзеў на яго і не ўтрымаўся, каб не папракнуць:

— Разумны ты, Майсей, чалавек, а немцу на зубы мог трапіць па-дурному. Ці табе дабро, што на возе, даражэйшае за жыццё? Калі б конь не знайшоўся?.. Так і стаяў бы тут з возам?..

Майсей змоўчаў, не знайшоўшы, што адказаць.

З логу бальшак вёў угару, высыпаны пяском і дробным гравіем — ісці па ім было цяжка. Ад пяску з-пад ног падымаўся пыл, каменьчыкі набіваліся ў абутак, калолі і націралі ногі, а дзень толькі пачынаўся, і ніхто нікому не даваў прыпыніцца, каб хоць высыпаць з абутку тыя пясок і каменне. Людзі спяшаліся прайсці дарогу, адкрытую з усіх бакоў. Падганяла сонца, якое, разагнаўшы ранішні туман, узнялося над зямлёю, налівалася гарачынёю, пагражаючы і гэтую камяністую дарогу ператварыць у жароўню.

Ліза нагнала мужа:

— Што я табе скажу, Захар...

— Ну што ты мне скажаш?

— Лёнік высачыў, куды Майсей з кашолкаю бегаў. Насіў яду за рэчку, у роў. Там і коні былі, і людзі. Моцік там хаваўся ад арміі. Не адзін Моцік. Лёнік узяў каня.

Расказаў Раману, Каці. Тады Моціка і забралі. Не аднаго Моціка. Няўжо дзеці, дурныя, заявілі ў камендатуру?

Не дзіва было, што Ліза, расказваючы, хвалявалася. Захар сам як у ледзяную палонку ўкінуўся ад гэтакае навіны. Пра Моціка — што з ім? — здагадваўся, убачыўшы, як яго вёў канвой, але што іх дзеці сюды дапалі, не чакаў. І яшчэ не верыў:

— Адкуль ведаеш?

— Майсеіха сказала. Гірш коней пільнаваў ды заснуў. А Лёнік з кустоў высачыў — і на каня.

— Смалякі гэта ведаюць?

— Пра каня ведаюць. Што Лёнік звёў.

— А пра Моціка? Пра дзяцей?

— Рыва здагадваецца. Майсею не кажа, а мне сказала. Я ўзялася за Кацю — яна адразу ў атаку: «А чаму мой тата павінен ісці на фронт, пад кулі, а яны, мардатыя, павінны хавацца? Гэта — справядліва?»

— А ты — што?

— А што ёй, дурніцы, дакажаш?

— Дык Каця ўсё ж прызналася, што заявілі?

— А-га, Каця прызнаецца? Яшчэ што ты хочаш?

— А што Ксеня?

— Плача.

Захар быў упэўнены, што ні ў Каці, ні ў Ксені зла на людзей няма, яны проста насілі ў сабе нянавісць да таго, хто хаваўся ад фронту, бо туды, на фронт, пайшоў іх бацька, муж. І што ні Лёнік, ні Раман, ведаў, камендатуру не шукалі. Лёніку абы конь.

— Дык што ты, Захар, маўчыш? Як Майсею ў вочы глядзець?

— Хай Майсей думае, як людзям у вочы глядзець.

Падышоў Раман. Ен хацеў падмяніць Захара, стаць да каляскі, але Захар месца не ўступіў, адно спытаў, успомніўшы хлопчыка, які ішоў разам з Шатуном:

— Дзе той хлопчык?

— Шатун, закапаўшы Муху, пайшоў на Унечу.

— А хлопчык? Ты яго бачыў? Ты з ім гаварыў?

— Ен нямко.

— Ды не, Раман, ён не нямко.

— Я даў яму яйка, а ён замычэў і шыбануў ад мяне, нібы злодзей, які тое яйка ўкраў.

— Трэба было затрымаць, завесці ў дом. Дзіця. З кім? Што есць? Прападзе, ад Шатуна адбіўшыся.

— Бачыў яго на базары. Баба прынесла чыгун у коўдры, цёплы, у чыгуне калдуны, адвярнулася да суседкі, а ён абедзвюма рукамі ў чыгун, за калдуны ды ходу. Баба ў лямант: «Лавіце злодзея!» А дзе ты галоднага зловіш?

— Значыць, крадзе?

— А жыць трэба?

— Жыць трэба. Але ты, Раман, бачыў калі-небудзь здзічэлага сабаку? Спачатку гэта звычайны сабака, жыве ля чалавека, у двары, цяпле, чалавеку аддзены, сыты. А ўжо як гаспадара страціць — пачынае бадзяцца, дзічэе. Спачатку есць усякую падлу, пасля — жывое. Гэтакіх, як сам, сабак.

Замоўк, спахапіўшыся: ці тое гаворыць? Маўчаў і Раман. Ён гэта зразумеў. А чаму б і не зразумець? Не дзіця. Сам бачыў, што адбылося з хлопчыкам. Калі Захар прыбег тады на сынаў лямант — там ужо быў Раман. Усе бачылі, як хлопчык кінуўся вобзем і біўся аб зямлю, як яго пачало ванітаваць, аж давіўся. Здавалася, вантробы вылезуць. І куды ён пасля дзеўся? Калі прыйшоў Шатун, яго ўжо не было. Уцёк. Шатун доўга сядзеў над сабачкам. Ля хаты, пад ганкам, паклаў у ямку. Сам. Адзін. Пасядзеў над курганком і знік.

— Стой, Захар! Не пры!

Ілья ўпёрся нагамі ў дарожны брук, стрымліваючы каляску, каб Захар, задумаўшыся, не каціў на людзей, якія спыніліся ўперадзе. У раўку за абочынай, сышоўшы з дарогі, людзі абступілі машыну, і Захар адразу пазнаў у ёй тую, што з завулка выбіралася на Прусінскую вуліцу. Два левыя колы стаялі на абочыне, пярэдняе правае — за раўком, а правае задняе вісела над раўком. Бампер урэзаўся ў слуп, правы борт быў адкінуты, вісеў, а пад ім у раўку ляжала жалезная бочка, з гарлавіны якой лілося ў падстаўленыя мужчынамі кацялкі, бітончыкі, кружкі, бутэлькі, прыгаршчы. Некаторыя там, стоячы, і пілі з кацялкоў, прыгаршчаў. Па смуродзе, які адтуль ішоў, было зразумела, што спірт. Нехта падняў з-пад ног і ўскінуў на бочку сіні фрэнч — ён нядаўна быў на чалавеку, што сядзеў у кабіне, якога называлі пракурорам. Фрэнч з белымі блішчастымі гузікамі, з пятліцамі, срэбнымі зорачкамі ў пятліцах. Падышоўшы бліжэй, Захар пачуў, як мужчыны казалі, што пракурор вёз бочку, а шафёр выкідаў яго сілком з кабіны. Абодва за руль

схапіліся. Шафёр газануў — машына і пайшла праз равок з абочыны. Абодва [redacted] кабіны выскачылі. Шафёр адкінуў борт — бочка па нахіленым кузаве і выкацілася. А той, у фрэнчы, на шафёра, збіў яго [redacted] ног. Шафёр быў маладзейшы, хуценька падхапіўся, аберуч — за фрэнч, садраў з чалавека. Той без фрэнча шыбануў у лес, а шафёр наўздагон. І да гэтага часу не вярталіся. Можа, адзін аднаго пазабівалі? Але пра іх цяпер мала хто думаў. Людзі лезлі да спірта.

Ілья, ідучы далей, не мог зразумець:

— Няўжо бочкі на двух мала? Не падзялілі?

Ён разважаў услых, і Захару падалося, што пытанне да яго — адказаў:

— З бочкі пачалося, але не бочкаю скончылася. Чуў, што людзі казалі? Шафёр вывалак фрэнч з машыны і бочку вывернуў з кузава. Адзін — гад, другі — чалавек, які таксама ледзь гадам не стаў — апамятаўся. Не за спірт счапіліся. За чалавечае ў чалавеку. І тут, Ілья,— вайна. Тут яна не сёння пачалася. Тут яна вечная.

— Яно, можа, так,— пагадзіўся Асташонак.

Ён цяпер часцей пагаджаўся [redacted] Захарам. Дні і ночы, пражытыя разам у бежанстве, як быццам зламалі дурную ўпартасць, павярнулі да згоды.

Падбег Лёнік, сказаў, што шукае Ліза. Стаў на Захарава месца да каляскі, побач з бацькам, і Захар падышоў да Лізы з Ксеняй — яны за рукі вялі сына, а той ледзь клыпаў.

— Што [redacted] ім? — спытаў Захар.

— Нагу сцёр. Можа, спынімся? Яшчэ нічога не елі.

Захар ускінуў сына на плечы і панёс, на хаду здымаючы з яго ножак і аддаючы жонцы сандалікі.

Сонца адседжвалася за дрэвамі, паветра ў лесе абдавала яшчэ вільготнай свежасцю. Хіба цяпер спыняцца? Калі не паспелі чаго з'есці, дык трэба было пацярпець, ісці, для прыпынку чакаць пазнейшага часу, калі ўсе прытомяцца і сонца ўзнімецца над галовамі, пачне смаліць. Гэтую дарожную навуку ведалі ўжо і дзеці — маўчалі.

З сынам на плячах Захар зноў думаў пра іх, дзяцей, але не толькі пра Васю ды Любу. З таго часу, як на другі дзень бежанства сутыкнуўся ў Гразіўцы з васькавіцкім хутаранцам, ужо той не выходзіў з галавы, хоць быў даўно не дзіця; з ім разам бачыліся малыя брацікі

і сястрычкі, у якіх Захар з маладзенькім чырвонаармейцам забіраў збожжа, калі яны яшчэ жылі з бацькамі, а пазней, ужо ў сірот, Ліза і Панасаўна забіралі апошнюю бульбачку. Як жа гэтак скруціліся яго сцежкі, што ён, Падабед, рабіў тое? Альбо Ліза, Панасаўна — як гэта маглі рабіць яны, настаўніцы? Калі б быў суд, высокі справядлівы суд, калі б на тым судзе яму далі слова для апраўдання, ён бы давёў, што ўсё адбывалася не па яго волі, што Ліза і Панасаўна не вінаватыя, давёў бы слязьмі настаўніц у той бульбянай яміне, давёў бы, што такое ўлада рэвалюцыйнага загаду, партбілета і маўзера Мішкі Русецкага, які ў гарадку быў галоўным міліцыянерам. Дзе той справядлівы суд? Дзе магчымасць даказаць? А калі б і далі такую магчымасць, ці ўсё б ён сказаў? Ці сказаў бы пра пясчаны курган са старой хвояй за Сажом? Той самы, на якім Севу Асташонка, любімага брата Лізы, нагнала куля Мішкі Русецкага? І што закапаў ён, Захар, на тым кургане пад хвояй, з якой, падаючы з каня, апошні раз абняўся Сева? Не сказаў бы. Ніхто гэта не павінен ведаць. Нават Ліза. Але — як ніхто? А той — васькавіцкі? Усю дарогу ў вушах стаяў яго хрыпаты голас: «Бяжыш, парцеец? Нябось глыбака закапаў свой бялецік? Каб я яго не знайшоў?» Тады, гэта пачуўшы ў Гразіўцы, Захар аж скалануўся, хацеў закрычаць: «Я не партыец — брэшаш!» І не закрычаў. Змоўк. А цяпер, зноў пачуўшы той голас, успомніў чорную ноч восені. Быў канец верасня. Пачуў шоргат рыдлёўкі. Грукат — па каменні, шоргат — у пяску. Каменне было зверху, глыбей — мяккі пясок. Капаў глыбака, сапраўды глыбака, як мог — глыбей, яма атрымалася на ўвесь дзяржак рыдлёўкі, вузкая і глыбокая.

«Няўжо там, у той восеньскай начы, былі і вочы васькавіцкага бандзюка?»

Аж спацеў ідучы. Ці ад думак? Ад холаду і цемені той жахлівай ночы? У якім годзе гэта было? У дваццатым? Ці ў дваццаць першым? Праз тры дні, як пахавалі Севу і Рыгора Трахімавіча?

— Тата,— раптам пачуў побач Любу.— Адзаду Смаляк на кані.

Захар азірнуўся, і ў гэты самы момант Смаляк, які сядзеў высока на возе, заўважыў яго. Кінуўшы лейцы на калені, споўз на дарогу, гукнуў:

— Захар! Не бяжы хутчэй за каня. Я табе слова скажу, калі ты жадаеш паслухаць дурнога Майсея.

Захар прыцішыў крок:

— Кажы, Майсей, сваё слова.

— Я на цябе зуб не маю. І на Ілью не маю. І на Лёніка не маю. Я ўсё разумею. Дык і вы на мяне зубы не вастрыце. Я не хачу мецъ ворагаў, калі іх і без вас хапае.

— Разумна кажаш. Але адкуль ты ўзяў? Не вастру я на цябе ніякага зуба. Віну перад табой адчуваю.

Загаварыў пра нейкую сваю віну, каб даць Майсею магчымасць адкрыцца: ведае, хто данёс на Моціка ці не ведае? Калі ведае, дык якраз зручны момант сказаць. Але Майсей на жыўца не клюнуў. Можа, жонка яму сапраўды не сказала? А калі не сказала, то чаму Майсей павінен крыўдаваць? За Лёніка?

— Лёніку ты, Майсей, даруй. Розум дзяціны.

— Я ўжо і забыў на тое, Захар. А Ілья, скажы, злуе на Гірша? Ты яму скажы, каб не злаваў. Дурань і Гірш. Лёнік на чужым не прамахнецца, а гэты сваё праспіць.

— Ну, дарэмна ты сына не цэніш. А што Ілью вока пафарбаваў? Не трэба падстаўляць. Вайна скончыцца — зноў будзем хадзіць па хлеб да цябе ў краму. Будзе што ўспамінаць.

— Дзякуй табе, Захар. Душа твая добрая.

Сын заёрзаў на плячах у Падабеда. Яму было ўжо мулка трэсціся на касцях бацькавых, але і на дарогу камяністую босага не паставіш. Як раней, быццам сапраўды ні ў кога ніякага зла ўжо не засталося, Захар падышоў да воза:

— Рыва! Табе там адной не сумна? — Не чакаючы, што яму адкажа Майсеева жонка, ускінуў ёй на воз сына.— Ды не абганяй нас з Майсеем.

Конь ішоў звычайным крокам.

— А ты ж, Захар, таксама на кані быў? — спытаў Майсей.

— Мой конь пайшоў на ваенную службу. Годны да страявой.

— Хай ідзе лепш конь, як сын.

— Каму загадаюць, той і пойдзе.

— Кажуць, павярталіся ў вёскі, каго на Казельск адпраўлялі. Вось табе і закон.

Захар таксама чуў, можа, раней за Майсея, што навабранцы вяртаюцца назад у вёскі, не даходзяць да

Казельска. Некаторых бралі па вёсках па два разы, а яны дома. Можа, там, наперадзе, ужо немец?

— Будзем жыць, Майсей. Бяды ў нас з табою пакуль няма. Моціка забралі — Гірш застаўся. Мой Міша пайшоў.

— А што Гірш? Ён будзе страляць у немца, а стрэліць у свайго. Ён хацеў Ілью вока ссініць? Ён яго хацеў папужаць. Махнуў рукою, а патрапіў у вока. Што ты [redacted] ім зробіш? Ад прыроды касавокі. Ці ты не ведаеш?

Грэх, як кажуць, [redacted] гэтага смяяцца, але Майсей смешна казаў, і Захар не стрымаў усмешкі.

— Бывае, Майсей...

— А што табе смешна? Гірш не чалавек — паўчалавека. І Моцік паўчалавека. Двайняты, спарышы. А што гэта значыць? А тое, што адна палавіна без другой жыць не можа. Які з Моціка салдат, калі ён — паўсалдата? А Гіршу як жыць без сваёй другой палавіны — Моціка? Кажуць, дэзерцір,— прагаварыўся раптам Майсей.— А ці можа паўчалавека быць поўным дэзерцірам? Браць — бярыце двух. Каб ці разам жылі, ці разам памерлі. Дык жа абодвух не ўзялі? Кажуць: Гірш сваіх пастраляе. А як тады ім жыць? Як мне жыць, Захар? Як жыць Гіршу без Моціка, а Моціку без Гіршы?

Адказаць што-небудзь Майсею Захар не паспеў: у небе пачуўся роўны, ужо знаёмы, гул. Самалёт плыў высока над лесам, ніякіх знакаў на ім не было відаць, ды людзі ўжо навучыліся пазнаваць нямецкія самалёты без знакаў. Другі ляцеў следам — ніжэй, бліжэй да бальшака, і на ім былі выразна відаць павучыныя крыжы. Усе спыніліся, разгубленыя. Бегчы ў лес? Ніхто не бег. Ісці далей? Ніхто не ішоў. Чакалі нейкага знаку: хто яго падасць? Захар у той момант, як убачыў самалёты, зразумеў, што трэба сысці з бальшака ў лес. Але за спіною па камянях цахкалі падковы Майсеевага каня, і яны зблыталі ўсе думкі. Конь як ішоў, так і пайшоў, не спыняючыся, павёз уперад не толькі Майсеева барахло, Рыву і Гірша, але і Захаравага сына: чарнявая Васева галоўка тырчэла над мяхамі, нібыта баравічок з моху. І хоць Гірш з воза споўз на дарогу, але каня не спыніў, пайшоў і пайшоў, трымаючы лейцы, уперад. І Захар быў пайшоў следам за возам, ды, азірнуўшыся, убачыў, што Майсей застаўся стаяць, стаялі за каляскай Ілья і Лёнік, стаялі Ліза і Ксеня

а дзяўчатамі. І ён таксама спыніўся. А воз аддаляўся і, можа, цокканне падковаў ды шоргат колаў, якія затухалі на адлегласці, скранулі [redacted] месца ўвесь натоўп. Як пайшлі, тады і загаварылі:

— Дзе тая Варшаўка, а яны ўжо тут.

— А ці ім Варшаўка — адзіная дарога?

— Нешта ўсюды вынюхваюць.

Майсей падышоў да Захара:

— А нашых зноў няма? Дзе, Захар, нашы самалёты хаваюцца?

Бальшак тым часам выкаціўся з хвойніку, пакаціўся праз немалады бярэзнік. Тут ён быў насыпаны, бярозы пад адхонамі з аднаго і [redacted] другога боку стаялі таўстыя, галінастыя, добра затулялі дарогу ад сонца. Цяпер Захар зразумеў, чаму Гірш, саскочыўшы з воза, не даў каню спыніцца, пагнаў уперад, хоць усе спыніліся на бальшаку. Калі б самалёты наляцелі, [redacted] канём на гэтай дарозе не было [redacted] куды дзявацца — у лес з насыпу не звернеш. Трэба шукаць, дзе насып ніжэйшы, каб з'ехаць, ды і дарога нейкая павінна з бальшака весці ў лес. Гірш разумна рабіў, што ехаў. Але Захар захваляваўся:

— Бяжым, Майсей! Нагонім воз.

Майсей не спяшаўся:

— Не бойся. Далёка Гірш не паедзе.

— Цябе яшчэ, бачу, не бамбілі. А я ўжо іхнюю тактыку ведаю. Круг зробяць — зноў вернуцца.

Захар угадаў: адзін [redacted] двух вярнуўся. Наляцеў хітры, з-за спінаў, з-за высокай лясной сцяны, знізіўшыся, нібы каршук над пылянятамі, але натоўп заўважыў яго на імгненне раней, як ён яго нагнаў, паспеў сыпануць у лес, і калі той з'явіўся над бальшаком, тут нікога ўжо не было, акрамя Захара і воза, які Захар убачыў перад сабою ледзь не адначасова з самалётам у небе. Самалёт ішоў нізка над бальшаком, і Захар, адразу скеміўшы, што ён наганяе воз, кінуўся за возам, ужо не думаючы аб тым, каб самому звярнуць на абочыну, бег па самай сярэдзіне дарогі, не бачачы самалёта, толькі чуючы страшэнны роў. Шыбуючы з усіх сіл, нібы навыперадкі з самалётам, чуў, як за спіною цыўкалі, дзяўблі пясок і каменне кулі. На момант яго накрыў вялізны, як ноч, цень, слізгануў па ім, і перад вачыма з дарогі запырскалі фантанчыкі пяску, жвіру — дарога нібы закіпела. Кулі

дзяўблі бальшак уперадзе, як крыху раней дзяўб. адзаду, за спіною, значыць, яго абышлі, не зачапілі. Ледзь падумаў гэтак, як уваччу бліснуў агонь, і ў той самы момант страшэнны выбух узняў перад вачыма слуп зямлі, якая закрыла дарогу, увесь белы свет. І ён ужо нічога не бачыў.

Калі апрытомнеў, то спачатку адчуў пад спіною і галавою зямлю, мяккую і цёплую, а расплюшчыў вочы — неба над ім было шэрае, як начное, бруднае, мёртвае. Глядзеў на яго не ўсё разумеючы, прыгадваючы, што адбылося, гадаючы: няўжо гэта вечар? Тым часам неба яснела, налівалася сонечным святлом. Павярнуў галаву набок: наспа, бальшак. Дзе ж дзеці? Ліза? Думкі выплывалі з нейкага шуму, гудзення, адразу і гаслі, тапіліся ў шуме.

На бальшак спакойна ўзышоў вялізны, пад развесістымі рагамі, стары алень. Ён перайшоў дарогу, спыніўся, азірнуўся. Па яго слядах ішла чарада бязрогіх самачак. Алень пачакаў іх, прапусціў міма сябе, і калі яны спусціліся з адхона на другі бок дарогі, чарадою, след у след, паглыбіліся ў лес, важак прыгожа ўзняў галаву і падаўся за табуном.

«Таксама бежанцы,— падумаў Захар.— А ці здалёку ідуць? Можа, ад граніцы? З Белавежы? Таксама вайна гоніць?»

Пачуўся выбух. Глухі — недзе далёка. Але блізка, перад вачыма, бліснула полымя, у неба ўзняўся чорны земляны слуп. Свет зноў пагас у вачах, і праз тое полымя, праз чорны дым Захар убачыў высокі Майсееў воз, а на возе — сына. Ён закрычаў з усіх сіл:

— Ліза?!

Здалося, што закрычаў. Грудзі сціснуў боль, і сіл хапіла толькі на тое, каб шэптам паклікаць жонку.

Да хаты лесніка алянуха прыбілася пасля начной страляніны ў Корцелі, дзе кабаны любілі лушчыць зямлю пад дубамі, шукаючы жалуды. Спалох, які на яе наганяла страляніна, даўно прывучыў бегчы на леснікоў хутарок. Гэтым разам алянуха з'явілася зусім схуднелая, абдзёртая, мокрая. Стары падпусціў яе да венікаў, якія нарыхтоўваў вальерным аленям на зіму і цяпер, улетку, развешваў пад стрэхамі хлявоў і сянніцы, але яна, перабіра, ад венікаў морду

адвярнула. І хлеба з рукі не ўзяла. Малака разы тры з чыгунка хлебтанула і аблізалася. Стары абцёр анучаю мызу, бакі, шыю. Яна хадзіла ў самай ліньцы, і поўсць сыпалася шмаццём, пакідаючы на целе ружовыя, нібы апёкі, лапіны, на якія балюча было глядзець. Прыласкаўшы, паспрабаваў накінуць на шыю вяроўку — звярына аж закалацілася. Адкінуў вяроўку на плот, суцешыў алянуху словам, паляпаў далонню па шыі, і яна супакоілася. А тут заходзіць на двор Тхорык:

— Прынясі вады карац. Іду [redacted] горада, стаміўся.

Напаіўшы чалавека, дзед Піліп спытаў:

— Што рабіць [redacted] жывёлінай? Нейкія лаўцы алянінкі захацелі, высочваюць, а яна бяжыць да мяне: ратуй, дзед! Можа, здаць у вальеру, за высокі плот? А як туды даставіць? Машыны ў мяне няма, на вяроўцы не завядзеш — не карова.

Ляснік абхапіў алянуху за шыю, ды спрытна, тая не паспела адскочыць:

— Вяжы ёй ногі.

Стары звязаў вяроўкай пярэднія, звязаў заднія, не здагадваючыся, што Тхорык задумаў, не пытаючыся. А той прысеў пад жывёліну, абхапіў рукамі за ногі, заднія і пярэднія, кракгануў, падняў на шырокіх плячах і панёс [redacted] двара. Алянуха патузалася, паваявала, але сілу і хітрасць чалавека адчула — супакоілася.

Дарога да вальера кіламетр, не болей, але галава ў дзеда Піліпа пад кепкаю стала мокрая, аж дыміла, можа, ад хуткай хады, не на старыя ногі,а можа, ад сэрца, што калацілася за алянуху: хоць бы яна не саскочыла з лесніковых плеч, не разбілася аб дарогу, аб дрэва, ногі б у лесніка не падкасіліся. Ішоў за яго спіною, а рукі напагатове: калі што якое, каб схапіць алянуху, падтрымаць. Данеслі, а тут і вароты адчыненыя, як хто чакае, сустракае. Ніхто не чакаў, проста ўлетку не спяшаліся зачыняць, бо алені разбрыліся па лесе, жылі да зімы вольна. Цяпер, пасяліўшы сюды алянуху, вароты стары ўзяў на завалу, звязаў ланцугом і, цяжка дыхаючы, апусціўся на калоду, якая ляжала побач.

— Ну, дзякуй табе, Тхорык. Магарыч [redacted] мяне.

Ляснік быў не [redacted] п'яніц, але і не з тых, хто адмовіцца. Рагатаў і пытаўся:

— Ну, Піліп, даў ты майму гарбу работы. І навошта табе гэтая калгатня? Ці ты егер? Нават ужо не ляснік. Аддаў сваё лесу, зверу, сядзі на ганку ды смалі

цыгарку. Я так жыццё разумею. Гары яна белым полымем, твая алянуха. Гэта што цябе ўважыў, свой горб падставіў. А то б я з ёю доўга не чыкаўся.

Ён, Тхорык, ляснік дбайны, яшчэ малады, тры гады, як армію адслужыў, але ведаў адно дрэва, звера і птушку не разумеў. З леснікоў не ён адзін гэтакі. Але наконт правілаў жыцця стары з ім мог паспрачацца. Як гэта рабіць у лесе, не заўважаючы звера ці птушку? Вось толькі не цяпер спрачацца. Устаў, адпачыўшы, знайшоў пад калодаю егерскую сякеру і, пакінуўшы Тхорыка, падаўся ўздоўж вальернай агароджы: можа, дзе якая дзірка, дык трэба залатаць, каб алянуха не выскачыла. Яна ўжо адчула, што трапіла ў клетку, вялікую клетку, што яе адгарадзілі ад вёсак, хат, людзей, людскіх агародаў, і нервавалася, калацілася, баючыся страціць апошнюю сувязь ■ гэтым звыклым, любым ёй вольным светам. Ад Піліпа не адставала ні на крок, не зводзіла з яго вачэй, поўных зеленаватага дзікага бляску, цягнулася да яго мордаю паміж жэрдак. Гэтак, побач, яны абышлі ўсю агароджу — ад варот пачалі, да варот і вярнуліся. Тхорыка ўжо не было.

— Ну, што ты на мяне ўставілася, сірата казанская?

Яна ўсунула галаву паміж жардзін, вылупіла на старога блішчастыя, мокрыя вочы.

— Ну, скацінка, ядры тваю!

Гэтай нібыта грубасцю стары супакойваў сябе, наганяў на сябе жорсткасць, баючыся, што сам пусціць слязу. Адвярнуўся, сунуў сякеру пад бервяно: такое правіла — дзе ўзяў, туды пакладзі. А далей? Ісці дадому? Але ж алянуха галаву як усадзіла паміж жардзін, дык і стаяла, нібыта ў капкане. Паклаў далонь ёй на мызу, папхнуў, а галава сапраўды не пралазіць. Адышоў убок на тры крокі, дзе праём шырэйшы паміж жардзін — выпхнуў сапліваю мызу, але вуха алянуха абадрала да крыві і рыжая поўсць на суку павісла.

Пайшоў нарэшце, але як не азірнуцца? Азірнуўся: што за жывёліна? Мітусіцца, кідаецца на агароджу, ляціць то ў адзін бок, то ў другі — дзірку шукае. Што яна ў чалавеку знайшла? Адкуль што ўзялося ў яе сэрцы? Пытаўся ў свету: што з ёю робіцца? Але пытанне знікала, калі паварочваў на сябе: што з самім робіцца?

Назад, у Лісань, ішоў даўжэй, як звычайна. Ішоў

і спыняўся: нешта не давала ісці, вяртала да алянухі. І вярнуўся б, выпусціў бы з загарадзі, калі б не трывога: што будзе з Сярожам, [redacted] яго сэрцайкам? І што будзе з алянушкаю, як наскочыць на лаўцоў, якія яе пільнуюць?

Вярнуўся да сваёй хаты, а тут, ля студні, сядзіць Тхорык. Вядро [redacted] вадою на зрубчыку, галава — у вядры. Пачакаў, калі, напіўшыся, з вядра вылезе — не дачакацца:

— Гэтак потам сышоў, пакуль звярыну данёс?

Тхорык [redacted] вядра вынырнуў:

— Мех касцей, але што значыць косці жывыя. Не адап'юся, не аддыхаюся.

— А ты думаеш, што магарыч зарабляць лёгка?

— Горача, дзед Пілiп. Паўвядра выдуў — мой магарыч. Хоць, як кажуць нашы хімікі, жыццё галапузаўскага мужыка цяпер у гарэлцы. Радыяцыю [redacted] вантробаў вымывае.

— Якія там у вас хімікі?

— А не ведаеш? У Галапузаўцы стаіць рота.

Стары ведаў пра хімікаў раней за Тхорыка, бо калона ваенных машын, перш чым дабрацца да Галапузаўкі, праехала па яго выганчыку, пад вокнамі, яшчэ пыталіся, дзе тая Галапузаўка. Але зрабіў выгляд, што не ведае, каб Тхорык пра ўсё расказаў:

— Што яны ў вас у вёсцы робяць? Якая радыяцыя?

— А такая, што трэба нам бегчы са сваёй Галапузаўкі. Кідаць хаты, сады, рэчку, лес, жывёлу — усё чыста, бегчы, як у вайну беглі ад немца.

— Ты што, Тхорык? Куды бегчы? Хто сказаў?

— Ну пакуль што гэта — сакрэт. Каманды яшчэ няма, каб бегчы. Бо гэтага ўсе баяцца. І мужык, і пан. Цяпер яны, хімікі, у Галапузаўцы скідаюць з хат ды хлявоў стрэхі, будуць усё накрываць новым шыферам. Выкідаюць з хлявоў гной, зямлю ў дварах, асабліва пад стрэхамі, зразаюць кветкі, кусты ля хат, дрэвы па вуліцы — усё на машынах валакуць за вёску, а там здаравушчую яміну выкапалі, закапваюць. Яшчэ будуць жывёлу з двароў забіраць. Ад каровы да апошняга парсюка і сабакі. Кажуць, што заразныя.

— А што ж вы, галапузаўскія, есці будзеце? — спытаў дзед Пілiп.— Як жыць, калі ні каровы, ні парсюка, ні сабакі? Хоць і пад новым шыферам. Як?

Тхорык маўчаў. Раптам знікла ахвота гаварыць.

Стары вынес з хаты бутэльку віна, паставіў на лаўку ля студні, хлеба акрайчык, сала, гурок. Як абяцаў. Тхорык маўчаў. І выпілі, і закусілі — маўчаў. Стары прапанаваў:

— А ты, як будзеце бегчы з Галапузаўкі, бяжы сюды, да мяне. Лесу вакол хапае. Паставіш хату на маім выганчыку. Будзем жыць.

Тхорык і на гэта нічога не адказаў. Сядзеў на лаўцы, галаву падпёршы кулакамі, спадылба глядзеў некуды перад сабою — высока, у неба. Гэты яго позірк заўважыў дзед Піліп — пачаў углядацца ў той бок, куды глядзеў Тхорык. Там, над хатаю, стаяў дуб. На дубе — буслянка. Буслы, абодва, у гняздзе. Два — свае. Але ж і яшчэ, акрамя сваіх...

— Ты бачыш, Тхорык?.. Буслы!.. Мае — два, у гняздзе. А іх там колькі? Два, тры, пяць... Чужыя. Чые гэта?

На буслоў Тхорык якраз і глядзеў. Першы раз гэтакае бачыў, каб столькі буслоў зляцелася на адным дубе. Нібыта гурбы снегу скінуліся на дуб. Белага не меней, як зялёнага. Нешта ж і ў птушак стрэслася, што сабраліся ў кучу? Але большым дзівам было тое, што на дубе сядзелі Тхорыкавы буслы. Іх, сваіх, ён не мог не пазнаць. У бацькі азадак чарнейшы, а матка, як заўсёды, драмала, сунуўшы дзюбу сабе пад крыло. Дома малыя, а яны — тут. Тхорык яшчэ раней заўважыў, што некуды знікаюць яго буслы, малых пакідаючы ў гняздзе. Хай бы бацька ляцеў, жабаў насіў, а то ж і матка знікае. Не здагадваўся, куды лётаюць.

— Ці ў іх тут якая сходка?..

— А што ты думаеш? — пагадзіўся стары.— Есць у іх і свая бяда, і свае сходкі. Ужо трэці раз за лета бачу гэтакі кірмаш на сваім дубе. Летась не збіраліся ні разу. Штосьці адбылося. А чые гэта, Тхорык?

— Двое маіх. А вунь, бачу, Макараў — суседскі. Крыло падсечанае.

— Усе галапузаўскія? Дык, можа, вашы хімікі і да іх дабраліся, пагналі з вёскі? Калі кароў, свіней, сабак...

Тхорык доўга глядзеў на дуб, на буслоў, падпёршы галаву кулаччам, нешта сваё думаючы. А калі ўсхапіўся з лаўкі, сабраўся ў вёску, дзед Піліп зноў параіў:

— Ты, хлопец, падумай. Буслы твае, бачыш, сюды ўжо збеглі. Яны і цябе сюды клічуць. Бусел — птушка

святая, з ёю не грэх параіцца. Пагоняць з Галапузаўкі — бяжы да мяне. На маім выганчыку месца хопіць.

Нічога Тхорык не адказаў на гэта. Пайшоў у Галапузаўку моўчкі, панёс трывогу [redacted] сабою. А яна і тут засталася. Цяпер дзед Піліп сядзеў на лаўцы ля студні адзін, падпёршы галаву кулаччам, як раней Тхорык, глядзеў на дуб, на буслоў, глядзеў і думаў:

— А нешта ж іх прыгнала?

Брудны, галодны, я іду ў бок Унечы, куды ідуць усе людзі, бо туды, куды ідуць усе, недзе ідуць тата, мама, Люба, дзядзька Ілья, цёткі Зося і Ксеня, Лёнік, Раман. Я ведаю, што калі ісці на Унечу, то ці яны мяне знойдуць, ці я іх знайду. Гэтак усе кажуць, калі падыходзяць, пытаюцца:

— Ты чый, хлопчык?

Раней, калі пыталіся, я маўчаў. Тады вакол мяне збіралася шмат людзей і ўсе што-небудзь дапытваліся, кожны нешта раіў. А мне не хацелася слухаць. Я хацеў, каб мяне ніхто не заўважаў, каб ніхто не падыходзіў. Цяпер я разумею, што не трэба маўчаць. І я ўсім адказваю. Куды іду? На Унечу. Дзе мама і тата? Там — на вакзале. Як мяне зваць? У кожнага чалавека імя і прозвішча. Есць яны і ў мяне: Васіль Падабед. Калі адказваю, людзі адыходзяць. Нехта спытае, ці галодны, але я кажу, што не галодны, хоць есці вельмі хачу. Я магу цярпець. Затое як скажу, што не галодны, да мяне не лезуць з брыдкай скарынкаю. Мне тады добра. Яшчэ пытаюцца: ці дайду да Унечы? Дайду. Глядзяць на мае ногі. А ці мала босых? Мне нарэшце пашанцавала. Жанчына, падобная на маму, пасадзіла на зялёны муражок пад бярозаю, анучкай абцерла мае ногі і, нічога не пытаючыся, насунула на іх чорныя, з белымі абдзёртымі носікамі, сандалікі. Яны нідзе не ціснуць — самы раз. У сандаліках добра не толькі ісці, але і бегчы. Любенькая цётачка. Калі б яна ў мяне што-небудзь спытала, я ёй усё расказаў бы. Але яна нічога не спытала, толькі пагладзіла мяне далонню па галаве і пайшла. І я пайшоў за ёю следам. Я доўга ішоў за ёю, не хацеў адставаць, бо ведаў, што яна добрая.

А Гірш скінуў мяне з воза — ён кепскі. Спачатку воз звярнуў з дарогі ў лес, раней, як цётка Рыва закрычала:

«Самалёт!» Ужо воз быў у лесе. Гірш бег з лейцамі побач з канём, колы дроггкалі на каранях, воз кідала ў бакі, цётка Рыва трымала мяне моцненька, прыціскала да сябе, каб я не зваліўся. А пасля Гірш залез на воз, і мы зноў паехалі. Ехалі доўга. Усё лесам ды лесам, па пнях-каранях. То спыняліся, калі Гірш дужа моцна спрачаўся з цёткай Рываю, то зноў ехалі, калі яны замаўкалі. Яна казала, каб ён павярнуў каня назад, а Гірш гнаў каня ўперад, даказваючы, што дарога пакружыць і выведзе на бальшак. Потым, зусім нечакана, калі ўжо ехалі па роўнай дарозе, калі конь пабег шыбчэй, воз раптам падскочыў, яго хітнула з боку на бок, штосьці штурхнула мяне ў спіну, і я пакаціўся пад кусты. Я ляжаў на зямлі і чуў, як цётка Рыва крычала на Гірша, каб спыніў каня. Але Гірш пагнаў яшчэ шпарчэй. Гнаў і крычаў на ўвесь лес, што я выдаў Моціка. А цётка галасіла: «Стой, Гірш! Ён не вінаваты! Ён дзіця, Гірш!» Яна моцна плакала, але Гірш не спыніўся. Воз заціх. Не чуваць было і цёткі і Гірша. І тады я ўсхапіўся, пабег за возам. Але ў лесе было шмат дарог, і я не ведаў, па якой дарозе паехаў воз. Вакол было ціха і жудасна. І я заплакаў. Я плакаў і крычаў: «Ма-ма!», «Та-та!». Але ніхто не адгукаўся. Крычаў, пакуль мог крычаць. А потым не было сілы ні крычаць, ні плакаць. У горле высушыла. Я зноў пабег. Але дарога скончылася. Я паваліўся ў высокую траву. Прачнуўся — цёмна, ноч. Кугакала птушка — тая самая, знаёмая. Сава Неясыць! І яшчэ нада мною нешта скрыпела. Зрабілася жудасна. Я баяўся крычаць. Паварушыцца баяўся. А раптам пачуе воўк? Ці мядзведзь? Ці які здзічэлы сабака? Ці каршук? Мяне ён не занясе ў сваё каршунячае гняздо, бо я не пылянятка, але можа наляцець і прадзяўбці галаву. Ці гадзюка? Яна таксама не з'есць, але ўкусіць — сканаеш. І не будзе цябе. І ніколі ўжо не ўбачыш ні тату, ні маму. Засынаючы, я не чуў савінага плачу, але ўгары, над галавою, скрыпела. Хто скрыпеў? Птушка ці звер? Істота добрая ці злая? Я не ведаў. Ціхенька, каб нікому сябе не выдаць, я залез пад вялізны густы куст і там заснуў. Пад кустом было не так страшна, цяплей, нібы пад мамінай коўдраю. Але калі я прачнуўся, было ўжо светла, сонца сыпала па лесе залатыя прамяні. Я ўзняў галаву з мяккай купіны, працёр кулакамі вочы і ўбачыў, што куст, пад якім спаў, не такі вялізны

і лапушысты, як падалося, калі засынаў. Куст быў арэхавы. І арэхі віселі: белыя лобікі пад зялёнымі махрыстымі шапачкамі. Убачыўшы іх, я адчуў, што хачу есці. Але як дастаць арэх? Вось — ніжэйшы. Усхапіўся, падскочыў, сарваў адразу два — двайняты, як Гірш і Моцік. Раскусіў адзін — усярэдзіне белая вата ды дробнае, нібы макавіна, зярнятка. Малако, сказала б мама. Дзе яна цяпер? Шукае мяне на бальшаку? Плача? А бацька не будзе плакаць. Будзе шукаць. Ён усё, што задумае, зробіць. Ён мяне знойдзе. Трэба ісці на бальшак. Але дзе ён? У які бок ісці? Я раскусіў другі арэх. І ў ім белая вата, белая макавінка. Аднолькавыя, пад аднолькава зялёнымі шапачкамі. Як Гірш і Моцік. Але Гірш і Моцік не аднолькавыя. Гірш злы, а Моцік зла не зробіць. Навошта пад канвой здалі Моціка, а не Гірша?

Калі надумаў шукаць бальшак, прачнулася Неясыць. Я ведаю, што яна спіць удзень, а ноччу плача, мне пра гэта казаў тата, але цяпер і ні дзень, і ні ноч. Ці, можа, яна гукае да мяне тату? Куды ж я пайду? А калі тата прыйдзе? Калі яна, Неясыць, яго сюды прывядзе?

Угары — рып ды рып. Я задзіраю галаву, ад страху ўтуліўшы яе ў плечы: рэдзенькая зялёная барада вісіць [redacted] галіны сасны — там, дзе рыпіць. Барада — як бярозавы венік. Бярозка — побач [redacted] сасонкай. Яны стаяць, абхапіўшы адна адну галінкамі. І рыпяць, мабыць, удваіх, разам. Ад ветру? Вецер іх як гайдане, дык яны і рыпнуць. Можа, абняўшыся, плачуць? Можа, і ў іх бяда? Але чаго ім бедаваць? Яны ж удзвюх? У лесе кепска, як адзін.

Неясыць, пакуль слухаў сасну і бярозку, заціхла. Значыць, тата далёка, не чуе маю птушку — не дагукалася. Яна ўжо стамілася гукаць? Можа, паляцела адсюль? Дык і мне тут няма што рабіць. Трэба ісці на бальшак.

Яшчэ я ведаю, што дарогі знаходзяць па сонцы. Тата казаў, што калі сонца ў небе, то з любой глухамані выйдзеш. Але як спытаць у сонца, дзе мая дарога? Учора, калі ішлі, сонца сляпіла ў вочы. Значыць, трэба ісці на сонца, каб знайсці бальшак.

І я пайшоў.

Іду, а бальшака ўсё няма. З лесу на маю пакручастую дарогу выбегла рэчачка, таксама пакручастая,

маленькая, але гаманлівая, спрачаецца з кожным карчом, з кожным каменем, якія ўкінуліся ў яе і ляжаць на адным месцы, нікуды з ёю не бягуць. Яны ёй не падабаюцца? Яна скача, віруе, а ім хоць бы што. Хай ваююць. На іх вайну я забываю, убачыўшы за рэчачкай хаты. Вёска? Зноў задумваюся: што рабіць? Ісці да хат, у вёску, ці бегчы ад іх, пакуль з вокан мяне не заўважылі? Людзей і хат я не баюся, але навошта яны мне? Можа, скажуць, дзе мой бальшак?

Якраз і дрэва ляжыць праз рэчку, з берага на бераг. Завалілася, падмытае вірлівай вадою, і зрабілася кладкаю, па якой можна перайсці на той бок. І вось я ўжо за рэчкай, на высокім беразе, ля самай першай хаты. Пад плотам спыняюся. Зайсці ў хату? Але мае вочы не могуць адарвацца ад градаў, якія за плотам. На кустах чырвоныя памідоры, пад лапушыстым лісцем ляжаць, як парасяты, зялёныя гуркі. Сланечнік з-за плота звесіўся да мяне. І ўжо я чую, што ахвота есці. Мацаю жывот — пустая ямка. Дастаю сланечнік за галаву, але ці гэта яда? Мае вочы знаходзяць блізкі гурок — руку прасунуць паміж штыкецін, і ён твой. Не раздумваючы, прысядаю пад плотам, зрываю гурок. Хрумсь зубамі — смачны.

— Хлопчык, ты адкуль?

Сціскаючы ў руцэ гурок, я ўжо кідаюся наўцёкі, але каўнер майго бушлаціка аказваецца ў руцэ ў цёткі.

— Пусціце!

— Не бойся.

Цётчына рука моцная — не вырвацца. Але чаму цётка ўсміхаецца?

— Я бежанец,— кажу, робячы злосны твар, усё роўна як хачу адразу запалохаць.

— Гэтакі маленькі? А дзе твае мама, бацька?

Зноў тыя самыя пытанні, якія сто разоў чуў. Не адказваць? Але ж усё роўна будзе дапытвацца?

— Адзін я тут. Мне трэба на бальшак. Там мама і тата. Яны мяне чакаюць. Пусціце!

— А ці даўно ты іх згубіў? — пытаецца, нібы ўсё ведае.

— Учора.

— Гэта як нямецкі самалёт наляцеў на бежанцаў?

— Як самалёт... Пусціце!

Пытанняў у цёткі цэлы мех, калі не болей. Трэба маўчаць.

— А яблычкі ты любіш? Летнічкі — салодзенькія.

Яна выпускае з рукі мой каўнер, і я магу ад яе збегчы, але цяпер ужо бегчы ці не бегчы? Я не баюся цёткі.

— Ну дык пайшлі ў хату. Яблычак дам.

На стале круглы бохан і нож, усё роўна як цётка мяне чакала і паклала, каб я сам адваліў акрайчык, які захачу. Але рукі я трымаю на каленях пад сталом, нечага баючыся. Цётка нясе гарлач, зялёную конаўку, налівае малака, адразае лусту хлеба. Я нічога не кажу. У адной руцэ ў мяне конаўка з малаком, у другой — мякенькі, з храбусткой скарынкаю хлеб. А мала — гарлач поўны, хлеб на стале круглы. Хлеб ■ малаком — смаката. І ў хаце, акрамя цёткі, нікагусенькі. Гэта добра — ніхто на мяне не глядзіць. І яна сама сышла. Праз акно бачу — пайшла ў хлеў.

З хлява чуваць яе голас:

— Ды злазь ты з сена, Стахор! Хопіць дрыхнуць! Паедзеш ці не паедзеш? Калі не, дык я сама.

Той Стахор — дзве мыліцы, адна нага. Кудлаты, быццам на галаве капа сена. Стаіць пасярод двара.

— Камандзёр мне! Ох, камандзёр!

Давячыся, я хутчэй дапіваю малако, пакуль Стахор не зайшоў у хату, бо пры ім, адчуваю, піць не буду. Але нікуды ісці ён не спяшаецца:

— Дзе кабыла?

— Садзіся ды едзь. Кабыла ў аглоблях.

Чухае галаву, сморкаецца пад ногі.

— Ну, баба, няма на цябе хрыца! Але будзе. Ён мазгі ўкладзе. І па закону. Па Бібліі. У саветах не абжалуеш.

— Калі б не мае мазгі, цябе б, дурань, жывога не было б.

— Неба б не капціў. Па закону. Па Бібліі. Хвакт. А жывы, дык не станоўся на горла. Спіць чалавек — хай спіць. Сеў пад хлеў — не варуш.

— Цябе не варуш, дык вайну праспіш.

— А я енвалід! Трудавы енвалід.

Яна бегла то ў хлеў, то ў грады, то ў сенцы, не супыняючыся, а ён як стаў ля варот — ні з месца, і языку не даваў супыніцца.

— Ідзі ў воз. Хопіць брахаць. Ды пачакай мальца, падвязеш да Забялышына.

— Які там яшчэ малец?

Яна ўскочыла ў хату, калі я ўжо выпіў цэлы кубак малака, з'еў хлеба лусту і жывот мой успух, як барабан. Падбегла да стала, яшчэ наліла ў кубак, яшчэ адрэзала лусту:

— Еш, хлопчык, наядайся. Дзе яшчэ пад'ясі?

Жывот хоць поўны, але ўзяўся зноў за малако ды хлеб, паглядаючы тым часам у акно. Стахор пайшоў да каня — добра, што не ў хату.

Калі я ўстаў з-за стала, цётка павесіла мне на плячо палатняную торбачку і вывела на вуліцу. Там стаяў запрэжаны конь, а на драбінах, звесіўшы адну нагу ў лапці, сядзеў з лейцамі ў руках той самы Стахор. Я ўсеўся з ім побач, на мыліцы. Ад яго патыхала смуродам.

Бальшак! Я так незалюбіў яго ў той дзень, калі мы ішлі ад Касцюковіч. За тое, што ён каменісты. Я на ім збіў ногі, і таму тата ўскінуў мяне спачатку сабе на плечы, а потым на воз. На ім я згубіў тату і маму. Але цяпер я рады гэтаму бальшаку, амаль як тату і маме. Мне здавалася, што я страціў яго назаўсёды, і вось я зноў на ім. Зноў ідуць бежанцы. Едуць з вазамі, з калясамі. Вядуць на вяроўках кароў і коз. Вязуць гусей, авечак. Такога яшчэ я не бачыў за ўсю дарогу. Быццам рухаецца кірмаш. Хоць людзей меней, як ішло і ехала ўчора. Дзень ціхі, ветрык мякенькі, прыемна абдае твар. І сонца не пячэ. Можа, яшчэ рана, яшчэ высока не ўзабралася на неба. Нехта ўперадзе брынкае на струнах, спявае — нейкі хлопец. Слоў не зразумець. Толькі ў канцы, пасля кожнага радка: «Гэй-ля, Гэля!» Ён ідзе каля воза, цяжкімі ботамі шкрабаючы па камянях, а на возе сядзіць дзеўка і рагоча пасля кожнага «Гэй-ля, Гэля!», аж кісне, хапаючыся за жывот. Яшчэ я не бачыў, каб бежанцам было гэтак весела. Спявалі і рагаталі, сагрэтыя гарэлкаю, навабранцы ў Касцюковічах. Дык, можа, і гэты навабранец ідзе на фронт: «Гэй-ля, Гэля!»

Я чую, як ад вазака, Стахора, смярдзіць гарэлкаю. Ён мне брыдкі, і я пакрысе, едучы, адсоўваюся ад яго падалей. Але куды дзенешся? Ён едзе ў той бок, куды пайшлі мама і тата. Значыць, мы іх нагонім. Усё ж на кані. І я маўчу.

Ён на мяне касавурыцца. Галаву зверне набок, увап'ецца, як п'яўка, чырвонымі вачыма, пакажа з-пад губы белы бліщчасты зуб, а потым зноў адвернецца.

Бачу, што я яму гэтакі любы, як ён мне. Добра хоць, што маўчыць. Вось ужо і галаву звесіў, носам клюе. Я адсоўваюся ў самы задок драбін, спіною паварочваюся да яго, але азіраюся. Спіць? Ці проста забыў пра мяне? Звешваю ногі з драбін, рукамі адпіхваюся ад іх — едзь сабе, крывароцька, зуб белы, конскі, бр-р!

Паехаў, не азірнуўся — не пачуў? А я спахапіўся: торбачку палатняную забыў? Там і сала, і хлеб, і яблычкі-летнічкі. Пыталася ж цётка: яблычкі ці люблю? Мне шкада торбачкі, але — не вернешся.

Зноў — босы на камянях. Адзін ратунак — ісці ўскрай дарогі, лавіць нагамі зямлі нітачку на абочыне, дзе яшчэ і не адхон, і ўжо мяккая траўка, нявытаптаная. І я лаўлю тую нітачку. А дзе згублю — зноў лаўлю.

А потым ужо — цётка з сандалікамі. Цётачка любенькая, адкуль цябе да мяне Бог паслаў? Я ніколі яшчэ не казаў гэтае слова: Бог — першы раз. Іншыя, чуў, казалі. А я — ніколі. Цяпер яно само на язык мой села. І тая цётка добрая, што накарміла, [redacted] крывароцькам на бальшак вывела. А ці бываюць яны, цёткі, нядобрыя? Ці бываюць злыя? Я гэтакіх не бачыў. Мужыкі злыя бываюць, як гэты — крывароцька, хлопцы бываюць злыя, як Гірш, а цёткі, відаць, не бываюць. Яны лепшыя. Я сам не заўважаю, як падсуседжваюся, ідучы, да жанчын, чуючы ў іх маміну дабрыню. З імі побач мне не гэтак страшна ісці, не гэтак цяжка. Усё роўна як яны, хоць і чужыя,— мая абарона. Гэтакая і цётка Рыва. Як яна цяпер едзе [redacted] Гіршам? Можа, яны пабіліся?

У сандаліках ісці лёгка. А можна бегчы. Я зажмурваю вочы, ідучы, уяўляю, як бягу, бягу, бягу, як усе ад мяне адстаюць, людзі і коні, усе чыста, усіх абганяю. Ці можна гэтак? Каб бегчы доўга, пакуль не наганю тату, маму, Любу? Але як бегчы, калі ўсе ідуць? Што ўсе падумаюць, калі я адзін пабягу? Навошта бегчы? Я і так наганю. Я ж у сандаліках.

Гэтак мне думалася, калі дзень пачынаўся, сонца, выкупаўшыся недзе за лесам, блішчала, як мокрае, выціралася, ужо над лесам, лёгкімі белымі ручнікамі, якія плылі ў небе над верхавіннем. А потым — усё памянялася. І неба, і сонца, і ногі ў сандаліках, і мае думкі. Сонца вышэла, неба чысцела, ногі, хоць і ў сандаліках, спатыкаліся ўсё часцей, а думак у галаве зусім не было,

галава была пустая. І нават калі сонца зноў пачало садзіцца на лес, ужо з іншага боку, калі на небе зноў наплылі хмары, ногі і думкі засталіся тымі самымі клячамі, хіба што зусім сазнібелі. І я ўжо ішоў, думаючы пра адно: недзе канец дню, дарозе, недзе будзе вёска і далей ніхто не пойдзе, не пайду далей і я, ці будзе які табар пры дарозе, якое вогнішча, дзе людзі саб'юцца ў гурт, каб адпачыць? Пасля той ночы я баяўся застацца адзін. Я хацеў быць з людзьмі. Дзе жанчыны. Але людзі не сыходзілі з бальшака, на абочынах не відаць было ні вёсак, ні вогнішчаў. І хоць павaліцца было лягчэй, як ісці, я ішоў.



Нішто не бясконцае — дарога, голад, страх. Усё перакруціцца. Гэтак тата казаў, супакойваючы маму. Як тата, і я кажу.

Перакруцілася, калі ўжо быў канец дня. Я ішоў нібы ў сне і раптам бачу, як людзі сыходзяць з дарогі — хто на адзін бок, хто на другі. Гэта — дзе лес адбегся ад бальшака, у шэрым надвячорку раскінуліся лугі: трава, пясок, астраўкі хмызняку. Я спыняюся пад вярбой на абочыне і не магу адвесці вачэй ад ракі, якая прыгожа ляжыць у лагу. За ракою — гара, высокі зялёны бераг. Адтуль скрозь зяляніну на мяне глядзяць чырвоныя ад позняга сонца вокны хат.

Вось яна — Бесядзь. Над

ёю, на высокім кудлата-зялёным беразе, вёска. Забялышын? Чую ад людзей. У той бок, за вёску, ніхто не ідзе. Тут — начлег усім. Але дзе шукаць маму, тату? Ісці за мост у вёску? Ці з бальшака звярнуць на луг, нізкі з гэтага боку бераг, на якім загараюцца вогнішчы бежанцаў? Ці ісці на бальшак — на той бок, на той луг? Дзе яны? Там, за бальшаком, таксама вогнішча.

Ад воза да воза. Ад табара да табара. Ад галасоў да галасоў. Ад кусточка да кусточка. Ад вогнішча да вогнішча. Я доўга не затрымліваюся каля вазоў, кустоў, вады. Даўжэй стаю каля вогнішчаў. Я люблю вогнішчы. Ля агню заўсёды смялей, цяплей. Тут людзі дабрэйшыя, бо цёпла ўсім. Тут галодных няма, бо калі ёсць хоць адзін з кавалачкам хлеба, дык ён падзеліцца з усімі. Я гэта ўжо заўважыў. Усё роўна як вогнішча загадвае падзяліцца.

Вось — стары каля вогнішча. Пад ім — кола ад воза. На каленях — лапаць. Ён падплятае яго размочаным у вядры з вадою лыкам і расказвае:

— Тры дні назад тут, праз Бесядзь, ішлі паязды. Пакуль не наляцелі чорныя павукі. Якраз сонца за лесам садзілася. Бомбы сыпанулі — канец свету. Ваду паднялі, зямлю паднялі, з небам змяшалі. Зеніткі нашы пух-пух — воблачкі белыя. Тыя круцъ хвастамі — убок як ветрам адносіць. А каманда ёсць каманда — зноў вяртаюцца. Зноў зеніткі — пух-пух! Што ім зеніткі? Як задумалі — гэтак і зрабілі. Ад моста трэскі ляцелі. Нашы, праўда, таксама як задумалі хоць аднаму клямку зрабіць — зрабілі двум. Адзін згарэў на вадзе, другі разляцеўся над вёскаю. Усю ноч рака гарэла-курэла. А раніцой зеніткі пацягнуліся на Унечу. Што ім ужо тут бараніць? Мост баранілі. Гэтакая была каманда. А моста няма — клямка!

— Як няма? Людзі ідуць?

— Дык то людзі, коні. А то паязды. Жалезны быў мост. Увесь развярнулі. Жалеза гарэла.

Вакол вогнішча сядзяць хлопцы — як я, большыя. Самы большы дубцом разграбае вуголле, выкатвае сабе пад ногі абгарэлую бульбіну. Схапіў і перакідае з далоні на далонь, дзьме на яе, ціскае пальцамі, пакуль бульбіна не развальваецца.

— Спяклася.

Яго адно слова — каманда астатнім. Усе пачынаюць выкочваць з вогнішча чорныя бульбіны, хапаюць іх

рукамі з вуголля. Дзед кідае падплятаць лапаць і рагоча, як сыты [redacted] галодных. А мне кажа:

— Ты што стаіш, нібы сірата? Бяры, пакуль ёсць што ўзяць.

Усе глядзяць на мяне. Але без той, што ў дзеда, усмешкі. Маўчаннем і галоднымі вачыма не падпускаюць да бульбы.

А есці ахвота. Асабліва як бачыш, што ядуць іншыя. І я смялею. Абгарэлым дубчыкам выпорваю з прысаку бульбіну, падкочваю да сябе, б'ю, гарачую, аб зямлю, разломваю і, дзьмухаючы на яе, выгрызаю з абгарэлых скарынак усё, што можна выгрызці.

Хлопцы на мяне пазіраюць злосна, але маўчаць, бо галоўны тут дзед з лапцем — бульба яго,— а ён мне сказаў, каб я еў таксама.

— Чаму ты, дзед, не ясі? — пытаецца старэйшы хлапчук.

— А мая бульба ў печы.

— А дзе твая печ?

— А печ мая вунь... на тым беразе.

Бульбіна з сырцом. Я з'ядаю і сырэц, нішто не выкідаю, з'ядаю нават чорны нагарак, пад якім самая смаката — ружовая храбусткая скарынка, і зноў пазіраю ў вогнішча. Усе ядуць па другой і трэцяй. Я поркаюся ў прысаку, выкочваю яшчэ бульбінку, драбнейшую, звонку зусім чорную, як вугаль, але ў мяне з-пад рукі яе выхоплівае хлопец, што сядзіць побач. У яго ў руцэ яшчэ цэлая, а ён маю схапіў.

Дзед гэта заўважае — абураецца:

— Аддай бульбіну.

Той насуплена адкочвае бульбіну да мяне, локцем поркае мне ў бок. Я хапаю бульбіну і забываю на крыўду.

— А ты, бачу, інтэлігент? — не то пытаецца, не то здзекуецца старэйшы хлопец. Ён аглядае мяне ўсяго, ад галавы да ног, як чужога, асабліва прыдзірліва разглядае мой сіні матроскі бушлацік. Чаму я інтэлігент? Можа, што ў мяне бушлацік і сандалікі? Хлопцы ўсе босыя. Ім зайздросна? А ці я вінаваты, што ў іх кашулькі ды штаны брудныя, парваныя, дзе-нідзе голае цела свіціцца. Старэйшы сядзіць у куфайцы, з якой праз дзірачкі на плячах і рукавах тырчыць шэрая вата, усё роўна як куфайку дзяўблі пеўні ці кулі.

— І хто вы ўсе? — мармыча сабе пад нос дзед.—

Вашабруды. Цяпер вы ўсе ля аднаго вогнішча. Адна бульбіна — на ўсіх. Адзін кус сала — на ўсіх. Будзеш сябе аднаго бачыць — немца не зломіш. А ўсе разам — зломім.— Ён паварочваецца да мяне.— Хто ты такі? У цябе ёсць бацька? А матка?

Што яму адказаць? Маўчаць? Але ж я з'еў яго бульбіны. Адну бульбінку ў мяне забраў большы хлопец, а дзед загадаў аддаць. Значыць, ён да мяне добры. І я кажу:

— Ёсць. І мамка, і татка.

— А дзе яны?

— А я не ведаю. Пайшлі.

— Дык яны цябе згубілі? Куды ты адзін ідзеш?

— На Унечу.

— Цяпер усе ідуць на Унечу.

Я дзіўлюся з сябе. То слова з мяне не выдушыш, замоўкну — што камень, а то разгаварыўся. Сяджу ды гляджу ў рот дзеду, быццам чакаю, каб ён яшчэ што спытаў. Але цяпер ужо ён кажа да ўсіх:

— Што, цыганы, будзем рабіць? Дровы збіраць, каб на ўсю ноч хапіла? Ці пойдзем у вёску? Там у мяне хата, печ, сена. А тут можна дуба даць. Ночы халодныя.

Не паспявае надзець падплецены лапаць, абматаць абору, як усе хлопцы ўжо на нагах. Дзед вылівае з вядра ваду, ускідвае на плячо мех і вядзе гурт праз рэчку. А я застаюся ля вогнішча. Куды ісці? Можа, тут, на беразе, мяне шукаюць мама і тата? Трэба соўдаць ад вогнішча да вогнішча, як гэта рабіў Шатун, шукаючы свайго Віталіка. Але дзед быццам спіною заўважае, як сумна я адзін стаю над вогнішчам, якое дагарае,— азіраецца, кліча:

— Ідзі да мяне.

І ўжо ніякіх думак у галаве няма ад радасці, што стары паклікаў. Падыходжу. Ён кладзе вялізную, нібы шапка, далонь мне на галаву, як гэта рабіў тата, пытаецца:

— Як цябе зваць?

— Васіль.

Хлопцы рагочуць, усё роўна як я сказаў што-небудзь смешнае.

— Вась-вась — хру-хру,— разяўляе вялізны рот той, што хацеў з'есці маю бульбіну.

Мне дужа крыўдна. Чаму яны смяюцца з мяне?

З майго імя? А ці маё імя кепскае? Можа, яны хочуць адабраць у мяне маё імя? Але яно — апошняе, што ў мяне яшчэ ёсць, разам з бушлацікам і сандалікамі. Калі забяруць у мяне імя, я ўжо ніколі не знайду тату і маму, а яны не знойдуць мяне. Праз слёзы сціскаючы кулакі, я кідаюся на хлопца, які хацеў з'есці маю бульбіну, а цяпер — рагоча. Кідаюся з крыкам:

— Я Васіль! Пістон! Васіль-Пістон!

Мне зусім не сорамна і за мянушку, якую даў Лёнік, бо я заўсёды любіў брата, а цяпер, згубіўшы яго, люблю яшчэ мацней. Мне не трэба іншай мянушкі, акрамя той, якую даў Лёнік. І не трэба іншага імені, як тое, што далі мама і тата. Я гатовы біцца за іх насмерць. Але як толькі падлятаю да хлопца, ён валіцца перада мной на зямлю, раскідвае рукі і ногі, адкідае набок галаву і заплюшчвае вочы. Я губляюся: што з ім? Ён — мёртвы? Старэйшы, той, што ў куфайцы, усміхаючыся, бярэ мяне за плячо, кажа:

— Малайчына, Пістон! Цяпер ты наш...

Што і як адбылося — Захар не ўсё памятаў. Памятаў, як сын сядзеў на Майсеевым возе, як сам крочыў за возам побач з Майсеем, як над бальшаком з'явіўся нямецкі самалёт, як Гірш пагнаў каня, як ён, Захар, бег з Майсеем за возам, як потым з'явіўся другі самалёт. У вачах стаяў слуп агню і зямлі — пасярод бальшака. А што далей? Як яго адарвала ад зямлі, кінула пад адхон у канаву, зямлёю засыпала — не памятаў. Памятаў, як, апрытомнеўшы, убачыў над сабою шэрае, быццам брудная аўчына, неба, усё роўна як начное, але без ніводнае зорачкі, як яно яснела, чысцела і як, павярнуўшы галаву, разгледзеў насып бальшака і чараду аленяў, камолых самачак, што пераходзілі бальшак, прыгожага рагача, важака, які то адзаду суправаджаў сваю сямейку, то ўзыходзіў на ўзгорак, з вышыні, узняўшы рогі на магутнай гордай галаве, сачыў за чарадою і лесам. Тады, убачыўшы важака, спахапіўся: дзе сын?

Ледзь падняўся на ногі. Трымалі Ілья і Ліза. У галаве шумела, свістала. Востры боль чуў у левым плячы, тупы — у грудзях. Але думкі пра сына гналі на бальшак, хоць адчуваў сябе нібы ў мораку.

Каляску з мяхамі пхалі Ілья, Лёнік, Раман. Захар

ішоў побач, трымаючыся за аглабліну. Побач з партфелем шлёпала Ліза.

Неба зацягвалі хмары, накрапваў дождж.

— Майсей бег за возам. Але ён хітры,— казаў Захару Ілья.— Як самалёт наляцеў, адразу пляснуўся на зямлю, скаціўся ў канаву, а ты, дурны, пабег. Я ж бачыў. Ён пасля ўсхапіўся, шыбануў за самалётам, за возам. А ты ляжаў.

Пакуль Захар ляжаў непрытомны на ўзлеску, пакуль яго ставілі на ногі, воз мог далёка заехаць. Можа, дзе-небудзь на бальшаку Смалякі і стаялі — чакалі?

— Ты, Захар, спакойны за Васю? — дапытвалася Ліза.— З ім, сыночкам, нічога, думаеш, не здарыцца? Ну, што маўчыш?

Што ён мог адказаць?

— Там Майсей.

Гаварыць стараўся разважліва, а ў самога ўсярэдзіне ўсё калацілася, не мог супакоіцца.

— Майсей на нас злы за каня.

— Ён мудры чалавек. Не бачыла, як мы з ім памірыліся? Злаваць за Лёніка, за каня? Не той час.

— А можа, ён думае, што дзеці данеслі на Моціка? А з імі ж Вася быў. Калі гэтак думае? Не даруе.

— Іначай бы са мною гаварыў. Васю на воз не ўзяў бы. Ён гарачы, як вар.

Ілья не змоўчаў:

— Ды што вы баіцеся? Цэлы будзе.

Ён лыпнуў вокам на Захара, а Захар, глянуўшы на яго, насустрач, убачыўшы на воку зжоўклую хусцінку, ад якой пахла мачою, ухмыльнуўся: свая болька ў кожнага. І гэта крыху супакоіла.

Майсею тады здалося, што жонка і сын яго кінулі. Думка з'явілася, можа, выпадкова, нечакана, але чым даўжэй пра гэта думаў, тым больш трывожыўся. Успомніў, як надоечы, калі трэба было пакідаць гарадок, а каня нідзе не маглі знайсці, ён усю злосць сагнаў на жонцы і сыну. Зрабіў, што ва ўсім вінаватыя яны. Гірш не мог упільнаваць каня? Дрыхнуў, як калода. З-пад носа ўкралі. Жонка кінулася бараніць сына, каб не ўдарыў, дык Майсей яе так шпурнуў, што спадніцай з галавою накрылася. І чым далей ішоў, тым мацней пякла думка: няўжо кінулі? Успомніў, што войны ў сям'і бывалі раней. Ён ім даўно кепскі,

бо ў руках трымае. Жонка колькі лямантавала: кіну цябе, пайду! Ідзі! Ну, ідзі! Не пайшла нікуды. Гірш грازіўся, што з дому збяжыць. Не збег. Дык, можа, цяпер надумалі? Ён, можа, з імі і быў лішне жорсткі, але ж дзеля парадку. Ды і кроў! Бацька быў гэтакі — яўрэй напалову, а напалову цыган — гарачы. А кроў не заменіш. Якая ўжо ёсць. А можа, і не кінулі? Можа, звярнулі з возам у лес, хаваючыся ад самалётаў? Пра гэта Майсей адразу падумаў. Але, як ні прыглядаўся да абочын, дзе яны маглі звярнуць, слядоў ад колаў не знаходзіў. Не заўважыў, ад бяды аслепшы? Ці воз недзе наперадзе? Можа, паехалі сабе і паехалі, кепскага не замышляючы, ведаючы, што ён, Майсей, нагоніць?

Ішоў доўга. Ужо сонца кацілася з неба да зямлі, зямля астывала, блізіўся вечар.

Тым часам Гіршу і матцы здавалася, што Майсей недзе далёка ўперадзе, што ён іх абышоў, пакуль круціліся з возам па лесе. Думалі, што яны яго наганяюць, і таму спяшаліся, каб хутчэй нагнаць. У гэтай спешцы і даехалі да Бесядзі. Перад мостам звярнулі на абочыну, спыніліся. Матка схапілася за галаву, за валасы:

— Куды мы едзем, Гірш? Дзе наш бацька?

Калі выязджалі з лесу, яна выхапіла ў сына лейцы і гнала каня, уцякаючы ад Падабеда, баючыся сустрэцца ім, тады пра Майсея гэтак балюча не думала, а цяпер убачыла, што, уцякаючы ад Падабеда, уцякла ад Майсея. Пляснулася тоўстым жыватом на мяхі, уткнулася ў іх тварам і зараўла ўголас. Ажно сын разгубіўся:

— Ды што ты? Ну? Цішэй, мам-м! Людзі глядзяць. Ну? Знойдзецца бацька — не малы...

— А малы? Дзе малы, Гірш? — яшчэ мацней зараўла матка.— За што ты яго? Што ты нарабіў?

Сын змоўк. Ён сядзеў насупраць маткі, падцяўшы калені, упёршыся ў іх падбародкам, абхапіўшы рукамі, бліскаў здзічэла-чорнымі вачыма, а потым сунуўся тварам у калені і застагнаў.

Матка спахапілася:

— Гірш! Чуеш мяне, сынок? Ты не перажывай. Вось пастаім, і бацька нас нагоніць. Мы ж на кані. Мы хутка ехалі.

Сын застагнаў, не падымаючы галавы, яшчэ мацней:

— Дзе Моцік? Я не магу жыць без Моціка! Чаму яны не павялі мяне разам з Моцікам?..

— Ну, Гірш!

Яна схапіла сына за галаву, прытуліла да сябе і гладзіла смаляную чупрыну, супакойваючы. Усё жыццё баялася, каб сыны не разышліся на жыццёвых сцежках. Яшчэ былі малыя, а ўжо тады заўважыла, як жыць адзін без аднаго не могуць. Вазіла да прафесара ў Гомель, і той сказаў, што бывае, калі двайняты не могуць адзін без аднаго, хваробу і радасць аднаго востра адчувае другі. Яна ў гэта верыла і не верыла. Майсей не верыў. А цяпер спужалася: няўжо прафесар казаў праўду?

Вось і Гірш раптам, супакоіўшыся, загаварыў шэптам, як баючыся:

— Я пачуў, што Моціку кепска.

— Калі ты пачуў, сынок?

— Калі наляцеў самалёт і я сапхнуў настаўніцкага сына.

— Дык ты... сапхнуў за брата? Але пры чым ён, дзіця?

— А ён выдаў Моціка.

— Ты што кажаш? Гэта няпраўда!

— Праўда, мама. Я ляжаў пад кустом і калі ўсхапіўся, то ўбачыў, як ад нашага табара, ад лесу, ужо далёка, ехаў нехта верхам на чорным кані. Я тады адразу не падумаў, што конь падобны на нашага, не здагадаўся, што гэта Лёнік на нашым кані. Следам за канём беглі пацаны. Яны былі бліжэй да мяне, і я пазнаў дачку і сына ацавецкага настаўніка. З імі ён прыходзіў у бацькаву краму, я іх там бачыў.

— Ты, Гірш, дарослы. А яны ж дзеці. Не кажы бацьку. Ён злосны. Невядома, што можа нарабіць. Ці з нас мала вайны? Ты яму не кажы.

Яна замоўкла, заўважыўшы Майсея. Муж бег бальшаком да воза, узняўшы рукі ўгару, матляючы ва ўсе бакі сваім доўгім, шырокім, як балахон, плашчом, і крычаў:

— Стой — свае! Стой — свае!

Ніхто нікуды не ехаў, яго чакалі, стаялі на месцы, а ён крычаў, быццам яны ад яго ўцякалі.

— Што з ім, Гірш? Ён ашалеў? Ты глядзі на яго! — Майсей быў ужо каля воза, ужо яна ў яго пыталася: — Што з табою, Майсей? Чаго ты людзей пужаеш?

Ён ускочыў на аглоблю, схапіўся за вяроўку, якой увязаны воз, шалёна зіркаў паверх воза:

— Дзе хлопец?

Вочы вялізныя, круглыя, крывёю налітыя. Жонка і сын зразумелі, чаго кідаецца, каго шукае — прыціхлі. Куды схаваешся? Адно за аднаго?

Гірш смялейшы за матку, калі злосны: першы ўзняў вочы на бацьку і, нібы ў люстры, сябе ўбачыў — сваю злосць. Але гэта яго не стрымала — не выбіраючы слоў, закрычаў:

— Ну, чаго ты ўз'еўся? Што цябе чакаем? Не спадабалася, што чакаем? Можа, трэба было ехаць?

Майсей зніякавеў. Яго ўразіла не тое, што Гірш, смаркач, узвысіў на яго натужлівы басок, у якім, як у голасе маладога пеўня, было больш пыхі, як сілы. Уразіла, што казаў праўду, усё роўна як зазірнуў бацьку ў душу: сапраўды, пра гэта толькі і думаў, каб яны на яго не забылі, не пакінулі, каб недзе спыніліся і чакалі. Але цяпер, калі нагнаў і пагроза, што ён іх згубіць, знікла, спалохала тое, што на возе не было Захаравага сына. У адзін міг пазбавіўшыся разгубленасці, ён выхапіў з сынавых рук лейцы, ускінуў над галовамі:

— Яйцо курыцу вучыць! Дзе малы, пытаюся?

Убачыўшы, што ад бацькі не адкруціцца, Гірш увабраў галаву ў плечы і ўжо не басам, ужо ледзь чутна прабубніў:

— А я ведаю? — Закалаціўся, закрычаў: — Адкуль я ведаю, куды ён знік? Можа, ехаць не спадабалася — саскочыў?

Майсея як варам абдало:

— Брэшаш, што не ведаеш! Як не ведаеш, калі на адным возе сядзелі? Вос зайн ір мішуге геворн? З глузду з'ехалі?

Бліснуў раз'юшанымі вачыма на жонку, і тая залямантавала, нібы была гатовая да размовы:

— Гірш не брэша, Майсей! Гірш праўду кажа! Вось быў, вось няма. Каб гэта гладка ехалі. Ты ж ведаеш, як ехалі. Сам, можа, з-пад самалёта ў канаву ляцеў? І мы ляцелі. З канём па лесе. Па ямах, пнях, каранях. А ты на нас крычыш. Мы ад страху не бачылі зямлі, дарогі, неба. Во, упёрліся вачыма ў тую чорную смерць — паслеплі. А выскачылі на бальшак, дык ці адразу спахапіліся, што хлопца няма?

— А калі спахапіліся? Чаму не вярнуліся, не шукалі?

Майсей ускараскаўся на воз і развярнуўся, каб ехаць назад. Жонка ўчапілася ў лейцы:

— Ты што надумаў, Майсей?

— Тое, да чаго вы не дадумаліся. Мішугенер коп!

— Але ж мы цябе чакалі. Як мы маглі вяртацца ў лес, на тыя блытаныя дарогі, калі няма цябе?

Нейкая праўда ў яе словах была, але Майсей бачыў перад сабою ўжо не столькі хлопчыка, колькі Захара, баяўся падумаць, што ён яму адкажа, калі той спытае пра сына.

— Не чапай, падла! — Майсей адпіхнуў жонку, ускінуў лейцы над галавою, і конь павёз. Назад. Адкуль ехалі.

Тады зноў прачнуўся Гірш:

— Не дуры, бацька! Што ты робіш? Бачыш, цямнее? У лес ноччу вернемся. Каго ты ноччу знойдзеш? Той лес яшчэ паспрабуй знайсці. Тыя сцежкі, якімі пятлялі, цяпер знойдзеш? Не знойдзеш. І не дуры!

Майсей завагаўся. Сапраўды, куды, на ноч гледзячы, вяртацца? Дзіця ў лесе — іголка ў стозе. Але ж не адступаць перад смаркачом? Адчуваючы, што яго рашэнне, зробленае згарача, не разумнейшае за сынава, у той самы час не жадаючы саступіць, злосна шпурнуў лейцы Гіршу ў твар і адвярнуўся ад сына, ад жонкі, ад каня, як ад усяго свету. Затуліў твар далонямі і залямантаваў:

— У-гу-у! А крыйнк зол іх гом ба бір ім буйх!*

Маўчалі ўсе. Лейцы былі ў руках у Гіршы. Ён смаргануў імі. Конь, чуючы сварку на возе, нервова стрыгануў вушамі, як гадаючы, што ад яго хочуць, і пайшоў, паверыўшы лейцам. Але куды? Назад? Матка саўганула локцем сыну пад бок. Той зірнуў на матку — зразумеў яе і развярнуў каня ў той бок, як ехалі.

Майсей не адказаў ні словам, але гэта не азначала, што ён з жонкай і сынам пагадзіўся. Сам вагаўся: куды ехаць? І ці трэба ехаць? Можа, стаяць на дарозе, чакаць Падабеда? Ці з'ехаць з дарогі ў лагчыну, на бераг ракі, куды схлынулі ўсе бежанцы,— тут, ужо нікуды не едучы, заначаваць? Асташонкі, пэўна, тут

---

* — У-гу-у! Каб мне хваробу ў тваім чэраве! *(яўр.)*

заначуюць? І Захар. Але... што ён, Майсей, адкажа Падабеду? Дзе яго сын?

Гэтая думка палохала ўсё мацней. Асабліва цяпер, калі ўбачыў, што вяртацца, каб знайсці малога, безнадзейна.

Гірш спыніў каня і чакаў, што загадае бацька.

— Ну, чаго ты не паганяеш? — спытала матка. Яна маўчала, калі муж быў рашучы, ведаў, чаго хацеў, калі яго рашучасць мацавалася злосцю, і падала голас, убачыўшы, што муж вагаецца, што яго злосць і рашучасць перагарэлі. Яна добра ведала мужаў нораў і заўсёды знаходзіла словы, якія дзейнічалі. Ці то была сіла яе хітрасці, ці то была праніклівасць нядрэннага псіхолага? Замоўкла на імгненне — можа, зноў узбурыцца? Ён маўчаў, і яна дадала: — Трэба ехаць. Цяпер ужо нам не дачакацца Падабеда. Паганяй, сынок.

Яна яшчэ не мела ўпэўненасці, што з гэтым канчаткова зміpыцца Майсей, насцярожана пазірала на мужа, але, убачыўшы, што ён яе як не чуе, хоць чуе, вядома, локцем саўганула сына ў бок — кіўнула на дарогу. І яны паехалі на мост за Бесядзь, дзе ў садах стаялі хаты вялізнай вёскі.

Яна знайшла, што сказаць, каб супакоіць мужа, адчуўшы, што яго страх перад Падабедам мацнейшы за спадзяванні знайсці хлопчыка. Выбару не было — ехаць ці застацца на Бесядзі. І калі праехалі мост, вёску, калі, выязджаючы з яе, Майсей заўважыў, што конь прыцішае хаду, не жадаючы ісці з вёскі ў поле, ён вырваў лейцы з сынавых рук і пагнаў сам:

— Но-го-о, ядры тваю, воўчая здыхата!

На небе ўзышла ясная, як сыр, поўня, запальваліся зоркі, палі абапал дарогі сцьмелі, паўскідалі на сябе цёмна-шэрыя, а дзе і зусім чорныя коўдры. Вёска засталася за спінамі, дарога ляжала пустая, па ёй у гэтакі позні час ніхто не ішоў і не ехаў, бежанцы засталіся ў вёсцы і на Бесядзі, на яе берагах, ціша і безлюдзь агарнулі палі і дарогу. Конь, за дзень стаміўшыся, ішоў усё цішэй, падказваючы, што ягоным гаспадарам ужо трэба спыніцца, шукаць начлегу. Але, адарваўшыся ад вёскі, ад рэчкі, ад лагчыны ў падлеску, ад людзей і вогнішчаў, цяжка было ў гэтым нямым бязлюддзі прыбіцца да зацішнай мясціны, каб там і напаіць каня, і пусціць яго на нейкі астравок пашы, каб самім супакоіцца ды сагрэцца. Майсей прагна

пазіраў абапал дарогі, шукаў якую рачулку ці азярынку, хоць падлесачак, але прытулку не знаходзіў і таму ўсё сморгаў ды сморгаў лейцамі, ехаў далей і далей, не спыняючыся.

Я прачынаюся ў закутку не то свіронка, не то сянніцы. Дзіркі ды шчыліны ў сценках заманьваюць сюды кволае святло непагодлівай раніцы, а над галавою — саламяная страха, з якой у прарэшыну ледзь не на галаву цурболіць вада. За сцяной, у падстрэшку, пляскоча. Ногі мокрыя. Мабыць, ліло ноччу на ногі, на сена, якое пад нагамі. Зябка, аж усяго калоціць. У кашульцы і караценькіх штанах, з голымі каленкамі, нічым не накрыты — як не замерзнеш? Праўда, побач ляжыць ватнік. Хто яго мне падкінуў? Чый гэта? І дзе я? Успамінаю старога з лапцем у руках ля вогнішча. Ён завёў сюды. Але дзе ён сам? І дзе хлопцы, з якімі я клаўся спаць? Дзе ўсе яны?

Сядаю і азіраюся. Дзе мой сіні бушлацік з залатымі гузічкамі? Дзе сандалікі? Я іх не здымаў, кладучыся, яны былі на мне — куды дзеліся? Калоцячыся, усцягваю на сябе чужы ватнік. Гэта — куфайка. Вялізная, дзіравая, правы рукаў чорны, як гарэў, спалены, але ў ёй цяплей. Сагрэўшыся, адчыняю варотцы. Дзе ўчорашняе сонца? Яно кожны дзень смаліла зямлю, спіны, галовы, надакучала, а сёння нізкае шэрае неба, двор гразкі, плот чорны і мокры, за ім блішчыць макратою бульбоўнік. Імжыць дождж. Без сонца сумна, няўтульна, холадна, горш як з ім.

Яшчэ і дзеда няма. Ён, можа, заманіў сюды, каб распрануць? Можа, ён распрануў мяне, калі я спаў? Але дзе хлопцы, з якімі я клаўся?

Пасярод двара стаю ў гразі па костачкі, але нагам не халодна — гразь цёплая. Халодна, калі са страхі шугане вецер з дажджом, змяце на галаву мокрае сеева. Я захінаю куфайку на грудзях, шукаю на ёй гузічкі, каб зашпіліцца, але ніводнага не знаходжу, адны вялізныя раскілзаныя петлі.

Куды ісці? Вярнуцца ў сянніцу, зарыцца і чакаць, калі прыйдуць хлопцы альбо стары? Можа, яны яшчэ прыйдуць? А можа, калі доўга чакаць, зарыўшыся ў сена, прыйдуць тата і мама? Але аднаму тут страшна. Трэба бегчы. Куды бегчы? На Бесядзь-рэчку, з якой

учора прыйшоў, дзе шмат бежанцаў? Ці на бальшак? Там — мама, тата? Слёзы душаць мяне, а ў вачах суха.

Заўважыўшы ў канцы двара хвортку, я кідаюся да яе. І сутыкаюся з учорашнім дзедам.

— Ну? Замёрз, нябога? Бяжы ў хату.

У адной руцэ ў старога вядро з вадою, у другой — сукаваты, як у лесуна, кій.

Што мне рабіць? Бегчы ад старога? У які бок кінуцца? У хвортцы — ён, цераз плот не паспееш пераскочыць — кіем дастане. Стары бярэ мяне за плячо і вядзе ў другі канец двара. Там — яшчэ адна хвортка, за якою ганак і хата. Ён пакідае вядро з вадою на ганку, адчыняе дзверы ў хату, і цяпер іншай дарогі няма — толькі ў хату.

Хата цёмная і пустая. Акрамя печы, стала, лавак, палацяў за печчу ды шафкі ля парога нічога няма. Я моўчкі сяджу на лаўцы каля вядра з вадою, аглядаюся і думаю-гадаю, куды стары мог схаваць мой бушлацік. Можа, на печы? Ці ў шафцы?

— А дзе хлопцы? — пытаецца дзед.— Спяць, гультаі?

Ён пра іх нічога не ведае? Гэта мяне дзівіць. Але я смялею, бо рады, што ён пра іх не ведае:

— У сянніцы няма.

— А куды ж яны дзеліся? Драпака далі, не з'еўшы нічога? Дык мы без іх з'ядзім.

Есці я хачу. Але пра яду забываю, пачуўшы, як у падпечку пачынае сакатаць курыца. Падпечак застаўлены, як у дзядзькі Ільі, пчалінай сеткаю ў раме, і курыца дзяўбе сетку, топчучы пылянятак, якія лезуць ёй пад ногі, душачыся. Я падыходжу і пальцамі кратаю сетку, лаўлю жаўтлявыя дзюбкі. Стары дазваляе выпусціць іх на хату, і я з радасцю адкідаю кручок. Сетка адлятае, курыца кідаецца на мяне, я валюся спіной на падлогу, а пыляняты сыпляць праз мяне на хату. Я рагачу, сам не ведаючы, з ахвотаю ці без ахвоты, і ледзь не плачу ад крыўды, што мяне паваліла курыца. Каб гэта ўбачыў Лёнік — было б здзекаў. А стары, як не заўважыўшы, адчыняе шафку, згінаецца, крэкчучы, нешта шукае на самай нізкай палічцы. Гукае:

— Ідзі, сынок, сюды. Вазьмі там, унізе, бляшанку з пшанічкаю. Мне цяжка сагнуцца.

Я сыплю зярняты на падлогу, а вялікая рабая

курыца хуценька іх падбірае. Дзяўбуць і пыляняты, але яны, быццам сляпыя, таўкуцца, як адно другое не бачаць, адно па адным, зярняты вывальваюцца ў іх з дзюбак, самі куляюцца, усхопліваюцца на лапкі і зноў ганяюцца за зярнятамі.

Потым мы сядзім ля шкапіка і ядзім. У чыгунку смачная, з печы, бульба, ядзім з гуркамі, запіваем кіслым малаком, якое дзед называе баўтушкаю, і абодва дзівімся з пылянятаў, якія раскаціліся па падлозе, нібы мячыкі, па ўсёй хаце разнеслі вясёлае, нейкае сонечнае, цыўканне.

— Вось ты, хлопча, на мяне ўсё дзед ды дзед. А які я табе дзед? Што барада ды вусы? Гэта — пух. Адзін раз касою махнуць — і няма. Я б яшчэ ў акопы пайшоў, калі б не хрыбет. Бык мне яго перабіў, не пусціў у акопы разам з сынамі. Ці калі б жыла баба, я б меў іншы партрэт. Вось цябе жытка ганяе па людзях, як тую трэску па рацэ. І мяне аднаго кінула ў хаце. Сыноў забрала, бабу забрала.

— А ты знайдзі другую бабу.

Гаспадар хмурыць мутныя, як вадой налітыя, вочы, насоўвае на іх рыжыя доўгія бровы, сапе ў вусы:

— Другая баба не валяецца. Другую бабу, хлопча, узяць цяжка. Тая, Марыля, была маткаю маім сынам. А другая, хоць залатая, маткаю ім не будзе. Ты вось каго шукаеш? Матку і бацьку. Яны ў цябе адны. А другія табе не патрэбны. Гэтак і баба мне. А яшчэ...

Замаўкае. Я маўчу таксама, рады, што ён гэтак са мною гаворыць, але ёсць у мяне пытанне:

— Што — яшчэ?..

Мне здаецца, што стары зараз скажа пра бушлацік і сандалікі — дзе яны? Але ён думае і гаворыць пра іншае:

— Ну, што? Каб ты у мяне застаўся, мы б з табою гэтую вайну перажылі як-небудзь...

Я хутчэй вылажу з-за стала, рукавом куфайкі выціраю мокры, у кіслым малацэ, рот і вачыма шукаю, дзе тыя дзверы. Зразумеўшы мой неспакой, стары пачынае апраўдвацца:

— Ды я што? Я нічога такога... Не хочаш застацца — ідзі з Богам. А як жа? Матку ды бацьку знайсці трэба. Я і кажу, што яны ў цябе адны, другіх няма і не будзе.

Я вылятаю з хаты, а за мною выходзіць стары. На

дварэ — не ў хаце. Тут не страшна, бяжы-скачы ў любы бок, ніякія дзверы не патрэбны. Ужо і дажджу няма. Неба праясняецца, хоць пакуль што няма і сонца. Мы хлюпаем да сянніцы: я — босы, дзед — у лапцях. У сянніцы, як увойдзеш з двара, цёмна, хоць і варотцы адчыненыя. Я не іду далей ад варотцаў, а дзед поўзае на каленях па сене, абпоўзвае ўсе закуткі, шукаючы сандалікі і бушлацік. Не знайшоўшы, садзіцца супраць мяне на сена, рукамі абдымае калені і разважае:

— Што ж гэта робіцца? Сам бачыў тваю куртачку. Глядзеў і думаў: куртачка гарадская, хлопчык, значыць, душы далікатнай. А не кожны далікатную душу зразумее. Лёгка пакрыўдзіць. І хто крыўдзіць? Бядак бедака. Жабрак вывесіў анучы, а другі жабрак украў. Распранулі і збеглі.

— Дык гэта яны, дзед?

— А хто яшчэ начаваў з табою?

Ён захінае на мне куфайку, крысо за крысо, падпярэзвае вяровачкаю.

— Во, цяпер мне будзе цёпла,— кажу я.

— А стане горача, куфайку не кідай, без яе ты прападзеш. Яшчэ будуць і халады, і дажджы.

— Не кіну. Я без яе прападу,— кажу, неўпрыкмет пераймаючы манеру гаварыць і з ёю разам — дзедаву мудрасць.

Ён знікае і прыносіць нешта ў мяху. Садзіцца на парозе і вытрасае з меха лапці. Яны звязаныя адзін з адным, нібы сушаныя грыбы на вяровачцы. Усе новенькія і малыя.

— Выбірай па назе,— кажа.— Босага дарога не любіць.

Лапцікі лёгенькія, на нагах не чуваць. Здаецца, што я ў адных анучах, якія дзед выкінуў з таго самага меха. Ён кажа, што лапаць гразі не баіцца, каб я ў лапцях ступаў смялей. Я тапчу гразюку і дзіўлюся, што назе цёпла і суха, не горш, як у сандаліках.

— Цяпер ты кум каралю,— дзед сам радуецца.

— Цяпер я пайду,— кажу, і адразу пытаюся: — А чаму ў цябе цэлы мех лапцікаў? Ты іх сам зрабіў і прадаеш?

Ён зачыняе сянніцу.

— Прадаваць босаму лапці? Гэта як галоднаму пакласці ў рот скарынку і чакаць, каб ён за яе заплаціў. Лыка бог дае. Надзяру, замачу, спляту — босага абую.

І выходзіць, што чалавеку пасоблю вайну вытрываць. За перамогу і лапаць ваюе.

— А чаму ў цябе лапцікі ўсе малыя? — прачнулася і не заціхае ўва мне цікаўнасць да дзедавага жыцця.— У цябе шмат малых дзетак?

— Табе яны не малыя?

— Самы раз. А табе будуць малыя.

— А ў мяне адны на нагах, другія пад лаўкаю. Знашу — спляту. Умеючы — не доўга.

— А не ўмеючы доўга?

— Не ўмеючы блыху нават не зловіш. А ўмеючы — яе і падкаваць можна. Як каня.

Мяне разбірае смех:

— Блыху падкаваць? Як каня?

Ён сам рагоча. Не то [redacted] мяне, не то са сваёй брахні.

— Во, нам з табою ўжо весела,— кажа.

Ён дастае з кішэняў акраец хлеба, яблыкі, нешта яшчэ ў газетку загорнутае, перакладае ў мае кішэні. Яны ў куфайцы вялізныя, што торбы. Стаіць, трэ руку аб руку, усміхаецца мне ў вочы. Гэтак і я перад ім тру руку аб руку — усміхаюся ў вочы.

Праз гародкюю хвортку мы ідзём на бальшак. Звычайна ён, бежанскі, там, дзе курыць, не асядаючы, густы пыл, курыць пад неба, а сёння пылу няма, пасля дожджыку пясок мокры, прыбіты, затое, як звычайна, там, на бальшаку, гамоняць людзі, рыпяць колы, нешта грыміць, ляскоча. Па ўсіх гэтых гуках і галасах я пазнаю яго ўжо здалёк. Ён мне зразумелы, свой, як хата, у якой жывеш. Але сёння я нясмела стаю на абочыне, нібы прагорклы ад пылу палынок, што баіцца выбегчы на дарогу, дзе яго могуць стаптаць, хоць і ад дарогі, ад людскіх ног яму боязна адбіцца, усё роўна як адно тут ягонае месца — пры людскіх нагах, пры дарожнай людской бядзе. Стаю ды пазіраю то на натоўп, яшчэ не такі густы, як той, што будзе пазней, то на свае ногі ў цёплых мякенькіх лапціках, то на дзеда, які побач таксама маўчыць, чакаючы, што скажу я. Але першы нам кажа хтосьці з дарогі:

— Што, мужыкі, стаіце? Лапцікі сушыце?

Гэта грубым мужчынскім голасам кажа жанчына. Яна праходзіць міма нас, страшэнна сагнутая, нібы зламаная пасярэдзіне, з бітончыкам у адной руцэ, з кіёчкам у другой. Твар яе павернуты ў наш бок, круглы і белы, а вочы таксама круглыя, як у кошкі.

Я ўтульваю рукі ў падкасаныя дзедам доўгія рукавы куфайкі, быццам ад холаду, і, пачакаўшы, калі знікне ў натоўпе жанчына, кажу:

— Дык я пайду.

— Ну дык... ідзі.

Голас здрыгануўся, і мне шкада зрабілася дзеда, быццам гэта мой родны дзед, якога я пакідаў на нешта цяжкое, нядобрае, сабе выбраўшы лягчэйшую дарогу. Я шкадаваў яго, усё роўна як я быў стары, ён — малы.

Але трэба было ісці, і я пайшоў. І ўжо далекавата адышоў, як пачуў за спіною ягоны голас:

— Трымайся бабскага полу! Яны, бабы, дабрэйшыя!

Я спыніўся, азірнуўся, але стары толькі на момант мільгатнуў у маіх вачах. Паміж намі апынулася вялізная, нібы хмара, карова, і яна назаўсёды схавала ад мяне чалавека, якога я за адну раніцу паспеў палюбіць.

Праўду кажуць людзі: бяда адна не ходзіць — бяда бяду шукае, бяда бяду гукае, бяда бяду славіць.

Праз дзень, як Захар і Ліза згубілі сына, не стала Лёніка.

Начавалі на Бесядзі — Лёнік быў з усімі. Звечара, пакуль сцямнела, ён з Раманам, Кацяю, Любаю абышоў берагі, быў ля чыгуначнага моста, які нямецкія самалёты разбамбілі колькі дзён назад. Чорнае скаро-жанае жалеза грувасцілася на берагах, тырчала з вады, сеўшы на дно, рака прабівалася праз яго злая, вірлівая. Блізка да моста, які ўжо нельга было назваць мостам, не пусцілі ваенныя. Раман, нервовы, як тая рака, прыдаўленая чорным жалеззем, кідаўся, лаяўся, крычаў, што трэба было ахоўваць, як мост стаяў. Адзін з чырвонаармейцаў пырнуў яму ў грудзі вінтоўкаю: прэч з дарогі! Каця і Люба схапілі ўпартага хлопца за рукі, ледзь адцягнулі. А Лёнік глядзеў на ўсё і маўчаў.

Калі сонца садзілася на тым беразе за хаты, за сады — тады вярнуліся. Лёнік вытрас з-пад кашулі бульбу — памытую, на цэлы чыгун. Сабралі галлё, расклалі вогнішча. Але з прыцемку выйшаў босы, у гімнасцёрцы, мужчына, патрабаваў, каб агонь патушылі.

Раніцай прачнуліся — бульбінкі на траве ляжаць чысценькія, быццам беленькія яечкі, ля засыпанага

зямлёю вогнішча, а Лёніка няма. Зося першай адчула нядобрае:

— Можа, на рэчцы? Дзе ён, Каця?

— А я ведаю? Я сама пытаюся — дзе?

Чым даўжэй Каця пераконвала, што нічога пра Лёніка не ведае, чым мацней нервавалася, чырванеючы, тым больш усе здагадваліся, што нешта яна ведае.

Не стрывала маці:

— Ад каго хаваешся?

Каця кінулася да Рамана, які ляжаў спіной да халоднага вогнішча на звечара прынесенай ад моста саломе, адвярнуўшыся ад усіх, тварам да рэчкі, з якой цягнула белай малочнай свежасцю:

— А ты? Ты чаго маўчыш? Не чуеш? Не ведаеш? Не прыкідвайся, што не ведаеш...

— Цішэй, Каця,— супакоіў Захар, які сядзеў побач з Раманам, абхапіўшы рукамі лоб, глядзеў у зямлю.

Каця ўпарта стаяла на сваім:

— Ён ведае. Яны ўвесь дзень шапталіся. Ён улез Лёніку ў душу.

Раман зашастаў саломаю, сеў:

— Улез у душу? Лёніку — больш, чым табе?

Каця аж закалацілася:

— Ты... ты — заяц! Баішся сказаць?

Раман падхапіўся з саломы, атросся, з хвіліну пастаяў моўчкі, кідаючы гняўлівыя позіркі то на Кацю, то ўніз, пад ногі, павярнуўся да дзяўчыны спіною і падаўся ў бок рэчкі.

— Каця! — рэзка супыніла дачку Ксеня, убачыўшы, што тая ўжо гатовая кінуць хлопцу наўздагон яшчэ штосьці жорсткае: — Ты думаеш, што кажаш?

— Я падумала... думаю! — Каця апусцілася на салому, на якой спаў Раман, да ног Захара, і, затуліўшы твар далонямі, заплакала.

Падабед абняў яе за плечы:

— Ну, супакойся.— Суцяшаючы дзяўчыну, ён пазіраў на Ільлю. Той сядзеў на аглобліне каляскі, расставіўшы ногі ў ялавых ботах, углядаючыся перад сабою ў чарнява-сівую палыновую купіну і сціскаючы ў руках жоўценькі метр, а за ім стаяла Зося з ручніком у руках і таксама маўчала, не зводзячы вачэй са стрыжанай шэрай галавы мужа. Яна чакала ад яго слова, каб ведаць, што рабіць, і ледзь стрымлівала сябе,

каб не залямантаваць. Захар паспяшаўся і яе суцешыць: — Я ўсё ведаю. Не хвалюйцеся.

Ілья склаў метр.

Каця недаверліва бліснула мокрымі вачыма на Захара.

— Ноччу Лёнік мяне пабудзіў, адвёў ад вогнішча ў цемень і сказаў, што знойдзе Васю. Я не адразу здагадаўся, што ён задумаў. Кажа: ведаю Гіршу — ён будзе помсціць.

На момант усе прыціхлі. Першай цішыні не вытрымала Каця:

— А чаму? Чаму мой тата павінен ісці на фронт, старэйшы за Моціка, а той, малады, павінен хавацца за татавай спіною?

Вось яно — чаго баяўся Захар. Каця ўзненавідзела Моціка, што ён не там, дзе бацька. Але ж і ён, Захар, не там? Сёння — Моцік, заўтра — родны дзядзька? Увесь свет? Але ці скажаш ёй пра гэта? Памаўчаўшы, працягваў:

— Яшчэ ён сказаў, што калі б Вася застаўся на возе, то Майсей з возам чакаў бы нас на Бесядзі. Ці ён ссадзіў Васю з воза, ці Вася сам скінуўся. І Майсей уцёк. Тады, значыць, Вася на бальшаку.

— Дык, можа, ты, Захар, скажаш, што Лёнік пайшоў шукаць твайго сына? — усхапілася Зося.

— А ён гэтак сказаў,— адрэзаў Ілья.

Захар не чакаў пачуць такое ад Зосі. Вася — ёй чужы, далёкі? Але абурэння нічым не выдаў.

— Я не хацеў, каб ён ішоў. Ісці павінен бацька. Лёнік заўпарціўся. Тады я хацеў падняць вас. Што — Лёнік? Заявіў: калі я гэта зраблю, ён пойдзе ўсё роўна, але ўжо не вернецца. Я ніколі не бачыў хлопца гэтакім упартым. Прапанаваў ісці ўдвух. Зноў не пагадзіўся. І яшчэ сказаў, каб мы ўсе ішлі на Унечу, што ён будзе чакаць нас там на вакзале. Мы вярнуліся з рэчкі, леглі спаць. Я меўся пагаварыць з ім раніцай.

— Ну, вісельнік! — кіпеў Ілья, то раскладаючы, то складаючы жоўты метр. Яго тоўстыя пальцы дрыжалі.

— Што ж рабіць? — Зося разгублена глядзела Захару ў вочы.

— Снедайце, збірайцеся на Унечу,— адгукнуўся Раман.— А я пайду зараз. Да Унечы дайду — буду вас чакаць на вакзале. З Лёнікам.

— І я з табою,— заявіла Каця.

— О божа! — усклікнула Ксеня.

Усе прыціхлі. Чуваць было, як цяжка, са старэчымі хрыпамі ў грудзях, дыхае Раман.

— А чаго ты пойдзеш раней за нас? — не зразумеў Захар.

— Я не веру, каб вашы знаёмыя кінулі малога ў лесе. Іх трэба нагнаць. А гэта лягчэй аднаму. Табуном не нагоніш.

— Пешы нагоніш коннага?

— Няма каня — няма і пута.

Мацней за ўсіх напалохалася Ксеня. Што знайшла дачка ў хваравітым, па-старэчы стомленым хлопцы? Чым ён яе купіў? Няўжо сапраўды гатовая кінуць маці, сястру, каб ісці [redacted] ім? Не пусціць? Адгаварыць? А як? Кацціну натуру ведала: секане — не знойдзеш, што адказаць. Лягчэй, падалося, угаварыць Рамана, каб ішоў з усімі разам.

— Майсей ад страху папёр, не спыняючыся. Але дзе-небудзь за Бесяддзю будзе стаяць, чакаць. І мы яго нагонім.

— Ад вялікага страху таксама трэба спыніцца. Каб хоць падцерціся,— свой грош услед за Ксеняй уставіў Ілья.

Ён не думаў, з кім, дзе, калі і што гаворыць. Як удваіх з жонкаю, так і пры дзецях.

— Адзін пойдзеш? — глыбока ў душы Ліза падтрымлівала хлопца.

І зноў рашуча заявіла Каця:

— Я пайду з Раманам.

— Каця! — усклікнула, сарваўшыся, Ксеня.

Але Раман паспяшаўся яе супакоіць:

— Пайду адзін. Пакуль вы дацягнецеся з каляскаю, я па дарозе на Унечу абыду ўсе куточкі, у людзей распытаю.

На яго пакрыўджана глянула Каця:

— Не паваліся, як будзеш бегчы. У цябе і на роўным нага за нагу заплятаюцца.

Бяскроўны твар хлопца, за які амаль не браўся загар, зусім збялеў. Ён выкаціў на Кацю зацёклыя сінізной вочы і ціха адказаў:

— Мае ногі заплятаюцца побач з табою.

Дзіўна, як яна стрывала, не знайшла калючку ў адказ? Але і Раман змоўчаў. Пагаслі абое, нібы агні на беразе.

Да шашы хлопца праводзіў Захар. На абочыне абняліся, як бацька з сынам, не спяшаючыся адпускаць ад сябе адзін аднаго, абодва думаючы пра тое, пра што на цяперашніх дарогах думалі ўсе людзі: ці давядзецца сустрэцца? Захар цвяроза глядзеў на задуманае Раманам, ведаючы, як нялёгка знайсці чалавека ў неабсяжным людскім моры, на незлічоных дарогах і сцежках.

Не дайшоўшы да свайго табара, пачуў Ксенін лямант:

— Збегла! З тым чортам збегла!

І зноў закрычаў, не сцярпеўшы, Ілья:

— Жыўцом у зямлю хаваеш?

Ксеня крутнулася і пабегла ў бок шашы, не заўважаючы, што адтуль, [redacted] шашы, ідзе Захар. Яна бегла смешна, валюхаючы тоўстым задам, энергічна працуючы локцямі, быццам паравоз рычагамі, набіраючы разгон. Да шашы не дабегла — спынілася. Насустрач ішла Каця. Чакала, што дачка да маці абавязкова падыдзе, а тая прайшла міма, нават не глянула ў яе бок. І Ксеня не аклікнула. Ужо ля клункаў, вярнуўшыся, спытала з папрокам:

— На бальшак збегала?

Каця трымала ля рота белы рамонак, губамі зрывала з яго пялёстачкі, адзін за адным, здзьмухвала з пухлых губ.

— А я, мама, кветкі люблю. Вось — рамонак знайшла.

У вачах бліскалі чорцікі. Яны палохалі халоднай таямнічасцю.

— Рана, дачушка, пачала любошчы разводзіць, рана.

Голас дрыжаў. Ксеня ўсё роўна як была гатовая заплакаць, і гэта зноў не спадабалася Ільі:

— У цябе, сястра, бяды той няма, каб душу гнаіць.

Ілья ніколі не павышаў голасу супраць Малыгаў, Валодзі і Ксені, прызнаючы ў іх людзей не свайго, больш высокага круга, ад сталіцы ды ўлады. І тое, што ўжо каторы раз абсякаў Ксеню, выдавала яго схаваныя ад староннягa вока перажыванні за Лёніка. Калі б іх зразумела Ксеня? Не зразумела:

— Ну і ты не сунь носа не ў сваё проса. У цябе свая болька заўсёды большая, як у іншых.

Тут Ілья ўскінуўся:

— Але і твая — не болька. Мне б тваю. Дзве дачкі — ля боку абедзве. А мае два сыны?

Праўду сказаў Ілья. Не міма стрэліла і Ксеня. Але гэта была не ўся праўда, якая трывожыла Падабеда. Свая бяда кожнаму мацнейшая. Трывожыла тое, што калі ў Ільі болька садніла, то вінаватымі станавіліся блізкія, увесь свет рабіўся чужы, і страта Лёніка магла перарасці ў варожасць Ільі да Ксені, Лізы, да яго, Захара, асабліва пасля таго, як дазнаўся, што Захар вёў з Лёнікам начную размову.

Сонца ўзышло над лесам, туман змыла з берагоў у раку, загнала пад кручы, але па рацэ ён яшчэ плыў, зусім зрэджаны. Дарога выманьвала бежанцаў з нагрэтых начных бярлог. Падняўшы з зямлі аглабліны каляскі, на якой быў сабраны не толькі Асташонкаў скарб, але і рэчы Падабедаў і Ксеніны, Ілья нервова пaглядаў у бок ракі, дзе Зося і Ксеня даўгавата мыліся і мылі посуд, кубкі ды лыжкі. То сморгаў каляску, рабіў крок-другі, то спыняўся, адкочваў назад. Калі пякла думка пра Лёніка, які ў гэты час блукаў недзе на дарогах, дык тут, на беразе, ці можна было адседжвацца?

Нарэшце жанчыны вярнуліся з рэчкі. Ілья нічога ім не сказаў, але каляску зноў смаргануў, каб бачылі, што трэба хутчэй ехаць. І раптам, замест таго каб падысці, упрэгчыся, пасобіць выпхнуць колы з лагчыны на бальшак, Захар асадзіў:

— Стой! Не спяшайся...

Усе сабраліся вакол Лізы. Ілья бразнуў аглаблінамі аб зямлю — падышоў:

— Ну што тут у вас?

Падклаўшы пад галаву партфель, згарнуўшыся, як дзіця, на ўкатанай спінамі начной саломе спала Ліза. У руцэ, ля грудзей, трымала сваю сумачку, у якой ляжалі дакументы і аптэчка. Сумачка была расшпіленая і на салому з яе высыпаліся пакецікі з таблеткамі, бутэлечкі, паперкі.

— Спіць? — не без зла прамовіў Ілья.

— Можа, таблетку праглынула?

— Ды што вы хочаце? — абурылася Ксеня.— Ці яна жалезная? Ноч адседзела ў слязах, вачэй не звяла.

Захар скінуў з плеч куртку, накрыў жонку, і ніхто будзіць не асмеліўся. Узяў з яе рукі сумачку, сабраў паперкі, таблеткі. Паперкі — рэцэпты на лякарствы ды

тая, Марфы Іванаўны, малітва за ўсіх блізкіх. Зразумеў, што з малітваю на вуснах заснула, шэпчучы яе, вядома, за Васю ды Мішу.

Ілья сядзеў на аглабліне каляскі, дыміў цыгаркаю. Маўчаў, але што рабілася ў яго душы — усе адчувалі.

Нарэшце Ліза адкрыла вочы.

— Ну? Сон сасніла? — абрадаваўшыся, што жонка прачнулася, спытаў Захар.

Яна села, працерла вочы пальцамі, заміргала:

— Васю з Севам. Сабор. Служба ідзе. Хор спявае. А Сева стаіць у форме кадэта і трымае перад сабою за плечы Васю. А я на іх гляджу збоку і думаю: як гэта — Вася і Сева? Калі быў Сева, калі — Вася? Чаму яны разам?

З гэтым прызнаннем Ліза паглядзела на кожнага, хто стаяў вакол яе, але не заўважыла, каб хто не зразумеў. Спытала:

— Што б гэта значыла? Зося? Ты сны разгадваеш.

Маўчала Зося.

Ліза ўстала, агледзелася, быццам забылася, дзе знаходзіцца.

— Бачыць Севу — гэта заўсёды да нейкай радасці,— разважыла Ксеня.— Ты, Ліза, сама пра гэта казала. Сева — святло. Будзе святло.

— Але ж чаму ён трымаў Васю? Ен — там, даўно там, а Вася тут?

— Можа, яшчэ што бачыла? — спытала Зося.

— Яшчэ? Бачыла. Вечар. Мы ўсе ў бацькавым доме. Ты, Ксеня, Ілья, Зіна, яшчэ маленькая, Насця, нябожчыца. Мама ля грубачкі, вяжа. Бацька ў зялёным цыратовым фартуху, на каленях — лямец, скура. Шые сядзёлку. А я побач з бацькам. Чытаю яму кніжку. Усе за адным сталом. Помніш, Ксеня, наш вялізны дубовы стол пасярэдзіне гасцінай? На стале зялёная лямпа, самавар жоўты шыпіць, кубачкі перад кожным, як птушачкі. І раптам дзверы ў хату адчыняюцца, на парозе — Вася і за ім Сева ў шынеліку кіеўскага кадэта. Сева — да нас, усіх адразу гатовы абняць, цалаваць. Мы з-за стала паўскаквалі...

— А я? Таксама ўскочыў з-за стала? Як вы, кінуўся з братцам цалавацца?

Ліза замаўкае. Ілья змрочна глядзіць на яе, як на чужую. Усе глядзяць на іх абаіх, чакаюць: што зараз будзе? Што адкажа Ліза? Што яшчэ пекане Ілья?

Гэтую хвіліну, нібы напятую струну, як мага хутчэй рассякае Захар:

— Ну, паехалі. Бежанцы ўсе на бальшаку.

Ён бярэ з зямлі свой партфель, аддае Лізе яе сумачку, падыходзіць да каляскі, падымае з зямлі аглабліны і, не чакаючы, каб хто падышоў, пасобіў, скранае каляску з месца.

Пад нагамі, пакуль не выйшлі за вёску, ляжаў стары, абкілзаны коламі і абуткам брук, колы па ім ляскаталі дзе звонка — жалезныя, дзе глуха — драўляныя, грукалі боты, чаравікі, мякка шлёпалі галёшы, лапці, яшчэ мякчэй — босыя ногі, і ў гэты россып хадзяцкіх гукаў адразу, як вада ў пясок, скочваўся, следу не пакідаючы, цяжар непаразумеласці, крыўды — дарога ўсіх яднала.

Каляску пхаў перад сабою Захар. Яму пасаблялі Ксеня і Ліза — адна з аднаго боку, другая з другога. Ілья ішоў следам.

— А што, Захар, калі ў той Унечы — ні Майсея, ні Васі? — баючыся не то свайго голасу, не то сваіх думак, збіваючыся на шэпт, пыталася ля пляча Ліза, з жахам заглядаючы мужу ў вочы.

Ён сам баяўся пра гэта думаць. Магло стацца? Вядома. І што тады? Тады — уперад ці назад? Куды і да каго ісці? А супакоіць жонку трэба. Спытаў:

— Ты сапраўды Васю з Севам бачыла?

— А што, Захар? І ты захваляваўся? Нядобра гэта? Га? Што Сева [redacted] Васем?

— Чаму? Сева быў добры. Значыць, і з Васем будзе ўсё добра.

Захар ведаў, што пра любімага старэйшага брата, які даўно ляжаў на кладах побач з бацькам і маці, Ліза ўспамінала як пра самае, можа, светлае ў жыцці, што і цяпер убачыць яго ў сне для яе было радасцю, і хоць Захар ні ў якія сны не верыў, на гэты раз убачыў у сне Лізы нейкі ратунак і ўжо сам хацеў, каб яна паверыла ў свой сон, у тое, што Васю бачыла ў святле дабра, а не зла. На гэта яго жаданне яна адгукнулася — павесялела:

— Ой, Захар! Ты ж Севу ніколі не бачыў кадэтам. Тады яшчэ мы з табою не сустракаліся.

— Я толькі ў васемнаццатым годзе з фронту вярнуўся.

— Мы сядзім за сталом. Бацька, мама. І Сева —

усім нам, сёстрам, па чарзе, падышоўшы да кожнай, уплятае ў косы шаўковыя стужачкі. Каму чырвоную, каму белую, каму блакітную. Уплятае і цалуе кожную. А сам — прыгожы! Помніш яго вочы? Вялікія, чорныя, высокі лоб, чысты, валасы — як бор. Ён у хату — у хаце светла. Ён на вуліцу — на вуліцы светла. Бывала, ідзе па горадзе, убачыць замурзанае дзіцятка, смаркаценькае — дастане з кішэні насовачку, нос і тварык утрэ. Заплаканае — слёзкі ўтрэ, завядзе ў крамку, цукеркамі пачастуе. Увесь горад Севу любіў. Ён усіх любіў. Калі б ён, Захар, жыў! Не, Сева — не Ілья. Ён, помню, сказаў: «Я, дзяўчаты, не жанюся, пакуль усіх вас не павывучу і не аддам замуж». Сказаў, калі мама памерла. Ён тады ад нас не адыходзіў.

— Ты не гавары гэта пры Ільі. Ведаеш, што яму пра Севу чуць цяжка. Цяпер нельга жыць ворагамі. Які час? Трэба дружней. Не распальвайце адно аднаго.

Ксеня ішла побач, і ўсё, што казалі Захар і Ліза, чула — заўважыла:

— Ты ж, Захар, ведаеш, якая ў нас была дружная сям'я. Калі жылі яшчэ бацька, мама, Сева. Усе, хто нас ведаў, здзіўляліся. Каб хто што сказаў ці зрабіў насуперак — божа барані! Адзін за аднаго. І што сталася з намі? Адкуль варожасць?

Пра гэта і Захар думаў неаднойчы: што зрабілася з Асташонкамі? Як гэтая вялікая працавітая сям'я, дзе былі і дастатак, і цеплыня, і любоў паміж усімі і да ўсіх, пазней духоўна размежавалася? Памерла маці, за ёй — бацька? Але ці тут прычыны? Раней, як маці, памерла ад іспанкі Насця? Тое было болем, але ж не разладам? Разлад пачаўся паміж Ільёй і Севам. І дружылі хлопцамі моцна. Усюды разам. А потым? Куды што дзелася, калі Ілья ўжо нават ўспомніць пра адзінага роднага брата баіцца?

— Захар?

— Што? — адгукнуўся жонцы.

— Ты ж добра глядзі на дарогу. Усё бывае — а можа, і Васілёк недзе тут ідзе?

Захар аж спалохаўся яе напамінку. Сапраўды, як гэта ён забыўся, што трэба ўвесь час вакол сябе ўсё бачыць, да ўсіх прыглядацца з думкай пра сына? Азірнуўся: дзяўчаты тупалі следам за ім, Ксеняй і Лізай, а за дзяўчатамі шаркаў ботамі Ілья. Захар

пачуў плячо Лізы. Яно біла яму ў руку: жонка накульгвала.

— Што з нагою? — спытаў.

Адмахнулася:

— Нічога. Ідзі.

Праз хвіліну-другую зноў пачала прыпадаць на тую самую нагу, ды ён ужо не загаварыў пра гэта, ведаючы яе зацятую натуру — будзе цярпець, пакуль церпіцца.

Дарога пайшла пясчаная, ісці станавілася ўсё цяжэй. Ілья за спінамі дыхаў цяжкавата, але Захара нагнаў:

— Дай-ка я ўвапруся.

Ліза адышла да дзяцей. Захар стаў на яе месца, ад краю каляскі, уступіўшы сваё месца Ілью.

Сонца смаліла, гарачыня сушыла ў горле. У вачах мутнела, яны заплывалі зыбістай мрояй. Свет, што стаяў-рухаўся ў вачах, менеў, звужаўся. Захар бачыў перад сабою толькі невялікі мутны круг, у якім мільгацелі ногі і спіны. Спіны хісталіся, як стоячы на адным месцы, але ногі-цыркулі не прыпыняліся. Шмат іх мільгацела ў вачах. Чорных, шэрых, пунсовых, танклявых, нібы кіёчкі, тоўстых, як калоды, паплеценых сінімі, чырвонымі венамі, карослівых, у струп'і ды нарывах, абвязаных анучамі, пабітых, падрапаных, апёклых, з плямамі і рагамі засохлай крыві, безабаронных у босасці, аголенасці, а то схаваных пад падраным калашыннем, пад доўгімі і кароткімі спадніцамі, у брудных панчохах, праз якія, калі ўгледзецца, можна было ўбачыць тыя самыя знакі пакутных дарог. Круг, у якім мільгацелі ногі, звужаўся ці шырыўся, калі звужаўся — аддаляўся, і бачылася тады далёкае: тая вайна, франтавыя маршы, баі, адступленні, бегствы з палону, яшчэ далейшае — бадзянні [redacted] Грынькам, бліжэйшае — дарогі з Лізай ці без яе ў Мсціслаў і з Мсціслава, у Горкі і з Горак, у Магілёў і з Магілёва, у Асавец і з Асаўца, у Гразівец і з Гразіўца — пешыя, бо не часта шанцавала на спадарожную падводу ці машыну. Усе ў пыле і брудзе — як у нябыт. І вось у тым мільгаценні нечакана ўбачыліся чырвонае і белае святло. Адразу не зразумеў, што за яно — белае і чырвонае? Паводка вады ці паводка ветру? Але падумалася пра Севу і Ілью — зноў. І калі падумаў пра іх, то зразумеў, пры чым тут белае і чырвонае. У адным святле — дарогі Севы, у другім — Ільі. Сева быў белым,

Ілья — чырвоным. Сева ў Кіеве вучыўся ў ваеннай школе кадэтаў, там пайшоў у белую гвардыю, а Ілья апынуўся ў Чапаева і ваяваў супраць белых. У васемнаццатым годзе, калі Захар вярнуўся з фронту ў свае Каранькі, Сева пакінуў гвардыю і вярнуўся ў гарадок, працаваў у зямельным аддзеле. Захар тады ні Севу, ні Ілью не ведаў. У сваёй воласці за пуд жыта прадаўшы франтавы шынель і пахаваўшы маці, ён рабіў у камбедзе, удзельнічаў у перадзеле зямлі, ваяваў з бандытамі, уступіў у партячэйку, марыў пра тое, каб ехаць у Мінск ці Магілёў, вучыцца на настаўніка, не прадчуваючы, які цяжкі шлях да гэтае мары. У Чавусах скончыўшы гарадское вучылішча, папрацаваўшы ў Саветах, інспектарам у выканкоме, нечакана апынуўся ў гарадку, пазнаёміўся з Рыгорам Трахімавічам Асташонкам, бацькам Севы і Ільі. Гэта ўжо быў дваццаты год. Атрымаўшы атэстат за вучылішча, Захар ясней бачыў дарогу ў інстытут, але не адпускала вучыцца партячэйка. І тады, можна сказаць, збег з Чавус. Была позняя восень, зазімак. Куды далёка ехаць у гэтакі час? У гарадку працаваў на цукровым заводзе, старому Асташонку пасабляў рэстаўрыраваць царкву. Асташонак і прывёў Захара ў свой дом. І вось тое жыццё ў доме Асташонкаў Захар ведаў. Ён тады ўжо да Лізы прыходзіў, пазнаёміўся з Севам. А Ільі не было. Яшчэ раней, у рэвалюцыю, Ілья сышоўся з Мішкам Русецкім, суседам, які ў Петраградзе рабіў на Пуцілаўскім, рабочыя штаны змяніў на чырвонагвардзейскія, і калі прыязджаў у гарадок, то выхваляўся маўзерам, што насіў у кішэні скуранога паліто. Захар памятаў, як Мішка зайшоў у сабор да Рыгора Трахімавіча і, трымаючы маўзер на калене, дамаўляўся, каб сусед пашыў яму з найлепшай скуры кабур. У той год, калі ў Мішкі з'явіўся новы кабур, у гарадку з'явіўся Ілья. У Чапаева ён ужо адслужыў, вярнуўся пасля ранення, цягаўся з сябрам, які камандаваў павятовай міліцыяй. З'явіўся ў доме Ілья — знік Сева. Гуляла іспанка, уклала Насцю і Севу. Насця памерла, а Сева падняўся. Пакуль ён ляжаў, не было Ільі. Нават калі хавалі Насцю, Ільі не было. Сева пачаў зноў хадзіць на работу — Ілья з'явіўся. Пакуль Сева на рабоце — Ілья дома, Сева вяртаецца з работы — Ілья на ноч знікае. Неяк прыйшоў да іх Захар. Лізы не было дома. Пайшоў у сад, дзе дзядзька Рыгор трымаў і варыў

фарбы, пакост, алей. Раптам чуе лямант на двары. Выскачыў з фарбоўні, а там — Ілья і Сева. На Ільі скуранка і шырокі рэмень з партупеяй, блішчастыя боты, на баку — кабур. Лямантуе і за кабур хапаецца. А Сева перад ім стаіць і ўсміхаецца: «Ну што ты, братуха, кідаешся, супакойся, навошта людзей бунтаваць?» Ілья выскачыў на вуліцу, моцна ляснуўшы хворткаю, а Сева сеў на ганак, дастаў з кішэні насоўку, прыклаў да лба. Прыбеглі [redacted] вуліцы Ліза, Ксеня, падселі да Севы, абнялі яго з абодвух бакоў, галовы паклалі яму на плечы — суцяшаюць. І вось тады Захар выразна адчуў тое, аб чым раней здагадваўся: сям'я, якая радавала ўвесь гарадок, раскалолася, і расколіна ляжала паміж Ільёй і Севам. Жахнуўся: куды дзелася былая дружба паміж братамі? Што з імі? Здагадваўся: чырвоны вецер сутыкнуўся [redacted] белым ветрам. Але ўсё роўна не мог знайсці тлумачэння таму, што адбылося. Няўжо яны, Ілья і Сева, у гэтых вятрах сталі ворагамі? Вятры перамаглі крэўнасць?

Захар адарваў руку ад ярма, абняў Лізу за плечы. Яна здрыганулася ад нечаканай пяшчоты, паднесла да вачэй канцы хустачкі, што была на галаве замест берэціка.

— Як нага? Баліць?

Яна доўга не адымала канцоў хустачкі ад твару. Плакала — па Севу ці па Васю?

— Нічога. Ідзі. Маўчы.

Адвёўшы позірк ад Лізы, Захар зноў убачыў перад сабою, [redacted] боку ад мяхоў на калясцы, людскія спіны і ногі, а паміж іх адну танклявую шэрую, дугою выгнутую пад кароткай спадніцай. Адразу не мог зразумець, гэта нага ці што іншае? І чаму — адна? Дзе такая самая другая? Спіна вузенькая, жаночая, галоўка дробная, як у птушкі. Дзяўчо ці дзіця? Не адразу здагадаўся, што другая нага — ступа не ступа, таўкач не таўкач, тоўстая дзеравяка, якая грымела і пыліла, раскідаючы ад сябе каменне дарогі, побач з той крывенькай нагою. А яшчэ побач зямлю і каменне дзёўб танклявы кіёк, на які жанчынка абапіралася. Жывая нага крочыла рашуча, абутая ў старую галёшу, падвязаную чырвонай аборай. Калі Захар, уражаны знявечаным, але поўным неймавернай сілы выглядам жанчыны, разглядаў нагу, таўкач-ступу і кій, жанчына, нібы адчуўшы на сабе ягоны позірк, азірнулася, дзеўбанула вострымі вочкамі,

і Захара як жарам абдало: то была старая, тварам жорсткая, нібы смерць, бежанка, у якой, здавалася б, не толькі сілы на дарогу, але і ахвоты жыць не павінна было б застацца, хоць ішла яна з фанатычнай упартасцю. Гэткую прагнасць жыцця Захар бачыў неаднойчы. У памяці ўсплыў круглявы твар рускага, з якім у семнаццатым ранняй вясною бег з палону. Выйшлі на нямецкі конны патруль, на лініі фронту. Тут — яны, там — нашы. Падпаўзлі да свайго акопа — нямецкая куля і клюнула рускага паміж лапатак. Канаючы, ён напружыўся, каб перакуліцца ў акоп, рукі гэтак прагна ўчапіліся ў задзірванелы бруствер, што пасля, калі цягнулі ў акоп, рукі аддзіралі разам з дзірваном. І пахавалі з дзярнінамі ў кулаччы.

І гэта паспеў успомніць, а нага ўсё пыліла — вачэй ад яе адвесці было немагчыма. Пыл гусцеў, нага, разам з дзеравякаю, пачала знікаць, і тады, як знікла, быццам на тым самым месцы, Захар убачыў дзве нагі ў хромавых ботах. Падэшвы былі мала ношаныя, яшчэ жоўценькія, з чырвонымі кантамі. Ногі ляжалі на возе, тырчалі з-пад зялёнага кіцеля. Боты Захар пазнаў — іх шыў Рыгор Трахімавіч. Быў майстар! Хоць сядзёлку, хоць кабур Мішку Русецкаму, хоць чаравікі сынам, якія не адрозніш ад найдаражэйшых заморскіх. Як і з пэндзлем: ён табе і маляр, ён табе і мастак. І гэтыя боты ў Севы... Ляжаў пад вокнамі свайго дома. А прывёз яго невядома чый конь. Калі бацька адкінуў з грудзей кіцель, на белай кашулі закалыхалася расплывістая чырвоная пляма. Захар якраз быў тады ў Асташонкаў. Помніў, як Рыгор Трахімавіч зайшоў у дом, зняў са сцяны стрэльбу, выйшаў у сад. І раптам — крык. Ліза ўляцела з двара: «Захар, ратуй!» Яна бачыла, як бацька знайшоў Ільлю ў садзе, чула, як спытаў: «Ты за што забіў Севу?» Ілья закалаціўся, нібы асінавы ліст,— маўчаў. Тады бацька ўзняў стрэльбу. Але стрэліць не паспеў — са стрэльбаю рухнуў на зямлю. Іх хавалі ў адзін дзень — сына і бацьку. У адну яму. Ніхто Ільлю не вінаваціў у смерці бацькі і Севы. Бацька памёр ад разрыву сэрца. А Сева? Раніцай, яшчэ да сонца, Мішка Русецкі загнаў Севу ў Сож на кані, і ўжо на тым беразе, выхапіўшы маўзер з кабура, пашытага дзядзькам Рыгорам, дастаў — навылет прашыў. За што? Гэта ведала Ліза. У гарадку бурылі сабор, расцягвалі абразы, скідалі крыжы,

залачоныя Рыгорам Трахімавічам, у гразь са званіцы скінулі звон. Бацька сядзеў дома, баяўся выйсці на вуліцу, а Сева цэлы дзень стаяў на плошчы, глядзеў, што робіцца з саборам, які з маленства жыў у сэрцы. Ноччу, пабудзіўшы Лізу, сказаў, што вяртаецца ў Кіеў. Ён быў у афіцэрскай форме пад доўгім чорным плашчом, у якім хадзіў на работу ў земаддзел, пад чорным капелюшом. Ліза думала, што адна яна ведае пра ад'езд Севы. Але Ілья таксама ведаў. Ці не сачыў за братам? Ён навёў Мішку на Севаў след. Ліза пасля ўсё зразумела.

Праз колькі дзён пасля пахавання брата і бацькі з дому знікла Зіна, паехала да сяброўкі на Данбас. Працавала яна там на шахтах, даглядала шахцёрскіх коней, няўдала, за п'яніцу, выйшла замуж, развялася, але вяртацца дадому не захацела.

Калі для сям'і Асташонкаў гэта была поўная і канчатковая драма, то для Захара драма блізкай сям'і надоўга стала пачаткам церняў, праз якія ён павінен быў прайсці то адзін, то разам з Лізай. У той час, хаваючы Рыгора Трахімавіча і Севу, не ведаў і не прадчуваў, што варожасць да Севы Ілья не ў малой меры перанясе на яго, Захара, а на дарозе да Лізы, не без удзелу Ільі, апынецца Мішка Русецкі. Не Захар, а Мішка стане яе першым мужам. І толькі праз дзесяць гадоў яна знойдзе Захара. Не ён яе — яна яго. Ён тады якраз будзе вучыцца на настаўніцкіх курсах у Клімавічах, калі яна прыедзе і кінецца перад ім на калені, молячы, каб дараваў, кленучыся, што ■ Мішкам жыць не можа, бо Мішка ўвесь у крыві людской і ў крыві яе брата Севы.

Бежанцы падымаліся на ўзгорак. Бальшак тут быў высаджаны старымі бярозамі, за якімі ў абодва бакі ляжалі зжатыя жоўценькія палеткі.

Няўжо Ліза толькі тады, праз дзесяць гадоў, дазналася, што Севу застрэліў Мішка Русецкі? Няўжо раней не ведала? Усе ж у гарадку, здаецца, гэта ведалі. Можа, не верыла, што ён? Аб гэтым Захар з ёю ніколі не гаварыў. Баяўся ўспамінаць.

На палетках пасліся чорныя галкі, пералётваючы з месца на месца. Яны крычалі і ў бярозах, што стаялі на бальшаку ўперадзе. Адтуль, з гары, з-пад высозных бяроз, раптам пакацілася людская не то радасць, не то разгубленасць:

— Расея, людцы!

Усё роўна як там, з гары, была відаць не толькі Расія, але і канец вайны.

Людзей на гары збіралася ўсё болей, бо ўсё новыя падыходзілі знізу, а далей ніхто не ішоў. Іх спыняў шэры, груба абчасаны дубовы слуп і на ім — кавалак дошчыны з пяццю літарамі чорнай фарбай з аднаго боку і чатырма [redacted] другога: РСФСР — БССР.

— Даруй, маці-зямелька!

Захар азірнуўся на голас. За спіною ў яго стаяў немалады мужчына ў шэранькім пінжачку, з клункам за вузкім плячом, [redacted] кепачкаю ў руцэ, якую сцягваў з буйной круглай галавы, бліскаючы пад сонцам расплывістай ружовай лысінай. Стаяў ён тварам не ў той бок, куды глядзелі ўсе, не на ўсход, куды ішлі, а на захад, углядаўся ў палі і лясы, з якіх прыйшоў, жалобна з імі развітваўся, і Захару спачатку здалося, што чалавека ён недзе бачыў, але, не ўспомніўшы — дзе, падумаў, што гэтакіх знаёмых, пакуль пройдзе свае дарогі, будзе, мабыць, палова краіны, і твары іх ён будзе доўга, можа, да скону, успамінаць, як твары братоў і сясцёр, адной бядою павязаных. Як бы там ні было з гэтай кроўнасцю, а чалавек мудра рабіў, што на мяжы, на самым высокім месцы, павярнуўся тварам да роднай зямелькі і [redacted] ёю доўга развітваўся, каб не забыць. З гэтай думкаю Захар абвёў вачыма абшар палёў і лясоў, дарог і сцяжын, на якія глядзеў чалавек, і ўсёй істотай адчуў, пэўна, тое самае, што адчуваў той,— боль свой і ўсяго свету. Тут, ва ўсім гэтым, і была іх людская кроўнасць — у развітанні з бацькаўшчынай.

На ўсходзе грымнуў звон. І зноў — гулка, [redacted] нервовымі раскатамі, нібы каціўся [redacted] глыбозных нетраў.

Цяпер ужо ўсе, хто стаяў на ўзгорку, павярнуліся тварамі на ўсход, дзе рытмічна і магутна гахаў звон. Над узгоркам было толькі неба, спякотна-замглёнае і загадкава-высознае, звон туды і ляцеў, хоць званілі ў царкве — на зямлі.

Зямля, што ляжала пад узгоркам, на два акрайчыкі, як хлеб, падзеленая бежанскім бальшаком, чагосьці засяроджана чакала ў ружова-блакітнай смузе. Зямля і неба ўсіх прымушалі маўчаць, а звон прымушаў прагна ўглядацца ў замглёны далягляд, усё роўна як там быў выток чагосьці галоўнага і, углядаючыся туды, людзі заўважылі, што смуга зрэджваецца і скрозь яе,

ружова-блакітную, прабіваюцца абрысы вялізнага селішча, загадкавыя ў сваёй неахайнасці, але дружна сабраныя вакол высозных лускага-драўляных купалоў, вакол крыжоў на купалах, і калі загадкавы далягляд з селішчам і саборам людзі разгледзелі, калі звон адзваніў, усе сыпанулі ■ узгорка.

А Захар стаяў.

Унізе, на той блакітна-ружовай паводцы, ён убачыў лодку з трыма весьлярамі — мужчынам і дзвюма жанчынамі. Яны старанна махалі вёсламі, падымалі хвалю і пырскі, а лодка нікуды не плыла. Пад нагамі ў лодцы блішчала вада, ружовая, як і навокал, нават чырванаватая, нібы змешаная ■ крывёю.

Смуга ўнізе з блакітна-ружовай рабілася барвовай — ад сонца, якое ўзыходзіла з-за гары. Чырвань асядала ўніз, пачырванелыя крыжы і купалы ўсплывалі над ёю астраўком, і Захару здалося, што людзі, якія ішлі і беглі ■ гары, спяшаліся да сваіх лодак на беразе барвова-трывожнай паводкі, каб плысці на востраў пад тыя скрываўленыя крыжы.

Траіх у лодцы Захар неаднойчы бачыў за апошнія гады і ведаў, што гэта — Ілья, Ксеня і Ліза. Гэта было ўсё, што засталося ад сям'і Асташонкаў.

Яны ўжо даўно плылі не ў адной лодцы, і гэта было іх паратункам. Але гэта не супакойвала Захара.

Бо ўсе лодкі людства плылі па адной вадзе. А іхнія — Асташонкаў, Падабедаў, Малыгаў — яшчэ і побач.

— Канчай дрыхнуць, Пістон.

А я не сплю. Як прадзёр вочы, убачыў над сабою ўгары высознае і вузкае, пад столлю завостранае акно, у якім ранішняй сінізною ззяў паркаль неба, ды яшчэ як пачуў — раней, як убачыў акно — недзе ўгары, вышэй за тое акно, шоргат, енк, лопанне-хлопанне, быццам па сцяне мокрай анучай, дык з таго часу і не сплю. Пад столлю нешта жывое лётае і енчыць. Што за птушкі? Ці кажаны? Ляжу нерухома, баюся зноў адкрыць вочы, зірнуць у неба, на тое акно, хоць і не адзін.

Лёха, нічога ад мяне не пачуўшы, соўгае локцем пад лапатку. Локаць у яго востры, як кол, але я ад яго не адхіляюся, бо цяплей, як ляжыш лісцінай да лісціны — спіной да спіны. Ад яго локця цверазею адразу:

— Што, Лёха? Даём драла?

— Як дасі? На дзвярах пудовы замок. Трэба чакаць службы. Поп царкву адчыніць, народ прыйдзе, тады мы з народам змяшаемся.

— А што такое служба, Лёха?

— Гэта... размова з Богам,— амаль не задумаўшыся, усё ведаючы, кажа Лёха.

— А мой тата казаў, што Бога няма.

— Значыць, няма. І я думаю, што няма.

— А тады як з Богам гаварыць, калі яго няма?

Мы ляжым пад лаўкаю ў царкве. Лёха — той самы пацан, які два дні назад, калі я прыбіўся на Бесядзі да вогнішча, да дзеда, што плёў малым бежанцам лапцікі і адны даў мне, схапіў маю чорную печаную бульбіну, але вярнуў, калі дзед загадаў вярнуць. Ён старэйшы за мяне, і мне з ім добра. А сустрэліся мы другі раз яшчэ больш нечакана, як першы раз на Бесядзі. Ідучы праз вёскі, я апынуўся на гары, дзе царква. Гара з царквой ля самага бальшака, і я звярнуў з бальшака, узышоў на гару, бо там убачыў шмат людзей і падвод. Я цяпер заўсёды зварочваў туды, дзе людзі, адчуваючы, што там, дзе людзі, павінны быць тата, мама, Люба. Але на гару ўзышоў яшчэ, можа, таму, што надта высока, надта прыгожа стаяла царква. Крыжы ўпіраліся ў самае неба. Я такога нідзе не бачыў. Мне зрабілася не то страшна, не то проста цікава, і я ўзышоў на цвінтар. А там мяне здзівіла, што было вельмі шмат дзяцей, зусім малых, якіх дарослыя трымалі на руках, бо яны яшчэ не хадзілі, і гэтакіх, як я, і большых. Быццам у дзіцячым садзе — усялякіх. Я хацеў спытаць у кагосьці, чаму тут столькі дзяцей, але спытаць не асмельваўся. І тады адчуў, што галодны. Я сеў пад сцяною царквы на камень і дастаў з кішэні яблык, адзін з апошніх, якія мне ў дарогу даў дзед на Бесядзі. Адкусіў, і тады пачуў побач: «Дай мне раз адкусіць». Я аддаў яблык пацану, які стаяў перада мною, а сам дастаў з кішэні яшчэ адзін, самы апошні, і раптам пазнаў пацана. Я ўставіўся на яго і не мог ні слова вымавіць. І ён мяне таксама пазнаў: «Пістон?» Гэта і быў Лёха. Мы страшэнна абрадаваліся адзін аднаму. І тады Лёха сказаў, дзівячыся з маёй вопраткі, куфайкі і лапцікаў, што распрануў мяне ўначы пахан, той самы вялікі хлопец, які ўсімі камандаваў ля вогнішча. Зняўшы з мяне, соннага, сандалікі і куртачку, пахан

загадаў пакінуць мяне аднаго ў сянніцы. Лёха па дарозе з Бялынкавіч схапіўся з ім, даказваючы, што ён звычайны рабаўнік, калі з малога ў сне здзірае сандалікі і куртачку. Пахан гэтага не сцярпеў і ўдарыў Лёху. І Лёха кінуў пахана і яго каманду. А я цяпер адчуў, што Лёха мой сапраўдны сябра, калі ён асмеліўся за мяне накінуцца на пахана. Ен не проста сябра. Ен ведае, што трэба рабіць. Ен усё ведае.

— Лёха, а што там, у небе, шабуршыць? — нарэшце пытаюся пра тое, што мяне хвалюе ўсю раніцу, з таго часу, як прачнуўся.

— Галубы. Чуеш, буркочуць?

— А што енчыць і пляскае, як анучай мокрай?

— Можа, кажаны. Лётаюць, пакуль цёмна.

— Чаму, пакуль цёмна?

— Як светла, яны спяць. Святла баяцца.

— Гэта птушкі — кажаны?

— І птушкі, і мышы. Лётаюць, як птушкі. Але — мышы.

— Дзіўна, Лёха. Як гэта — і птушкі, і мышы. Мы з табой хто? Людзі? А ці можам мы яшчэ быць і мышамі? Ці птушкамі?

— Птушкамі можам быць. Кажуць, што чалавек можа лётаць.

Вось як! Гэта ж калі ляцець над бальшаком, па якім ідуць бежанцы, то ўбачыш на бальшаку маму і тату, Любу і Лёніка, усіх-усіх сваіх. Я прыслухоўваюся да гукаў пад высозным царкоўным скляпеннем, шукаю ў тых гуках нешта сваё, не то радасць, не то сум, і знаходжу адно тое, што нараджае ўва мне страх. Жудасна чуць у гулкім змроку царквы жывыя гукі. Але я хачу верыць Лёху, што ў тых гуках ёсць нешта маё, мае гукі, і ўспамінаю саву Неясыць, як яна палохала мяне па начах, калі ішлі і начавалі ў лесе, як нешта такое будзіла ўва мне, што жыло ў ёй, у яе жахлівых крыках. Чаму тады ўва мне жывуць галасы жахлівых птушак, а не галасы жаваранaчкаў ці салавейкаў, хоць бы вераб'ёў?

Мне робіцца яшчэ больш трывожна, і я не магу схаваць у сабе жахі-страхі — кажу-шапчу Лёху:

— Мне страшна...

— Дурны, чаго табе са мною страшна? Хочаш, я вылезу з-пад лаўкі і пашукаю, можа, ёсць якія дзверы адсюль? Можа, поп не ўсе зачыніў?

— Ляжы, Лёха,— прашу, яшчэ мацней калоцячыся.

— А ты ж учора быў смелы?

— Я хацеў паглядзець, як што тут з пацанамі робяць.

— А то ты не ведаў, што чалавека, як ён народзіцца, трэба хрысціць у царкве? Ты не хрышчоны?

— Не ведаю.

— Значыць, не хрышчоны. А я хрышчоны. Хрышчонаму чалавеку Бог сілу і розум дае. Цяпер усе кінуліся хрысціць пацаноў, як Гітлер прыціснуў. Бачыў, колькі панавезлі? Хочаш, дык і цябе ахрысцім? Я пагавару з папом. Хочаш?

Я ўспамінаю, як учора поп хрысціў пацаноў, як іх, зусім голых, распранутых, ставілі ў балею з вадою, і рашуча адмахваюся:

— Не, Лёха. Мяне не трэба. Я, можа, хрышчоны.

І Лёха, падумаўшы, пагаджаецца:

— Можа, і не трэба. А то яшчэ вошай натрасеш з ватніка ў святую ваду. Грэх на душу возьмеш.

Я замаўкаю. Лёха мне ўжо казаў, што пахан, забраўшы маю куртачку, пакінуў ватнік, бо ў ім многа вошай, якіх з ваты нельга вытравіць, і ад гэтае думкі, ад яго слоў, мне таксама ці брыдка, ці страшна. Я, можа, кіну дзе-небудзь гэты вашывы ватнік. Ужо, можа, кінуў бы. Але ж Лёха кажа, што без ватніка я зусім загіну. І дзед, які абуваў у лапцікі, казаў, што без ватніка я дам дуба. І я не ведаю, што мне цяпер рабіць з гэтым вашывым ватнікам. Можа, усё ж кінуць? Пасля, як сонца ўзыдзе?

Думаць пра гэта доўга я не жадаю — кажу:

— Палезлі разам? Можа, і ёсць якая дзірка адсюль?

Лёха выпаўзае з-пад лаўкі першы, я — за ім следам. І цяпер, вылезшы з-пад лаўкі, мы бачым, што ўжо раніца. Яе можна пазнаць па святле, якое сочыцца праз шэрыя шкліны вузкіх высокіх вокан. З аднаго боку царквы ў вокны глядзіць сонца, але сюды, у царкву, пранікае надта цьмянымі, нейкімі дымнымі прамянямі, у якіх лётае ўсё роўна як пыл. Ужо відаць і лаўкі, і вялізныя абразы па сценах, з якіх на нас глядзяць твары святых. А ўгары, пад столлю, ціха — ніякіх птушак не чуваць. Заснулі? Ці памерлі?

І раптам нешта грыміць, як бомба ўзрываецца. Я кідаюся на падлогу, не дыхаю. Адтуль, дзе грымела, чую Лёху:

— Пістон! Ідзі сюды! Дзе ты, Пістон?

Я ўстаю на ногі, але ногі мяне не трымаюць. Лёха зноў кліча, стогнучы. Няўжо ён падарваўся на якой міне? Ногі не ідуць, але я іду, бо трэба — Лёха кліча. Я прабіраюся паўз сцяну, чапляюся лапцем за нешта і лячу на падлогу. Валюся на мяккае. Ды гэта ж Лёха.

— Ты не бачыш? Аслеп?

— А чаго ты тут ляжыш? Ты што — падарваўся?..

— Святога са сцяны скінуў.

— А табе ён навошта?

— Лез у акно. Там адной шыбкі няма, можна вылезці.

— Баліць, Лёха? Моцна выцяўся?

— Святы мацней. Мне яго шкода.

Цяпер, агледзеўшыся, бачу, што Лёха сядзіць на падлозе, трэ калена.

Ляскае ў другім канцы царквы. Там, дзе ляскае, успыхвае белы калючы, голкамі ўтыканы, шар, жаўтлявы, нібы само сонца. Ён укатваецца ў царкву, і ўсё навокал святлее. Мы з Лёхам замаўкаем, разгубленыя. Цёмная постаць чалавека выходзіць з сонечнага шара, набліжаецца да нас, грукаючы ботамі ў каменную падлогу. Лёха на ўсіх чатырох паўзе пад лаўку і адтуль гукае ледзь чутна:

— Паўзі сюды! Хутчэй, Пістон!

Мы ляжым пад лаўкаю, калі міма нас, грукаючы ў падлогу ботамі і доўгім цяжкім кіем, праходзіць высокі поп у доўгім чорным балахоне, з высокай чорнай шапкай на галаве. Там, дзе толькі што сядзелі, пад акном, ён спыняецца, грукае цяжкім кіем у падлогу і ўсклікае громам-басам:

— О, святы ўгоднік Мікола! Што з табою?

— Бяжым! — шэпча мне на вуха Лёха. Бачыш, дзверы адчыненыя? Ён нас не нагоніць.

Лёха выпаўзае з-пад лаўкі, я — за ім следам, і мы бяжым у тую сонечную капу, як у само сонца, пакідаючы за сабою на гулкай падлозе шлёпанне Лёхавых босых ног і маіх лапцяў, чуючы за спіною раскацістае рэха:

— О, анціхрысты!

Выскачыўшы з царквы, я заўважаю, што на цвінтары, як і ўчора, поўна падвод. Але мы не запыняемся, нібы чуем за сабою раскацісты бас, што гоніць і з цвінтара, і далей па вуліцы міма хат. Лёха

бяжыць уперадзе, я адстаю, і Лёха раз-пораз спыняецца:

— У лапці абуўся, а бегаць у іх не навучыўся. Чапляешся за кожны камень.

Мы выбягаем за вёску — спыняемся. Бальшак выводзіць у поле. З аднаго боку ад бальшака яно чыстае, зжатае, устаўленае копамі жыта, а з другога невядома чым засеянае — дзікая трава, высокая і зялёная, месцамі зжоўклая, утаптаная. Усцяж бальшака стаяць бярозы, старыя і крывыя, [redacted] грачынымі чорнымі гнёздамі, гракоў на бярозах поўна, лётаюць і крычаць, сагрэўшыся на ласкавым ранішнім сонцы. Ад іх крыку сумна і пуста. І, можа, гэты крык нагадвае тое, што думалася ўсю ноч.

— Ты, Пістон, есці хочаш?

— Хачу.

— У цябе яблык не заваляўся?

— Няма.

— І ў мяне нічога няма.

Лёха сыходзіць з бальшака, ідзе ў поле. Трава там густая, высокая, і я баюся, каб ён у ёй не згубіўся. Але ён гукае мяне да сябе:

— Жыць будзем, Пістон! Ідзі сюды!

Лёха зрабіў вялікае адкрыццё, якое нас ратуе ад голаду, як ад начнога холаду ўратавала царква: на полі расце бульба. Бульбяных кустоў амаль не відаць, іх заглушыла пустазелле, але яны ёсць, бо пасаджана бульба. Мы знаходзім дзе зялёнае таўстое, а дзе танклявае і пасохлае націнне, выцягваем яго з зямлі і абіраем з карэння бульбінкі. Яны дробныя, але затое іх шмат, можна набраць колькі хочаш, і я скідаю з сябе ватнік. Мы выносім ватнік з бульбай пад бярозы і раскладаем вогнішча. У Лёхі, аказваецца, ёсць скамечаны карабок з пяццю запалкамі, ёсць скла-данчык і нават кавалачак курэцкай газеты. Лёха распальвае вогнішча, а я падношу сухое галлё. Калі вогнішча разгараецца, мы сыплем у яго бульбу, і тады Лёха выварочвае кішэню старога і доўгага, з нейкага вялікага дзядзькі, пінжака, выкалупвае са швоў тытунь, збірае па каліўцы на паперу.

— Навошта ты курыш? — пытаюся я ў Лёхі.

— Ты яшчэ малы, каб зразумець. Падрасцеш — будзеш курыць. Даць пацягнуць? — смяецца.

Я адмахваюся — не хачу. Лёнік курыў і мне даваў

пасмактаць цыгарку, я бачыў, як яго за курыва біў бацька, чуў, як пра гэта гаварылі тата і мама, не хвалілі Лёніка, а таму ведаю, што курыць не трэба. Ды Лёха совае мне ў рот цыгарку, як гэта рабіў Лёнік, і я вымушаны, каб ён з мяне не смяяўся, смактануць. Кашаль б'е адразу і моцна, аж у вачах збіраюцца і пякуць слёзы. Лёха качаецца па зямлі і рагоча, а я доўга яшчэ не магу перасіліць кашаль, які душыць мяне.

Потым мы ядзім печаную бульбу. Бульбы ў нас шмат, можна есці колькі хочаш, і мы ядзім ад пуза, каб наесціся, як кажа Лёха, на ўвесь дзень.

Бальшак пусты, ніхто па ім не ідзе і не едзе. Гэта здзіўляе. Усе дні, колькі я сябе помню на бежанскім бальшаку, па ім ішлі ды ішлі людзі, ішлі і ехалі на конях, а тут — ні чалавечыка. Можа, не той бальшак? Можа, мы не туды ідзём? Я пытаюся пра гэта Лёху, бо мяне апаноўвае страх, што мы ідзём не той дарогаю, на якой я павінен знайсці тату і маму. Лёха супакойвае:

— Бачыш, сонца над лесам узышло? Той край свету называецца ўсходам. І мы павінны ісці на ўсход. Бальшак вядзе ў той лес, над якім сонца. Бачыш?

— А чаму на бальшаку няма бежанцаў?

— Прайшлі, дык няма.

— Тады і нам няма чаго сядзець.

— Думаеш, як раней выйдзеш, дык раней прыйдзеш? Трэба выходзіць, як паясі, пуза наб'еш, адпачнеш добра. Тады ўсіх нагоніш. Еш, пакуль ёсць бульба. І скідай свой ватнік. Будзем смажыць вошай. А то яны цябе з'ядуць.

Паеўшы бульбу, мы смажым вошай. Я ніколі іх не бачыў. Чуў пра іх, але не бачыў. Ноччу, калі мне не спалася, калі нешта кусалася і я чухаўся пад ватнікам, я не ведаў, што гэтак кусаюць вошы. А яны брыдкія. Вялікія, пузатыя, а ёсць і малыя. Шэрыя і белыя. Гідка браць іх пальцамі, як бярэ Лёха. Іх у кожным шоўчыку, у кожным рубчыку. Лёха выкалупвае і кідае ў агонь. А я сяджу — гіджуся. Тады ён кажа:

— Будзем паліць на месцы, дзе сядзяць. Бяры сваю кашулю за адзін канец, я — за другі. Шво — да агню. Ну, пускай да мяне. Чуеш, страляюць? І смярдзяць... Чуеш?

— Адкуль яны, Лёха?

— Гэта не твае, Пістон. Я на Бесядзі адразу

заўважыў, што ты чысценькі. Інтэлігент. Гэта пахан цябе ўзнагародзіў. Ён твой бушлацік забраў, а табе сваю вашывую куфайку падкінуў. З куфайкі яны перапаўзлі ў тваю кашульку, бліжэй да цела.

— А ці на яго ўзлез мой бушлацік?

— Твой бушлацік ён ужо абмяняў на новы ватнік па сваіх плячах. Ды ты не бойся, кашулька не згарыць. Не суй у агонь, вошы палопаюць без агню, ад гарачыні. І вядзі, вядзі рубец... Во, навука не лішняя.

Пад'еўшы і пасмажыўшы на агні вошы, мы ідзём далей. Бальшак па-ранейшаму пусты, рэдкага чалавека сустрэнеш, Лёха з кожным загаворыць, спытаецца, дзе тая Унеча, якая вёска наперадзе, што кажуць пра немцаў, ці далёка яны. Дзіўны ён, Лёха, балбатун, але вясёлы, з ім лёгка ісці. Людзі, якіх пытаемся, кажуць, што Унеча наперадзе, там, куды ідзём, і што за дзень, можа, дойдзем, а можа, не дойдзем. Добра ісці, калі ведаеш: дарога перад табой — твая, на Унечу. Але нейкія жанчыны сказалі, што Унечу дзень назад бамбілі нямецкія самалёты, разбурылі чыгуначны вакзал і паязды цяпер праз Унечу не ідуць. Жанчыны пайшлі далей. Як неслі на плячах граблі, так і панеслі, а мы з Лёхам спыніліся і засвісталі. Засвістаў Лёха, а я хацеў, ды ў мяне свісту не атрымалася.

— Вось дык дзялы, дружа Пістон! Куды ідзём? Што рабіць у той Унечы, калі яе ўжо няма? Калі паязды праз яе не ідуць?

І я заплакаў. Мне здалося, што цяпер, калі немцы разбамбілі Унечу, калі праз яе не ідуць паязды, я ўжо не ўбачу тату, маму і Любу. Дагэтуль, ідучы, ведаў, што яны ідуць, як і я, на Унечу, што там, на вакзале, будуць мяне шукаць, што мы там знойдземся, а што — цяпер? Няўжо я іх не знайду? І куды мне ісці? Я плакаў горка і безнадзейна, як, можа, ніколі-ніколі ў сваім жыцці не плакаў.

Лёха абняў мяне за плечы, прыціснуў маю галаву да сябе і шаптаў, усё роўна як у яго таксама не стала голасу:

— Ну, не плач, Пістон. Я цябе не кіну. Што-небудзь прыдумаем. Ты мне верыш?

— Веру, Лёха,— душачыся слязьмі, шаптаў я.

— Дык пойдзем. Ніхто ж не сказаў, што Унечу разбамбілі, акрамя гэтых дзевак. А яны, можа, не ведаюць. Можа, збрахалі. А калі і разбамбілі? Людзі

там усё роўна жывуць. І калі туды пайшлі твае бацькі, дык яны там будуць цябе чакаць. Ну, пайшлі.

З Унечаю адбылося так, як сказалі дзеўкі: станцыя была засыпана друзам, цэглай, бярвеннем, скарэжанымі рэйкамі, пашчапанымі, згарэлымі вагонамі. І было так, як сказаў Лёха: людзі ўсюды, але іх мала на станцыі. Дымілі руіны і перакуленыя вагоны, несла гарам, гаркатою пажарышча. І ніякіх паяздоў.

Пакуль сцямнела, мы з Лёхам паспелі абысці гарадок, на станцыі — усе закавулачкі, руіны, ламачча, дзе якое яшчэ датлявала ці зусім ачахла. Пад перакуленым дагары вагонам схаваліся ад ветру, якім несла попел і сажу. Сцямнела, а нідзе ніводнага агеньчыка не загарэлася. Лёха сказаў, каб я тут, пад вагонам, яго чакаў, а сам сышоў, і я, страшэнна стаміўшыся, заснуў.

Прачнуўся ад моцных Лёхавых штуршкоў.

— Вялікі пан? Спіш, быццам на цябе працуюць парабкі. Ану, уставай! Хутка!

Зноў здарылася нешта нядобрае?

— Што, Лёха?

— Трэба бегчы, калі не хочаш мяне згубіць. Я ім гэтак проста ў рукі не дамся.

— Каму, Лёха?

— Каму-каму... Ловяць пацаноў, такіх, як мы з табою, беспрытульных. Тут цэлая каманда. Аблава.

— Хто ловіць, Лёха? Навошта мы ім? — мяне ахапіў жах.

— Пайшлі. Няма калі соплі распускаць.

Мы кінуліся ў цемень і праваліліся ў глыбокую яміну. Калі я скаціўся і ўскочыў на ногі, мае рукі і твар былі абдзёртыя аб каменне і шчымелі. Смярдзела вугальным шлакам, а Лёхі побач не было. Я спужаўся і закрычаў:

— Лёха!

І адразу адтуль, з гары, пачуў:

— Маўчы, ідуць!

Я споўз яшчэ ніжэй, на самае дно ямы. Там была вада. Я стаяў у лужыне па калені, але маўчаў. Галоўнае, што Лёха нікуды не знік, быў блізка, хоць і не ўваліўся ў яму разам са мною. Лёхава блізасць мяне супакойвала. Я чуў, як нехта там, над ямай, дзе быў Лёха, стаяў, нехта з кімсьці гаварыў. Спачатку не мог пачуць, пра што і хто гаварыў, але пасля пачуў:

— Не можа быць, каб я памыліўся. Тут былі дзве галавы. На ўзгорку мільгатнулі і як праваліліся. Вышэйшая і ніжэйшая. Два пацаны. Адзін зусім малы.

— Заўважыўшы нас, далі драпака? — гадала жанчына.

А мужчына ўпарта стаяў на сваім:

— Куды яны адсюль збягуць? Па гэтым катавінні?

— Ім па катавінах ды цемені лягчэй, як нам з табою. Пайшлі на пункт.

— Можа, прытаіліся?

— Дык ці іх цяпер, у цемені, выпараш?

Зноў чуваць крокі, але галасы заціхлі. Калі стала зусім ціха, азваўся Лёха:

— Дзе ты там?

Лёхава галава з'явілася ўгары на фоне валавянага неба.

— Я тут, Лёха.

— Сам не вылезеш?

— Няма за што ўхапіцца. Тут мокра, вада. Дай руку.

— Пачакай.

Ён знікае і праз колькі часу з'яўляецца зноў, скідае мне ў яму канец доўгай жардзіны. Я хапаюся за жардзіну, Лёха падцягвае яе да сябе, але ногі коўзаюцца на крутым адхоне, і я пузам пляскаюся ў гразь. Былі мокрыя ногі, а цяпер мокры і брудны ўвесь. Мокрая і брудная жардзіна. Рукі па ёй слізгаюць. Лёха па жардзіне спускаецца ў яму. Ён загадвае аберуч ухапіцца за жардзіну і лезці на гару, а сам пасабляе, падтрымліваючы мяне адзаду, пхаючы ў спіну. І вось я ўжо наверсе, выкочваюся туды на каленях, бокам — абы выкаціцца. А як выкаціўся, Лёха крычыць, каб трымаў жардзіну, каб яна не круцілася, коўзкая, і па ёй з яміны выбіраецца сам.

Мы — не людзі, а камякі гразі. Куды ісці гэтакім? Брыдзём туды, дзе зусім цёмна. За нейкім пакгаузам ля лужыны пачынаем адмывацца.

Лёха падганяе, каб я ўсё рабіў хутка. Абяцае, што пазней мы памыемся ў рацэ, а цяпер — абы не пужаць людзей. І ўжо я зноў валакуся за Лёхам, не ведаючы, куды ён вядзе. Пытаюся раз, другі, трэці — маўчыць. Нарэшце мае пытанні яму надакучваюць, і ён, нервуючы, адбрэхваецца:

— Ідзём куды трэба. Я ведаю, куды ісці.

А я не сунімаюся:

— Чаго не кажаш — куды?

— На Жэчу ідзём. Гэта чыгуначная станцыя, як Унеча. Да яе трэба доўга ісці, але там фарміруюцца паязды на ўсход.

— Я не пайду, Лёха. Я тут буду шукаць тату і маму.

— Яны ўжо на станцыі Жэча. Чаму на бальшаку, як ішлі, не было бежанцаў? А таму, што прамым ходам ішлі на Жэчу. Яны раней, як мы, дазналіся, што Унечу бамбіў немец, што паязды ідуць з Жэчы, і з бальшака зварочвалі. Каму патрэбна цяпер Унеча?

Лёха пераконвае: трэба ісці на Жэчу. Але як ісці, калі ў лапцях вада, усё мокрае? І ўжо ноч. Усяго калоціць ад холаду, голаду, страху. Мы пляцёмся праз Унечу брукаванай дарогай, мінаем цёмныя, без аніводнага агеньчыка, хаты, пераходзім мост цераз рэчку, не зводзім вачэй [redacted] неба, па якім шныраюць промні пражэктараў. Пачынаюцца высозныя ліпы. Ці то лес, ці то парк. Недзе б заначаваць? Блішчыць у цемені вада — рэчка. Толькі яна бліснула, як да нас падышлі два чырвонаармейцы:

— Куды ідзяце, пацаны?

— На Жэчу.

— Ноччу? Дня з вас мала? Ану за намі,— кажа адзін з тых двух.

Нас заводзяць у доўгі і нізкі, нібы хлеў, цагляны дом, у нейкі пакойчык-катух. Дровы гараць у жалезнай грубцы, ля агню сядзіць чырвонаармеец, курыць, пускаючы ў грубку дым, а за грубкай стол, за ім на лаўцы сядзяць яшчэ тры чырвонаармейцы, бразгочуць лыжкамі ў кацялках, чвякаюць.

— Анціпаў, займіся! — кажа адзін з тых двух, што вялі нас [redacted] Лёхам, праз адчыненыя дзверы.— Чаго яны тут аказаліся, у распалажэнні часці? — Дзверы за нашымі спінамі зачыняюцца.

Допыт — не адразу. Спачатку той, што курыць, вусаты, нічога не кажучы, разглядае нас, загадвае разуцца. Разуваюся я адзін — Лёха босы. Мне загадвае скінуць куфайку, нам абодвум — яшчэ і штаны. Скінуць штаны цяжэй, як лапці, куфайку. Мы з Лёхам стаім, не варушымся, але вусаты з цыгаркаю глядзіць жорстка, як на ворагаў, камандуе: «Хутка!», і мы пачынаем скідаць. Я застаюся ў кашульцы і ў трусіках, а Лёха без трусоў, у доўгім, да самых каленяў, пінжаку.

Вусаты гукае чырвонаармейца, і той падбірае наш бруд з падлогі, выносіць за дзверы. Гэта самае жахлівае: куды цяпер без штаноў? Але ёсць у іх літасць: нас садзяць за стол, даюць лыжкі і салдацкія кацялкі з кашай. Пакуль ядзім, чырвонаармеец прыносіць нашы памытыя шмоткі, развешвае ля гарачай грубкі на жалезную трубу, нават лапці мае на аборах падвешвае. Яны таксама чыстыя, памытыя. Калі з'ядаем усю кашу, вусаты з цыгаркай пачынае допыт:

— Дык чаго бадзяецеся па начах? Шпіёны ці звычайныя дурні? — кажа з усмешкай, не верачы сам, мабыць, у тое, што кажа.— Дзе вашы бацькі?

— Мы бежанцы,— кажа Лёха.

— Дык вось і дабегаліся. Без штаноў седзіце. Што з вамі рабіць? Здаць пад стражу? Хай разбіраюцца? Можа, шпіёны?

І тады Лёха пачынае выкручвацца:

— Мы ішлі на Жэчу. Там наш дзіцячы дом. А мы адсталі, наганяем. Вы нас, дзядзька, адпусціце, а то мы не паспеем на поезд. Там нас чакаюць.

Вусаты распытвае пра дарогу, якой мы ішлі, пра дзіцячы дом, дзе той наш дом знаходзіўся, як мы адсталі, чаму ў нас вопратка, якой у дзіцячых дамах не выдаюць, лапці ды куфайка. Я маўчу, не ведаючы, што казаць. Але мне і не трэба казаць. Лёха таўчэ пад бок локцем, каб маўчаў. На ўсе пытанні адказвае ён. Сячэ, як з кулямёта. Можа, і праўду кажа, але і брэша. Праўда, што ён быў да вайны ў дзіцячым доме. Тут яго не заблытаеш. Але астатняе — брахня. Гэта ведаю я, чырвонаармеец — не ведае. І калі допыт канчаецца, вусаты паказвае на запечак, дзе і сена, і нейкая коўдра. Што рабіць? Штаноў няма — трэба лезці пад коўдру.

Сярод ночы вусаты нас будзіць. У пакоі цёмна. Грубка гарыць, і ад яе не толькі горача, але і светлавата. Вусаты кідае перад намі ўсю нашу вопратку. Мы разбіраем, кожны сваё, апранаемся, і ён выводзіць нас з будыніны.

Вусаты ідзе ўперадзе, мы з Лёхам — следам. Куды ён вядзе? Цяпер, на волі, нагам у лапцях суха, штаны сухія і цёплыя, можна рвануць на ўсе чатыры бакі, куды хочаш, але бегчы няма ахвоты. Вусаты пасля ночы, як накарміў, вымыў і высушыў нашу вопратку, даў выспацца, не страшны. Дзе б мы без яго начавалі? Вядзе — хай вядзе. Кепска, мабыць, не будзе.

Мы падыходзім да грузавіка. У ім сядзяць людзі. З кузава чуваць галасы. Апаноўвае новы страх: куды павязуць?

Лёха нахіляецца да мяне і шэпча:

— Бяжым, пакуль не позна.

Я адчуваю, што, калі Лёха зараз шыбане ў яшчэ начную цемень, ніхто яго не нагоніць, і я тут застануся адзін. У лапцях не ўцяку, за Лёхам не ўганюся. І куды яны мяне аднаго павязуць? Але вусаты, як адчуваючы, што Лёха вось-вось збяжыць, падхоплівае яго пад пахі, падымае, як якую пярыну, над галавою і кідае ў кузаў. Следам за Лёхам ён падымае і кідае ў кузаў мяне. І крычыць шафёру:

— Газуй, Яфрэмаў!.. У Жэчы на станцыі пацаноў маіх скінеш!

Машына выязджае на брук і, уключыўшы святло фар, падскокваючы на ямках, ляціць, на два бакі раскідаючы цемень ночы. Той страх, што быў, знікае, замест яго з'яўляецца радасць, што на ваеннай машыне едзем на станцыю Жэча, налупіўшыся салдацкай кашы, паспаўшы ў цяпле, апрануўшы чыстыя цёплыя штаны. Ля кабіны пакалыхваюцца, дрэмлючы, тры чырвонаармейцы з вінтоўкамі і сярод іх — дзве маладыя жанчыны. Яны маўчаць, бо яшчэ цёмна, усім ахвота спаць. У кузаве ляжыць вялізны брызент, стаяць цяжкія жалезныя скрыні, бочкі. Мы з Лёхам зарываемся паміж скрыняў у брызент, ужо не думаючы, каго і чаго нам баяцца. Усё ясна — мы едзем на Жэчу. Дрэмлючы ў брызенце, адчуваем нечаканую цеплыню да вусатага чырвонаармейца. І я пытаюся ў Лёхі:

— А чаму ты хацеў бегчы?

Лёху няёмка, што ён там, ля машыны, быў надумаў такое, і цяпер адказвае неахвотна:

— Ды... так сабе.— Ён не любіць ад мяне таіцца, ведае, што мне можна ўсё сказаць: — Ты, Пістон, яшчэ на аркан не трапляў? А я трапляў неаднойчы.

— На які аркан? — не разумею я.

— А на такі. Падманяць, зловяць, і загрымеў ты, вольны чалавек, у размеркавальнік, дзе такіх, як мы з табою, тысячы збіраюць. І там ужо волі няма. Адтуль цябе — у дзетдом, як малога, а мяне — у фэзэушнікі. Як мы ў яме сядзелі — помніш? Як тыя, мужык і баба, нас шукалі? Вылоўліваюць гэтакіх, як мы.

— А кепска, як вылавяць? У дзетдоме кепска?

— Як каму. Мне кепска. Я два разы ўцякаў.

— А там не кормяць?

— Кормяць, Пістон. І апранаюць. І спаць пакладуць. І казку на ноч раскажуць. Але там няма волі. Мне там цесна. Краіна ў нас вялікая, дарог шмат, на дарогах жыць можна.

Я не ўсё разумею. Я не стараюся ўсё зразумець. Мне проста хочацца, каб ён мне што-небудзь расказваў, каб не маўчаў. Калі расказвае, я адчуваю, што ён да мяне добры, што не кіне мяне, не збяжыць. Тады я не адзін. Але мне вельмі хочацца ведаць, чаму ён, Лёха, гэтакі добры, чаму не хоча мяне кідаць, чаму да мяне прывязаўся, як я да яго? І я пытаюся пра гэта ў Лёхі. Пытаюся нясмела, як пра што-небудзь недазволенае, не спадзеючыся, што адкажа. Але і на гэтае пытанне ён адказвае:

— Ты, Пістон, купіў мяне яблыкам. Бачу — не жмод, як пахан. Не люблю жмодаў. А яшчэ ты мне быў патрэбны ў адной рабоце.

— А якая ў цябе, Лёха, работа?

— Доўгая песня. Спі.

Лёха ўсцягвае на мяне тоўсты цяжкі брызент, нейкі вузляк ці мех падсоўвае мне пад галаву, абдымае адной рукой, прытульвае да сябе, каб я ад яго нікуды не дзеўся, і я замаўкаю. Але як заснуць, калі дарога дробна калоціць машыну, а ў ёй — і нас з Лёхам? Я сплю толькі адным вокам, якому цёмна пад брызентам, а другім вокам гляджу перад сабою і бачу кузаў машыны, што падгопвае разам з намі, абдзёрты краёчак кузава, за ім і над ім — неба, не такое цёмнае, як было раней, калі садзіліся ў машыну. Лес імчыць за бортам машыны то набліжаючыся да нас, то аддаляючыся. Ля кабіны раней гаманілі і рагаталі мужчыны і жанчыны, але ўжо замоўклі. Таксама, відаць, паснулі.

Як спаць, калі ўсяго калоціць у кузаве? Я не магу заснуць. А Лёха? Няўжо спіць? Калі спіць, дык хай сабе, не трэба будзіць. А калі не спіць?

— Лёха? — шапчу я, каб ён пачуў, калі не спіць, але і так, каб не прачнуўся ад майго голасу, калі спіць.

І ён адгукаецца:

— Што табе, Пістон?

— Ды... нічога. Праверыў, ці спіш.

Памаўчаўшы, Лёха бліжэй прытульвае мяне, кажа:

— Якая ў мяне работа? Працуеш і не ведаеш, ці ты заўтра будзеш пан панам, ці сядзеш у жалезную клетку. Дабром і грашыма абсыплешся, ці апошнія штаны з цябе злупяць і яшчэ наб'юць морду.

Да мяне не даходзіць:

— За што — морду?

— А за работу, Пістон.

— Якая ж у цябе работа, што гэтак плоцяць?

— Я мог са сваім дзетдомам эвакуіравацца з Бабруйска. А пахан на маёй дарозе стаў. У яго думка сесці на «маліну». А немец гоніць, не дае прыпыніцца. Ен мядзведзь — хіцёр-зміцёр па сейфах. А ў сейфах што? Грошы. Аброс шчыпачамі — кішэньшчыкамі. Пасля, кажа, як за чыгунку зачэпіцца, будзе перавучваць на майданшчыкаў — барыг вагонных. А на «маліну» выйдуць — скакарамі пойдуць кватэры чысціць. Пахан сваю армію збірае, ідучы на ўсход.

Я не ўсё разумею, што кажа Лёха, але пра галоўнае здагадваюся, і гэта, пачутае, мяне страшэнна бянтэжыць:

— Дык ты, Лёха, злодзей?

Лёха замаўкае, усё роўна як спахапіўшыся, што не пра тое пачаў расказваць, і ўжо адкручвае назад:

— Не бойся мяне, Пістон. Мы з табою сябры. Мы не зладзеі — чыстыя. Дарогі ў нас ■ паханам розныя. Ен хацеў мяне ў сваю веру пастрыгчы. Але яму не ўдалося. Ну, спі.

Лёха яшчэ мацней абдымае мяне, прыціскае да сябе, каб абодвум было цяплей. Машына імчыць, не спыняючыся. Зоркі ў небе пачынаюць гаснуць, блякне поўня, неба сівее, сосны ды елкі, якія бягуць нам насустрач, ужо не чорныя, як былі, ужо шэрыя, ужо на іх відаць ствалы, галіны, пушыстыя грывы. Блізка раніца. Значыць, блізка Жэча. Але яшчэ ў кузаве спяць. Маўчаць — значыць спяць. І тыя людзі, што сядзяць ля кабіны, усцягнуўшы на галовы ад халоднага стрэчнага ветру брызент, і Лёха. Яго рука на мне як нежывая. Можа, падумаў, што я спалохаўся, пачуўшы, што ён злодзей, і абняў мяне, засынаючы, каб я не баяўся з ім ехаць? А я ні кропелькі не баюся. Злодзей дык злодзей. Я ведаю, што Лёха добры чалавек. Мой сябра.

Але я памыляюся — Лёха не спіць. Ен думае і таму маўчыць. Пра тое раптам пытаецца, пра што думае:

— Калі б я не быў злодзеем, Пістон, дык мы з табой зараз, можа, не ехалі б. Я чаму ў царкве апынуўся? Хацеў узяць сейф. Ты яго не бачыў? А я бачыў. У бакоўцы стаяў, у пакойчыку. Туды заходзяць толькі поп ды казначэй. Пасля службы збіраюцца і лічаць грошы. А якраз у той дзень дзяцей хрысцілі. За кожнае дзіця — грошы. Бачыў, колькі ў мяне ключоў? Гэта ўсё ад сейфаў. Трэба падабраць — і сейф твой. А ключы я ў пахана стырыў. Калі б ён тады дазнаўся, забіў бы мяне. А цяпер ён нас не знойдзе. Краіна вялікая, а чалавек маленькі. І дарог шмат.

— А навошта табе грошы, Лёха? За грошы нічога не купіш.

Я ўспомніў, як мама казала бацьку, пахадзіўшы з грашыма па вёсцы і не купіўшы нічога.

— Гэта тут, можа, не купіш,— адказвае Лёха.— Тут заўтра будзе немец, грошы будуць нямецкія. А там, куды мы едзем, немцам не пахне. Грошы там былі і будуць савецкія. Там жыццё — грошы. А грошы — жыццё. З імі не прападзеш.

Я зноў думаю пра ноч у царкве. Пра начных птушак — кажаноў. Чую, як жудасна яны крычаць. Я і тады думаў пра іх. А Лёха думаў пра сейф. Які ён, той сейф з грашамі? Я ніколі не бачыў сейфа.

— А чаму ты, Лёха, адмовіўся браць сейф? Ці спужаўся?

— Я нічога не баюся. Калі надумаў зрабіць, дык зраблю. А сейф не ўзяў, што поп, як адыходзіў, зачыніў яшчэ і дзверы ў бакоўку. Дзверы цяжкія, там ключ трэба іншы, а іншага няма. У мяне ўсе ад сейфаў.

Я цяжка ўздыхаю. Ці то шкадую, што Лёха не ўзяў сейф, ці то проста спачуваю.

Цяжка ўздыхае і Лёха:

— А то б мы з табой, Пістон, былі б цяпер багатымі людзьмі. У царкве грошай многа. За тыя грошы мы б маглі купіць што хочаш. Яду, штаны, боты.

— А каня?

— І каня.

— Я хацеў бы, Лёха, купіць танк.

Машына рэзка тармозіць, ажно мы абодва ляцім галовамі ў борт. Але нам няма калі ні стагнаць, ні рагатаць, бо, як толькі машына спыняецца, на падножку з кабіны выскаквае шафёр і крычыць у кузаў:

— Гэй, пацаны! Ці жывыя? Дзе вас выкінуць?..

Мы выблытваемся з брызенту, азіраемся: машына стаіць на вуліцы — з усіх бакоў малыя і большыя дамкі, драўляныя і цагляныя, дрэвы, платы, а людзей няма.

— Станцыя Жэча? — танклява, не сваім голасам, як певень са сну, ускрыквае Лёха.

— А вам на станцыю? Дык едзем далей.

— Не!.. Стой! — крычыць Лёха.— Нам тут трэба!

— Ну дык выкульвайцеся!

Лёха хапае мяне пад пахі:

— Лезь, Пістон. Нагу — за борт.

Ён раней за мяне саскоквае на зямлю і ўжо адтуль, з зямлі, пасабляе спаўзці з кузава. Машына едзе далей, а мы застаёмся на беразе вялізнай лужыны.

— А чаму, Лёха, мы не паехалі на станцыю?

Маё пытанне — ад трывогі, якая была спачатку маленькая, а цяпер большае, бо патрэбна станцыя Жэча, толькі станцыя, дзе людзі і паязды, дзе бежанцы, дзе мяне павінны чакаць мама і тата, Люба і Лёнік, усе нашы. Можа, станцыя блізка?

— Гэтак трэба,— кажа Лёха.— Нам нельга адразу на станцыю. Там менты лахаюць. Там нас хапануць. А мы падыдзем да станцыі з другога боку. Каб нас ніхто не ўбачыў. Нам не станцыя трэба, а поезд. Ён павязе нас на ўсход.

Мая трывога мацнее:

— На станцыі мяне чакаюць мама і тата.

— Дзівак ты, Пістон. Пакуль знойдзеш тату ды маму, цябе знойдзе міліцыя. І тады ты не хутка знойдзеш тату і маму. Спачатку загрыміш у дзіцячы размеркавальнік, потым у дзетдом. Не бойся. На станцыі мы будзем. Але нам не трэба міліцыя.

— А чаму яны нас павінны хапаць? За што? Мы ж, Лёха, не немцы? Мы свае?

— Нас схопяць раней, як немца. Немец пераапранецца і... будзь здароў. А нас з табою як ні апрані — па мордах відаць. Беспрытульнікі. Мяне слухай. Я ведаю.

А каго мне яшчэ слухаць, як не Лёху?

Станцыя, яе будынкі, за рэйкамі, паяздамі, вагонамі, а мы зусім на іншым баку ад рэек, вагонаў. Там, дзе станцыйныя будынкі, поўна людзей. Яшчэ зусім рана, золак, а людзі ўжо таўкуцца, бегаюць, цягаюць клункі, лямантуюць, усё роўна як спазніліся на цягнік ці вось-вось цягнік падыдзе і яны спяшаюцца адзін паперадзе

другога, каб на яго, той цягнік, сесці. А тут, дзе мы, нікога няма. Тут і будынкаў няма. Стаяць доўгія павеці, у вялізных кучах ляжыць іржавае жалеззе, звалка, валяецца цэгла, усё паперакапана, як там, дзе ўначы ўваліліся ў яміну, на станцыі Унеча. Затое тут нас ніхто не бачыць. А добра гэта ці дрэнна? Добра, што нас не знойдзе ніякая чырвоная шапка. Але і дрэнна, бо тут мяне не знойдуць тата і мама, і я іх таксама тут не знайду. Лёха разумее мяне, маўчыць, думаючы, што рабіць, чым пасобіць. І прыдумляе:

— Ты, Пістон, застанешся тут адзін. У гэтым жалеззі цябе ніхто не знойдзе. Сядзі і чакай мяне. А я прабяруся на той бок, на станцыю, пашукаю тваіх бацькоў.

Лёху я чакаю доўга. Ён павінен знайсці тату і маму. Я расказаў, якія яны — Лёха пазнае. Але чаму ён гэтак доўга шукае? Я вылажу з жалеззя, падбіраюся пад самыя чыгуначныя пуці, кладуся, каб мяне здалёк не заўважылі, на чорны, прапахлы мазутам і вугалем, калючы шчэбень, якім абсыпаны рэйкі, і ўглядаюся, што там, наперадзе, за рэйкамі. Там шмат людзей, але ніводнага твару я не бачу, не магу разгледзець — далёка. Сярод людзей шукаю нашу каляску, але і каляскі не бачу. Шукаю тату па яго вялікай белай галаве, па капелюшы, але гэтакіх, як тата, высокіх і белагаловых, у капелюшах, там хапае. Каб ведаў, што ён і мама там, дык усё кінуў бы, шыбануў бы праз рэйкі. А раптам іх там няма, раптам мяне зловіць міліцыя? Што тады рабіць без Лёхі? Гэта стрымлівае.

Свішча і трубіць паравоз, аж усё скаланаецца ўсярэдзіне. Я тулюся да зямлі, углядаюся ў той бок, дзе паравоз. Ён сунецца на мяне, але, не даехаўшы, зварочвае бліжэй да станцыі, замаруджвае хуткасць, каб стаць. Не становіцца — праходзіць міма, як раздумаў спыняцца. Насупраць станцыі таварныя вагоны, счэпленыя ў адну нітку, але з імі няма паравоза — нікуды, значыць, не паедуць. У другім баку стаяць зялёныя пасажырскія вагоны, там і паравоз, але няма людзей, і калі няма вакол вагонаў людзей, значыць, яны таксама не паедуць. А якія ж паедуць? Я баюся, што зараз падкоціць які-небудзь цягнік, забярэ людзей, з імі разам забярэ маму і тату, Любу і Лёніка, цётку і дзядзьку, Лёху — і памчыць са станцыі Жэча на ўсход, а я застануся. Гэты страх ува мне расце,

запаўняе ўсяго, падымае з зямлі, гоніць на рэйкі, і я, забыўшы на тое, што рабіць гэта строга забараніў Лёха, бягу цераз рэйкі туды, дзе людзі. Спыняе прарэзлівы, аж усяго наскрозь працінае, свісток. Насустрач сунецца чорная гара з круглай мордай, якая свішча белай парай, сунецца і свішча, як раз'ятраная звяруга. Я спыняюся. Ногі не ідуць ні ўзад ні ўперад. Страх скоўвае мяне. А звяруга ўсё сунецца, і ўжо я чую злосны чалавечы голас. З акна паравоза тырчыць круглая чорная галава, чорны твар, на якім блішчаць белыя зубы. Чалавек крычыць, але я не магу зразумець, што ён ад мяне хоча,— не чую слоў. Толькі адчуваю, што чалавек вельмі злосны, як і яго паравоз, з якога злосць ажно прэ клубамі пары. Паравоз падкочвае да мяне, і мае ногі самі, не чакаючы каманды, адступаюць назад. Зачапіўшыся лапцямі за рэйку, я валюся за яе на цвёрдыя шпалы. Падхапіцца не хапае сілы, і я, поўны страху, паўзу ад паравоза па шпалах, перапаўзаю цераз рэйку і ўжо нічога не бачу, бо белая пара ад паравоза накрывае мяне ўсяго, мяне і ўвесь свет, разам з самім паравозам. Але я чую, як ён скрыгоча, спыняецца, цяжка дыхае ў звярыную глотку. Нехта хапае мяне за каўнер і валачэ праз рэйкі, нібы мех. Потым ставіць на ногі, трасе за каўнер, і я адкрываю вочы. Перада мною стаіць гэтакі, як Раман, хлапец. Адразу нават здаўся Раманам. Доўгі, хударлявы, у чорнай, блішчастай ад мазуту, куртцы і чорнай, з малаткамі замест кукарды, фуражцы. Пырскаючы мне ў твар слінаю, крычыць:

— Ну што, сруль, жыць абрыдла?

Голас віскlівы, моцны. Можа, таму здаецца моцным, што змаўкае паравоз, перастае пыхкаць параю і свістаць? Але ад гэтага голасу мне страшна, як ад той злосці, што перла з паравоза. Я маўчу.

— Вось гэтакі вашапруд майму бацьку ўчора лёг пад колы. Кішкі на рычагах прывёз.

— А ці кожны раз заўважыш пад коламі? — адказвае хтосьці іншы.

— Кідай ты яго. Не сёння, дык заўтра... Калі пад колы пацягнула, то ён іх знойдзе.

Востры чаравік з разгону дае мне ў зад, і я лячу цераз рэйкі тварам у пясок. Чую, як зноў зачуфыкаў, засвістаў, пасунуўся ад мяне паравоз. А я ляжу. Цяпер ужо страшна ўстаць і адкрыць вочы на свет. Ляжу, пакуль не падымае знаёмы голас:

— Ну што ты, Пістон? Што з табою? Ты чаму тут?

— Лёха?

Я цягнуся да яго, нібы да бацькі, рукамі, але ён сам абдымае мяне, прыціскае да сябе, і толькі цяпер, калі, здаецца, усе страхі, якія абваліліся на мяне, мінулі, я моцна і ўголас пачынаю плакаць. Лёха суцяшае і вядзе некуды цераз рэйкі. Я чапляюся за кожную рэйку, бо з-за слёз не бачу ніводнай, толькі чую, чапляючыся, што яны пад нагамі, але ён трымае мяне, каб я не паваліўся, і мы выходзім на роўненькую зямельку. Лёха выцірае мне вочы далонню і рукавом, і я заўважаю, што мы стаім у зялёным скверыку пад дрэвамі. Лёха дастае з-пад пінжака румяны пірог, разломвае напалам, заглядаючы ўсярэдзіну, адкуль тырчыць параная капуста, і палавіну пірага дае мне. Пірог у руках здаваўся вялізны, а знікае імгненна, і калі застаецца маленькі кавалачак, тады Лёха глядзіць мне ў вочы і пытаецца:

— Смачны, га?

І я забываю на ўсе свае беды:

— А дзе ты яго ўзяў?

Лёха не хоча казаць, дзе ён узяў пірог:

— Не прападзём, Пістон. Наш цягнік пойдзе ноччу. Людзей, бачыш, многа, але мы сядзем, калі ўсё будзеш рабіць так, як я скажу. Толькі не рабі дураты.

Загаварыўшы пра начны цягнік, Лёха вяртае мне думкі пра маму і тату, і я забываю пра сваю радасць ад смачнага і сытнага пірага:

— Я не паеду, Лёха.

— Ну, не пускай соплі. Тваіх бацькоў тут няма. Можа, яны паехалі далей, мы іх будзем наганяць. А яшчэ пашнырaем разам, як сцямнее. Ментаў не бачыў, але берагчыся трэба. Што з лапцем?

Я толькі цяпер заўважаю, што адзін лапаць у мяне зусім страшны, нібы яго сабака зубамі рваў, тырчыць чорная ануча.

— А я, Лёха, скіну лапці. Ты без лапцяў?

— Не скідай. У лапцях вёска ходзіць. А вёска па дарогах не шастае. У яе свой бераг і свая бульба. Вёску менты не ловяць. Зразумеў?

Мы вяртаемся да звалкі жалеззя, дзе Лёха мяне пакідаў, калі хадзіў на станцыю. Па рагу драўлянага пакгауза залазім пад страху і там, на дошках, залягаем, каб дачакацца вечара, калі сцямнее. Лёха

адразу аціхае, забывае пра мяне, маўчу і я, думаючы: можа, ён хоча спаць? Я ляжу на спіне, гляджу ў дах, шэрыя жэрдкі і дранку паміж імі, чую, як пада мною, у падстрэшку, пырхаюць вераб'і ці ластаўкі: падзяўбуць і паляцяць, зноў прыляцяць, падзяўбуць, пырхаючы,— зноў паляцяць. Слухаючы іх, я засынаю.

Калі ўжо добра сцямнела, мяне будзіць Лёха. Мы спускаемся з-пад страхі на зямлю, атрасаемся ад пылу. Як след не прачнуўшыся, я азіраюся і спачатку не магу даўмецца, дзе мы. Лёха хапае за руку і валачэ да чыгункі.

Людзей на станцыі болей, як было ўдзень. І болей на рэйках вагонаў. Людзей шмат ля доўгіх зялёных вагонаў, якія стаяць адзін ля аднаго, счэпленыя адзін з адным. Гэта пасажырскі цягнік. Яго тут не было, прыйшоў, можа, нядаўна. Людзі лезуць праз галовы, над галовамі, бліжэй да вагонаў, перакідаюць клункі, мяхі, чамаданы, скрыні. Не толькі ў дзверы, але і ў вокны. Лямант, крык, лаянка. Плача дзіця. Лёха падводзіць мяне да плота, загадвае, каб я яго тут чакаў, нікуды не адыходзіў, а сам бяжыць уздоўж цягніка і вельмі хутка знікае. Куды ён пабег?

Міма мяне праходзяць салдаты ў доўгіх шынялях, з вінтоўкамі. Яны — у той бок, куды пабег Лёха, і мне здаецца, што па яго слядах, яго шукаюць.

За плотам спыняецца падвода. Жанчына з двума малымі, якіх трымае за рукі, развітваецца са старым. Яна плача, а ён гладзіць яе па галаве, як малую, і нешта пляскае губамі, што — не пачуць. Цалуюцца.

Пацаны, большыя за мяне, такія, як Лёха, як Раман і Лёнік, збіраюцца побач са мною ля плота. Яны рагочуць, ірвуць адзін у аднаго хатулькі. Некаторыя ў чорных шынеліках, пад чорнымі фуражкамі. Я адсоўваюся ад іх падалей, але ўспамінаю, што Лёха загадаў стаяць тут, ля плота, і далей не іду.

Больш за ўсіх — жанчын і дзяцей. Ад іх і болей ляманту.

Недзе блізка свішча паравоз. Вагоны сморгаюцца, тузаюцца, палохаюць людзей, якія іх абляпілі, лямант мацнее, натоўп кідаецца да вагонаў.

З'яўляецца Лёха:

— Бяжым, Пістон! Наш цягнік!..

— А куды ён, Лёха? Куды ён нас павязе?

— Куды трэба. На Бранск.

Такога горада я не чуў. Мой горад — Ульянаўск. Там брат Міша. Туды едуць тата і мама. Там я іх знайду. Усё гэта я кажу Лёху. А ён, нічога не адказваючы, валачэ мяне ўздоўж вагонаў, і толькі ў канцы цягніка спыняемся. Не выпускаючы маю руку са сваёй, Лёха шыецца паміж людзей да вагона, сагнуўшыся, дае пад вагон нырца, а за ім — я. Тут цёмна, жалеззе з усіх бакоў, зверху ціснe да шпал, каменне, хоча прыдушыць, але затое няма людзей, таўкатнечы. Тут мы адны, і толькі тут Лёха пачынае гаварыць:

— Ты мне сваім Ульянаўскам галаву не дуры. Бранск блізка, праз яго ўсё роўна ехаць трэба. Паўзі за мною.

Лёха адно здаецца злосны. Ен да мяне добры. Я гэта ведаю. Мая дарога толькі з ім. Іншай няма.

За коламі спыняемся. Лёха дастае з кішэні пінжака акраец хлеба, разламвае напалам, і мы, седзячы адзін перад адным на каленях, утуліўшы ў плечы галовы, весела ядзім хлеб. Я не пытаюся, дзе ён яго ўзяў, ведаючы, што на гэтакія пытанні Лёха не адказвае. Дзе ўзяў — сакрэт. Пытаюся пра іншае:

— А як мы паедзем? У цябе ёсць білеты?

Лёха злуе:

— Дурны ты, Пістон. Якія цяпер білеты? Не бачыў, колькі людзей? Цяпер з білетамі і без білета не сядзеш.

— А як мы сядзем?

Праглынуўшы апошнюю скарынку, ён кажа:

— А вось твой ложак — бачыш? Скрыня. Сабачнікам называецца. Лезь на яе. Ну, хутчэй!

Я ляжу на вузкай жалезнай скрыні, якая ля самых колаў вагона. На ёй не павярнуцца. Шчыліна — лёг і ляжы, усё роўна як ты ўжо не чалавек, а нешта мёртвае — жалезная частка жалезнага вагона. Але я не паспяваю забыцца, што я чалавек, бо Лёха камандуе злезці з сабачніка.

— Цяпер сядзі і слухай, як закрычыць паравоз. Першы гудок — хутчэй лезь на сваё месца. Другі гудок — залезці ўжо не паспееш. Зразумеў? Кладзіся галавою назад. Гэта помні. Насустрач ляцяць пясок і каменне. У ногі — не бяда. Абы не ў вочы. Хавай галаву.

— А ты, Лёха?

— Мой сабачнік далей. Ну, я пайшоў да свайго. Ты

не бойся, Пістон. Я тут, блізка. Свісну — бяжы да мяне. Свісну два разы — лажыся, замры. Ну!

Другога гудка не было. Ці я праслухаў? Ледзь паспеў залезці на сабачнік, як колы пада мной ціхенька пакаціліся, і там, за коламі, за сцяною, якая адгароджвае ад усяго свету, увесь той лямант, што стаяў ля вагонаў, робіцца яшчэ мацнейшы, жахлівейшы, быццам людзі там адно аднаго і рэжуць, і душаць.

— Пусці мяне, сука! Дзіця ў тамбуры! Лё-нік! Дзе ты?!

Я ўвесь скаланаюся: Лёнік? Можа, крычыць дзядзька Ілья? Можа, там і тата, і мама?

— Ану, не прыце! Куды вы, ну — куды?

— Пад колы не пхайце! Ці падурнелі? Людзі-і!

— Ма-ма-а!.. Давай руку, ма-ма-а!

— Ды пусціце вы мяне! Не трымайце!

Галасы цішэюць, усе, нейкія шалёныя, з плачам, адплываюць далей і далей, але яшчэ доўга чуваць тыя і іншыя, такія самыя, жаночыя, мужчынскія і дзяціныя, і тады, калі там, за сцяною, сціхаюць, застаецца, як вынырнуўшы з лямантy, сухое тахканне колаў пад галавою ды рыпенне вагона. У гэтых гуках, якія робяцца гусцейшымі, узнікае лёгкі свіст, гул, яны то мацнеюць, то цішэюць, мацнеюць тады, калі мацнее вецер у закутку сабачніка, у твар плешча чорным пылам, сячэ пяском. Вецер ірве на мне вопратку, як злосны сабака. Свішча і гудзе. Ен задзірае ў мяне на спіне куфайку, гуляе ў калашынні, дабіраецца да касцей. Трэба павярнуцца, легчы на бок, каб схаваць ад ветру спіну, прытуліць яе да жалезных труб, што збоку, ад колаў. Я спрабую павярнуцца, але зрабіць гэта не ўдаецца. Паміж сабачнікам і падлогай вагона, якая вісіць над галавою, зусім мала месца. Нават галавы не прыўзняць. Ды ці лепей будзе ляжаць на баку? Лёха сказаў, што класціся трэба на жывот, плазам — значыць, ляжы. Лёха папаездзіў на гэтых сабачніках — ведае. І я ляжу, не варушуся. Адно падсунуў руку і падабраў пад сябе крыссё ватоўкі, нацягнуўшы яго, каб вецер пад ватоўкаю не гуляў. Тут, на сабачніку, вецер — мой першы вораг. А там, на бальшаках і лясных сцежках, яго я вельмі любіў, заўсёды чакаў. Ен асвяжаў, падганяў, часта пасабляў ісці. Тут іншы вецер. Аж валасы на мне рве. Чую, як стынуць рукі, вушы.

Ці можна заснуць на сабачніку? Сон тут іншы, як звычайны сон. Ён авалодвае, калі ад калатнечы на рэйках, ад бясконцага тахкання колаў ля галавы, ад жудаснага рыпення вагона, усіх яго жалезак і дзеравяшак, ад шалёнага пад вагонам ветру ты робішся кволы, цябе пакідаюць не толькі сілы, але і думкі, ты ляжыш з пустой галавою, з пустым целам, нібы дошчына ці ануча. Сон на сабачніку прыходзіць, мабыць, так, як прыходзіць смерць. У целе паступова ўсё заміра, ты губляеш над сабою ўладу, страціўшы сілы, табе ўсё роўна, што [redacted] табой робіцца, ты — як тая шпала ці рэйка. Спіш быццам толькі таму, што яшчэ малы і не можаш памерці.

Калі ж гэта не зусім так, калі на сабачніку ты не апошняя ахвяра дарог, дык гэта толькі, відаць, таму, што і на сабачніку галава не канчаткова пусцее, што ў ёй усё ж плешчацца кволая, але несмяротная думка: колы не вечна круцяцца, як-небудзь спыняцца, можа — вось-вось. І ты чакаеш. Ты здольны чакаць. А гэта азначае, што ты жывеш.

Санлівасць знікае, і ты прачынаешся ў тую хвіліну, калі адчуеш, як цягнік запавольвае хаду. Колы пад галавою пачынаюць тахкаць радзей, вецер пад вагонам цішэе, сунімаецца, ужо не рве на табе вопратку і валасы, не сячэ пяском у твар, ты нават асмельваешся расплюшчыць вочы, і ўжо бачыш перад сабою, звесіўшы галаву з сабачніка: як шэрае палатно дарогі, роўна шэрае ад яшчэ хуткай язды, ад мільгацення ўсяго таго, што на ёй ляжыць, пачынае мяняць свой колер, як дарога перад вачыма становіцца рабою, як на ёй пачынаюць мільгацець плямы, цёмныя і светлыя, потым дарога ператвараецца ў драбіны, якія бягуць і бягуць, мільгацяць лескі і ты здагадваешся, што гэтыя лескі — шпалы. Ты іх яшчэ не можаш разгледзець, яны мільгацяць хутка, і ў нейкі момант радасць, што цягнік вось-вось спыніцца, пачынае знікаць, з'яўляецца думка, што ён, можа, на нейкі час запаволіў бег, на нейкім кавалку дарогі, на пераездзе, і зараз зноў пачне набіраць хуткасць. Жахлівая думка. Бо ў тую хвіліну, калі ты адчуў, што поезд замаруджвае хуткасць, ідзе на прыпынак, да цябе вярнулася адчуванне стомы, болю ў баках, спіне, карку, ты адчуваеш, што дарога забрала ўсе сілы, што сіл і цярплівасці не засталося ні каліўца, уся надзея на прыпынак, на тую хвіліну, калі ты спаў-

зеш ці проста зваліішся са сваёй скрыні, з сабачніка, і тады, зваліўшыся на зямлю, хоць на шпалы і рэйкі, застанешся жыць.

Цягнік спыняецца. Цяпер я не спяшаюся пакідаць сабачнік. Мною камандуе новы інстынкт — слухаю, што адбываецца навокал. Чую свіст. Два разы — пад вагонам. Гэта — Лёха. Два разы: ляжы — замры. Такая Лёхава каманда. І я ляжу. Чакаю: што будзе далей? Зноў — свіст. Іншы. Свішча паравоз. І — гудок. Вагон сморгаецца і пачынае каціцца. Але ўжо не наперад — назад. Ён коціцца ціха, не разганяючыся. Потым зноў спыняецца. Чуваць чыесьці крокі за коламі. Па шапаткім шчэбені. Нешта ў вагоне лязгае. Крокаў ля вагона шмат, з імі далятае людская размова. Нехта рагоча, нехта некуды бяжыць, бразгочуць вёдры. І раптам усе галасы заглушае найдаражэйшы мне Лёхаў голас:

— Ну, мякка ляжыш? Вылазь!

Я спускаю ногі, абсоўваюся назад жыватом па скрыні, прыўзнімаю ледзь-ледзь галаву і моцна выцінаюся аб нейкую жалязяку. Аж у вачах бліснула, памутнела. Мяне адзаду хапае Лёха, пасабляе злезці з сабачніка.

Там, дзе спыніўся цягнік,— ні станцыі, ні раз'езда, ні нават якой-небудзь хаты. Лес з аднаго боку ад чыгункі і лес з другога боку. Па тым, як людзі сыплюць з вагонаў, відаць, што цягнік будзе стаяць. Усе сыплюць на адзін бок пуці, а мы з Лёхам выпаўзаем з-пад вагона на другі бок. Скаціўшыся з насыпу, углядаючыся адно аднаму ў твар, аж кладземся ад рогату. Хіба перада мною Лёха? Усю дарогу быў бялявы, нават калі ўвэдзгаўся ў гразь у яміне на станцыі Унеча — быў падобны на самога сябе. Цяпер на сябе не падобны. Страшэнна чорны, адны зубы ды вочы белыя, твар — нібы вугаль, рукі чарнейшыя за вопратку, ногі нібы з багны. І гэтакі я — мяне ён таксама не пазнае. Мацаем адзін аднаго, самі сябе і дзівімся, якая ліпкая на нас чарната — рукі ліпнуць да рук, да вопраткі, да твараў. Нарагатаўшыся, бяжым да лесу, дзе ў ручаіне пялешчуцца пасажыры з цягніка. Ужо іх і на нашым баку поўна.

Бруд учапіўся — не адмыцца. Трохі абцёршы адзін аднаго мокрай травою, скінуўшы вопратку і абабіўшы яе аб зямлю, думаем, што рабіць далей.

— Ты, Пістон, як паравоз свісне, бяжы да свайго сабачніка. А я палезу на вагон. Там людзі таксама едуць.

Людзі там і цяпер, калі цягнік стаіць, з вагонаў не злезлі, там сядзяць і ходзяць, нікога не баючыся, бо туды ні праваднік, ні мент не залезе, там яны гаспадары. Але я баюся: як на вагоне паедзе Лёха і як я на сабачніку паеду адзін, калі Лёхі са мною пад вагонам не будзе? І я прашуся:

— Вазьмі мяне з сабою?

— Не, Пістон. Ты малы, каб гэтак высока ехаць. Туды яшчэ трэба ўмець залезці. Там страшна.

— Мне страшна ехаць без цябе, Лёха.

— Але цяпер ты паедзеш адзін. Мне трэба на вагоны. Я туды ў разведку. Ты есці хочаш?

Я ведаю, пра якую разведку кажа Лёха. Ён пойдзе шукаць чаго-небудзь паесці. Дзе і як будзе шукаць? Пра гэта не кажа. А есці я хачу. Як хоча і ён. Есці неабавязкова, можна цярпець, а як мне без Лёхі ехаць на сабачніку? Няўжо мяне пакіне? Пакуль маўчу, крыўда на яго ўсё большае, яна ўжо вось-вось пачне лезці з мяне праз слёзы. Лёха гэта заўважае — абдымае за плечы:

— Ты, Пістон, не злуй. Я ж цябе не кідаю. Я хачу зрабіць усё як лепей. Табе і мне. Ці мы з табой доўга праедзем на сабачніках? Трэба шукаць іншае месца. Можа, дзе ў вагоне. А хто павінен шукаць, акрамя мяне? Больш няма каму пра цябе думаць. І без яды доўга не працягнеш. На ногі нешта трэба. Табе і мне. Ночы халодныя. Нашы дарогі босых не любяць. І на галовы нешта трэба. Дзень на сабачніках праедзеш — булавешкі адмерзнуць. А дзе гэта ўсё ўзяць? Трэба думаць. Куды мы едзем? У далёкую дарогу пустымі ды голымі не выпраўляюцца.

— А доўга яшчэ нам ехаць?

— На сабачніку — адзін прагон. Да наступнага прыпынку. Я там што-небудзь прыдумаю.

— А можа, паедзем іншым поездам? Га, Лёха?

— Цяпер на любы сесці цяжка. Паяздоў мала, людзей многа. Ты пацярпі. Ты ж мужык. Я што-небудзь прыдумаю.

Міма праходзіць сустрэчны цягнік. Ён доўгі, шэры, брудны. Вагоны малыя і без вокан, у кожным па дзве маленькія, пад дахам, форткі. Але затое ў іх шырозныя,

як вароты, дзверы. Праз іх, адчыненыя, у вагончыках відаць чырвонаармейцы. Яны сядзяць на нарах, ядуць з кацялкоў, кураць цыгаркі, гамоняць, а то едуць разам з коньмі. Паміж вагончыкаў мільгацяць адкрытыя пляцоўкі на колах, платформы, на якіх стаяць ці машыны, ці гарматы, ці танкі, што — не пазнаць, бо пад зялёным брызентам, дзе-нідзе замаскіраваныя залёнымі галінамі. Там-сям відаць то гусеніцы ад танкаў, то ствалы гармат. Едуць у той бок, адкуль едзем мы. Там — фронт.

Сустрэчны цягнік памчаў міма ўдалеч, драбнеючы, і тады, як ужо знік, свішча наш паравоз, збіраючы сваіх пасажыраў.

І зноў тая самая калатнеча на сабачніку. Цяпер ужо я на ім ляжу як на даўно знаёмым, адчуваючы, што ён хоць і няўтульны, але надзейны, абжыты. Я абдымаю яго рукамі з удзячнасцю, што ён вязе і нічога ад мяне не патрабуе. І хай зноў свішча вецер, хай мяце ў твар пясок — я ведаю, што зноў будзе прыпынак, прыбяжыць Лёха, далей я паеду з Лёхам на вагоне ці ў вагоне, а калі адтуль пагоняць, дык сабачнік заўсёды выратуе, у бядзе не пакіне.

Часам цягнік замаруджвае бег, і тады я чую, што мы праязджаем нейкія станцыі, раз'езды. Можа, маленькія, што не спыняемся? Ці хутка ўжо наша станцыя? Ці вялікая яна будзе? Можа, гэта будзе Бранск?

Зноў спыняемся абы-дзе — у полі. З аднаго боку ад чыгункі расце бульба, з другога — гарох. Адно поле шэрае, другое — зялёнае. Людзі з вагонаў сыплюць і на адзін бок, і на другі. З каструлямі, кошыкамі, вёдрамі бягуць у бульбу, але хапае і ў гаросе — ірвуць у шапкі, кішэні. Нам з Лёхам няма калі бегчы ні ў бульбу, ні ў гарох, няма калі падумаць пра свае пустыя шлункі. Мы стаім ля адхону, выскачыўшы з-пад вагона. Лёха сочыць за старым праваднікам, які ўсё роўна як прыклеіўся да парэнчы тамбура, але гаворыць са мною:

— А мы, Пістон, яшчэ ноччу праехалі Бранск. Праспаў ты вялікі горад на сваім сабачніку.

— Няўжо, Лёха? Як гэта праспаў? — я здзіўлены і разгублены, быццам здарылася самае неверагоднае.

— Не бядуй. Гарадоў наперадзе шмат.

Лёха так сказаў, быццам дарога перад намі без канца і ехаць невядома колькі, можа, вечнасць. Гэта жахліва, бо я ведаю, што чым далей еду, тым цяжэй

сустрэць тату і маму. Ужо Унечу праехалі, Бранск праехалі, а што далей?

— На абардаж! — раптам камандуе Лёха.

Схапіўшы мяне за руку, ён кідаецца да вагона, ускаквае на падножку, валачэ мяне за сабою. Падножка высокая, залезці цяжка, я зрываюся, моцна выцінаю калена, аж у вачах цямнее ад болю. Нехта падхоплівае мяне адзаду і падкідае ў тамбур. У тамбуры чыесьці клункі і дзве жанчыны, старая і маладая. Лёха таропка дастае з кішэні пінжака жменю ключоў, перабірае іх, знаходзіць той, што яму патрэбны, суне ў дзверы, якія вядуць з тамбура на пераходную пляцоўку. Жанчыны глядзяць на нас з жахам, як на бандытаў. Але мы на іх ужо не зважаем. Мы выскакваем на пляцоўку, нібы ў гармонік з рабрыстымі сценкамі, і Лёха тым самым ключом зачыняе дзверы. Я, здзіўлены, пытаюся, адкуль у яго ключ, ды Лёха мне не адказвае. Ён зрывае са сваёй галавы вялізную шапку, суе мне ў рукі і кажа:

— Глядзі, Пістон. І ўсё запамінай. Бачыш, я сляпы? — Ён закатвае вочы, яны робяцца белыя-белыя, адны бялкі. Крычаць, каб хто ўратаваў Лёху? Але я не паспяваю і рот раскрыць.— Мы з табой брацікі. Сіраты. З-пад Брэста. Бацьку і маці забілі немцы. Гэта — калі раптам хто спытае і трэба адказаць. Ты маўчы, не гавары ні з кім, але на ўсякі выпадак. Ты вязеш мяне, сляпога, да дзеда на Волгу, у твой Ульянаўск. Нам няма чаго есці. Мы сіраты. Трэба разжаласціць людзей. Ты вядзеш мяне па вагоне і трымаеш перад сабою маю шапку. А я буду спяваць, каб людзі плакалі і давалі нам у шапку. Ну, пайшлі. Ды смялей, Пістон! Стой. Ты чорны, як негр. Зноў? Ну, нічога. Гэтак лепей. Жыццё чорнае...

Лёха тым самым ключом адчыняе яшчэ адны дзверы, мы заходзім у тамбур наступнага вагона, з яго — у вагон.

— Ну, вядзі,— шэпча Лёха.

Я хапаю яго за рукаў, нібы ратуючыся, як перад безданню, у якую павінен праваліцца, ногі дрыжаць, першы крок зрабіць цяжка неверагодна, але першы крок робіць Лёха. Ён зрушвае мяне з месца, спыняецца, пхае мяне ўперад, і я, зразумеўшы, што трэба ісці ўперадзе, вяду яго за руку па вагоне, пад нейкім страхам, ужо невядома пад чыім прымусам, але не па сваёй ахвоце, раблю другі і трэці крокі. Яны, гэтыя

другі і трэці, таксама цяжкія, быццам на нагах пудовыя гіры, але далей мяне гоніць Лёхава песня:

Судьба-злодейка свою роль играет,
Ты от судьбы далеко не уйдешь,
Она тобой жестоко управляет,
Куда ведет — покорно ты идешь.
Там далеко деревня есть родная,
Там жил отец — не помню я его,
Но знаю то, что в муках, умирая,
Хотел обнять сыночка своего.

Гэтую песню Лёха спяваў, калі расказваў пра пахана. Казаў, што яе любіў пахан, што гэта казырная песня майданшчыкаў, якія ходзяць па паяздах, як зараз ідзём мы з Лёхам. Але чаму ў вагоне ціха? З-за ўсіх перагародак, з усіх купэ да нас выглядаюць людскія твары, але пуста і ціха ў шапцы. Можа, я не так, як трэба, яе трымаю? Можа, яе ніхто не бачыць? Я вышэй падымаю шапку, працягваю да людзей. Нехта штосьці кладзе. Што — не заўважаю, чую — лёгкае нешта. І раптам ■ глыбіні купэ голас, нібыта здалёку, з-за гары:

— Людзі аглухлі? Самі ў бядзе, а бяды чужой не чуюць? Сіроты галодныя, а кавалка ім шкода? Дажыліся, братцы! Як усіх нас не той самы немец на смерць гоніць?

Ад акна ■ лаўкі ўстае дзядзька. Ён працягвае доўгую руку да шапкі і кладзе ў яе кавалак сала. Мяне гэтакая дабрыня страшэнна здзіўляе, я спыняюся, гляджу яму ў твар, усё роўна як павінен нешта яму сказаць, але слоў не знаходжу. Лёха пхае мяне ўперад, а сам працягвае песню — яшчэ мацней, жаласлівей, ледзь не плачучы:

Чтоб нас кормить, работала мамаша,
Я ж потихоньку начал воровать.
— Ты будешь вор, такой, как был папаша,—
Шептала мне, роняя слезы, мать.

І тады, нібы прачнуўшыся, людзі цягнуцца рукамі да нас, у шапку сыплюцца яйкі, вараныя бульбіны, кавалкі хлеба, грошы. Здаецца, нам нічога не шкадуюць, а мы ідзём далей, і на кожным кроку штосьці даюць. І Лёха спявае ўсё грамчэй і ўсё мацней бярэ песняй за сэрца:

Как жить теперь? Мамашу не увижу.
Свою сестренку очень я люблю.
Быть может, что под яблынькой густою
Я уголочек для себя найду.

Песня скончылася — канчаецца вагон. Песні якраз на вагон хапіла. Усё ў Лёхі разлічана. Мы падыходзім да апошніх дзвярэй. Тры крокі — тамбур. І тут Лёха, які, вывернуўшы вочы, сапраўды нічога не бачыў, чапляецца нагою за клунак на падлозе, ляціць на людзей, што сядзяць унізе на лаўцы. Гэта б яшчэ нішто, ды галавою выцінаецца аб рог паліцы. Бедны Лёха. У яго на лбе адразу ўскаквае вялізная пунсовая гуля. Ад болю мацюгаецца, чаго я ад яго ні разу не чуў, і вочы ягоныя ў той жа міг становяцца на месца. Нехта крычыць:

— Глянь — вочы! Ды ён не сляпы! Вывернуў бельмы, каб пашкадавалі. Прыкінуўся сляпым!

Дзверы побач — мы выскакваем у тамбур, з тамбура — на зямлю.

Апошні вагон таварны, звычайны цялятнік. Ён зачынены на ўсе свае цяжкія запоры, але за ім тармазная пляцоўка і на яе можна таксама ўскочыць. Мы спыняемся. Ні словам не перакінуўшыся, думаем аднолькава: наша пляцовачка, давязе куды трэба. Праўда, яна завалена клункамі, над якімі стаяць людзі, але месца нам з Лёхам хопіць. Па Лёхавых вачах я здагадваюся, што ён прыкінуў у галаве, як і калі сесці. Цяпер яшчэ невядома, ці доўга будзе стаяць цягнік, і Лёха не хоча садзіцца — валачэ ў кусты.

Шапка поўненькая яды. Быццам галодныя ваўкі, мы накідваемся на яйкі, сала, хлеб, гуркі.

— Ну, Лёха! Цяпер мы галодныя ніколі не будзем. Праўда?

Але гэтай радасці Лёха не падтрымлівае:

— Табе спадабалася пабірацца?

Я адразу ўспамінаю, як мы ішлі паміж людзьмі па вагоне, як ногі не хацелі ісці, а пасля, у канцы вагона, пабеглі самі.

— Не, Лёха, я не хачу пабірацца.

І цяпер ён абдымае за плечы, як рабіў раней.

— Ты добры чалавек, Пістон. Лепш працаваць шчыпачом, паляваць за лапатнікамі, як хадзіць майданшчыкам.

— А што такое лапатнік, Лёха?

— Кашалёк, партманет. Разумееш? З грашамі. Ну, ты еш. Бяры сала з хлебам.

— Красці хіба лепей, Лёха?

— Трэба жраць. Ці я пайшоў бы па вагоне

пабірацца, калі б ты быў сыты? Мне цябе трэба накарміць. Чалавекам не галава камандуе, а пустая кішка. Трэба працаваць, каб кішка маўчала. Дарослыя мазалём зарабляюць. А ў нас на руках мазоль яшчэ не нарос. Як супакоіць кішку? Пабірацца не будзем. А працаваць будзем. Куды дзенешся? У мяне ёсць мара, Пістон. Выйсці на маліну. Але гэта ўжо недзе там, у Расіі.

— А што такое маліна, Лёха? Ягада?

— Салодзенькая, Пістон.

Лёха рагоча, аж коціцца па траве. Потым усхоплівaецца, расшпільвае пінжак, задзірае доўгую кашулю і з-пад штаноў выцягвае два галёшы. Яны чорныя, усярэдзіне чырвоныя — яшчэ новыя. І невялічкія. Ажно вушы загараюцца — здагадваюся, што галёшы на мае ногі.

Лёха камандуе скідаць лапці, і я з неверагоднай радасцю пачынаю разблытваць аборы.

Галёшыкі мне вялікаватыя, але я абгортваю ногі анучамі — узлезлі на ногі і не шлёпаюць, сядзяць зграбненька, аборкамі нават не трэба прывязваць. Я ўскокваю на ногі, танцую, а Лёха таксама рады, быццам галёшыкі на яго нагах.

— Дзе ты іх узяў, Лёха?

Ён усміхаецца і не кажа, дзе ўзяў. Разглядае мае лапці, прымярае на свае ногі.

— Дзе ўзяў, там іх ужо няма. Не бойся, не ўкраў. У нашай дзяржаве ўсё павінна быць па справядлівасці. А хто за справядлівасць ваюе, як не мы з табою? Сядзіць у вагоне чысценькі хлопчык. Тут і тата, тут і мама. Клункі, чамаданы — барахла навалам. А на нагах чаравічкі, а на чаравічках галёшыкі. Пытаюся: ці добрыя ў цябе, хлопчык, чаравічкі? Ён сам зняў галёшыкі, паказвае — новенькія. І што, пытаюся, без галёшыкаў табе горш, у адных чаравічках? Кажа, што лепш. Ну, кажу, як лепш, дык і бегай у чаравічках без галёшыкаў. Ён з лаўкі скокнуў і пабег па вагоне. А галёшыкі мне пакінуў. Справядліва гэта, Пістон? І хлопчыку добра ў чаравічках, і нам добра. Было добра аднаму, а стала добра двум. Ленін любіў справядлівасць. Ты гэта помні.

І Лёха зноў пачынае спяваць:

Я налётчыца,
Я наводчыца,
Я падручная ў паханоў,

Вочкі смелыя,
Грудзі белыя,
Ножкі стройныя —
Будзь здароў!..

Я слухаю Лёху разявіўшы рот ад захаплення. І тая песня, што ён спяваў у вагоне, усіх да слёз праймаючы, і гэтая бяруць за сэрца. Слухаў бы ўвесь дзень.

— Ты артыст, Лёха! — кажу я.

Лёха замаўкае, здымае з сябе пінжак, здымае доўгую чырвоную кашулю, адрывае падол, разрывае напалам, кашулю зноў на сябе апранае, ад спіны зусім кароткую, але калі апранае і пінжак, доўгі, на высокага чалавека пашыты, то не відаць, што кашуля кароткая. Тыя анучы, што адарваў ад кашулі, чырвоныя, уважліва аглядае, адну з іх кладзе на зямлю, ставіць на яе нагу і пачынае абгортваць нагу анучай. Абгарнуў адну, затым другую, усунуў правую ў лапаць, але другі лапаць зусім разваліўся. Лёха прысвіствае, аглядаючы яго, выцягвае з кішэні пінжака анучку з ключамі, паміж ключоў знаходзіць танюсенькую драцінку.

— Кажаш, што артыст? — глядзіць на мяне добрымі вясёлымі вачамі.— Артыстаў людзі не хочуць слухаць. Людзі галодныя, хлеба хочуць. А мяне як слухалі? На хлеб забыліся. Свае кавалкі пааддавалі. А чаму яны мяне слухалі. Таму, Пістон, што я не проста артыст. Я, можа, народны артыст. Як ты думаеш?

І я не магу не пагадзіцца:

— Народны, Лёха. Ты самы народны.

Мой сябра задаволена ўсміхаецца і пачынае зноў спяваць:

Я налётчыца,
Я наводчыца,
Я падручная ў паханоў...

— А ты, Лёха, пра каго спяваеш? — пытаюся я.

— Пра маруху, Пістон. І не я пра яе. Ты паслухай. Гэта яна, маруха, спявае маім голасам.

Я налётчыца,
Я наводчыца...

З Лёхам чым больш гаворыш, тым больш загадак:

— Хто такая маруха?

— Маруха жыве на маліне. Я пайду на маліну — будзе ў мяне маруха. У кожнага артыста павінна быць маруха. Мне пахан казаў. У яго была і маліна, і маруха ў Мінску. А цяпер ён паставіў стрэлку на Ташкент. Там

цёпла і хлебна. Там у яго сувязі. Мяне туды цягнуў. А я ад яго збег. У мяне будзе свая маліна. І свая маруха.

Лёха зашывае драцінай лапаць, але раптам кідае яго на зямлю і кружыцца, танцуючы, у адным лапці, танцуючы і спяваючы:

Вочкі смелыя,
Грудзі белыя...

Ён у гэтую хвіліну вельмі вясёлы і смешны. На адной назе лапаць, другая нага босая, доўгі, нібы паліто, чорны пінжак расхрыстаны, чырвоная кашуля пад ім кароткая, штаны зваліліся, пуза бліскае голае, белае, а сам вясёлы-вясёлы. Глядзіш на Лёху — мрэш ад рогату. Я качаюся па зямлі з дзікім стогнам, і раптам, глянуўшы у той бок, дзе стаіць наш цягнік, заміраю ў нейкім вельмі нечаканым і смешным, мабыць, выглядзе, стоячы на карачках, а вачэй не магу адвесці ад цягніка. Яшчэ Лёха спявае і скача, а я ўжо не бачу і не чую яго.

— Лёха! Гля... Гля...

Цяпер і Лёха бачыць, што наш цягнік скрануўся з месца і ціхенька плыве па рэйках ад нас.

— За мной, Пістон! На абардаж!

Лёха хапае мяне за каўнер, падымае з зямлі, і мы кідаемся на чыгуначную наспу. Уверсе наспа засыпана вострым каменнем, яно сыплецца з-пад ног уніз, ногі ссоўваюцца, я дзяруся на наспу на ўсіх чатырох, абдзіраю аб вострае каменне рукі, а Лёха ўжо там, наверсе. Ён падае мне руку і валачэ да сябе. Мы бяжым уздоўж рэек за цягнікам, але бегчы не лягчэй, як паўзці на тую наспу, бо пад нагамі кароткія канцы шпал, яны не даюць рабіць крок, які ты хочаш зрабіць, разагнацца, кожны крок трэба пад іх падладжваць, а бегчы побач са шпаламі — сыпкі дробны камень, які і тут паўзе з-пад ног, ссоўвае цябе пад адхон.

— А шапку з ядой забылі, Лёха? — задыхаючыся, з апошніх сіл вымаўляю я, але Лёха не чуе.

Цягнік ідзе яшчэ не хутка, мы бяжым хутчэй за яго, але ён разганяецца, бяжыць усё хутчэй, а мы гэтак ужо не можам. І ўсё ж наганяем апошні вагон. Уперадзе Лёха. Ён бяжыць побач з тамбурам, можа ўскочыць на падножку, але раптам адбягае ўбок, уступаючы мне дарогу, каб першым на падножку ўскочыў я, і крычыць, надпіхваючы ў плячо:

— Хапайся за поручань!

Я дацягваюся да поручня, хапаюся за ягò, але падскочыць на падножку не магу, не хапае сілы. Цягнік ужо разагнаўся, бяжыць хутчэй за мяне, падножка высокая — як ускочыць? Нехта крычыць:

— Давай руку, пацан! Ну?!

Не выпускаючы з адной рукі поручань, я другою цягнуся ў тамбур да людзей, і яны ловяць мяне за руку, прыўзнімаюць, ногі адрываюцца ад шпал, і я лячу ў тамбур, валюся паміж чужых ног і клункаў, балюча выцінаюся аб падлогу каленьмі. Яшчэ мацней баліць плячо, аж агнём паліць, усё роўна як вырвалі руку з пляча, калі цягнулі мяне ў тамбур.

Але дзе Лёха? Я ўскокваю на ногі. Да прыступак мяне не пускаюць мужчыны.

— Руку! Давай руку!

Я ўзбіраюся на нейкую скрыню, і тады бачу чыгунку, якая бяжыць за нашым вагонам, наспу, лес. Відаць усё, што робіцца побач з вагонам і за вагонам.

— Давай, хлопец, руку!

Чаму Лёха не дае руку? Людзі пасобяць ускочыць у тамбур — дзе яго рука? Але Лёха адстае. Цягнік разагнаўся, ляціць хутка, і я ўжо бачу белую калматую галаву Лёхі за тамбурам. Яна падскоквае — Лёха бяжыць з усіх сіл, каб нагнаць нас. І раптам яго галава знікае, усё роўна як правальваецца некуды ў яму. Нехта ў тамбуры войкае, і я бачу, як Лёха ляжыць на абочыне.

Я кідаюся з тамбура, але мужчыны не пускаюць:

— Куды ты, малы? Заб'ешся!

Лёха стаіць на шпалах пасярод рэек і, ускінуўшы рукі ўгару, крычыць наўздагон:

— Быва-ай, Пісто-он!

Толькі цяпер я заўважаю, што адна нага яго ў маім лапці, а другая босая, у нізка спушчанай калашыне. Ці не зачапіўся ён лапцем за шпалу? Пракляты лапаць!

— Лёха-а!

Я заву Лёху да хрыпаты ў горле, да болю ў грудзях, абліваючыся слязьмі, але Лёха ад мяне ўсё далей і далей, і там, удалечы, робіцца меншы і меншы.

Мне страшна. Жудасна без Лёхі. Няўжо ён знікае назусім? Няўжо — назаўсёды?

*Канец першай кнігі*

**Карамазаў В.**

**K21** Бежанцы: Раман / Маст. В. А. Тарасаў.— Мн.: Маст. літ., 1993.— 287 с.: іл.

ISBN 5-340-00891-6.

Карамазов В. Беженцы: Роман.

Бежанцамі герояў рамана зрабіла вайна. Іх жыццё — на дарогах, пад крыжамі варожых свастык і ля начных вогнішчаў, з ледзь не цыганскім побытам, у якім і нараджаюцца, і кахаюцца, і б'юцца за бульбіну, і губляюць адно аднаго: бацькі — дзяцей, дзеці — бацькоў.

Кругі Захара Падабеда пачаліся лёсам бацькі — шукальніка вольнай зямлі ў далёкай Сібіры. Захараў лёс — працяг бацькавага: жабрацтва ў маленстве, салдацкія акопы, палон, галадоўкі, раскулачванне, сталінскія крывавыя рэпрэсіі, нарэшце — 1941 год. Можа, гэта вайна — круг апошні?..

І вось ужо 1986 год гоніць бежанцаў. Цяпер ад смерці Чарнобыля. На дарозе — сын і ўнук Захара Падабеда...

$K\ \frac{4702120201-072}{M\ 302(03)-93}\ 16-92$

ББК 84Бел7

*Литературно-художественное издание*

**Карамазов Виктор Филимонович**

БЕЖЕНЦЫ

*Роман*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Карамазаў Віктар Філімонавіч**

БЕЖАНЦЫ

*Раман*

Рэдактар *Е. А. Пяршай*. Мастак *В. А. Тарасаў*. Мастацкі рэдактар *А. І. Цароў*. Тэхнічны рэдактар *І. І. Дуброўская*. Карэктар *Л. М. Маслоўская*.

ІБ № 3668

Здадзена ў набор 05.03.91. Падп. да друку 26.02.92. Фармат 84 × 108¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 15,12. Ум. фарб.-адб. 30,24. Ул.-выд. арк. 15,74. Тыраж 7000 экз. Зак. 932. Цана 15 р.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.